


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**6** (980)

ЧЭРВЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2011**

# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

**Уладзімір ЛІПСКІ**



# МУЖЫК[1]

***Дакументальная аповесць***

## ПАЛЕТАК ЧЫРВОНЫХ ПОШУКАЎ

### IV. Бязбожная зямля

(НЭП першы — навядзенне элементарнага парадку)
*Каждая минута, каждое мгновение*
*жизни должны быть блаженством человеку.*
Фёдар Дастаеўскі

#### 1. Спадчына атэіста

У прыдарожнай мураве, каля лазовага куста сядзеў рыжа-бялявы кот. Шыю напружана выцягнуў у бок палетка, гатовы, як тыгр, да рашучага скачка на здабычу.

Скакун прыкмеціў адчайнага паляўнічага, хацеў тармазнуць машыну ды паназіраць, чым закончыцца вандроўка ката, але не адчаіўся шкодзіць яму. «Хай упалюе мышку. Бач ты, кінуў цёплую печ, не канькаў, не вымольваў у гаспадыні сняданак, а рушыў сам здабываць ласунак».

Ката Скакун прыкмеціў на шашы паміж вёскамі Зводы і Цюпрыкі. «Мо з Марозавіч ён? Мо гаспадар выгнаў з хаты за нейкую шкоду? Мо рашыў даказаць, што ён яшчэ ў добрай спартыўнай форме?» Аляксей Сцяпанавіч разблытваў тайну ранішняга паляўнічага і злавіў сябе на думцы: «А чым гэты

*__Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч__ нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». З'яўляецца старшынёй праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар кніг прозы: «Аўцюкоўцы» (1995), «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» (1998), «Мама. Малітва сына» (1999), «Каралева белых прынцэс» (2000), «Бацька» (2004), «Мы» (2006), «Янкаў вянок» (2009) і інш.*

*Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001).*

[1] Працяг. Пачатак у № 1—3, 2011 г.

рыжа-бялявы бадзяга ўстрывожыў яго? Чаму не выходзіць з галавы? І раптам, ад нечаканага здогаду, ледзь не націснуў на тормаз. Той кот, падалося, падказваў яму, як пачаць сваю першую прамову перад новымі калгаснікамі. Іх жа нечым трэба зачапіць, устрывожыць, каб задумаліся і паверылі яму, старшыні. А што калі, сапраўды, так і сакануць з трыбуны: «Мужыкі, давайце навучымся лавіць мышэй!»

Аляксей Сцяпанавіч на секунду адпусціў руль, пацёр рукі, цяжка апусціў іх на абаранак і пагнаў легкавушку са свежым настроем. Па адзін і па другі бок дарогі праглядваліся палеткі з частымі хутарамі. Вакол дворышчаў — кусты, садовыя дрэвы, і да іх па раллі вілялі сцяжыны. «Не, — падумаў, — тых адзіночнікаў катом-паляўнічым не кранеш. Яны і без падказкі ўсё жыццё тым і займаюцца, што здабываюць для спажывы ўраджай, якага толькі б мышам і хапіла».

Твар Скакуна пасур'ёзнеў, на памяць завіталі звесткі, пра астрамечаўскія землі, якія ён перад паездкай сюды раздабыў з дапамогай жонкі-настаўніцы і дастоеўскіх гісторыкаў. Хацелася прыняць калгас не як ката ў мяху, а ведаць нешта большае нават за тых, хто спрадвеку тут жыў.

У цэнтры калгасных земляў ляжала вёска Лышчыцы. Назву яе ўплялі ў сваё прозвішча прадстаўнікі знакамітага беларускага роду Лышчынскіх герба «Корчак», якія паходзілі з венгерскіх князёў. Іх радаводнымі ўладаннямі здаўна былі паселішчы Кустань, Матыкалы, Дабраніж, Лышчыцы. Тут гаспадарылі прадзед Леў, дзед Канстанцін, бацька Геранім увекавечанага трагічным лёсам Казіміра Лышчынскага.

Асобу Казіміра Лышчынскага можна смела ставіць з такімі постацямі нашай гісторыі, як Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарыны, Леў Сапега, Сымон Будны. Гэтай думкі прытрымліваюцца многія сучасныя навукоўцы, пісьменнікі, краязнаўцы. І Аляксея Скакуна такія звесткі кранaлі за жывое. Праз шмат гадоў ад першай сустрэчы з тымі мясцінамі ён прызнаўся мне:

— Разумееце, прыехаў з радаводнай радзімы Дастаеўскага на землі, дзе нарадзіўся, набіраўся моцы і адкуль пайшоў у вечнасць мужны наш асветнік Казімір Лышчынскі. Паміж іх геаграфічнымі кропкамі Беларусі пралегла і маё жыццё...

Калі і гэта ўлічваў Аляксей Сцяпанавіч пры сваім пераездзе на новае месца працы і жыхарства, то можна разумець, з якім жа хваляваннем, з якой чалавечай адказнасцю ступіў ён на гістарычную зямлю. А каб чытачы, асабліва маладыя, паверылі ў гэта, нагадаем пра подзвіг лышчыцкага філосафа, педагога і ваяра Казіміра Лышчынскага.

Ён нарадзіўся за трыста гадоў да з'яўлення на свет дастоеўскага Аляксея Скакуна. Іх жыццёвыя гадзіннікі заведзены ў адным і тым жа месяцы — сакавіку. За свае 55 зямных гадоў у сямнаццатым стагоддзі Казімір Лышчынскі атрымаў і вельмі высокую адукацыю, і пабываў у рэлігійным ордэне іезуітаў, і выйшаў з яго, што па тым часе лічылася неардынарным учынкам. Як ваяр, прымаў удзел у войнах Маскоўскай, Швецкай, Венгерскай, у дзвюх турэцкіх войнах. Ад Берасцейшчыны тры разы ездзіў у Варшаву выбіраць караля. Гісторыкі сведчаць, што кароль Ян III Сабескі асабіста ведаў Казіміра з Лышчыц і сваёй прывілеяй ад 22 сакавіка 1682 года надаў яму пасаду падсудка берасцейскага. На гэтай пасадзе памочніка суддзі Лышчынскі быў важнай асобай ў ваяводстве. Рыхтаваў справы на разгляд, кантраляваў выкананне судовых рашэнняў. У гэты час, жывучы ў сваім маёнтку ў Лышчыцах, вёў гаспадарку на вотчынных землях, арганізаваў школу для дзяцей мясцовай шляхты і для сялянскіх нашчадкаў. Сам выкладаў ім урокі мовы, арыфметыкі, чытання, пісьма. А ў часы роздуму, адзіноты, творчага ўздыму пісаў філасофскі трактат аб каштоўнасцях сусвету, аб ролі чалавека на зямлі. Кажуць, праца

мысліцеля называлася «Аб неіснаванні бога». За гэта ён і паплаціўся жыццём. 30 сакавіка 1689 года на Старым рынку ў Варшаве кат выканаў прысуд духоўнікаў — вострым мячом адсек галаву вальнадумцу Лышчынскаму. Цела яго спалілі, маёнтак у Лышчыцах разрабавалі, сад высеклі, зямлю глыбока перааралі — і ўсё з вераю, што памяць пра патрыёта знішчана на вякі.

Памыліліся са сваім рашэннем духоўнікі. Яны спяшаліся знішчыць са свайго шляху глыбокага мысліцеля, які ўведаў праўду пра іх. Хіба мог сумленны Лышчынскі не парваць з ордэнам іезуітаў, калі іх галоўны ідыёлаг Лаёла павучаў: «Каб ні ў чым не памыліцца, мы павінны верыць, што тое, што мы бачым белым, ёсць чорнае, калі такім яго называе царква»? Хіба мог «чалавек з алмазным сэрцам» спакойна назіраць, як нахабныя да нажывы іезуіты захоплівалі землі, падманьваючы ўласнікаў? І хіба не ведаў ён, што выклік гэтым сілам ніколі не даруецца яму?

Так і здарылася. Блізкі яго сусед і сябар дзяцінства Ян Бжоска, які павінен быў Казіміру Лышчынскаму вялізную суму грошай, лёгка паддаўся сыграць ролю даносчыка, паклёпніка, зайздросніка. Ён залез у душу філосафа, у яго сшыткі, і перадаў на суд «святых служкаў» яго пісьмовыя развагі пра вечнасць сусвету, Бога і Чалавека.

У той час, калі Скакун прыехаў у Лышчыцы прымаць калгас, у паветры і над людзьмі яшчэ вісела махровая бязбожнасць. А будаўнікі камунізму ўсё болей зняверваліся ў тым, што ўжо пры іх жыцці наступіць светлае заўтра. Што ж атрымлівалася? І тады, у гады Лышчынскага, і цяпер, у сучаснай яве, уладары ўмела разбуралі самае галоўнае ў чалавеку — веру.

Вось што — веру! — трэба вярнуць селяніну-карміцелю: і вернікам, і атэістам. Да такой высновы прыйшоў Аляксей Скакун, знаёмячыся з новым месцам працы, аналізуючы жыццёвы подзвіг Казіміра Лышчынскага з Лышчыц.

Пазней, калі ён на роўных з вучонымі, гісторыкамі прымаў удзел у навуковых канферэнцыях, прысвечаных Лышчынскаму, пераканаўся ў правільнасці сваіх вывадаў. «Не такі ўжо Лышчынскі і ерэтык, — разважаў Аляксей Сцяпанавіч, — як абвінаваціў яго Варшаўскі суд. Яны, суддзі, нават не пачулі яго апошніх слоў прызнання, што першую частку свайго трактата ён прысвяціў спрэчнай тэме аб неіснаванні Бога, а ў другой намерваўся абгрунтаваць, даказаць, што Бог існуе».

Трэба навучыцца слухаць людскі розум — гэта быў яшчэ адзін тэзіс, які вынікаў з трагічнага лёсу Лышчынскага, з якім вырашыў выйсці на сход калгаснікаў Аляксей Скакун. За яго плячыма — значны вопыт сялянскай практыкі. І ён пераканаўся: вяскоўцы ўдосталь наслухаліся абяцанак-цацанак, яны не пацерпяць далейшага гвалту над сабой і над зямлёй. Думай, новы кіраўнік, пра гэта. І помні: адным канём, хаця б і скакуном, усяго поля не ўзарэш, адным махам — не пераскочыш. Трэба ісці да старажылаў, яны, як і стары конь, ніколі не збочаць з каляі, з палазні. Пра гэта спеўна напісаў паэт Сяргей Грахоўскі:

Каб прабіцца хутчэй да дарогі,  
Я не тузаю і не ганю,  
Не чакаю чужой дапамогі,  
Давяраю старому каню.

Нам абодвум і цяжка, і горка,  
А надзея адольвае страх.  
Паратункам агеньчык на ўзгорку  
Мільгануў і выводзіць на шлях.

На шлях да новай працы выводзілі Скакуна і «гістарычныя» рашэнні XXVI з’езда КПСС, пра які гудзелі тады на партыйных трыбунах усіх узроў-

няў. Трапіла ў рукі Аляксея Сцяпанавіча свежая газета «Заря над Бугом». У ёй на дзвюх палосах гаварылася пра пленум Брэсцкага райкама, на якім абмяркоўваліся праблемы кадраў на сяле.

Новы кадр Скакун з Дастоева меркаваўся прышчапіцца да астрамечавалышчыцкіх прастораў, і яму было вельмі цікава ведаць становішча ў раёне. Хвалілі калгасы «За мір», «Знамя». Ганілі «Памяць Ільіча», куды ён накіроўваўся. Там, пісалі, «не цягне воз» галоўны заатэхнік. Там не хапае даярак, трактарыстаў, лепшыя кадры збягаюць з хат у цагляныя кватэры, на гарадскі асфальт. Партыйцы заклікалі раённыя кадры да дысцыпліны, асабістай адказнасці за справу, каб пастаянна павышалі свой «ідэйна-палітычны» ўзровень, і абавязкова выканалі задачы, якія прадыктаваў маскоўскі з’езд.

Адну фразу з даклада першага сакратара РК КПБ Іўчына захацелася Скакуну падкрэсліць. «Наша агульная задача, — сказаў кіраўнік раёна, — зводзіцца да таго, каб усімі калгасамі і саўгасамі кіравалі дастойныя людзі». Аляксей Сцяпанавіч двойчы падкрэсліў слова «дастойныя». Гэта ўстаноўка тычылася і яго, дастоеўца, які браўся даказаць, што ён, Скакун, хоча вывесці адстаючы калгас на ўзровень тых гаспадарак, якія грымяць сваімі справамі на ўсю рэспубліку.

З землямі калгаса «Памяць Ільіча» амаль суседнічаюць землі калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна. На ўсе прасторы гулкім звонам гучалі поспехі, якіх дасягнулі тутэйшыя хлебаробы на чале з Героем Сацыялістычнай Працы, старшынёй Уладзімірам Лявонавічам Бядулем. Чаму ж так атрымліваецца? Землі побач, а вынікі розныя? Што шкодзіць астрамечаўцам узляцець на арбіту славы? І ці правільна, што землі Казіміра Лышчынскага, на якіх ён утрымліваў радаводны маёнтак, вучыў сялянскіх дзяцей і вырошчваў філасофскія думкі, застаюцца бязбожна закінутымі? Ці такой памяці заслужыў слынны сын Беларусі? А ці пра такую спадчыну ён марыў? Ці маем права не апраўдаць веру Лышчынскага, з якой ён ступіў да плахі, а пасля згарэў у полымі кастра?

З такімі думкамі-шаляніцамі Аляксей Сцяпанавіч Скакун пераступіў парог астрамечаўскага клуба, у якім меўся адбыцца агульны сход калгаснікаў. Тое, што яго выберуць старшынёй, — верыў. А вось ці да канца павераць яму, новаму кіраўніку, — гэта ён мусіў адчуць кожным ударам свайго трапяткога сэрца, кожным словам, якіх назапасіў для першай прамовы перад землякамі слыннага Казіміра Лышчынскага.

Іду я ў Лышчыцы ці еду,
Куды з гасцінца ні зірну,
Як брата ці як блізкага суседа
Мяне вітаюць камяні.

З іх клалі сцены, брук, парканы.
У падмурак новага, далёкага ляглі —
У Старым Мясцы, у Варшаве пакараны
Вялікі сын Прыбужскае зямлі...

Такія строфы ў вянок памяці беларускаму Джардана Бруна — Казіміру Лышчынскаму — упісаў паэт і настаўнік Брэстчыны Леанід Філатаў. А новы гаспадар калгаса Аляксей Скакун садзейнічаў таму, каб на раздарожжы былой паштовай дарогі ў Малых Шчытніках, дарогі, якая цяпер вядзе ў сучасныя Новыя Лышчыцы і ў Астрамечава, устанавілі вялізны камень-валун. На ім высеклі эпітафію Казіміра Лышчынскага, якую ён склаў пры жыцці і жадаў, каб яе ведалі і асэнсоўвалі нашчадкі:

«О падарожны! Не міні гэтых камянёў. Ты на іх не спатыкнешся, калі не спатыкнешся на ісціне. Пазнаеш ісціну каля камянёў, бо нават тыя людзі, якія

ведаюць, што гэта праўда, вучаць, што гэта мана. Вучэнне мудрацоў — свядомы падман».

Калі з Аляксеем Сцяпанавічам Скакуном мы першы раз пад'ехалі да гэтага незвычайнага помніка, я быў ашаломлены краявідамі. Непадалёк — старажытная Пакроўская царква. Яе лёс пакручасты, як і лёс самога Лышчынскага. Святыню разбуралі і палілі. Яна пераходзіла то да праваслаўных, то да католікаў. Камуністы ў ёй устанаўлівалі крупадзёрку і пераўтваралі ў склад. Збіраліся адкрыць тут музей гісторыі і культуры. Цяпер светла-блакітная Пакроўка хораша пачуваецца пад высокім небам, прымае астрамечаўскіх вернікаў. Воддаль ад царквы бачны калгасны іпадром, а на ім — спартыўныя скакуны з наезнікамі. Злева віднеюцца выштукаваныя дамы-катэджы Новых Лышчыцаў. А вакол, як вокам кінуць, — багатыя палеткі астрамечаўскай калектыўнай гаспадаркі.

— Бачыце, — задумліва гаворыць Аляксей Сцяпанавіч, — варшаўскія духоўныя суддзі хацелі знішчыць на векі вечныя ўсё разам: і вальнадумца Лышчынскага, і яго маёнтак, і землі ў Лышчыцах. Не атрымалася, касцёр іх расправы разгарэўся ў вечны агонь памяці. А мы адбудавалі, як помнік яго маёнтку, сучасныя вёскі...

Над намі павольна праплывала шызае воблака. Здавалася, з сівой даўніны да нас завітала неўміручая душа самога Казіміра Лышчынскага. Воблака-душа мілавалася амаладзелай спадчынай свайго гаспадара.

## 2. Сустрэча аднадумцаў

Пра сходы калгаснікаў можна сабраць шматтомнік быляў і небыліц, анекдотаў і жартаў. У Скакуна свая калекцыя гэткага фальклору. Любіць нагадваць пра сходы, на якіх сяляне мусілі толькі хваліць калгасны лад. На адной з такіх справаздач калгаснік Федзя ўзяў слова і выказаў здзіўленне:

— Веру, здалі мяса шмат, але дзе мяса?

Пасля перапынку выступае яго сябар Вася:

— Я не сумняваюся, што мяса маем уволю. І не пытаюся, дзе мяса. Але скажыце, куды падзеўся Федзя?..

А яшчэ Аляксею Сцяпанавічу падабаецца аўцюкоўскі адзін мужык. Аднойчы на сходзе старшыня падняў яго нечакана і дапытвае:

— Скажы, Іван, што ты думаеш пра нашу калектыўную гаспадарку?

Маўчыць Іван, пераступае з нагі на нагу, а старшыня прадаўжае допыт:

— Іван, не ўпарцься, выкажы сваю думку.

Ужо ўся зала на яго налягае:

— Чаго маўчыш?..

І раптам Іван раскупорваецца на адну фразу:

— Ведаеце, думкі пруць, а слоў няма...

І Аляксея Сцяпанавіча Скакуна распіралі думкі перад выбарчым сходам. Ён жа адчуваў кожнай клетачкай, што яго будуць пільна разглядваць: якая прычоска, ці чыста паголены, ці ёсць «мяхі» пад вачыма, які касцюм і гальштук, ці адваксаваны чаравікі, ці ёсць «стрэлкі» на штанах, а ці не ахрыплы ў яго голас, а ці не палохаецца людскіх вачэй?

Добра ведаў Скакун сельскага мужыка. Пазірае, як варона, а хіцёр, як чорт. Ён жа з бядою ў згодзе і гора адольвае смеючыся. Сам можа завітаць у клуб у тым, у чым даглядваў жывёлу. Апраўдаецца: «Братка, паймі, няма калі пераапрануцца...» А старшыні не дасць спуску, абгаворыць і ацэніць па вышэйшым гатунку. Усё гэта глыбока прадчувала і Валянціна Іванаўна. Таму за знешні выгляд мужа несла поўную адказнасць.

Асноўным клопатам Аляксея Сцяпанавіча была яго праграмная прамова перад калгаснікамі. Сапраўды, думак у галаве, бы семак у сланечніку, але ж з іх трэба збудаваць гэткія ж роўненькія радкі, як і ў агародным сонейку. Яго прамова павінна стаць споведдзю, заклікам, праграмай.

Што да споведзі, разважаў Скакун, то тут усё і проста, і ясна. Яна змяшчаецца ў адным сказе: «Я — селянін ад Адама». А калі зацікавяцца, можна прыгадаць усю біяграфію да прыезду на Брэстчыну. За кожны дзень жыцця не сорамна.

Што да заклікаў, думаў Скакун, тут трэба быць вельмі далікатным і асцярожным. Сяляне іх наслухаліся ўволю. Усе трынаццаць старшынь лышчыцкага калгаса, якія былі да яго, заклікалі павышаць надоі, атрымліваць умалотныя ўраджаі. А што мелі? Па дзве тысячы літраў малака ад каровы ды па 16 цэнтнераў зернявых з гектара. Калгас хадзіў у бедняках, а калгаснікі жартавалі: «Дай сала хлеб даесці».

Вось і паўстала пытанне аб'яднаць лышчыцкі калгас з астрамечаўскім, далучыць да іх суседні. І гэтую суполку калектыўных жабракоў браўся вывесці з багны дастоеўскі Сусанін — Аляксей Сцяпанавіч Скакун. Ён заклікаў усіх паверыць яму, пайсці за ім.

Астрамечаўскі клуб гудзеў як пчаліны рой. Пасыпаліся рэплікі, якія і сталіся прамовамі сялян. З розных куткоў, бы рапірамі, калолі новага старшыню:

— Калі дарогі людскія будзем мець?

— Калі магазіны свае збудуем?

— Калі перастанем зумкаць як галодныя мухі на шкле?

— Дзе грошы возьмеш, старшыня, на свае абяцанкі-цацанкі?..

Вось тут і наступіла галоўная частка прамовы Скакуна, яе кульмінацыя. Яна тычылася яго праграмы. І з пэўнай сваёй прамалінейнасцю Аляксей Сцяпанавіч заявіў:

— У нас будзе ўсё: і зарплата, і магазіны, і дарогі, хоць бокам каціся, і фермы сучасныя. Толькі давайце выкінем на сметнік ікону, якой вы пакланяліся ўвесь гэты час.

— Якую ікону? — з трывогай выгукнуў дзядзька ў шляхецкім суконным пінжаку.

— Пад гэтай іконай я меў на ўвазе безгаспадарчасць, абыякавасць. Мы не можам далей жыць па прынцыпе — мая хата з краю. Мы не можам далей трымаць у сваёй сям'і лайдакоў і рвачоў, п'яніц і злодзеяў...

Зала зноў зашумела. Тут жа, як кажуць, не адыходзячы ад касы, калгаснікі пачалі абмяркоўваць паміж сабой новы тэзіс толькі што выбранага старшыні Скакуна. Знайшліся абаронцы, заступнікі яго прынцыпаў, а той-сёй кінуўся ў наступ:

— Мы не крадзём, а бяром, бо ўсё вакол — наша.

— У нас на выпіўку не хапае пянёндзаў, толькі на пахмелку...

Скакун за трыбунай зрабіў паўзу, даў выгаварыцца людзям, а пасля прадоўжыў сваю праграмную прамову:

— Уявіце, вы сёння выбралі сабе не толькі кіраўніка калгаса, а дырыжора аркестра. Каб мець поспех, каб якасна выконваць музыку, трэба падабраць надзейных аркестрантаў. Імі з'яўляецеся ўсе вы разам і кожны паасобку...

Адзін лышчынец, які прыйшоў на сход яўна падмацаваны пітвом, перабіў прамову старшыні і голасна запытаў:

— А дырыжор ці надоўга да нас прыбыў?

Слова «дырыжор» ён вымавіў як «гастралёр».

Сход ажывіўся. Скакун адчуваў, гэтае пытанне хвалюе многіх маўчуноў, бо старшыні перад ім мяняліся праз два-тры гады. Людзі зняверыліся ў іх. Ім хацелася кіраўніка талковага, на доўгі тэрмін.

Аляксей Сцяпанавіч, здаецца, чакаў такой шпількі, гатовы быў да яе, таму і шчыра прызнаўся:

— Я ж вам не муха, каб на кісель папасціся. Вельмі хачу, каб паверылі мне. Я прыехаў да вас з сур'ёзнымі намерамі. У кожнага чалавека павінна быць у жыцці свая, галоўная справа. Я хачу тут, у вас, спаўна рэалізаваць сябе і свае веды. Хачу вярнуць веру бязбожна пакрыўджанай зямлі, якая корміць нас, а сама галодная і есці просіць. Хачу, каб усе вы жылі з добрай верай у заўтрашні дзень...

Па Астрамечаву ходзіць прымаўка: «Баба каецца, а дзеўка збіраецца». Баба намардавалася ў замужжы, каецца, а дзеўка хоча пажыць, як вол у ярме, жадае замужжа. Вось і Скакун сам даўся запрэгчыся ў калгас-камбінат «Памяць Ільіча». А я адшукаў старшыню, які быў да яго ў «замужжы» з калгасам і прысутнічаў на тым сходзе, на якім Аляксея Сцяпанавіча выбіралі галавой.

Міхаіл Васільевіч Дулевіч прыняў мяне ў сваім шыкоўным доме ў Астрамечаве, непадалёк ад праўлення кааператыва.

— Гэты двухпавярховы асабнячок атрымаў ужо пры Скакуне, — патлумачыў гаспадар. — Сто шэсцьдзясят квадратных метраў, дваццаць тры соткі зямлі, на якіх — садок, арэхавыя дрэвы, кветнік. Можна жыць!

Мы заходзім у светлыя, цёплыя пакоі, і за кубкам духмянага чаю вядзём неспешную гаворку пра тое, што было і што ёсць цяпер на астрамечаўскіх землях.

— Было во як, — Міхаіл Васільевіч адхлёбвае глыток пітва. — Паставілі мяне на гэты калгас, а развал паўнейшы. Восень. Усе наўкол сеюць, а тут і не чухаюцца. Чаму? Кажуць, ніхто не даў каманду. Ну, бытта ў прысталінскай прыпеўцы:

Дарога санная: штодня
І гной і торф вазі на нівы.
Але чакае старшыня
На гэта «зверху» дырэктывы.

Нам смешна цяпер, як гэта было, ды з гісторыі старонкі не вырвеш і не спаліш.

— Трактароў мелі васямнаццаць, а трактарыстаў — адзінаццаць, — прыгадвае Дулевіч. — Трэба што-небудзь прыварыць, выклікаем аварыйку з Сельгастэхнікі. Выдалі зарплату, брыгадзір падыходзіць да мяне, папярэджвае: «Старшыня, тры дні не кантуй хлопцаў — будуць піць». І праўда, аб'язджаю палі, нідзе трактароў няма. Знайшоў за кустамі і тэхніку, і механізатараў. Гуляюць і ў вус не дуюць. Выклікаў міліцыю. Во як ваяваў за ўраджай...

Міхаіл Васільевіч дастае папку з хатняга архіва. Там — даўнейшыя даведкі, пратаколы сходаў. Яны нагадалі, што ў астрамечаўскім калгасе к прыезду Скакуна налічвалася 753 калгаснікі, а працаздольных — 277 чалавек. Такой жа пастарэлай была і гаспадарка ў Лышчыцах.

— Як прынялі Скакуна? — выведваю ў жывога сведкі тагачасных падзей.

— Дружна прынялі. Стары клуб у Астрамечаве на сто дваццаць чалавек быў поўненькі. Усе хацелі перамен. А тут яшчэ нашы землі выбралі пад будаўніцтва буйнога жывёлагадоўчага комплексу. Патрэбен быў моцны кіраўнік. Так во ў нас і аб'явіўся Скакун. Чарнявы, рашучы і валявы. Яго вочы, як фотаапарат, ухоплівалі ўсё: і добрае, і гідкае. Умеў хваліць, мог і пакараць. З яго талентам пачалі і мы з адстаючых выходзіць у людзі...

Яшчэ аднаго ветэрана Скакуновых рэформ адшукаў у Лышчыцах, непадалёк ад той мясціны, дзе некалі, кажуць, стаяў маёнтак самога Казіміра Лышчынскага. Іосіф Малахвей прыветна запрасіў у прасторную хату, правёў у самы светлы, нагрэты грубкай пакой, і пачаў ахвотна даваць інтэрв'ю:

— У нас, да аб’яднання з Астрамечавам, калгас зваўся імя Мічурына. Бедна жылі, абы-як. Два камбайны мелі, а то ўсё косамі рабілі. Дарог не было. К фермам не праехаць. Я тады і на трактары і на млыне працаваў. І слесарам быў. Сорак тры гады стажу ў мяне. Наглядзеўся розных кіраўнікоў. Але Скакун — адзіна правільны...

Мой субяседнік Іосіф Вандалінавіч Малахвей, адчувалася, хацеў усё глыбей капнуцца ў былое. Ён меў што сказаць, але не было каму, і цяпер з радасцю, няспешна распавядаў мне пра ўсё.

— Вясковае радыё данесла, што да нас прыедзе з Іванава строгі старшыня. Усе і павалілі ў клуб на сход. Хацелі ўбачыць новага кіраўніка ды вырашыць: баяцца яго ці паважаць? Думалі, не пацягне наш калгасны воз. А ён з энергіяй узяўся наводзіць парадак і дысцыпліну. Зарплата пайшла з яго прыходам. Хто чэсна рабіў, той стаў добра і палучаць. Але ж ён вельмі парадак любіў! У хаце, кажа, каля хаты прыбяры, тады табе захочацца і на ферме, і ў полі, і каля трактара быць ахайным...

Іосіф Малахвей прыгадвае аднаго лышчыцкага старшыню, які любіў пасля абеду паспаць.

— Во які панок руляваў намі, — смяецца ветэран. — А вось Аляксей Сцяпанавіч так робіць, што я дзіўлюся, ці спіць ён калі-небудзь. Яго ж усюды ўбачыш. Любога і заўсёды прыме. Ён, бывае, і на камбайн сядзе, малоціць, і на самазвале сілас возіць. Але ж п’яніц і гультаёў на дух не пераносіць. Дык што вы думаеце, ананімкі пачалі на яго страчыць. І да мяне прыходзілі: «Падпішыся». Не, кажу, вы ўпачатку падпішыцеся, што станеце людзьмі...

Пад канец нашай сустрэчы ў пакой завіталі і жонка Малахвея, і яго ўнукі. Яны з цікавасцю слухалі апавед-прызнанне гаспадара хаты. А я занёс сабе ў памяць, здаецца, важную сентэнцыю. На тым першым сходзе, на якім выбіралі Аляксея Сцяпанавіча Скакуна старышнёй, адбылася сустрэча аднадумцаў. Сяляне прынялі яго праграму. Яны самі даўно хацелі парадку ва ўсім. Яны таксама жадалі абнавіць, адрадзіць сваю зямельку. Яны чакалі паратунку, і смелы ратавальнік знайшоўся. Дык чаму б не пайсці за ім?

У вёсцы Кашылава знаходжу яшчэ адну сям’ю, у якой добра помняць Скакуноў прыход. Віктар Іванавіч Сідараў быў пры ім брыгадзірам, а жонка Любоў Фёдараўна рабіла паляводкай.

— Я вам так скажу, — пачаў размову гаспадар. — Я сам з Падмаскоўя. Служыў у Брэсцкай крэпасці. Жаніўся і во тут апынуўся. І ніколечкі не шкадую. Во, перада мной тэлефон, жывём у цёплай хаце, газ ёсць, пенсіянераў Скакун не крыўдзіць. Чаго болей хацець?

Пакуль Віктар Іванавіч збіраўся з новымі думкамі, у хату ўвайшла суседка Марыя Кляменцьеўна Козел і адразу падключылася да размовы:

— Так і запішыце: Скакун добры чалавек — наш бацька. Мы ж пачыналі з таго, што фартухамі корм насілі каровам. Канём малако вазілі ў Брэст. А картоплю ўручную садзілі. А малацілі зерне па-дзедаўску. Вой-вой, цяпер жа мы як у раю. Лучшай жызні і ня трэба. От каб толькі ногі не балелі...

— Ды што казаць, — Сідараў, мажны і шыракаплечы, паправіў каля крэсла дзве кавенькі, з дапамогай якіх цяпер ходзіць, перахапіў размову. — Я быў нядаўна ў брата, у Падмаскоўі. Пра такія выгоды, як у нас тут, яму і не снілася. Я рады, што лёс звязаў мяне з Беларуссю, са Скакуном, а найперш, во з ёй...

Каля печы сядзела маленькая і рахманенькая бабулька Любоў Фёдараўна. Яна міла ўсміхнулася і сказала, відаць, тое, самае галоўнае, што трымала ў душы падчас усёй нашай бяседы:

— Мы з Віктарам пражылі разам шэсцьдзясят два гады. І пальцам мяне ніколі не крануў. Не п’е, не курыць. А за Скакуна я кожненькі дзень малюся,

каб доўга жыў. Чэсны ён і справядлівы. Хай жа дае Бог яму і яго дзеткам здароўя.

Калі я пакідаў хату Сідаравых, ужо каля брамкі, мяне прыпыніла Любоў Фёдараўна і перадала цалюткі пакет грэцкіх арэхаў.

— Гэта вам гасцінчык ад нас з Віктарам, ласкава ўсміхнулася яна. — Скакун жа некалі прывёз гэткіх дрэўцаў. Параздаваў людзям, цяпер у многіх свае арэхі. Напішыце пра Скакуна прыгожую кнігу. Ён жа сам прыгожы! Мы ўсе молімся, каб ён доўга быў у нас...

Мілая бабулька Люба, каб жа вы ведалі, за кожным арэхам, які выцягваю з вашай гасціннай торбачкі, заўсёды думаю: «А ці атрымаецца ў мяне прыгожая аповесць пра Скакуна? Ці апраўдаю ваш давер?» І пачынаю складваць сваю малітву да Бога, каб падмог мне ў творчых муках.

## 3. Хутарскія баталіі

Другі рабочы дзень Аляксея Скакуна пачаўся з непрыемнай навіны. Нехта ўкраў тры рулоны дротавай сеткі. Пачалі шукаць злодзея, а яго свежыя сляды як бы хто зацярушыў касмічным пылам.

І тады новы старшыня сабраў праўленцаў, аб'явіў:

— У нашым калгасе здарылася чэпэ. Што рабіць?

Прапановы паступілі розныя, але ўсе зводзіліся прыкладна да адной. Маўляў, не паліце, Аляксей Сцяпанавіч, нервы, яны яшчэ вам спатрэбяцца, зладзейства не такое ўжо і буйнае, давайце спішам украдзеную сетку дый канцы ў ваду.

Скакун нахмурыў свае чорныя, густыя бровы, у кабінеце як бы захмарыла, вось-вось грымне пярун. Нечаканай навальніцай абрынуліся словы Скакуна:

— Не, сябры, паступім інакш. Калі не можам знайсці злодзея, калі распісваемся ў сваёй нямогласці, то нам і адказваць за ўсё. Прапаную: кошт украдзенага раздзяліць на мяне, на ўсіх членаў праўлення, і да канца дня ўнесці ў калгасную касу суму страты...

Гэта нечаканае рашэнне Скакуна і стала яго рашучым крокам да першага астрамечаўскага НЭПа — навядзення элементарнага парадку ў гаспадарцы, і ў галовах вяскоўцаў. А далей-болей старшыня пачаў настойліва ўкараняць ў практыку калгаснага жыцця сваю стратэгію.

Жыў ён першыя восем месяцаў то на кватэры ў свайго шафёра Серафіма, то ў школьным інтэрнаце. Хадзіла нават чутка, што ён часта начаваў у сваім службовым кабінеце, так як салдат перад боем, будка і трывожна. Жыў пакуль без сям'і, бо не хацелася зрываць дзяцей са школы, жонку з работы. А прыстойнага жылля, каб перавезці іх, калгас не меў. Заклалі падмурак пад дом у Новых Лышчыцах, як знак таго, што новы старшыня надоўга закіне тут свой жыццёвы якар.

Па першым часе, будучы без сям'і, Аляксей Скакун, як кажуць, дняваў і начаваў на працы. Гэтую звычку ён пакінуў на ўсе гады, цярпліва прышчэпліваў яе сваім спецыялістам, кіраўнікам сярэдняга звяна, а ўвогуле — усяму калгаснаму аркестру. Галоўны тэзіс яго першага НЭПа быў просты і ясны:

— Чалавеку патрэбен хлеб, а ніве — яго пот, душа і мудрасць.

Скакун абкалясіў, абышоў усе палеткі, якія меліся ў калгасе. У сваіх дарожных блакнотах занатаваў патрэбныя думкі. Нарабіў фотаздымкаў. І прыняў рашэнне: усе палеткі найперш трэба ачысціць ад камення.

На тэрыторыі калгаса, непадалёк ад Астрамечава, геадэзісты вызначылі вышэйшую кропку раёна — 188,47 метраў над ўзроўнем мора. Здаецца, ляднік некалі дайшоў дасюль і на памяць пакінуў каменны скарб. Скакун вывеў сваё войска на расчыстку ворыўнай зямлі.

Прыгадвае цяпершні намеснік старшыні Аляксандр Сцяпанавіч Радкавец:

— Па выхадных мы, спецыялісты калгаса, уся кантора, вучні і пенсіянеры хадзілі на вайну з каменнем. Сам Скакун быў завадатарам, паддаваў жару. Весела працавалі. А пасля абедалі ў складчыну. Усе разумелі, чым большы парадак навядзём на зямлі, тым цалейшай будзе тэхніка, тым вышэйшы ўраджай атрымаем.

Аляксандр Радкавец называе нават лічбу. Сабралі на палетках звыш трыццаці тысяч тон камянёў.

— Некаторыя валуны, — тлумачыць Аляксандр Сцяпанавіч, — устанавілі, як помнікі, указальнікі на раздарожжах, каля фермаў, мехдвароў. Камяні пачалі купляць нашы застройшчыкі, будаўнічыя арганізацыі.

Новы кліч Скакуна быў такі: давайце паўсюдна зробім рэвізію віхлястых палявых дарог, сцежак, закінутых кар'ераў, пустыроў каля фермаў, незасеяных астраўкоў зямлі каля электраслупоў. Пачалася барацьба за кожную пядзю зямлі, каб яе адрадзіць і ўключыць у ворыўны рэестр. Нагадаем: пядзя — даўнейшая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж канцамі расцягнутых вялікага і ўказальнага пальцаў. Вось якія землі адваёўвалі скакуноўцы ў безгаспадарчасці, у неахайнасці, у пустазелля, у дзікіх хмызнякоў. У севазварот калгаса былі ўключаны сотні новых гектараў. У вялікай справе няма дробязей!

Навядзенне парадку на зямлі, выращыў Аляксей Сцяпанавіч, не можа быць без меліярацыі, асушэння забалочаных мясцін, асабліва каля азёр, у поймах рэк Лясная і Люта. Адначасна з асушэннем праводзілі і арашэнне палёў. У калгасе-камбінаце «Памяць Ільіча» ўвялі пасаду інжынера-міліяратара. Ды і сам Скакун пакрысе станавіўся спецыялістам у гэтым накірунку. Як жа інакш? У калгасе з'явіліся гідразбудаванні. Даўжыня адкрытых каналаў склала амаль сто кіламетраў. На меліяраваных землях працавалі арашальныя сістэмы «Фрэгата» і «Валжанка».

— Цяпер наша задача, — заявіў Аляксей Скакун на раённым партыйным пленуне, — укласці ў палепшаныя землі і патрэбныя ўгнаенні, і хлебаробскую душу...

Так гаспадарка атрымала звыш сямісот гектараў выдатнай пашні, адваяванай у дзікай прыроды.

Некалі Леў Талстой на пытанне «Як жыццё?» заўсёды адказваў: «Слава Богу, беспокойное». Неспакойна, трывожна і з поўнай адказнасцю перад Богам, людзьмі і самім сабой жыў Аляксей Сцяпанавіч Скакун. Аб'явіўшы астрамечаўскі НЭП па навядзенні элементарнага парадку на палетках, ён не мог, як кажуць, нос у нос не сутыкнуцца з праблемамі хутароў.

Невялікімі астраўкамі яны тырчэлі на ворыўнай зямлі. Прымушалі механізатараў віртуозна абмінаць іх хаты, барoдкі кустоў, пладовых дрэў. Больш таго, хутаране штодня падкідвалі воз новых праблем: то правядзі да іх электрычнасць, то пракладзі сцежку, то прывязі паліва, то падкінь да доктара. Жывым людзям трэба жывая падмога. Але ж курс узяты на ажыўленне вёсак, на будаўніцтва шыкоўных дамоў і катэджаў. І Скакун распачаў цярплівыя перамовы з хутаранамі аб іх пераездзе ў калектыўныя паселішчы.

З Аляксеем Сцяпанавічам на яго белым «Джыпе» кацім на хутар Кузаўкі. Гэта непадалёк ад утульных катэджаў Астрамечава. На агародзе, пад восеньскай, аголенай яблыняй сустракаем гаспадара Аляксея Мікітавіча Кузаўку. Ён трымаўся на нагах з дапамогай кіёчка. Праз тоўстыя лінзы акуляраў пазіраў перад сабой у нейкую сваю прастору. З-пад вылінялай кепкі тырчэлі ўроскід доўгія валасы. Шкадоба агарнула мяне за гэтага ссівелага, нямоглага хутараніна. А ён, пазнаўшы Скакуна, скупа ўсміхнуўся:

— Вой, хто завітаў!.. Дарагі Аляксей Сцяпанавіч, я заўсёды рады вам...

Тут жа да нас падышла гаспадыня Вольга Мяфодзьеўна і адразу пачала з просьбы:

— От бы, старшыня, каб хто ўзараў нам агарод.

— Скажу, заўтра, нехта з механізатараў крутнецца да вас, — прыняў рашэнне Скакун, а сам, пакінуўшы мяне на хутары, паехаў накручваць новыя кіламетры, пакіраваў насустрач новым праблемам, просьбам, праверкам.

Мы з Кузаўкамі зайшлі ў драўляную хату, прыселі за стол каля печы. Аляксей Мікітавіч зняў шапку, прыгроб пяцярнёй валасы, якія засталіся на галаве, і пачаў размову з таго, што яго хвалявала:

— Прапаноўваў Аляксей Сцяпанавіч пераехаць і нам у Астрамечава, дом абяцаў. Адмовіліся, а шкадуем. Усё з-за во етай бацькавай забудовы. Ён жа ў дванаццатым годзе ездзіў у Амерыку. Грошай зарабіў, купіў зямельку, хату зладзіў, мяне тут займеў. Дак от ёга вотчына і не пусціла нас у пасёлак, да людзей. Дарэмна не паслухаўся старшыні. Жылі б цяперака як у раі...

Пазней я адшукаў архіўны дакумент — «Пратакол № 1 агульнага сходу сялян вёскі Астрамечава ад 8 лютага 1949 года». Сход прыняў рашэнне аб утварэнні ў Астрамечаве калгаса. Сорак пяць сялян падалі заявы і стварылі калектыўную гаспадарку. Сярод іх і бацька Аляксея Кузаўкі — Мікіта Іванавіч. Так у Прыбужжы зарадзіўся калгас «Памяць Ільіча». Старшынёй выбралі Андрэя Данілюка.

Пазней сын першага калгасніка Мікіты Кузаўкі Аляксей стане працаваць бухгалтарам у зусім іншым па маштабах і магчымасцях калгасе, але ўсё з той жа назвай — «Памяць Ільіча». Пенсію атрымаў ужо ў калгасе-камбінаце, які ўзначаліў Аляксей Сцяпанавіч Скакун.

Сядзім каля печы з ветэранам і ён, праз туман цяжкіх успамінаў, тое-сёе прасвятляе:

— Сюды, калі мы былі пад Польшчай, панаехала мо сто сямей польскіх. Зямлю разабралі па кавалках. Пасля вайны драпака далі, а хутары засталіся. І мы на адным з іх звекавалі. Раней на ровары, на лыжах па хлеб ездзіў. Цяпер як?..

З цяжкім пачуццём пакідаў я Кузаўкаў. І зразумеў, як жа справядліва паступіў Аляксей Сцяпанавіч Скакун, калі рашуча ўзяўся перасяляць людзей у вёскі. Дзе ўгаворам, дзе пад націскам, не шкадуючы ні грошай, ні транспарту, перавозіў аднаасобнікаў, прапісваў іх да вяскоўцаў. Больш за трыста хутарскіх астраўкоў далучаны да агульнай калгаснай раллі.

З начальнікам вытворчага ўчастка «Лышчыцы» Анатолем Шуляком аб'язджаем яго аб'екты. Па дарозе да Кустані ён раптам прытармоўвае машыну. Ідзём палем да кустоў, якія купкай вытыркаюцца сярод маладой руні.

— Тут хутар Сакарыка стаяў, — тлумачыць Анатоль. — Ды во што засталося...

Азіраем глыбозна зацэментаваны падмурак, з падвальнымі памяшканнямі на ўвесь дом. Ніводзін кран не можа падняць гэту арматуру. Во зачапіўся за зямлю хутаранін! Думаў на векі вечныя, але ж аб'явіўся Скакун, гарачы агітатар буйной калектыўнай гасадаркі.

— Хоць ты ўзрывай, — кажа Анатоль Шуляк. — Трактарыстам, камбайнерам шкодзіць. Даводзіцца ім кругляць вакол гэтай «крэпасці». А тут жа суцэльнае поле на сто пяцьдзясят сем гектараў. Ёсць дзе разгуляцца сучаснай, магутнай тэхніцы...

Навядзенне парадку на зямлі дазволіла астрамечаўцам стварыць вялікія палеткі, выраўняць іх, праводзіць тут папераменна, упоперак і ўдоўжкі, ворыва, культывацыю і падкормку. На такіх прасторных участках можна выканаць усе пяць складаемых высокага ўраджаю: добра ўзараць, якасна пасеяць, аптымальна ўгнаіць глебу, абараніць расліну і своечасова ўбраць.

Цяпер Скакуноў НЭП можна бачыць паўсюдна, і нават няўзброеным вокам. Элементарны парадак — ва ўсім.

Усе сямнаццаць вёсак гаспадаркі ўдыхнулі ў сябе новае жыццё. Іх злучаюць сорак кіламетраў асфальтаваных і грунтовых дарог. З палісаднікаў каля вуліц з ранняй вясны да позняй восені пазіраюць на людзей і ў неба кветнікі колеру вясёлкі.

Кветкі ўпрыгожваюць двор механізатараў, фермы, жывёлагадоўчы комплекс. Тут можна сустрэць і мясцовыя кветкі, і экзатычныя красуні з Сочы, і шыкоўныя ружы з Рыгі.

А ўжо што робіцца каля катэджаў у самім Астрамечаве, то тут ні пяром апісаць, ні фарбамі намаляваць. Больш за трыццаць фасонаў дамоў. Фігурныя агароджы каля іх, падвясныя гірлянды і кошыкі, скульптурныя выявы і цэлыя экспазіцыі мастацкай творчасці. На дахах двух- і трохпавярховых катэджаў — спадарожнікавыя талеркі, у дварах — машыны, альтанкі, садовыя дрэвы.

Адзін раз у месяц строгая жыллёвая камісія абыходзіць увесь пасёлак і выстаўляе кожнаму двару адзнакі, як у школе. Вынікі камісіі найперш праглядвае Аляксей Сцяпанавіч Скакун. Калі ў тым спісе з дрэннай адзнакай будзе пазначаны нехта з кіраўнікоў ці спецыялістаў кааператыва, то ён можа і пазваніць яму, і задаць толькі адно пытанне:

— Што, каля свайго дома не можаш навесці парадак?..

А гэта азначае: ці здольны падтрымліваць парадак у полі, на ферме, у душы?

Прыемна Скакуну, што адзнакі астрамечаўцам выстаўляе не толькі камісія ды ён сам, а і госці, якія зачасцілі да іх у гаспадарку.

Ужо праз два гады, як Аляксей Сцяпанавіч прыехаў у Астрамечава, рэспубліканская газета «Звязда» на першай старонцы дала рамантычны здымак свайго лепшага фотамайстра Міколы Амельчанкі. Сярод жытнёвага поля, з буйным калоссем у руках стаіць старшыня калгаса Аляксей Скакун у белай тэнісцы. На твары — задаволенасць, задуменне. Малады і апантаны кіраўнік, мудры сельскі мужык пазірае ў новую далячынь.

У звяздоўскім рэпартажы пад загалоўкам «Сюды прыязджаюць павучыцца» сказана:

«У Астрамечава прыязджаюць з Украіны, Расіі, Малдавіі, Літвы — пераняць вопыт, павучыцца. Бываюць і замежныя госці. Ёсць тут на што паглядзець. Чысціня, парадак у кожным двары, на вуліцах. А калі людзі жывуць прыгожа, то і працуюць яны добра...»

А вось інтэрв’ю прафесара Ежы Навіцкага варшаўскай газеце, якое ён даў пасля паездкі па Брэстчыне:

«Калгасы я заўсёды ўяўляў сабе ў выглядзе казармаў. Цяпер іншай думкі. Я ахвотна памяняў бы кватэру польскага прафесара на дом у Астрамечаве».

У мяне свая ацэнка сельскага пасёлка.

Тры восеньскія дні правёў я ў Астрамечаве. Няспешна хадзіў па шаснаццаці вуліцах — Маладзёжная, Дружбы, Юбілейная, Брэсцкая, Новая, Свабоды... Пабываў у магазінах, Доме культуры, у Палацы шлюбу, у кафэ, бібліятэцы... Усюды міла, спакойна, прыгожа.

А больш за ўсё мне кінулася ў вочы — адметная паходка астрамечаўцаў. Яна зусім не такая, як у звычайных вяскоўцаў. Тут не выйдуць на вуліцу абы ў чым, абы-як.

Паходка астрамечаўцаў упэўненая, годная, няспешная. Яны з густам апрануты, задаволены тым, што маюць, і вераць у тое, што будуць мець заўтра. Іх вера мацуецца малітвай Скакуна:

«Дай Бог прыбавак у надоях, прывагах, ураджаях, у сем’ях, у зарплаце, у здароўі».

Сваю малітву Аляксей Сцяпанавіч лучыць з паўсядзённай строгасцю і патрабавальнасцю да кожнага з тысячы працуючых. Вось вам ну зусім свежанькі «гасцінец» ад яго.

Шукаю старшыню ў кабінеце, каб на развітанне паціснуць яму руку. Сакратарка Тамара Кляўцова падводзіць мяне да акна прыёмнай, паведамляе:

— Вунь, на плошчы Аляксей Сцяпанавіч.

Збягаю з трэцяга паверха адміністрацыі і сапраўды сустракаю Скакуна, а ён выдае свой гнеў:

— Панімаеш, нейкі гора-шафёр паставіў машыну на плошчы, а з яе во, нацякла цэлая пляміна. Пазваніў у міліцыю. Хай шукаюць шкодніка. І хай вылізвае, панімаеш...

Як жа радасна я развітваўся з Аляксеем Сцяпанавічам. Пачаты ім НЭП па навядзенні элементарнага парадку на сяле, — доўгатэрміновы і вечны, як сама зямля. Ён у надзейных руках кіраўніка, які задумаў прайсці гэтым шляхам ад простага да ідэальнага, узорнага парадку ў сваім «Астрамечаве». На гэта, веру, у яго хопіць бяссоння, імпэту і вытрымкі.

### 4. Скарга Гарбачову і Рэйгану

Добрую траву чалавек сее, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца. Так вось і з ананімкамі. Пахвальбу, прызнанне трэба зарабіць, вырасціць, а злыбеда, кляцьба, зайздрасць засылаюцца нячысцікам у гатовым выглядзе. Калі ж аўтарам такіх «падарункаў» становіцца чалавек, то часцей за ўсё яму не хапае смеласці назвацца, і ён падпісваецца старажытным грэчаскім імем — ананім. Вось так безыменны праўдалюб абнародуе свае опусы, кляўзы, нагаворы.

Скарга, якая пайшла з Астрамечава ў Маскву першаму сакратару ЦК КПСС Міхаілу Гарбачову і ў Вашынгтон прэзідэнту ЗША Рональду Рэйгану, была падпісана. І не адным чалавекам. Незадаволеных аказаліся дзясяткі. Яны былі з розных вёсак калгаса-камбіната «Памяць Ільіча», што надавала пісьму важкасці, даверу. Да таго ж за подпісамі стаялі жывыя людзі, сапраўдныя жыхары калгасных вёсак.

Што хацелі, чаго прасілі астрамечаўцы ў кіраўнікоў дзвюх звышдзяржаў свету?

А ні многа, ні мала, каб яны на чарговай сустрэчы дамовіліся і знялі з работы Скакуна, старшыню калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» на Брэстчыне, каб пазбавілі яго дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце БССР і аддалі пад суд. За якія грахі яму такая кара? Ды за тое, што ганьбіць памяць самага гуманнага чалавека на свеце, правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі Уладзіміра Ільіча. Маўляў, зусім не ленінскімі метадамі кіруе ён сельскай гаспадаркай «Памяць Ільіча» і людзьмі, якія працуюць на зямлі.

Аўтары пісьма выводзілі на «чыстую ваду» заганныя метады Скакуна. Яны, аказваецца, зводзіліся да таго, што кіраўнік гаспадаркі, па натуры чалавек энергічны і неспакойны, перагінае палку. Прымушае хутаран пераязджаць у вёскі, выкарчоўвае іх яблыні. Дамагаецца таго, каб сяляне вярнулі на брыгадныя двары ўсё калгаснае — плугі, бароны, вупраж.

Патрабуе, каб усюды наводзілі парадак. З гэтай мэтай аглядвае двары, сядзібы, вуліцы. А на самай справе ўтварае незаконныя вобыскі, наладжвае ганенні на спецыялістаў, не дае спуску лайдакам, п’яніцам. Метады яго кіравання дыктатарскія...

У Астрамечава прыехала камісія правяральшчыкаў. Папоўз слых, што Аляксея Сцяпанавіча Скакуна хутка здымуць з пасады, адчэпяць з яго пінжака

дэпутацкі значок і будуць судзіць. Але ж «чужы роцік не каўнерык — яго не зашпіліш». Яны паўзлі з вёскі ў вёску, з хаты ў хату.

Аляксей Сцяпанавіч ведаў, што некаторым яго «аркестрантам» не вельмі падабаюцца строгасць і цвёрдасць у навядзенні парадку. «Што ж, яны, відаць, не тады нарадзіліся, калі сумленне дзялілі», — супакойваў сябе Скакун і цярпліва працаваў з усімі памяцьільічоўцамі. Знайшліся, бач, смельчакі, падмахнулі кляўзу. Пра гэта і ў кашмарных снах не мог прысніць старшыня. Атрымалася, як у астрамечаўскай прымаўцы: «Усю ноч сабака на месяц брахаў, а месяц таго і не ведаў».

— А давайце праедзем у тыя вёскі, дзе падпісвалі гэтае пісьмо, — прапанаваў кантралёрам Аляксей Сцяпанавіч. — Хачу зірнуць людзям у вочы. Мой дзед некалі казаў: «Добрыя вочы дыму не баяцца».

Тыя вандроўкі па вёсках, сустрэчы з людзьмі адкрылі тайну скаргі самому Гарбачову.

У Лышчыцах адшукалі чалавека, які ставіў свой подпіс. Правяраючыя пытаюцца:

— Вы чыталі ліст, пад якім распіваліся?

— Дзетачкі, я слаба чытаю. Сказалі: «Вам трэба шыфер, каб хату пера-крыць?» Кажу: «Ага, трэба» — «Дык вось мы падрыхтавалі просьбу Скакуну, каб выдзеліў без грошай шыферу ўсім ветэранам». О, за гэта я абедзвюма рукамі!..

У Вялікіх Шчытніках жанчына, якая падпісвала тое пісьмо, распавяла сваю праўду:

— Гэта ж сказалі, што дарогу да нас будуць асфальтаваць, дык я і падпісалася пад просьбай...

У вёсцы Кустань пенсіянерку зусім звялі ў зман:

— Вы чулі, Скакуна здымаюць са старшыні, з дэпутатаў адклікаюць?

— А ё-яёй, такі ж дабрэнны чалавек нам патрапіўся, дык на табе, ліха на некага найшло. Што задумалі?

Пакуль бабуля бедавала, шулеры падсунулі ёй чыстую паперу:

— Падпішыся, Волька, у абарону Скакуна. А мы перададзім пісьмо каму трэба.

Дык вунь як, аказалася, збіралі подпісы ў сялян.

Дурылі людзей, подпісы групавалі на адным аркушы, на другім пісалі ўсю брыдоту супраць Скакуна ды прырабілі «ногі» фальшыўцы.

Але ж хто арганізоўваў скаргу?

Праз кароткі час стала вядома і прозвішча ананіма. Ім аказалася жанчына, якая да прыезду Скакуна працавала інспектарам па кадрах у калгасе, паспытала хлеба на пасадзе клубнага работніка, пабегала па розных прадпрыемствах у Брэсце. А да Аляксея Сцяпанавіча падкацілася з патрабаваннем:

— Бярыце мяне юрыстам!..

Калі ёй было адмоўлена, вось і запалілася вогніва канфлікту, і з'явілася скарга на Скакуна. Быў суд. Ананімшчыцу пакаралі грашовым штрафам. А яна праз колькі дзён даслала старшыні калгаса свой ліст:

«Я абяцаю вам, што прыму ўсе меры, каб справу ўзбудзіць нанова. Буду дзейнічаць метадычна, ад інстанцыі да інстанцыі, ажно да Пракуратуры СССР. Я б магла пагадзіцца на маўчанне, калі вы заплаціце мне 3,5 тысячы рублёў. Для вас гэта — нішто. Карацей, справа ваша. Чакаю да 15 лютага гэтага года. Наўзамен грошай — распіска па ўсёй форме».

У кожнай брыгадзе, на фермах калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» прайшлі сходы калгаснікаў. У іх прыняло ўдзел каля дзевяцісот чалавек. Людзі падтрымлівалі свайго важака Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Верылі,

што ён правільным курсам вядзе калгасны карабель, што ўмела падбірае кадры. Хвалілі за тое, што здолеў разгледзець у нахабніцы, якая лезла ў яго каманду, нядобрага чалавека, і не ўзяў на «борт». Вытрымаў паклёп, абразу і перамог.

У гэтай гісторыі пазней пастаўлена прыгожая кропка. А было во як. Аднойчы ехаў Аляксей Сцяпанавіч з Брэста ў Астрамечава. Настрой добры. Душа прасіла лагодных мелодый. І па дарозе падбіраў усіх, хто галасаваў. От ў яго «Джып» улезлі тутэйшы пенсіянер і жанчына. Праехалі крыху моўчкі, Аляксей Сцяпанавіч пытаецца ў дзядулі:

— Вы Скакуна ведаеце?

— А вы хто, мо яго вадзіцель? — са свайго боку пацікавіўся той.

— Як бы і так, — схітраваў старшыня.

Пагаварылі. Пасажыр просіць прыпыніцца каля магазіна:

— Пайду, вазьму бутэльку, толькі вы Скакуну не кажыце.

— Дык я ж — Скакун.

— Вой, які добры чалавек!..

— І мой вам дзякуй, што падвезлі, — неяк сарамліва сказала жанчына, якая ўвесь гэты час ціха сядзела за спінай Скакуна.

Калі яна адышла ад машыны, Аляксей Сцяпанавіч пазнаў у ёй тую самую «праўдалюбку», якая жадала, каб сустрэліся Гарбачоў з Рэйганам ды знялі Скакуна з пасады старшыні калгаса.

Праца ў Аляксея Сцяпанавіча сапраўды такая, што пастаянна трэба ісці на кампрамісы, спрэчкі, доказы. Як на перадавой, паступіла каманда, і трэба авалодаць безыменнай вышынёй. Любой цаной, але авалодаць!

На сваёй перадавой Скакун найчасцей даваў каманды самому сабе. І гэта змаганне за астрамечаўскі рай пачалося з яго першых крокаў на новай пасадзе.

Праз колькі дзён працы Аляксей Сцяпанавіч агледзеў пятнаццаць гектараў ворнай зямлі, якія нейкі вёрткі гаспадарнік ператварыў у лесапасадку. Як жа так? Сярод калгаснага поля нехта надумаўся «прыхватызаваць» зямлю. І галоўнае, ніхто не прызнаецца, чыя гэта праца.

Аляксей Сцяпанавіч загадаў перааараць тую лесапасадку і пасеяць зернявыя. Тут жа аб’явіўся ўладальнік, пабег скардзіцца высокаму начальству. Выклікаў Скакуна першы сакратар Брэсцкага абкама партыі Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў і пачаў усчуваць:

— Хто табе даў права прымаць такія крутыя рашэнні?

— Вы, Яфрэм Яўсеевіч.

— Калі гэта было?

— Як пасылалі мяне ў Астрамечава. Сказалі тады: «Мы табе не нянькі. Прымай рашэнні сам і выводзь гаспадарку ў людзі».

— Было такое, — ахаладзіўся Сакалоў.

З кабінета сакратара абкама Аляксей Сцяпанавіч выходзіў пераможцам. Там ацанілі яго самастойныя, рашучыя крокі па навядзенні парадку на зямлі. Прапанавалі далучыць да Астрамечава ляжачы калгас «50 год Кастрычніка» з Камянецкага раёна.

Скакун быў усёй душой за буйныя сельскія гаспадаркі. У іх бачылася яму выратаванне вёсак і зямлі-карміцелькі. А якраз наступілі часы разгулу дэмакратыі, якая навалілася нечаканым цунамі на наша грамадства. Пачалі ўжывацца лозунгі: «Далоў калгасы! Дарогу — фермеру!» І на Скакуна паляцелі маланкавыя стрэлы.

Адзін кандыдат навук у рэспубліканскай газеце надрукаваў артыкул «Ці чытаў Скакун Сталыпіна?» У ёй вучоны хваліўся, што жыве на зямлі, трымае карову, дзвюх свінак, дваццаць курэй. Накопвае восенню да двухсот пяці-

дзесяці мяхоў бульбы, а яго месячная зарплата вучонага ацэньваецца толькі ў пяць мяхоў. Дык чаму б селяніну не аддаць зямлю?

Аляксей Сцяпанавіч адгукнуўся на гэты палемічны выклік сваім артыкулам. Ён прызнаўся, што ведае пазіцыю царскага міністра Пятра Сталыпіна на прыватызацыю зямлі. Але ж ён знаёмы і з вывадамі буйнога вучонага-землеўласніка Аляксандра Энгельгарта, які ў сваіх пісьмах «З вёскі» яшчэ сто трыццаць гадоў назад пераканаўся, што памешчыцкія землі трэба аддаць сялянам у іх арцельныя гаспадаркі. Хто ж не ведае мудрае выказванне смаленскага памешчыка Энгельгарта: «Тое, што рускаму добра, немцу — смерць. А што немцу добра, рускаму — смерць».

Сельская буйная «арцель» Аляксея Скакуна, у якой ён пачаў з навядзення элементарнага парадку, усё мацней разбуджвала ў сялян «спячыя пупышкі» сапраўдных гаспадароў. І людзі сказалі сваё слова на агульным сходзе пасля распаду Савецкага Саюза. Тады Аляксей Сцяпанавіч аб’явіў:

— Нам настойліва прапануюць распусціць калгас. Што будзем рабіць?..

Ох жа і бурныя, гарачыя, пачаліся дэбаты. Старшыня вымушаны быў адказаць на пякучыя пытанні: хто прыдумаў такое, чаму мы павінны раздаваць нашы ўпарадкаваныя землі тым, хто хоча найперш асабістай нажывы?

Аляксей Сцяпанавіч цярпліва вытрымаў дзявяты вал людскога запалу і выказаў сваю кампрамісную думку:

— Давайце пагодзімся: калектыўнай нашай гаспадаркі, дапусцім, болей не існуе. Кожны з вас можа хоць сёння забраць у асабістае карыстаннае восем гектараў зямлі і пэўную суму грошай. Хто за такое рашэнне?

У зале павісла цяжкая цішыня.

— Хто хоча выйсці з калгаса? — ціха, як мага стрыманей, паўтарыў Скакун.

— Што ты надумаўся, старшыня? — падаў голас нехта з сярдзіны залы. — Сярод нас такіх няма!

Людзі заапладзіравалі.

Аляксей Сцяпанавіч зразумеў: яго калгасны карабель выратаваны! Яму далі новую назву — сельскагаспадарчае калектыўнае прадпрыемства «Астрамечава». А крыху пазней падправілі найменне ў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў.

Праз пяць гадоў Аляксей Сцяпанавіч Скакун з трыбуны рэспубліканскай нарады аграрыяў дакладваў:

— Наша калектыўная гаспадарка ў новых умовах даказала сваю эфектыўнасць. Ужо цяпер кожны работнік жывёлагадоўчага комплексу атрымлівае столькі мяса, што яго хапіла б на паўтары сотні едакоў. Кожная даярка забяспечвае малаком трыста, а механізатар хлебам — тысячу дзвесце чалавек. Вось і атрымліваецца, што калгаснік, не фермер, корміць краіну. Паклонімся Яму!..

Аляксей Сцяпанавіч пад настрой любіць расказваць такую быль. У той час, калі з трыбун, экранаў, газет «дэмакраты» бязбожна кляймілі калгасы, а да яго ў кабінет зайшоў каўказец з беларускай прапіскай і з парога патрабаваў:

— Дай зямлі, старшыня, падлюка.

Скакун не чакаў такога нахабства. Падняўся з крэсла, ухапіў са стала медную выяву каня-скакуна:

— Я табе зараз пакажу падлюку!

У нязванага госця вочы палезлі на лоб. От і зманілі, што старшыня добры, муху з носа не згоніць, тут ногі трэба падстаўляць пад сябе, ратавацца. Каўказец узмаліўся:

— Старшыня, калі не можаш даць зямлі пад люка, то дай пад часнока.

Аляксей Сцяпанавіч зразумеў камічнасць дыялогу, памякчэў і цярпліва патлумачыў:

— Мы, дарагі таварыш, сваёй зямлёй на гандлюем. Мы яе не раздаём ні «пад люка», ні «пад часнока». Мы ўсё ўмеем вырошчваць самі. І робім гэта калектыўна, агульнай, дружнай сям'ёй.

Як толькі чарговы ахвотнік пажывіцца астрамечаўскай, упарадкаванай зямлёй пакінуў кабінет, Аляксей Сцяпанавіч раскрыў штодзённік і зрабіў паметку для будучага выступлення перад сваімі вясковымі кааператарамі:

«Калі ў адзіночку пачаць уздымаць сельскую гаспадарку, то нават слон можа займець грыжу. Разам — мы сіла, якая пераможа любыя нападкі брахуноў, паклёпнікаў, ананімаў і праўдарубаў. Дзякуй, людзі, за вернасць зямлі!»

## 5. Закадзіраваная памяць

Мама правяла сына да брамкі. Развіталіся. Аляксей Сцяпанавіч ужо на вуліцы азірнуўся яшчэ раз на хату, двор. Сустрэўся вачыма з мамай. Яна, сагнутая, апіралася на кіёчак і раптам падняла руку, памахала свайму Алёшу, сказала ў дарогу:

— Глядзі, сынок, акуратна паводзь сябе. Людзі ўсё прыкмячаюць...

Аляксей Сцяпанавіч як бы закадзіраваў у сваёй памяці мамін наказ. Ён адначасна быў яе просьбай і грозьбай, напамінкам і пажаданнем. Усю дарогу да Астрамечава не выходзілі з галавы маміны словы.

«Паводзь акуратна. Людзі ўсё прыкмячаюць...»

Вой, мама, як жа вы правільна падмецілі. Кожны крок старшыні, нібыта на асвечанай зыркімі ліхтарамі сцэне. Ты можаш не бачыць гледачоў, а яны цябе азіраюць ад чупрыны да абцасаў. І ўсё прыкмячаюць.

Дык жа і кіраўнік абавязаны быць відушчым. А яшчэ — па-добраму памятлівым. Калі нечага патрабуеш ад іншых, навучыся гэта ж мець у сабе.

Задумаў навесці новы элементарны парадак у сваім «Астрамечаве», дык будзь добры, Аляксей Сцяпанавіч, загартуй, выпрацуй такі ж парадак у самім сабе, у сваім характары, паводзінах, звычках. Гэтай ухабістай дарогай старшыня крочыць упэўнена. Надзейныя памочнікі яго, як ні дзіўна, — гадавыя штодзённікі.

Ад многіх астрамечаўцаў я чуў, што Скакун мае даўнішнюю звычку — абсалютна ўсё запісваць. Такіх нататнікаў у яго мноства. І, кажуць, калі ён некаму даў заданне ды яшчэ і запісаў у свой «камп'ютар», то і не думай увільнуць ад выканання і не спадзявайся, што старшыня за даўнасцю часу забудзецца пра сваё даручэнне, бо мала табе не пакажацца. З такой патрабавальнасці Аляксея Сцяпанавіч да сябе складваецца поспех усяго калектыву.

Давайце з дазволу гаспадара зазірнём у яго запісныя кніжкі і паспрабуем нешта цікавае вывудзіць. Паспрабуем пашукаць у іх нечаканага колеру фарбы, якія дапоўняць партрэт нашага героя.

Найперш уражвае безліч тэлефонаў і прозвішчаў. За дзень Аляксей Сцяпанавіч занатоўвае да паўсотні нумароў. З кожным абанентам ён гаворыць, выслухоўвае яго, а па выніках размовы дае даручэнні, выказвае просьбы.

Сярод мора людскіх прозвішчаў я сустракаў у тых запісах і знаёмых мне людзей: вучоных, пісьменнікаў, артыстаў, вялікіх начальнікаў, банкіраў, дэпутатаў, ваенных. Калі б расшыфраваць усю гэту чалавечую крыніцу галасоў, каб пачуць тыя размовы Аляксея Сцяпанавіча, можна, адчуваю, скласці цікавы том дыялогаў на самыя розныя тэмы жыцця.

Кароткія запісы-напамінкі для сябе мог бы патлумачыць толькі сам Аляксей Сцяпанавіч. Але я вырашыў не турбаваць яго. Давайце няспешна пра-

чытаем некаторыя заметкі ў блакнотах старшыні і яшчэ раз ацэнім багацце яго душы, нераўнадушнае сэрца, дыяпазон клопатаў і неардынарны характар. Увага, перад намі дарожныя запісы астрамечаўскага мужыка Скакуна.

* * *

«Завяршаецца тысячагоддзе. У ім я дваццаць гадоў у Астрамечаве. Міг!»

«Год закончылі ў $16^{45}$. Прыбытак ва ўсім. Усе павінны рабіць на прыбытак».

«Давайце вывучаць усё лепшае ў суседзяў. Едзьце ў Сноў, Верцялішкі. Лепшае на Захадзе — давайце сюды. Лепшае на Усходзе — таксама нам. Права на жыццё маюць і калгасы, і фермер. Будзем спаборнічаць!»

«Узараць усё пустое. Скасіць усё, што можна. Перакапаць уручную, калі тэхніка не возьме. Падняць на гэту працу ўсіх жывых у сямнаццаці вёсках».

«Хто не працуе, той не жыве».

«А чаму б не святкаваць Дзень вёскі, Дзень поля, Дзень каня?»

«Тлумачу яшчэ раз усім спецыялістам і намеснікам: браць у гаспадарку можна ўсё і ад усіх, а даваць з гаспадаркі — толькі з дазволу кіраўніка».

«Зарплату павінен адпрацаваць і старшыня, і загадчык фермы, палявод і даярка. Я — за высокую зарплату, але ты зарабі яе».

«Які парадак на зямлі? На хутары Шулякоў — палова пустуючай зямлі. Да хутара Кузаўкі — фігурная дарога. А палявыя дарогі — як праспекты, бульвары. Навошта?.. Навесці парадак у полі, на дарогах, у вёсках, на кожным рабочым месцы. Што пасееш, тое і пажнеш».

«Шмат сцежак у кукурузе. Што, п’яніцы там устроілі кафэ?.. Пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі агледзеў на мехдвары. Гарачым жалезам буду выпальваць п’янкі ў рабочы час. Піце наша віно «Астрамечаўскі вальс». Піце пасля працы, з жонкай, дома. Спецыялісты кажуць, яно стымулюе каханне...»

«Едзеце, дык павінны глядзець на ўсе 360 градусаў. Тады ўбачыце лішнія аб’езды па полі, на пасевах у Лышчыцах — індзюкоў, хмызняк каля дарог, безгаспадарную зямлю за агародамі».

«У нядзелю ў садзе падлавіў тры «левыя» машыны. Адзін папрасіўся: «Я болей не буду». Паверыў. Двое будуць плаціць штраф. А хто яшчэ каго злавіў?»

«Надакучыла гаварыць: «Убярыце пні, пасейце траву каля клуба, магазіна, лазні. І ўвогуле — усюды. Што перашкаджае пабяліць балконы? Хто падграбе лісце каля вокнаў Лышчыцкага сельсавета і Дома культуры?..»

«Хворыя пішуць Прэзідэнту — можна зразумець. Пішуць здаровыя — бяда! Пра што пішуць? Не прадалі цукру ў магазіне, колькі хацеў. Не выдзелілі дошак. Не скасілі бур’ян у агародзе. Не апрацавалі соткі ад жукоў. Нехта паведамляе пра цёмныя справы суседа. Трэба нам самім разбірацца ва ўсім!»

«Скараціць лішнія раз’езды. Трактар з комплексу ходзіць у Кашылава паражняком. Чаму?»

«На пасеве будуць рабіць 90 трактароў, дзве нямецкія сеялкі. Пасеяць 3226 га яравых за восем дзён. Падкарміць тры тысячы гектараў азімых, палова з іх — авіяцыяй. Асаблівая ўвага — эканоміі паліва!..»

«Я не злапамятны, хаця крыўды не пераношу. Калі кіраўнік злапамятны — няма кіраўніка. Жыву для людзей і адчуваю — патрэбен ім».

«Наводзім парадак усюды. Што перашкаджае? Усе хочуць заставацца добранькімі, баяцца сказаць праўду. Што рабіць? Рабіце дабро!»

«Дабіліся імпартных цялушак — заслуга галоўнага заатэхніка Мікалая Міхальчыка. Загінулі цялушкі — віна Скакуна. Не, мае харошыя, кожны на сваім участку адказны за ўсё па поўнай праграме.

Вас создал Бог,
чтоб мир украсить,
чтоб землю обогреть...»

«Быў у Ізраілі. Мала пашні, мала вільгаці, умоў для сельскай гаспадаркі мала. Але ёсць кемлівасць, розум, працалюбства і вера ва Усявышняга, у свае сілы. Усё гэта дае сонечнаму Ізраілю высокія аграрныя вынікі».

«Жадаю суседзяў нармальных, праблем толькі ўмоўных, поспехаў рэальных, ідэй геніяльных. І рабіце, як раіў Уладзімір Маякоўскі:

Берите,
глазами
жадными
цапайте:
Все, что —
у нас хорошо,
и что —
хорошо на Западе!»

«Гандляры завезлі веласіпеды. Чаму ніхто не бярэ? Давайце паціху адмаўляцца ад машын. Давайце навучымся ўцякаць ад гемарою».

«Учора гарэў лес. Хто вінаваты?..»

«Трэба адрозніваць гаспадара зямлі ад уласніка зямлі. Дайце фермеру зямлі, ён накорміць... сябе. Давайце навучым людзей зарабляць грошы ў калектыўнай гаспадарцы».

«Нам трэба працаваць так, калі будуць гаварыць аб поспехах сельскай гаспадаркі Беларусі, каб заўсёды прыгадвалі Астрамечава».

«Чаму б нам не гадаваць страусаў, паўлінаў, не вырошчваць дыні? Ёсць усе магчымасці рабіць лепш».

«Трэба чысціць меліярацыйныя каналы. Навядзём парадак на адваяваных у балотаў землях».

* * *

«За чыгункай — пяць гектараў зямлі. Не выкарыстоўваецца. Чыя яна?»

«Усюды прыбраць сухія дрэвы. Станьце ў вёсцы і паглядзіце наўкол: чаго не хапае для поўнага парадку?»

«Як і дзе працуюць коні?.. Што рабіць з хутарскімі яблынямі?.. Чаму дачнікі не дапамагаюць калгасу?..»

«Чаму не пасадзілі дрэвы на аб'язной дарозе, каля дамоў, якія будуюцца?»

«Давайце ўсыпім сабаку Мазырчука (галоўны ветурач. — **Ул. Л.**). Хай спакойна лечыць кароў».

«Пажаданне маладым у Палацы шлюбу: «Любіце сваю родную зямлю, на якой працуюць вашы бацькі. Яна, як і каханне, — крыніца вашага шчасця.

Няхай заўжды пад мірным небам,
Пад сонцам, што спрадвеку свеціць,
Расце ў полі колас хлебны,
А ў хатах вашых растуць дзеці».

«Мой дзень нараджэння — 1 сакавіка. Сёння мяне павіншавалі 146 чалавек. У мяне шмат сяброў! Без іх няма жыцця».

«Людзі просяць парабіць лаўкі каля хат. Трэба ўважыць. І ўсюды каб былі кветкі!»

«Так атрымалася, што я доўга не быў на радзіме. Цяпер еду дамоў, у Дастоева. Не еду — лячу! У вушах гучаць словы паэта, не помню якога:

Ты лети, голубок,
в поднебесную высь.
Ты лети, голубок,
во все стороны.
Но смотри, не вернись
Черным вороном...»

* * *

З такіх вось залацінак памяці, закадзіраваных у блакнотах, і склаліся першыя кнігі Аляксея Сцяпанавіча Скакуна «Арыенцір — новыя вышыні» і «Дарога ў заўтра». Яны выйшлі ў папулярным па тым часе выдавецтве «Ураджай», агульным тыражом 10700 экзэмпляраў. Першая з іх убачыла свет усяго праз чатыры гады пасля таго, як на астрамечаўскіх землях аб’явіўся новы кіраўнік. Праз чатыры гады ён вывеў адсталыя гаспадаркі, аб’яднаныя ў адну, у лік перадавых.

На ўсю Беларусь загучаў голас энергічнага, напорыстага старшыні. Жартавалі: «Скакун на скакуне абскакаў аксакалаў, даскакаўся да славы. Думалі паплача, а ён скача і скача».

У сваіх кнігах Аляксей Сцяпанавіч Скакун як бы раскадзірвае тыя лічбы, якія занесены ў яго блакноты. Расказвае, якім потам яны даваліся яму і яго камандзе. Пра іх, магічныя лічбы поспеху і дасягненняў, наша размова наперадзе. Цяпер жа мне хочацца яшчэ раз ацаніць аўтара за яго ўменне бачыць усё наўкол і ўменне занатаваць убачанае адным, двума сказамі ў паходным блакноце. А пасля знайсці ім вартае месца ў кнізе.

Мне здаецца, я адшукаў у першых выданнях Аляксея Скакуна той нектар думак, які ён папярэдне сабраў у клапатлівых буднях. Усвядомім і мы іх:

«Часавы механізм будзе добра працаваць толькі тады, калі кожная яго шасцярэнька, кожнае колца будзе рухацца з зададзенай хуткасцю. Сучасная сельская гаспадарка — гэта такі ж складаны механізм...»

«Глеба — гэта жывы арганізм, і стаўся да яе, як да ўсяго жывога, беражы яе».

«Толькі чалавек, які ведае і любіць сваё рамяство, можа дасягнуць жаданага поспеху».

«Як накорміш, так і падоіш. Карова — гэта фабрыка па перапрацоўцы кармоў у малако».

«Зарплату налічваць не за выхад на работу, не за адпрацаваны дзень, а за атрыманую прадукцыю. Закончыўся час, калі жывучым быў лозунг: «Хай калгаснікі нічога не атрымліваюць, толькі б не багацелі».

«Кожнаму — сваё месца ў жыцці…»

Аляксей Сцяпанавіч Скакун, як гаворыцца ў прымаўцы, пасеяў у Астрамечаве ўчынак, звычку, характар, а ў выніку жніва атрымаў свой лёс. Пра гэта добра сказаў у прадмове да кнігі «Арыенцір — новыя вышыні» яго «хросны», першы сакратар Брэсцкага абкама партыі, Герой Сацыялістычнай Працы Яфрэм Сакалоў:

«Аляксей Скакун узяўся за справу, што называецца, закасаўшы рукавы. Падбіраў энергічных, адукаваных спецыялістаў і кіраўнікоў сярэдняга звяна, умела ўмацоўваў дысцыпліну. Не ўсе спачатку прынялі яго рашучасць, цвёрдасць, неўтаймоўнасць. Але праз кароткі час пагадзіліся безагаворачна...»

## 6. Жаўрукі над рунню

Аляксей Скакун ехаў у Маскву. Перад самай паездкай яму пазваніў Ігар Лучанок. Высветлілася, што і кампазітар у Мінску падсаджваецца ў гэты ж паезд. Дамовіліся сустрэцца на сталічным пероне і далей ехаць разам.

— Але ў дарозе трапіліся знаёмыя, — тлумачыць Аляксей Сцяпанавіч. — Загуляліся ў карты. І ў Мінску я не сустрэў Ігара Міхайлавіча. Дзе ён, у якім вагоне? Хто яго ведае. Іду да брыгадзіра саставу і прашу абвясціць: «Калгаснік Скакун шукае кампазітара Лучанка!»

Праз некалькі хвіліны ва ўсіх вагонах поезда прагучала аб'ява: «Кампазітар Скакун шукае калгасніка Лучанка». Многія з пасажыраў ведалі гэтых знакамітых людзей Беларусі, і ўспрынялі такое перахрышчэнне як аўцюкоўскі жарт. Ён вельмі падабаецца Аляксею Сцяпанавічу. Хваліцца:

— І я хоць раз пабыў кампазітарам. Не ўсё ж — мужыком...

Гэта, паўтаруся, жарт. А калі ўсур'ёз, то Аляксей Скакун моцна сябруе з творчай інтэлігенцыяй рэспублікі. Паэт Уладзімір Сітуха напісаў пра яго паэму «Скакуны». Пісьменнік Мікола Панасюк — дзясяткі нарысаў і паэтычных прысвячэнняў. Перад астрамечаўцамі не раз выступалі народны артыст СССР Ігар Лучанок, заслужаныя артысты Беларусі Іван Краснадубскі, Ірына Дарафеева, паэты, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Мікола Мятліцкі, Раіса Баравікова, пісьменнікі Алесь Карлюкевіч, Андрэй Федарэнка, Іосіф Рогаль...

Усім гасцям Астрамечаўскага Палаца культуры Аляксей Сцяпанавіч не без гонару паказвае сваю асабістую выстаўку фатаграфій «Свет у аб'ектыве». З падмогай майстра мы сузіраем чароўныя пейзажы Бразіліі, Амерыкі, Ізраіля, Францыі. Можам пацешыцца з кенгуру ў заапарку Латвіі, сустрэцца з вярблюдам у Казахстане, пабываць каля дома Пятра Клімука ў Маскве. А ўсё-такі лепшыя работы Аляксея Скакуна зроблены на астрамечаўскай зямлі. Буслянка і рунь пад белымі крыламі буслоў. Сенажаць і стагі сена. Певень і курыца — гаспадары сялянскага падвор'я. Сад у белай кіпені. Спелыя яблыкі. Беластволыя красуні бярозы. І, як вокам акінуць, зялёныя, залацістыя палеткі, выраўненыя, быццам аэрадромы, прыбраныя ад хмызу і камення, на якіх уладарыць пшаніца, збажына, кукуруза, рапс.

Пазіраеш на такія карціны Аляксея Сцяпанавіча Скакуна, а ён побач стаіць і свеціцца, быццам велікоднае сонейка. І не ведаеш, чаму ён больш радуецца: свайму фотаімгненню, якое падлавіў у камеру, ці той астрамечаўскай красе, якая наўкол і якая створана пад яго нястомным і настырным кіраўніцтвам?

Мужык Скакун, веру, мог бы быць і папраўдзе кампазітарам. Іграў жа ў дзяцінстве на гармоніку, мае напеўную душу, любіць шансон. Але ён стаў тым, кім ёсць. І сваёй сялянскай працай пацвердзіў Піфагораву мудрасць: «Трэба ўсвядоміць, што араць поле — такі ж варты занятак, як і пісаць паэму».

Думаю, калі не кампазітара, то статус дырыжора Аляксей Сцяпанавіч смела заслужыў. Ён умела дырыжыруе не толькі сваім вытворчым аркестрам, але і культурным, асветніцкім, школьным.

Як у папулярнай, сенсацыйнай тэлепраграме «Ты не паверыш!», і я адразу не паверыў, калі знайшоў у газетных архівах рэпартаж пра астрамечаўскія дажынкі. Свята ўвогуле не новае. Але сенсацыя ў тым, што ўжо на другі (толькі на другі!) год свайго старшынёўства ў аб'яднаным калгасе-камбінаце «Памяць Ільіча» сяляне атрымалі найвышэйшы ў Брэсцкім раёне ўраджай і першымі завяршылі ўборку.

І гэта ў гаспадарцы, створанай з трох адстаючых і ляжачых «на лапатках» калгасаў. Феномен!

Аляксей Скакун вырашыў арганізаваць свята, якога тут ніколі не было. Разам з культработнікамі не адным познім вечарам складвалі праграму Дажынак. Хацелася, каб кожны запомніў свята ўраджаю, яшчэ раз усвядоміў цану хлеба.

З усіх вёсак за ваколіцу Астрамечава сабраліся людзі. Камбайны, машыны, як на парадзе, стаялі каля невялікага загона жыта. Механізатары маглі б за некалькі хвілін абмалаціць тую збажыну. Але ў поле на ўпрыгожаных павозках прыехалі жнеі. Яны ў беларускіх нацыянальных уборах. У руках — вострыя сярпы. Са жніўнымі песнямі дзяўчаты і маладзіцы падышлі да жытнёвага палетка:

Як на нашай ніўцы
Сягоння дажынкі,
Дзіва, дзіва!
Да краю дажнёмся,
Квасу мы нап’ёмся,
Дзіва, дзіва!..

Жнеі паказваюць, як раней сярпамі жалі жыта, як звязвалі снапы і складвалі з іх «бабкі». А тады лепшы камбайнер Васіль Баран сеў за руль, і ў кузаў машыны пасыпаўся залацісты ручаёк збажыны. Па свежым іржышчы дзяўчаты павялі карагод.

Кіраўніку калгаса Аляксею Сцяпанавічу Скакуну падносяць духмяны каравай з новага ўраджаю. Упрыгожваюць яго вянком са спелых каласоў. Жнеі спяваюць яму велічальную песню:

Жалі мы жыта, выгналі воўка,
А ў нашага гаспадара — разумная галоўка...

Хвалюючыя словы старшыні захоўвае ў памяці газета «Заря над Бугом» за 23 жніўня 1984 года:

«Самае дарагое для чалавека — гэта Радзіма і хлеб. А што даражэй: хлеб ці золата? Безумоўна, хлеб, бо золата можна здабыць у гатовым выглядзе, яно можа быць і самародкам, само нараджаецца, а хлеб павінен вырасціць, здабыць чалавек, селянін, мужык. Вось за гэту працу я шчыра дзякую вам!..»

У той дзень у Астрамечаве прайшла ярмарка сельскай прадукцыі. А ў бярозавым гаі доўга гучалі жніўныя песні, мелодыі вясёлых танцаў, пранікнёныя вершы. Старшыня калгаса Аляксей Скакун прыгадаў любімыя радкі паэта Мікалая Рылянкова:

Я тоже в поле вырос и окреп,
Шел не прохожим по родному краю,
И потому, как люди ценят хлеб,
Себе друзей в дорогу выбираю.

З таго далёкага часу ў Астрамечаве штогод праводзяць свята Дажынкі. Яно для скакуноўцаў, як Вялікдзень. Усе радуюцца нараджэнню новага ўраджаю — Божага падарунка працавітым людзям.

Сакрэт поспеху можа быць і ў тым, што ў дарогу да хлеба Аляксей Сцяпанавіч падбірае не толькі вытворцаў-хлебаробаў, а ўсіх, хто можа дапамагчы яму ісці да вяршыні. Падмацункам гэтай думкі служыць Скакуноў храм, узведзены каля цэнтральнай плошчы ў Астрамечаве. Вельмі ж сімвалічна, што пад адным дахам велічнага будынка сабраны (удумайцеся!): праўленне кааператыва, Дом культуры, музей, выставачныя залы, кафэ-рэстаран, майстэрні архітэктараў, бібліятэка і Палац шлюбу. А побач — гасцініца, магазіны, Дом быту, пральня, школа, дзіцячы сад і царква. Усімі гэтымі духоўна-культурна-бытавымі крыніцамі ўмела і нястомна дырыжыруе Аляксей Сцяпанавіч.

Пра Астрамечаўскую бібліятэку імя Паўлянкова старшыня Скакун дбае з асаблівай адказнасцю. Яна адна са старэйшых на Беларусі, адна з першых бясплатных народных бібліятэк. Заснавана ў 1905 годзе на сродкі фонду пецярбургскага выдаўца Фларэнція Паўлянкова. Сюды, у Астрамечава, дасылалі свае кнігі Максім Горкі, Янка Купала, Якуб Колас.

Беларуская газета «Наша Ніва» ў нумары 21 за 1908 год паведамляла, што ў Астрамечаўскай бібліятэцы ўжо ёсць 1039 кніг, якія бяруць для чытва мужыкі з пяці суседніх вёсак. Мясцовы настаўнік Антон Паўлавіч Зянкевіч быў наглядчым за бібліятэкай, старанна нёс асвету сваім землякам.

Асветніцкую справу ў Астрамечаве ўсебакова падтрымлівае Аляксей Сцяпанавіч Скакун. З яго падмогай сучасная бібліятэка мае ўтульнае памяшканне. Яе фонд налічвае больш як дзесяць тысяч кніг. Чытачы маюць доступ у Інтэрнэт. На ганаровым месцы ў бібліятэцы — кнігі Аляксея Сцяпанавіча Скакуна і тамы газетных выразак з яго артыкуламі, з нарысамі пра гісторыю і сучасную яву «Астрамечава».

— Наш старшыня заўсёды ідзе на шмат крокаў наперадзе за ўсіх нас, — прызнаецца дырэктар Дома культуры Людміла Мельнік. — Аляксей Сцяпанавіч умее бачыць заўтрашні дзень. Дапамагае ва ўсім, але ж і патрабавальны, прынцыповы...

Я быў сведкам, калі Аляксей Сцяпанавіч ехаў за сотні кіламетраў, у далёкі раён Брэсцкай вобласці, каб падтрымаць сваіх артыстаў з народнага ансамбля музыкі і песні «Астрамечаўскія Лявоны». Яны прымалі ўдзел у абласным творчым конкурсе, і старшыня палічыў за абавязак быць разам з імі ў той дзень. Гэтак жа ён клапоціцца пра народны ансамбль «Дабрадзеі», фальклорны гурт «Скарбніца», дзіцячы ансамбль «Местачковыя казыры»...

Адзін толькі выпадак з люстрай можа дадаць у партрэт Аляксея Скакуна шмат чырвонага колеру. А гэты колер Клімент Ціміразеў лічыў «самым моцным, самым гучным». Ён стымулюе мозг, павялічвае мускульнае напружанне, а значыць, крывяны ціск і рытм дыхання. Ён станоўча ўплывае на працэс мастацкай творчасці.

Задумаў Аляксей Сцяпанавіч упрыгожыць калгаснае кафэ дарагой крышталёвай люстрай — самаробным творам мастацтва. Хай вісіць пад купаламстоллю, хай дорыць усім наведвальнікам вясёлку святла.

І што ж вы думаеце? Наляцелі народныя кантралёры і давай ушчуваць старшыню: «Як вы пасмелі разбазарваць грошы?.. Хто дазволіў такую раскошу?.. Здыміце, каб не разбэшчваць народ!..»

Аляксей Сцяпанавіч запрасіў кантралёраў у свой кабінет. Спакойна, з несхаванай умешкай, як гэта ён умела робіць, спытаў у іх:

— Скажыце, з якіх гэта пор прыгажосць можа разбэшчваць народ?..

Кантралёры адказалі па-свойму: налічылі старшыні штраф у памеры месячнага акладу.

Аляксей Сцяпанавіч вытрымаў гэту абразу, але ў кафэ засталася люстра, сапраўдны шэдэўр мастацтва. Людзям міла адпачываць пад яе іскрыстым святлом. Кажуць, цяпер вясковае кафэ наведваюць і тыя прыдзірлівыя кантралёры.

У Астрамечаве не раз чуў Скакунову прымаўку, якая ходзіць з вуснаў у вусны: «Хай усялякія людзі будуць на зямлі, толькі не ў нашай хаце». Старшыня хоча, каб элементарны парадак ў астрамечаўскай сям'і наводзілі прыстойныя людзі, прынцыповыя і спагадлівыя. Гэтыя якасці ён выпеставаў у сваіх дзяцей. На гэты накірунак схіляе выхаванне ў чатырох школах і двух дзіцячых садках, якія размешчаны ў вёсках кааператыва.

Я пабываў у Лышчыцкай і Астрамечаўскай школах. І найперш прыкмеціў плакат, які прыдумаў і зрабіў сам Аляксей Сцяпанавіч. На ім — два мясцовыя

хлопчыкі-мужычкі, у якіх рукі ў кішэнях, а тварыкі самазадаволеныя, вочы з позіркам у будучыню. За іх плячыма — прасторны палетак, сучасныя трактар і камбайн. Словы іх заклічныя і ўпэўненыя: «Нам, сялянам, належыць будучае». Пад такім лозунгам выхоўваўся Алёша Скакун у Дастоеве. Такіх шчыруноў для сельскай нівы хоча атрымаць Аляксей Сцяпанавіч у сваім «Астрамечаве».

З вялікай асалодай прачытаў я дзясяткі школьных сачыненняў пра родную вёску, пра «самага галоўнага калгасніка» Скакуна. У іх — светлая і адкрытая душа юных вяскоўцаў, як у Вікторыі Пашкевіч. Укінем у памяць некалькі радкоў яе празаічнай паэмы і паверым, якая багатая любоў у дзяцей да сваёй малой радзімы, выпеставанай дбайнымі гаспадарамі.

«Калі вы прыедзеце да нас, мы правядзём вас у Дом рамёстваў. Там вы сустрэнеце сапраўдных чараўніц, якія сваімі рукамі ствараюць казачную прыгажосць і перадаюць сваё ўменне і сакрэты моладзі.

З вясны да восені Астрамечава патанае ў моры кветак. Шырокія вуліцы абсаджаны бярозамі, ліпамі, абрыкосамі. За прыгожымі карункамі агароджаў, якія вырабляюцца мясцовымі майстрамі, стаяць дамы з усімі, як у горадзе, выгодамі. Мая вёска прыгожая ў любую пару года і ў любы час сутак. Асабліва прыгожая яна вечарам. Прыціхлая, стомленая, улагоджаная. Вуліцы дыхаюць святлом ліхтароў. Дамы патанаюць у бяздонні вечаровага неба. Ценем, цішай, употай падбіраецца ноч. І ўжо ні машын, ні людской мітусні, ні строгіх ліній вуліц... А раніцай вёска зноў пачынае новы працоўны дзень.

Астрамечава — цэнтр славутай гаспадаркі СВК «Астрамечава». Пра яе дасягненні ведаюць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і далёка за яе межамі.

Гонарам гаспадаркі з’яўляюцца прыгожыя і працавітыя людзі. Гэта іх рукамі пабудаваны сучасныя фермы, у якіх у час даення кароў гучыць музыка...»

У Лышчыцкай школе мне дапамаглі адшукаць у архіве сачыненне Эмы Скакун, калі яна вучылася ў шостым класе. Дачка старшыні калгаса напісала прызнанне «За што я люблю свайго тату». Прачытаем жа і мы гэтую шчырасць:

«Мой тата сярэдняга росту, вочы ў яго блакітныя, валасы чорныя, рэдка, але ўжо сустракаюцца і сівыя. Нос сярэдні, губы пунсовыя, строгія. Яму трыццаць восем гадоў. Паходка ў яго імклівая, хуткая. Характар таты мужны, але добры. Мой тата працуе ў калгасе-камбінаце «Памяць Ільіча». За добрасумленныя адносіны да працы тата ўзнагароджаны ордэнам, медалямі, знакам «Пераможца сацспаборніцтва», ганаровымі граматамі. Колькі я ні бачыла тату на працы, твар яго заўсёды заклапочаны.

Тата мне заўсёды расказвае шмат цікавага, але гэта не казкі, не небыліцы. Гэта аповеды пра калгас, аб яго дзяцінстве, цікавыя гісторыі, пра якія ён вычытаў у газетах.

Свайго тату я люблю за ўсё: за яго дабрыню, за ўвагу да мяне і брата, за яго любоў да нас».

Сваё публічнае прызнанне ў любові да бацькі Андрэй Скакун выказаў пад адзін з яго юбілеяў. Будучы ўжо сам начальнікам сельскагаспадарчага прадпрыемства «Амеліна», Андрэй Аляксеевіч Скакун напісаў бацьку вершпрысвячэнне «Прызнанне» і з дапамогай паэта Уладзіміра Сітухі абнародаваў у брэсцкай газеце. Панаталяемся непадкупнай, шчырай споведдзю сына перад бацькам:

Как-то не по-весеннему
на улице снежно,
А в душе и улыбка, и грусть
с утреца...
Уж не знаю, насколько
доволен ты сыном,

Только я не хотел бы другого
отца.
Ты любил по-мужски,
не умея сюсюкать,
И по жизни немало хлебнул
маяты...
Если б мог выбирать я
надежного друга,
Знаю точно, что выбрал
такого, как ты.
Хоть бываешь порою
и вспыльчив, и резок,
Но умеешь без просьбы
на помощь прийти.
Если б я заплутал средь
дремучего леса,
То такого попутчика выбрал
в пути.
Много истин простых
существует на свете,
Не без горя и слез ты их
все постигал.
Если б я выбирал
воспитателя детям,
Как отец — я такого, наверно,
искал.
Стал с годами ты более
сентиментальным,
Не без гордости «сыном»
все чаще зовешь.
Час-другой посидишь у меня
и у Эммы,
И ответных визитов
с достоинством ждешь.
Ты, отец, извини непослушное
чадо,
Что идем часто врозь
по житейском пути.
Лишь в одном, я прошу,
сомневаться не надо:
Что бы ни было, знай,
ты не будешь один.

Як жа тут не прыгадаць неўміручага старажытнага грэка, паэта і драматурга Еўрыпіда, які за чатырыста гадоў да нашай эры пакінуў нам у спадчыну сваю ўсяленскую мудрасць:

«Той варты зайздрасці, хто дзецьмі праслаўлены быў».

## 7. Ацэнка бабы Ганны

«Астрамечава» — гэта сямнаццаць вёсак: Агароднікі, Астрамечава, Вялікія Шчытнікі, Кашылава, Кустынь, Лышчыцы, Люта, Малыя Зводы, Малыя Сухарэвічы, Малыя Шчытнікі, Марозавічы, Новыя Лышчыцы, Пагубяцічы, Рудавец, Сегянеўшчына, Цюпрыкі, Яцкавічы.

Калі пазіраю на карту сельскага кааператыва, яна з кожным разам усё больш выразна нагадвае абрысы нашай Беларусі. Скакунова рэспубліка —

у дваццаці чатырох кіламетрах ад Брэста, у сямі кіламетрах ад чыгуначнай станцыі «Лышчыцы» ды рукой падаць — ад мяжы з Польшчай.

Сталіца вясковага раю — вёска Астрамечава. Гэта паселішча вядома з 1570 года. Кажуць, тут быў маёнтак Астрамеч. Так звалі каралеўскага кухара. Кароль яго надта шанаваў, нават ганарыўся ім. За вернае служэнне кухар Астрамеч атрымаў ад свайго ўладара зямлю і хату. Калі тут утварылася вёска, то яна і займела назву Астрамечава. Гаспадароў у ёй за пяць стагоддзяў было нямерана-нялічана.

Цяпер тут кожны сам сабе гаспадар. А іх кіраўнік — Аляксей Сцяпанавіч Скакун.

У Лышчыцкім сельсавеце мне далі спіс жыхароў усіх сямнаццаці вёсак «Астрамечава». Сярод 2028 насельнікаў ёсць гаспадары хат, катэджаў, дворышчаў з самымі рознымі прозвішчамі. І мне здаецца, яны, як ніводзін архіўны дакумент, захоўваюць у сабе і памяць, і гісторыю, і партрэт мясцовых людзей, іх побыт і характар, які яны атрымалі ў спадчыну ад сваіх продкаў.

Задумаемся: у вёсках сельскагаспадарчага кааператыва жывуць Гаруны і Мазалі, Каралёвы і Султанавы, Белавусы і Белаглазавы, Быстровы і Крываногавы, Налівайкі і Шклянкі, Галубковы і Лебедзевы, Уюновы і Карпавы, Зайцавы і Мядзведзюкі, Зярновы і Капусціны, Буракі і Гарбузы. Ёсць нават радаводы са знакамітымі прозвішчамі — Клімук, Крылоў, Лысенка, Чайкоўскі, Шышкін. Прапісаны тут і мае аднафамільцы — Ліпскія.

І кожны з іх, веру, мог бы сказаць нешта сваё пра Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Зайсці ва ўсе хаты ды выслухаць ветлівых гаспадароў у мяне няма ні сіл, ні часу. А вось у адну з іх у вёсцы Лышчыцы я напрасіўся ў госці.

Чыста падмецены двор. Прыбраны агарод. На вінаградніку яшчэ вісяць сінія гронкі ягад. Ціха парыпваюць уваходныя дзверы, як бы запрашаюць: «Заходзьце ласкава, нашы ўсе дома».

У хаце пенсіянераў Курылюкоў першай вітае сваім цяплом раскошная печ. На пліце сквірчыць патэльня з бульбай і скваркамі. Загучаў напеўны, музычны голас гаспадыні Ганны Рыгораўны. Як бы смычок дачыркнуўся да струнаў, палілася мелодыя слоў:

— От і харашэ, што зайшлі. Я дам вам інтэрв'ю ад душы. Мне і думаць не нада. Усё е ў галаве. Вой, як я вам усё раскажу, дак вы і ў кніжку не ўмесціце, — Ганна Рыгораўна ўсадзіла мяне на зэдлік каля абедзеннага стала, сама прысела, а мужу Барысу загадала, каб падаставаў з буфета талеркі, відэльцы. — Я ж, мой харошы, яшчэ помню, як у нашага дзеда была свая зямля. Яго марыканцам звалі. У Амерыку ездзіў грошы зарабляць. Ага, вярнуўся адтулека і купіў зямлі. Панам ужо стаў. Гумавікі з ног не здымаў, усё канавы капаў, нізіны асушваў. Жонка Дар'я казала: «Грышка, на чорта нам ета зямля, свету белага не бачым». Во як, мой харошы, панавалі...

Баба Ганна не прытрымлівалася ні рэгламенту, ні строгай храналогіі падзей. То прыгадвала мінулае, то пачынала хваліць сённяшнюю жытку пры Скакуне. Гаварыла і майстравала на стале пачастунак. А муж Барыс выконваў ролю пасыльнага. Ён маўкліва і цярпліва тупаў то да пліты, то да шафы, то ў сенцы. І час ад часу падтакваў, дзе трэба: «Ага... Правільна... Так было...»

Калі прыгубілі па кроплі вінца за Скакуна-малайца, баба Ганна прадоўжыла свой аповед:

— Врут людзі, што цяпер плоха жыць. Хай бы той, хто так кажа, пажыў у вайну, пасля вайны. У нас жа тады далікатэсам былі буракі. З іх і чай заварвалі, і кампоты варылі, кашы і супы, блінцы і салаты. Адзін наш лышчынец хваліўся: «От булка белая з малаком смачная» — «А ты яе еў?» — «Бацька расказваў, што дзед бачыў, як пан Рачынскі еў. Дык от смачна!» Ага, хваліла-

ся рабая свіння, што аб панскі плот чухалася. Вой-вой, цяпер во!.. — Ганна Рыгораўна кінула вокам на стол. — Частуйцеся, я падрэжу каўбаскі, варэння пакаштуем з булкай новага ўраджаю. Не паверыце, я ж во такім караваем прывячала нашага Прэзідэнта, калі ён прылятаў у Астрамечава. «Як жывяце?» — пытае. Кажу яму: «Няма чаго грашыць, добра жыць. Рабіце нашу Беларусь на чуда ўсім людзям!..» Дык мо не паверыце, Александр Рыгоравіч падарыў мне металічныя тры рублі. Мо срэбраныя? Ляжаць, не цямнеюць...

Гаспадыня паказала мне дарагі падарунак і пачала даваць ацэнку Аляксею Сцяпанавічу Скакуну:

— Я пра яго ўсю праўду раскажу. Калгас у Лышчыцах утварылі толькі пасля вызвалення ад немцаў. Мы ж да вайны пад палякамі былі. Дык не паверыце, на прадсядацеляў нам не шанцавала. Год-два крутнецца каторы і збягае, або выганяюць яго. А вот Аляксей Сцяпанавіч Скакун наш аканчацельны прадсядацель. Хадзяін! Дачакаліся, слава богу!.. Мы во з Барысам на ферме рабілі. Не паверыце, дзвесце восемдзесят цялушак адкормлівалі. І ўсё ўручную. Работы — поўныя рукі. Сена дай, падсціл пакладзі, напаі, гной прыбяры. Былі і такія, што ад жывёл кралі камбікармы, але не мы. Раз едзем дамоў, Аляксей Сцяпанавіч насустрач. Прыпыніліся. Ён пазірае на наш воз, а я яму: «Мо вы, прадсядацель, хочаце нас праверыць?» — «Ага, хацеў бы...» Загадваю мужу: «Барыс, злазь!..» Мы ж ніколі злодзеямі не былі, але, міленькі, мо не паверыце, два тыдні правяраў нас. Прычапіўся, як цень, але, слава богу, пераканаўся, што чэсна робім, што нам інцярэсна прывагу ў цялушак атрымаць. От з тае пары мы і сябруем. Я магу Аляксею Сцяпанавічу пазваніць у кабінет, калі захачу, але ніколі не трывожу, у яго і так галава баліць за ўсіх нас. А ёсць жа, прасціце за маю прастату, і злодзеі, і п’яніцы. Ім не вельмі па вантробах строгі кіраўнік. Дык, любенькі, што раз утварылі? Калодзеж старшыні залілі нейкай гадасцю. Во як было...

Ганна Рыгораўна выдае новыя просьбы свайму Барысу. Той нясе на стол слоік самаробнага кампоту, наразае новыя лусты хлеба. І робіць гэта акуратна, каб ніводная крошка не звалілася на падлогу. А ў гэты час баба Ганна як бы ўключае новую касету аповеда:

— Мы ж пры Скакуне і хату перабудавалі, пры ім і грошы ў нас паявіліся. Парадак усюды зрабіў. Вёскі прыхарошыў. Дысцыпліну ўвёў. Во ета галоўка! Во ета і ёсць мужык-хадзяін! Па мне, дык ета такі чалавек, хто любіць зямлю. Ён жа і нас усіх па-новаму навучыў любіць зямлю. Во, Барысу, ніхто не загадвае, за касу і пайшоў абкошваць вуліцу, прыдарожнае пустазелле. Кругом жа асфальт. Сорамна, калі быльнёг на яго лезе. Усюды кветкі высаджваем. Любата! Жывём як паны. Калгас зерне, сена дае, толькі трымай жыўнасць. Цяпер, міленькі, усё ў магазіне е, што хочаш бяры... Барыс, налі па кроплі куплёнага віна. За правільнага, адкрытага чалавека Аляксея Сцяпанавіча Скакуна! Хай яму добра ікнецца. Па радзіву усё кажуць пра крызіс у свеце, а мы во з дзедам яго не заўважаем. Бульба, хлеб, каўбаса — ёсць. Пенсію даюць. Калі сумна, тэлевізар уключаем, вясёлыя канцэрты слухаем. Толькі не любім, як голых паказваюць. Прыехалі аднойчы ўнучкі з горада. Адзелі купальнікі, выйшлі загараць. Бацька мой яшчэ жыў, убачыў іх, мяне падзывае: «Аня, ты паглядзі, якая распуста. Пазорна так хадзіць па вёсцы, хай адзенуцца». Яго мараль была такая: баба ў штанах і баба паўголая — мужыку нягодная. Прасіў: «Пакайся, калі саграшыў, і табе будзе прадоўжаны век». От, міленькі, як вучылі нас бацькі, дык мы людзьмі совеснымі і дажываем сваё. З Барысам шэсцьдзясят гадоў разам жывём, і ўсё ў Лышчыцах. Ён, як служыў у арміі, дык я чатыры гады яго чэсна чакала. А цяпер нават па цілівізару хваляць нявернасць, спяваюць пад смешачкі гледачоў:

Ох, ох, не ведаю, як у вас,
А ў нас так водзіцца.
Дзве нядзелькі пажывёт,
А тады — разводзіцца...

Ганна Рыгораўна гасцінна прымушае «ўкалупнуць свайго сала» і тлумачыць:

— Цяпер то пост, рыбу можна есці, а я замест яе сала насмажыла з цыбулькай... Бярыце салацік, усё ў ім са свайго агарода, без хіміі. Бульба рассыпчатая. Курка лячэбная. Чыстыя прадукты!.. Сваімі рукамі з Барысам здабылі... Жыць можна. Гэта ж не тое, што даўней. У аднаго нашага вяскоўца Пеці пытаюцца: «Ці наеты сёння?» А ён адказвае: «Дай кавалак хлеба, дык тады скажу, ці наеты».

Наша размова міжволі зноў паварочваецца да «Астрамечава» і Скакуна, а гэта, адчуў, любімая тэма, штодзённая малітва пенсіянераў Курылюкоў.

— Так і запішыце, мой міленькі, Скакун — зорны чалавек, — просіць Ганна Рыгораўна, а Барыс Сцяпанавіч падтаквае. — Ён і сем’янін харошы, не гэткі, як у той прыпеўцы, што я вам казала. Ён і кіраўнік дабрэнны, бо любіць зямлю. І да людзей па-чалавечы ставіцца, дык і яго шануюць. Парадак усюды навёў, аж сэрца хоча спяваць. Я ж, мой харошы, у фальклорным ансамблі спяваю. На ўсіх дажынках Аляксею Сцяпанавічу сама выплятаю з каласкоў вянок і надзяваю на яго. Усе разам прывячаем велічальнай песняй. О так во!..

Баба Ганна, расчырванелая ці то ад печы, ці то ад гарачай бяседы, а мо ад кроплі віна, баявая і гаманкая па сваёй натуры, раптам зацягнула на поўны голас тую песню, якую жнеі спяваюць свайму старшыні ў полі:

У нашага гаспадара
Галава кучарава.
Ён кудрамі патрасе
І нам мёду прынясе...

У хаце Курылюкоў выстаўлялі адзнаку Аляксею Сцяпанавічу Скакуну за яго клопаты па навядзенні элементарнага парадку на зямлі, за яго першы НЭП. І адзнака, як бачым, — найвышэйшая. Яе выставіла сама баба Ганна. О так во!..

***Працяг будзе.***

## Віктар ШНІП



### БАЛАДА КАНСТАНЦІНА ТЫШКЕВІЧА
***(17.02.1806—13.07.1868)***

У чаўне, як Ной, па Віліі плывеш
І збіраеш Беларусь, каб не знікала
Беларусь у пыле і ў палын-траве,
А была, як Храм, дзе б кожны дзень гучала
Мова наша, беларуская, якая,
Як яе мы беражом, нас зберагае
Ад знікнення назаўсёды з родных ніў,
Для якіх былі мы створаныя Богам.

З Беларусі ў Беларусь плывеш праз дні,
Дзе рака, нібы нябесная дарога,
Па якой не кожны Ноем паплыве,
Бо не кожнаму яшчэ тут зразумела,
Для чаго ён сёння на зямлі жыве…

Птушка з кургана высокага ўзляцела,
Як душа, што не знайшла сабе спакою,
Бо не ўсё ў Айчыне так, як мае быць,
Хоць і ўсходзіць сонца, свеціць над зямлёю
І ў палях калоссе спее і шуміць.

---

***Шніп Віктар Анатольевіч** нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), кніг паэзіі і прозы «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

Тут людзям тутэйшым волі не хапае,
І чужынцы тут, нібы гаспадары.
Ты па Віліі плывеш, вада спявае
Аб зары,
Далёкай, нашай, нібы кроў,
Ад якой пачнецца Беларусь, якая
І цябе ўзгадае і праз сто вякоў,
Бо яна твая,
Яна жывая…

## БАЛАДА РАМУАЛЬДА ЗЯНЬКЕВІЧА
*(1.02.1811—11.09.1868)*

Сярод начы, як выбух, навальніца.
І ты прачнуўся, каб перахрысціцца,
І, падышоўшы ў цемры да вакна,
Глядзіш у дождж, які нібы сцяна,
Па-за якою курганы Айчыны,
Дзе белыя бярозы і рабіны
Чырвоныя, як нашых продкаў кроў.

Ты па Айчыне сто дарог прайшоў
І песні беларускія збіраў,
Дзе золата палёў, і водар траў,
І пыл дарог, і дым начных кастроў,
І слёзы, і каханне, і любоў…

Зноў гром грыміць, бы коціцца каменне
Разбураных фальваркаў, дзе, як цені,
Паўстанцы Каліноўскага начуюць.
Маланкі неба чорнае лупцуюць,
І рассыпаецца дажджу сцяна.

Айчына сумная, але яна
Адна для ўсіх, хто тут жыве і будзе,
Як ты жывеш, ды гром не ўсіх тут будзіць
Сярод начы, сярод Айчыны мілай,
Што хутка стане і тваёй магілай…

## БАЛАДА КАНСТАНЦІНА ВЕРАНІЦЫНА
*(1(13).06.1834—1904(?))*

Тарас на Парнасе, а ты ў Беларусі,
Дзе шэрыя качкі і белыя гусі,
Дзе наша адвечнае слова «любоў»
Не толькі са словам рыфмуецца «кроў»,
А нашай зямлі дае колер чырвоны
У полі бялюткім, дзе кружаць вароны
Па-над інсургентамі, што паляглі

За волю і славу радзімай зямлі,
Якую ты любіш за песні жальбы,
Якія спявае народ несляпы.

У Віцебску сумна табе не бывае,
Таму з Пецярбурга сюды ты ўцякаеш
Пад родныя шаты, буслова крыло,
Дзе ў сэрца ўрастае цяпло і святло,
Якія пасля ператворацца ў вершы.
І ў лепшую долю Айчыны ты верыш,
Бо з вераю моцныя мы і ў нас вера
Заўсёды ў душы, як пад лавай сякера,
Пад небам, якое, бы вочы дзядоў,
Лагоднае, грознае, дзе век любоў
Спакойна жыве, але ўсё-ткі, бывае,
Маланкай, як востраю шабляй, шугае
І ўсю Беларусь для цябе асвятляе,
Дзе наш не сумуе Тарас на Парнасе
І нашая мова жыве, не зжылася…

## БАЛАДА ПІМЕНА ПАНЧАНКІ
***(23.08.1917—02.04.1995)***

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю —*
*Песню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*
П. Панчанка

Паэты проста так не паміраюць,
Іх белыя анёлы забіраюць
У лепшы свет ад хамскае хлусні,
У вечны свет ад пыльнай мітусні,
Дзе мы жывём у полымі жыцця,
Самотныя, як дрэвы без лісця…

Паэты адыходзяць, нібы дні,
Дзе адвуглелі вольнасці агні,
Дзе мы адчулі: тут наш родны кут
І за яго нам будзе Божы Суд,
Калі не зберажом яго святло,
Што праз стагоддзі і да нас дайшло…

Ты плакаў, размаўляў з матуляю,
Казаў: «Я да грудзей прытульваю
І песню родную, і мову маці,
Каб іх ніколі наш народ не страціў…»
І ведаў ты, што жаўранак начуе
У сэрцы, што другія сэрцы чуе,
Якім трывожна не за ўсё на свеце,
А за бярозу, што ламае вецер,

За рэчку за сялом, што абмялела,
За сцежку, што за лета затравела…

Паэты, як Хрыстос, не паміраюць.
Яны жывуць і смерць перамагаюць…

## БАЛАДА ЯНКІ СІПАКОВА
***(15.01.1936—10.03.2011)***

*Усе мы з хат…*
Я. Сіпакоў

«Хто мы такія?» — на гэта пытанне
Ты нам пакінуў у кнігах адказ:
«Мы — беларусы, і наша світанне
Там, у стагоддзях, і знішчыць тут нас
Нельга нікому, бо створаны Богам
Мы, беларусы, і наша жыццё —
Наша да Бога праз вечнасць дарога,
Хоць кожны з нас, як бярозы лісцё,
Кволы пад ветрам, які абрывае
Нас, як лісцё, з радаводных галін…»

Проза твая, нібы мёд, залатая,
Вершы твае, як сузор'і расін,
Што асвятляюць нам сэрцы і душы,
Каб мы любілі зямлю, на якой
Замкі і Храмы і ў спёку, і ў сцюжы
Неба трымаюць, як ты над сабой
Сёння трымаеш свой крыж беларуса,
Што не адрокся ад мовы бацькоў,
Рана пайшоўшы па свеце за музай,
Па папялішчах мінулых гадоў,
Каб ажывіць нашу славу ў баладах,
Тую, далёкую, нібы зару…

Выйшаў ты з хаты і будзеш ты ў хатах,
Хатаю стала тваёй Беларусь…

## БАЛАДА ВЕРЫ РЫЧ
***(24.04.1936—23.12.2009)***

Між Лонданам і Мінскам цэлы свет,
Напоўнены спякотай і дажджом,
Дзе ты ідзеш, вандроўніца, паэт,
Начуючы ў анёлаў пад крылом,
У Беларусь, якую любіш ты,
Бо тут паэзіі агонь жывы
Дашчэнту прозы спальвае масты
І замкі выбудоўвае з травы,
Дзе нашае мінулае жыве,
Якім і самі ўсе мы тут жывём.

Нам россып рос на восеньскай траве
Цвіце паўстанцкім маладым агнём.
І ты гаворыш нам: «Не сумаваць!»
А мы не чуем, бо не сумна нам
З табою Караткевіча чытаць
І піць святло з слязою папалам,
Бо ў ноч анёл з нябёсаў прыляцеў,
Каб не была тут болей ты ў журбе.
І Лондан без цябе не пабяднеў,
А Беларусь збяднела без цябе,
Дзе аніколі не згараць масты
Між Лонданам і Мінскам, па якіх
У Беларусь, якую любіш ты,
Ісці табе, спыніўшыся на міг…

## КРАЙ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

«Быў. Ёсць. Буду!»— сказаў перад Богам Паэт.
«Быў. Ёсць. Буду!»— за ім наш народ паўтарае,
Як малітву, якая, як ніць залатая,
На якую да сонца прывязаны свет,

У якім Беларусь, да якой ты ішоў,
Як да песні, якую пяе Белавежа,
На святлынь наваградскіх зажураных вежаў,
На шум рэк, што змывалі варожую кроў.

Тут твой край! І яму ты не здрадзіш, бо ты
Без яго прападзеш, як вада прападае
У пясках, дзе прапала Арда залатая
Без Айчыны, нібы без жывое вады.

Тут твой край! І павінна тут мова твая
Вечна жыць, бо на ёй з намі Бог размаўляе
І ніколі ніякая мова другая
Не заменіць яе, як цябе сёння я

Не магу замяніць, і ніколі ніхто
Не заменіць тваю беларускую песню,
У якой у аблоках над сцежкаю весняй
Наша сонца плыве, як плыло сто вякоў,

Каб сягоння наш край асвятліць да краёў,
Да крыві, на якой пачалася Айчына,
І Айчыну да скону любіць мы павінны,
Бо Айчына дала нам жыццё і Любоў.

І ўзлятае над вежамі замкаў старых
Белы бусел, нібыта анёл адзінокі,
І знікаюць, як снег, над Айчынай аблокі.
Караткевіча сонца над намі гарыць!

## ЧОРНАЕ ЗОЛАТА

Наша чорнае золата— нашыя ночы,
У якіх наша кроў і паўстанцкі дазор,
І, як свечкі, у полі ваўчыныя вочы,
І на золаце нашым, як пыл, россып зор
І сузор'і расы, што ад сонца растануць,
Калі чорнае золата знікне ў траве,
І, як дым, камары затанцуюць свой танец,
І заплачуць крыжы на драўлянай царкве.
І ты возьмеш у прыгаршчы золата наша,
Што схавана ў крыніцы пад ніцай вярбой,
І пральеш у душу, і, самотная, скажаш:
«Наша золата чорнае стала вадой…»

* * *

Гэты дзень мы зляпілі са снегу,
Таму й сонца ў нябёсах няма,
І дамы, што са снегу, без стрэхаў,
І без кратаў жалезных турма.

І ты ў белым ідзеш па праспекце,
Па бялюткім асфальце ідзеш.
І бялюткае ўсё ў белым свеце,
Нават белы, хоць з рыфмамі, верш.

Ды закончыцца дзень і счарнее,
Што павінна чарнюткім тут быць,
І сцяжына бялеючым змеем
Ад цябе, ад мяне адвіжыць

І растане, як шэрань на дрэве,
Пад якім мы стаялі з табой
У старым, неразбураным Крэве,
Дзе зіма была нашай зімой…

* * *

Нябачны хтось іграе на раялі,
Ці сам раяль іграе, як жывы,
Каб вы, вясновая, не сумавалі,
Як у нябёсах мёртвых журавы,
Надоўга пакідаючы Айчыну,
Трывожна плачуць, плачуць і лятуць,
Як лісце пачарнелае рабіны
Ляціць, нібы ў нябёсы, у ваду,
Дзе хтось нябачны грае на раялі,
Што створаны з аблокаў і дажджу,
І музыка плыве, нібыта хвалі,
І б'ецца, як аб бераг, аб душу…

* * *

Сонца кветкай на ўсходзе праз снег прарастае,
І канчаецца ноч, пачынаецца дзень,
І вясны беларускай пчала залатая
Выглядае з вулля, нібы з хмары прамень
Адзінокага сонца, што ўжо зацвітае
І святлом напаўняе нам душы і свет,
Так, як белыя вершы свае ажыўляе
У пакойчыку змрочным самотны паэт…

* * *

Ізноўку дождж... Ізноўку восень,
Як год назад, як сто назад.
Як карабель, пустая восець
Плыве спакойна ў лістапад,

Нібы ў агонь, што забушуе
І сцішыцца праз пару дзён.
Ізноўку дождж мяне ратуе
Ад нематы, бо любіць ён

Мае самотныя маленні
Да сонца, што ад нас сышло
За воблакі, каб дождж асенні
Напомніў нам, што так было

І год назад, і сто назад
І будзе так ізноў праз восень,
Як карабель, старая восець
Спакойна плыць праз лістапад.





Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# СЕМ ГАДОЎ У ЦК[1]

*(раман-дзённік)*

## 1971

**2 студзеня.** Вярнуўся самалётам з Ленінграда ад Віталіка. Сустракаў Новы год разам з яго сям'ёй. Пабудавалі кааператыўную двухпакаёвую кватэру на бульвары Наватараў. Пяты паверх. Даволі ўтульна. Прыгожая жонка Ала Андрэеўна і дачка Наташа.

**3 студзеня.** Юзік расказаў, што ў суботу сустрэў быў Анатоля Вялюгіна. Пагаварылі (у «Полымі — вершы).

— Выпіў учора, Анатоль Сцяпанавіч, — прызнаўся Юзік, — дык сёння пачуваю сябе не лепшым чынам.

— Калі ёсць здароўе, то трэба піць. Натхняе! — адказаў знакаміты паэт.

Даўно даў сабе слова не піць — пасля таго выпадку, калі настаўнічаў у Тамашоўцы. Там «Чайная» добрая была. Зайшлі мы з Уладзімірам Іванавічам, і начальнік заставы зайшоў. Адправіў на граніцу каравул і зайшоў. Пазнаёміліся — сімпатычны чалавек, старшы лейтэнант Нерабееў. Ну і выпілі за знаёмства. Выпілі раз, другі, а потым піва захацелася. Дзе ўзяць? У чайной — адна гарэлка. Што рабіць? Уладзіміра Іванавіча жонка забрала дадому, а мне Нерабееў кажа: «Пойдзем на той бок, у мяне там сябры, у іх піва ёсць!»

Пайшлі. Селі ў човен. Пераплылі Буг. На польскім баку ніхто не сустрэў, заходзім на іхнюю заставу — і там нікога. Нарэшце ўсё ж такі адшукалі нейкага пагранічніка, паслалі яго па начальніка заставы. Прыйшоў начальнік. Знайшлі піва і… польскай гарэлкі. Пілі за дружбу і напіліся так, што папрачыналіся ўжо на гэтым беразе. Польскія пагранічнікі вярнулі назад, у СССР. Каравул нас знайшоў. Дык Нерабееў нічога, а мяне чуць з партыі не выключылі.

Пісьменнікі выпіваюць — гэта вядома. Некалькі год назад у Мінск з групай польскіх літаратараў прыязджаў Уладзіслаў Бранеўскі. Відаць, хварэў, бо яшчэ на пероне, выйшаўшы з вагона, папрасіў «кілішачак вудкі». Пра гэта я прачытаў ва ўспамінах Я. Брыля.

Пра Фадзеева кажуць (у Маскве): «Бесперапынны запой на працягу трыццаці гадоў». Але Фолкнер піў яшчэ болей і напісаў некалькі дзясяткаў раманаў.

**4 студзеня.** Першы дзень у новым годзе на працы. Сабраў загадчык, павіншаваў з Новым годам, пажадаў здароўя, поспехаў.

На стале ў загадчыка ляжыць кніга «На задворках». Яна мне знаёмая, выйшла ў мінулым годзе: артыкулы, фельетоны, памфлеты супраць буржу-

[1] Працяг. Пачатак у № 5, 2010 г.

азных нацыяналістаў. Сустракаюцца прозвішчы Астроўскага, Езавітава, Казлоўскага, Іваноўскага, Ермачэнкі, Абрамчыка, Станкевіча і інш. У мінулым годзе прыязджаў «па падручнікі» Я. Ліманоўскі. Прыязджаў быццам У. Клішэвіч. Пра іх не згадваецца. Артыкул «Не вам беларусамі звацца» падпісалі Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Быкаў, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў.

Грунтоўная распрацоўка гэтай тэмы, на жаль, пад забаронай. Эмігранты нападаюць на нас, мы — на іх, а ісціна, хутчэй за ўсё, недзе пасярэдзіне.

**6 студзеня.** Заходзіў Аляксей Кулакоўскі. Выглядае вельмі мірна і шляхетна, а ў вайну, Шамякін казаў, камандаваў ротай штрафнікоў. Пагаварылі пра справы партыйныя. Аляксей Мікалаевіч лічыць, што пісьменнік абавязкова павінен працаваць у нейкай установе, інакш пра яго забудуць. Мне такая логіка не вельмі зразумелая, але я не пярэчыў.

Болей ужо не называе майго візаві «Лабада», кажа: «Лабадо». Правёў з Аляксеем Мікалаевічам «разъяснительную беседу» (слова з нашага партыйнага жаргону).

**8 студзеня.** Чуў выраз «наменаклатурны пахан», але не магу даўмецца, што ён азначае. Што гэта такое?

**10 студзеня.** Адпачываў пасля начнога дзяжурства ў прыёмнай Машэрава. У гадзіну ночы пазваніў нейкі шафёр. Прывёз, ажно з Нараўлянскага раёна, кароў на Мінскі мясакамбінат, а там нікога няма, адзін вартаўнік. «Чаго ж ты ў выхадны дзень іх вёз, — пытаю, — ды яшчэ нанач?» — «Так здарылася», — адказвае. Баіцца, што каровы за ноч схуднеюць, а то і наогул папрымярзаюць да долу, бо мароз. Чалавек з правінцыі ў сталіцы безабаронны. Я адшукаў дырэктара мясакамбіната, папрасіў прабачэння і растлумачыў, па якой прычыне званю. Ён паабяцаў разабрацца. Пад раніцу пазваніў шафёр, сказаў, што кароў паставілі ў цёплае месца. Перспектыва ў іх незайздросная, але і быдла паважаць трэба.

**11 студзеня.** А. Куляшову далі Дзяржаўную прэмію за пераклады «Энеіды» І. Катлярэўскага, вершаў Лермантава, «Спеву аб Гаяваце» Г. Лангфела. Паэма «Цунамі» не ўспамінаецца. Яна была надрукавана ў вераснёўскай кніжцы «Полымя» за 1968 год, але не спадабалася Машэраву. Машэраў, кажуць, з пасляваеннага часу, будучы на пасадзе «камсамольскага бога», сябраваў з Куляшовым — аўтарам вершаў «Камсамольскі білет», «Камуністы» і інш. Цяпер Куляшоў пачаў пісаць інакш, і ў адносінах наступіла прахалода. Не водзіць ён дружбы і са сваім калегам П. Броўкам і, калі жыў П. Глебка, то і з ім. Моцна пасварыліся яшчэ на пачатку 50-х. Зацяты народ — пісьменнікі.

Майго земляка і сябра Аляксея Гардзіцкага прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў. Павіншаваў.

**14 студзеня.** Даручэнне ад загадчыка аддзела: патрэбен матэрыял да чарговага мерапрыемства. Ён інструктуе (блакнот і аўтаручка заўсёды пры мне):

— На люты запланаваны XXXII з’езд Кампартыі Беларусі. Момант — адказны. Кожны абавязаны працаваць лепш і больш. Вы напішыце, як творчы саюз можа аказваць уплыў на выхаванне новага чалавека. Вось, зыходзячы з гэтай думкі…

Вядома, літаратура ў многім фарміруе свядомасць чалавека, але патрэбны творы цікавыя, прарыўныя, а такіх нешта не відаць.

— Падумайце, як узмацніць сувязі пісьменнікаў з жыццём.

Думаю.

Прысутны намеснік загадчыка прамовіў, адкапыліўшы ніжнюю губу:

— Яназіраю за працэсам і бачу, што некаторыя на працягу гадоў маўчаць, чамусьці не пішуць. Як быць з такімі?

— Можа, такім варта плаціць ганарар за тое, што не пішуць. Невядома яшчэ, што б яны напісалі.

Усе засмяяліся.

А што? У 20-я гады ў Нарвегіі — я недзе пра гэта чытаў — сялянам плацілі грошы за тое, каб яны не апрацоўвалі зямлю.

**15 студзеня.** Л. Прокша змясціў у «ЛіМе» артыкул, скіраваны супраць вядомага дзеяча беларускай эміграцыі С. Станкевіча. Гаворка ідзе пра аповесць В. Быкава «Сотнікаў», пра якую С. Станкевіч даволі прыхільна азваўся па мюнхенскай радыёстанцыі «Свабода». Справа ў тым, што пра гэту аповесць у мінулым годзе пісаў і сам Л. Прокша. Хваліў. А тут хваліць С. Станкевіч. Атрымліваецца, што іх пазіцыі блізкія або наогул супадаюць?

Л. Прокша імкнецца адмежавацца: «Спадар Станкевіч не можа пагадзіцца з тым, што Сотнікаў — станоўчы герой аповесці. Наіўным было б думаць, што гэта асабістая думка спрытнюгі-«літаратара». За гэтым крыецца зусім іншае. А іменна: імкненне паралізаваць выхаваўчую ролю мастацкіх твораў, якія паказваюць мужнасць і стойкасць савецкіх людзей у час мінулай вайны, звесці значэнне мастацкай літаратуры аб вайне да паказу «трагедыі і пакутніцтва народа, спрычыненае вайной і партызаншчынай».

Апошняе — пытанне вельмі балючае і зусім не асветленае ў нашай літаратуры.

Вышэйшая асалода — гэта асалода ад праўды, — сказаў папулярны цяпер Васілій Шукшын. Недахоп праўды — ахілесава пята нашай літаратуры.

**17 студзеня.** Адкрыўся новы тэатр — Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР. Гэта ў Доме афіцэраў. Пайшоў адзін. Пакуль што халасцякую.

Давалі «гераічную камедыю» (нейкае новае жанраўтварэнне!) «Спявае «Жаўранак», музыка Ю. Семянякі. Выйшаў з думкай, што прыстойную аперэту мог напісаць толькі Кальман.

**19 студзеня.** Вадохрышча. Бабулькі нясуць у бутэльках ваду. Вада — свянцоная. На Вадохрышча наша Зямля, як вядома, максімальна набліжаецца да Сонца, якое сілай сваёй энергіі ачышчае ваду і робіць яе лячэбнай.

У Кругелі, калі стаяла царква, гэта было вялікае свята, на замерзлай Ясной, у затоцы, прабівалі палонку і ставілі з ільду алтар. Адбывалася ўрачыстае богаслужэнне, стралялі з ружжа, выпускалі галубоў. Было ўсё па поўнай праграме. Было…

**21 студзеня.** Наведаў у Дзяржаўным музеі выстаўку Заіра Азгура. Уражанне такое, нібы трапіў у нейкае вельмі сумнае месца. Але добра відаць, што Азгур — вялікі працаўнік. Нездарма нейкі гумарыст з мастакоў сказаў: «У яго ў майстэрні галоў столькі, як у іншых бутэлек». Што відаць і на выстаўцы.

**22 студзеня.** А. Карпюк друкуе фрагменты са свайго «Вершалінскага раю» пра сектанта Альяша з Грыбоўшчыны. Асуджае Альяша і яго «апосталаў» з пазіцый асветніцкага бязбожжа.

Артыкул у тым жа «ЛіМе» У. Юрэвіча «Першапачатак народнага подзвігу» пра раман Чыгрынава «Плач перапёлкі» («Маладосць», № 10, 11, 12 за мінулы год). Хваліць, і заслужана.

**24 студзеня.** Чытаў нядаўна выдадзеную кнігу Гегеля — «Работы разных лет» (М., 1970. Т. 1). На стар. 385-й думка: «Каков человек, таков и мир, и каков мир, таков и человек». З думкі філосафа вынікае, што свет творыцца кожным. Дабро і зло перамяшаліся. Часам цяжка аддзяліць адно ад другога. І яшчэ. Калі дэградуе асоба, дэградуе ўсё. Мы яшчэ не зразумелі значэння чалавечага фактару. У мяне, дарэчы, такое ўражанне, што гадоў 10—15 назад (я тады быў студэнтам, працаваў, служыў у арміі) людзі былі больш зычлівыя адзін да аднаго, дапамагалі ў жыццёвых цяжкасцях, пад-

трымлівалі. Сёння ў чалавечых адносінах больш адчужанасці, зайздрасці, непрыхільнасці.

**25 студзеня.** Панядзелак. З раніцы неяк апынуўся ў кабінеце загадчыка аддзела. Пачуваўся даволі раскавана і спытаў: «Што новага, Станіслаў Віктаравіч?» Той паглядзеў на мяне больш, чым строга: «Гэта вы павінны дакладваць мне, што новага, а не я вам!»

Настрой сапсаваў на цэлы дзень, але нічога не зробіш, бо ён начальнік. Але не разумею, чаго гэта ён на мяне так напусціўся.

**28 студзеня.** З добрымі вынікамі працуе Салігорскі калійны камбінат. Аднаму пісьменніку зрабілі закід, што герой яго аповесці атрымаўся залішне інтэлігентным — інфантыльным і кволым. Калега С. параіў аўтару:

— А ты яго ў Салігорск адпраў, у шахту апусці.

Там, маўляў, больш акрэслена вызначыцца яго грамадзянская пазіцыя. Неспавядзімы шляхі гасподні…

**29 студзеня.** У Доме мастацтваў адбыўся вечар у гонар 50-годдзя І. Шамякіна. На вечары былі М. Лынькоў, М. Танк, І. Навуменка, Б. Чалы, В. Бокаў… У «ЛіМе» цэлы разварот з артыкуламі М. Лынькова, В. Каваленкі і інш. Пра аповесць «Мост» калісьці добра пісаў В. Быкаў. І. Шамякін і В. Быкаў пачыналі пісаць пад уплывам твораў Дж. Лондана. Відаць, яго паэтыка здавалася ім найбольш прыдатнай, каб паказаць чалавека ў суровых абставінах вайны. Першае апавяданне І. Шамякіна «У снежнай пустыні» навеяна паэтыкай Дж. Лондана. Потым былі іншыя павевы, але пісьменнік развіваўся самастойна.

Творы Шамякіна запатрабаваныя, іх чытаюць, абмяркоўваюць. Чую часам крытычныя заўвагі ад сваіх калег партработнікаў. Памочнік Машэрава Панамароў сёння сказаў мне:

— Зря это он про охоту в Беловежской пуще, не надо было!..

Ён меў на ўвазе самы пачатак рамана «Снежныя зімы».

А лясны камандзір Кожар Ілья Паўлавіч, наадварот, прачытаўшы «Глыбокую плынь», выказаўся так: «Пісьменнік павінен быць што партызан: прайсці там, дзе ніхто не можа прайсці».

**30 студзеня.** Субота. Гуляў на банкеце, які даваў Шамякін у рэстаране «Юбілейны». Багата. Я залюбаваўся на белы абрус і іскрыстыя чаркі і фужэры з крышталю.

— Першы раз паставілі, думаем, не паб'юць, — патлумачыў афіцыянт з гальштукам-матыльком, праціраючы ручніком фужэр. — Усё ж такі Шамякін.

Тамадой — Макаёнак. Шмат віншаванняў, тостаў, жвавасці. Іван Пятровіч крыху падпіў. Калі я яго віншаваў, ён жартам, але нечакана для мяне, спытаў:

— Уладзімір Васільевіч! Дык як Цака лічыць, таленавіты я ці не?

— Дзіва што! — пацвердзіў я, успомніўшы, што яго прадставілі да ўзнагароды ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

**1 лютага.** Адліга. Параспускаліся рэкі. На дрэвах пачалі набухаць пупышкі. Стан прыроды мяне цікавіць здаўна, з дзяцінства. Перадалося, відаць, ад дзеда Лявонція Міхайлавіча Сцепанюка, які зжыўся з навакольнай прыродай усёй сваёй сялянскай істотай і ўмее бачыць і прадчуваць яе паводзіны. «Ягадаў шмат, — казаў ён, — значыць, зіма будзе халодная».

Потым, у студэнцкія гады, трапіла да мяне кніжка маскоўскага фенолага Зуева «Времена года», і я дзівіўся назіральнасці яе аўтара. «Багаты ўраджай рабіны, — пісаў ён, — прадказвае, што зіма будзе суровая». Або: «Калі дровы гараць з трэскам — будзе мароз» і г. д.

**5 лютага.** «ЛіМ» сціпла адзначыў 85-годдзе кампазітара Аляксея Туранкова. Ён ураджэнец Санкт-Пецярбурга, дзе і атрымаў музычную адукацыю. Пераехаў у Беларусь яшчэ ў 1918-м. Асвоіў беларускі мелас, напісаў шмат

песень, оперы «Кветка шчасця» і «Яснае світанне». Нешта дрэннае цягнецца за ім з часоў нямецка-фашысцкай акупацыі. Падазрона перагукваецца яго прозвішча з прозвішчам аднаго з персанажаў п’есы К. Крапівы «З народам» (1948) — Шкуранкоў.

**8 лютага.** Яшчэ адно пяцідзесяцігоддзе. На гэты раз — Івана Мележа. У тым жа Доме мастацтваў, што і ў Шамякіна.

Ведаю Івана Паўлавіча Мележа, як і ўсе, даўно — па творах. Кнігу апавяданняў «У завіруху» прачытаў яшчэ ў 1947 годзе. Помню марозны зімні вечар: сяджу на цёплай печы, цьмяна свеціць падвешаная да столі газнічка (кнот «укручаны» — эканомім газу), сачу за лёсам герояў, за цікавымі падзеямі.

Бабуля Фёкла (яна была непісьменная) просіць:

— Чытай уголас!

І я чытаю:

«…Цяпер ён быў у нейкім забыцці ад нечалавечай стомы. Спатыкнуўшыся, ён упаў у снег і ляжаў колькі хвілін нерухома і маўкліва. Конь пастаяў крыху, пачакаў, потым занепакоіўся, шмаргануў повад раз, другі. Заслужац бяздумна павярнуўся і ўбачыў над сабою храпу каня: галава каня здавалася незвычайна вялікай. Каштан пазіраў круглымі вачыма трывожна і нецярпліва…»

Гэта было цікава. Пісьменнік надзвычай праўдзіва, пераканаўча паказваў чалавека ў жорсткіх абставінах вайны. Праўда выклікала давер, суперажыванне. Гадоў праз дзесяць-пятнаццаць яна стане галоўным крытэрыем ваеннай літаратуры, узніме ў ёй «другую хвалю». Але моцныя, маральна забяспечаныя парасткі гэтай праўдзівасці былі ўжо ў ранняга Мележа.

Убачыў упершыню Івана Паўлавіча ў годзе 1962-м, у клубе Саюза пісьменнікаў па вуліцы Энгельса. Быў вечар апавядання (зараз такія мерапрыемствы чамусьці забыты), вёў Мележ. Здзівіла яго тактоўнасць, павага да творчасці таварышаў, што чыталі свае апавяданні, натуральнасць паводзін і рухаў.

З гэтага часу, здаецца, і пачало ўмацоўвацца наша знаёмства.

Бывае, пры сустрэчы чалавек пытаецца: «Як жывеш?», «Як сям’я?» Хочаш нешта адказаць: жывыя, маўляў, і здаровыя пакуль што. А ён, аказваецца, цябе не слухае, хоць і трымае за гузік. Спытаўся, відаць, для «ветлівасці» і пачаў гамонку пра іншае, пра сваё.

Іван Паўлавіч не з такіх. Ён любіць пытаць і ўмее слухаць. Слухаць не раўнадушна, а актыўна, зацікаўлена.

— Як жывяце? Як сям’я?

— Пакуль што адзін, халасцяк.

— А колькі вам?

— Ды за трыццаць ужо…

— Калі ж тады жыць, — спакойна, мудра ўшчувае ён мяне.

У 60-я гады ён, інтэнсіўна працуючы над палескімі раманамі, час ад часу заходзіў у Інстытут літаратуры імя Я. Купалы абмяняцца думкамі пра апублікаванае, паслухаць калег-літаратуразнаўцаў.

Мяне і маіх таварышаў вабілі і вабяць у Мележу яго мастакоўскі аўтарытэт, самастойнасць, самавітая асоба з незалежнасцю думкі і ў той жа час жаданне зразумець цябе, праверыць тваю думку, стаўшы на твой пункт погляду.

Мележ і Шамякін — землякі, абодва з Гомельшчыны, з Палесся. Старажытны край! Некаторыя вучоныя лічаць Палессе прарадзімай славян. Кажуць, калі хочаш пачуць, як гаварылі ў часы Кіеўскай Русі, едзь на Палессе. Вядома, шмат вады сплыло з тых часоў. Шмат!

Мележ і Шамякін — пастаянныя сапернікі. Сапернікі і апаненты. Як і Шамякіна, яго ўзнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. «Трудавіком» — як у народзе называюць гэты ордэн.

**9 лютага.** Юбілейны банкет І. Мележа ў адрозненне ад І. Шамякіна ў рэстаране «Беларусь». Банкет таксама шыкоўны. Юбіляр не піў, а слухаў, што пра яго гаварылі, хто выступаў з тостамі.

**12 лютага.** Дапамагаю калегам у падрыхтоўцы Справаздачнага даклада ЦК XXVII з'езду Кампартыі Беларусі. Вылучана пэўнае кола ідэй. Вось некаторыя. Чарговай ступені мы дасягнулі. Нашы людзі пад кіраўніцтвам партыі і ўплывам савецкага ладу жыцця, выхаваўчай работы, значна выраслі, асабліва ў духоўным плане. Зрабіць акцэнт на ўзмацненні ідэалагічнай барацьбы з буржуазным Захадам, на выпрацоўку ў савецкага чалавека правільнага, навуковага светапогляду і пачуцця савецкага патрыятызму. Зверху спушчаны тэзіс: над ідэалогіяй трэба больш працаваць, чым над эканомікай.

Не забыта і літаратура: развіццё літаратуры (і мастацтва) адстае ад запатрабаванняў грамадства развітога сацыялізму.

Часам можна пачуць выраз: «дрымучая свежасць думкі». Ён, па-мойму, не блага стасуецца да нашага «кола ідэй».

Як выпрацаваць «адзіны навуковы светапогляд», калі людзі з розным жыццёвым досведам, з рознай адукацыяй.

**20 лютага.** Быў у лазні. Дужа прыемная працэдура. Абнаўляе і цела і душу. Некаторыя абліваліся халоднай вадой. Нейкі дзядзька сказаў: «Халодная вада для паясніцы бяда». Трэба запомніць, бо гэтым часам злоўжываю і я.

Дадому вяртаўся з добрым настроем.

**22 лютага.** Пачаўся чарговы XXVII з'езд Кампартыі Беларусі. На яго адкрыцці дэлегаты — так цяпер прынята — доўга апладзіравалі. Усе партыйныя форумы (з'езды, пленумы, канферэнцыі) ідуць пад бурныя і працяглыя апладысменты. Апладзіруюць усе — і зала, і прэзідыум. Апладысменты — вельмі значная, важная і абавязковая частка партыйнага рытуалу. Умелі бурна апладзіраваць пры Сталіне і асабіста яму. Старажылы нашай установы расказваюць, што на XIX з'ездзе ВКП(б) адна дэлегатка так горача запляскала ў далоні і пацягнулася да правадыра, калі ён узышоў на трыбуну, што звалілася з балкона, дзе яна знаходзілася, у партэр. Дарэчы, у кадрах кінахронікі, якая захавалася і паказвае Сталіна, калі ён падняўся на трыбуну, ёсць момант: правадыр у сваёй зашпіленай на ўсе гузікі «сталінцы» здзіўлена пазірае кудысьці ўверх, пад столь. Ці не на той балкон ён глядзіць, з якога звалілася ці валіцца ягоная фанатка? Вядома, што яе забрала «хуткая дапамога». Доўга вялося следства на той конт, што, можа, хто яе спіхнуў.

Сёння таксама апладзіруюць бурна, хаця, можа, крыху і механічна.

На XXVII з'ездзе КПБ П. М. Машэраў сказаў (тое, што мы напісалі): «духоўны рост працоўных значна апярэджвае дасягненні літаратуры і мастацтва».

**23 лютага.** Выступаў М. Танк. Цікава. У паэзіі, у вершах ён вельмі праўдзівы. Паэзія яго мне імпануе, падабаецца. Галоўная думка яго выступлення: беларуская савецкая літаратура знаходзіцца на крутым уздыме. Я так бы не сказаў, хаця працэсы самаруху літаратуры, творчы пошук не спыняюцца. Дрэнна, аднак, што яна паднявольная, абмежаваная прынцыповымі патрабаваннямі сацыялістычнага рэалізму.

М. Танку, як звычайна, прапанавалі выступіць «зверху».

Нехта з дэлегатаў ад Гродзенскай абласной партарганізацыі пакрытыкаваў сакратара Гродзенскага аддзялення СП Беларусі Аляксея Карпюка за слабы ўдзел у ідэйна-выхаваўчай рабоце.

**25 лютага.** Дзень прайшоў нібыта спакойна, але пад канец тэрмінова выклікаў загадчык аддзела.

— Паездзеце ў Гродна ў складзе пісьменніцкай камісіі для праверкі Гродзенскага аддзялення.

Гэта сталася для мяне нечаканасцю і нечаканасцю не надта прыемнай.

— А хто ў той камісіі?

— Мікола Ткачоў і Алешка.

— Антон Алешка?

— Ён самы. Камандзіроўка вам ужо выпісана, білеты бярыце на заўтра, на раніцу.

Што ж, трэба ехаць. У калідоры паспачуваў, курачы цыгарэту, Парватаў:

— Не простае ў вас даручэнне, — сказаў ён і, крывячы губу, выпусціў струмень дыму.

Я паспеў сазваніцца з Ткачовым і Алешкам, яны ўжо ў курсе справы. Едзем цягніком, білеты ўзяў на сябе Мікола Гаўрылавіч, каб ехаць у адным вагоне. Ён аргсакратар, пазваніў Карпюку ў Гродна, каб сустрэў.

У дарозе, пад стук колаў, зайшла размова — завёў Мікола Гаўрылавіч — пра чалавечую адказнасць, пра гуманнасць і далікатнасць. Для яго ўзор чалавечнасці — Максім Танк.

— Браў мяне адказным сакратаром у «Полымя». Я быў тады малады, кволы, — гэта ў сорак дзявятым было. «Ну, нічога, — кажа, — калі не справішся, дык тады я буду вінаваты. Уся адказнасць, — кажа, — на мне». Гэта значыць, на ім.

**26 лютага.** Аляксей Нічыпаравіч — чалавек абавязковы, сустрэў асабіста, паспеў нават заказаць гасцініцу. Распытаў, як ехалі, пацікавіўся настроем. Мікола Ткачоў сказаў, паўтарыўшы тое, пра што ён папярэдзіў па тэлефоне:

— Маем заданне паглядзець работу вашага Гродзенскага аддзялення.

— Правярайце, раз даручылі, — хітнуў галавой Аляксей.

Дамовіліся, што сустракацца з пісьменнікамі будзем з кожным паасобку, а потым збяромся ўсе разам. Аляксей Нічыпаравіч згодна хітае галавой.

Уладкаваліся ў гасцініцу. Нумары, як манастырскія келлі, не павярнуцца, ложак кароткі нават для мяне (1,77 м), і хто гэта так суперэканомна праектаваў і будаваў? Але затое асобна, па аднаму.

**27 лютага.** Першая сустрэча — з самім Карпюком. У маіх вачах ён заслугоўвае і павагі, і пашаны. Родам з-пад пушчы. У дагераснёўскія часы, яшчэ юнаком, стаяў за беларушчыну. Рос сярод людзей — вясковых падпольшчыкаў, якія свята верылі ў сацыялістычны ідэал. «Чысты, — як ён кажа, — і незаплямлены». У вайну сядзеў у нямецкім канцлагеры, уцёк, камандаваў партызанскім атрадам імя К. Каліноўскага на Гродзеншчыне.

Сустрэча наша адбывалася ў доміку Элізы Ажэшкі, дзе цяпер месцяцца некаторыя культурныя ўстановы, у тым ліку Гродзенскае аддзяленне СП. Пагаварылі пра жыццё, пра планы. Карпюк працуе цяпер над раманам «Вершалінскі рай» — пра вясковага сектанта з вёскі Грыбоўшчына, які стварыў «сваю царкву», папулярную ў мясцовага жыхарства.

— Няма кантакту з абкамам, — уздыхнуў Аляксей Нічыпаравіч, — няма з імі паразумення! Што ні параіш, не слухаюць.

Я яго разумею. Карпюк — праўдалюб і «праўдаруб». У яго аўтабіяграфічным нарысе «Мая Джамалумгма» ёсць такая мясціна: «Для чаго чалавек жыве? Мабыць, для барацьбы за Праўду. У мой век Праўда знаходзіцца ў вялікіх ідэях камунізму, я за іх змагаўся, як толькі мог. Канечне, часамі рабіў гэта няўмела, а часамі груба, але гэта ішло ад неразумення і ўзросту».

Гаворка, як бачым, пра тую ж «чысціню і незаплямленасць». Гэта — вялікая, сусветная праблема камуністычнага руху. У СССР, дзе ўлада належыць камуністам, яна асабліва вострая.

Многае адкрылася ў 1956-м. «Оказался наш Отец Не Отцом, а сукою», — спявае Галіч.

Вядома, заглыбляцца ў гэтыя пытанні ніхто з нашай кампаніі не стаў. Небяспечна для ўсіх. Карпюк загаварыў пра сяброў, спытаў, што там у Мінску, як Максім Танк, Караткевіч, Брыль. Даведаўшыся, што я з Брэстчыны, вучыўся ў Калесніка, расказаў пра яго юнацкія адносіны з Зінай Маслоўскай, якую ён таксама ведаў і якая гераічна загінула ў часе вайны. Я яшчэ раз падумаў, што ўсе яны — і Карпюк, і Калеснік, і Быкаў, і загінуўшая Зіна Маслоўская — прадстаўнікі ўнікальнага пакалення, якому трэба давяраць, досвед якога неабходна цаніць і шанаваць.

**28 лютага.** Наведалі майго даўняга сябра па аспірантуры Сяргея Кліманскага. Заваліліся да яго ў складзе ўсёй камісіі. Ішлі па цаліку, грузнучы ў глыбокім снезе. Сям'я Кліманскіх — гасцінная. Пачаставалі добрай вячэрай. Асабліва смачнымі здаліся зразы. Была музыка з грамафона. Музычных навінак гаспадары не прызнаюць. Антон Антонавіч, танцуючы з гаспадыняй, зачапіўся за дывановую дарожку і ўпаў. Але ўсё абышлося.

**1 сакавіка.** На дварэ мароз, завіруха, а ў нумары гасцініцы «Беларусь» цёпла. Нумар маленечкі, але нічога, адпачыць, пераначаваць можна, а каб не наша «не простая», як сказаў Парватаў, місія, дык было б і зусім няблага.

На сустрэчу з Быкавым паехалі Ткачоў і Алешка ў рэдакцыю абласной газеты, дзе ён працуе. Я ўстрымаўся, хай, думаю, яны пагавораць паміж сабой па-пісьменніцку.

Быкаў уступіў у літаратуру ў канцы 50-х — пачатку 60-х аповесцямі «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», у аснове якіх быў асабісты ваенны вопыт пісьменніка і ў якіх ён паказаў вайну так, як ён сам яе бачыў, ведаў і памятаў, — з яе трагедыямі, жорсткасцю, крывёй і з вялікім гераізмам. Ядро яго прозы адно і тое ж: сюжэтна аповед арганізоўваецца вакол якога-небудзь аднаго, часам нязначнага з пункта гледжання агульнай стратэгіі вайны эпізода, а для ўсёй карціны ўласціва рэалістычная верагоднасць і дакладнасць, дакладнасць і яскравасць слова, гераічны пафас. Тым не менш, яго творчасць непакоіць многіх, асабліва ў партыйных колах. Некаторыя незадаволены тым, што, засяроджваючы ўвагу на псіхалогіі подзвігу, беручы яго маральны аспект, Быкаў недастатковую ўвагу надае раскрыццю другога аблічча героікі — яе дзейснасці. Гэты разрыў, разрыў «духоўнага і дзейснага», адчувальны і ў «Сотнікаве». Сотнікаў моцны духам, але нямоглы фізічна, а яго маральны антыпод Рыбак паказаны чалавекам дужым і фізічна моцным. Слабы фізічна «ачкарык» Ляховіч («Круглянскі мост»), а яго маральны антаганіст Брытвін на здароўе не скардзіцца.

Непакоіць і тое, што пісьменнік залішне часта спыняецца ў сваіх творах на постацях здраднікаў і баязліўцаў. Нашто іх столькі?

Сустрэча прайшла нармальна, Ткачоў і Алешка засталіся задаволеныя. Думаю, што Быкаў таксама.

У другой палавіне дня бачыліся з Д. Бічэль і М. Дуброўскім, якому ўжо добра за семдзесят і які, здаецца, ужо даўно кінуў пісаць. Нядаўна, паўжартам паведаміў Карпюк, ажаніўся, але далёка не ў першы раз. Прасіў палепшыць кватэрныя ўмовы.

**2 сакавіка.** На агульную сустрэчу ў домік Элізы Ажэшкі прыйшлі ўсе. Прыбегла В. Іпатава, якую камісія не запрашала, паколькі яна не член СП. Дуброўскі — у кажуху і валёнках. Намяло снегу па калені.

Пісьменнікі-гродзенцы пацвердзілі, што ўмовы для працы ёсць. Дуброўскі яшчэ раз паўтарыў просьбу аб кватэры. Некаторыя выказалі прэтэнзіі да

мінскіх выдавецтваў, дзе рукапісы часам залежваюцца. Былі скаргі таксама на няўвагу з боку мясцовых уладаў. Д. Бічэль пусціла слязіну.

Ад’язджалі ў Мінск вечарам. Праводзіў, як і сустракаў, Аляксей.

— Глядзіце, хлопцы, беражыце сябе, — праяўляючы клопат, паўтараў ён. — У вагоне можа быць халадно, зіма, не прастудзіцеся.

«Зычлівы!» — думалася пра яго. І яшчэ я падумаў: «Нельга заганяць чалавека ў куток».

**5 сакавіка.** 75-годдзе К. Крапівы. У школе, дваццаць гадоў назад, «праходзілі» яго п’есу «Партызаны», а ў АН БССР убачыў яго самога. Твар — маска з застылым выразам сухасці і адчужанасці; ніколі не скажаш, што гэта майстар смеху. А між тым гэта так. К. Крапіва — постаць самабытная, але не адназначная. У свой час працаваў адказным сакратаром часопіса «Узвышша», а да гэтага — інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце. Неяк П. Броўка расказваў, як ён пазнаёміўся з Крапівой. Гэта было ў Полацку, куды Крапіва прыехаў у камандзіроўку, каб праінспектаваць краязнаўчую работу ў горадзе. Броўка ў гэты час працаваў у Полацку адказным сакратаром акруговай газеты «Чырвоная Полаччына». Крапіву сустрэў, калі той аглядаў вал Івана Грознага. Беларускі тып сатырыка-гумарыстычнай ацэнкі, — мяккай, не на паверхні, а прыхаванай, быццам малапрыкметнай, нутраной. Вось як у няскончаным рамане «Мядзведзічы» Крапіва малюе ўпаўнаважанага з Цэнтра, што выступае перад сялянамі:

«Пачаў ён здалёк, як кажуць, ад Адама, гаварыў вельмі агульнымі фразамі, устаўляючы шмат незразумелых слоў, глытаючы іх канцы».

У 20-я гады сачыніў вострую эпіграму з палітычным сэнсам, якая з таго часу не передрукоўвалася.

— У твае, браток, кабылы
Заўважаюцца ўхілы:
Хвост направа служыць крыва,
а налева звісла грыва.
— Што ты, браце, што ты, мілы,
То ж не гора — благадаць:
Каб не гэтыя ўхілы,
То б і цэнтра не відаць.

Кажуць, што ў 30-я гады таго-сяго залажыў. Думаю, аднак, што гэта няпраўда, бо інакш не паслалі б саракатрохгадовага камандзірам роты на савецка-фінляндскай вайне 1939—1940 гг. Надзвычай смелая п’еса «Мілы чалавек» (1945), але не даспадобы мне «Людзі і д’яблы» (1958). «Людзі і д’яблы» былі пастаўлены на сцэне тэатра імя Я. Купалы, але неўзабаве спектакль знялі з рэпертуару пасля шматлікіх пісьмаў былых мінскіх падпольшчыкаў у сувязі з тым, што п’еса была створана на аснове не зусім правераных крыніц.

Цяпер Кандрат Кандратавіч піша — я чуў калісьці ад Глебкі — п’есу пра элексір неўміручасці: хто варты быць неўміручым? Словам, падаўся ў філасофію.

**7 сакавіка.** Унізе, на цокальным паверсе, прадавалі кветкі. Заўтра Міжнародны жаночы дзень. Сёння правялі агульны сход апарата з дакладам старшыні прафкама тав. Вухава, які падкрэсліў, што нашы жанчыны ні ў чым не саступаюць мужчынам.

Купіў некалькі цюльпанаў, але не ведаю, каму падарыць. Усё яшчэ халасцяк. Хтосьці вельмі правільна казаў: «Дрэнна быць аднаму».

**10 сакавіка.** Утрох (я, Ткачоў і Алешка) падрыхтавалі, нарэшце, даволі аб’ектыўную і вядома, станоўчую (з некаторымі толькі заўвагамі) даведку па

выніках нашай камандзіроўкі. Аддалі загадчыку аддзела, а той панёс наверх. Пачнецца, як заўсёды, праўка, рэдагаванне.

**13 сакавіка.** Панамароў нудзіцца сваім становішчам памочніка ў Пятра Міронавіча. Завалены работай па выступленнях шэфа («папы», як ён кажа). Прэтэндуе на нейкую высокую пасаду, але наўрад ці хто паставіць. Высокія пасады падобныя на крутыя скалы: туды ці арлы ўзнімаюцца, ці ўзбіраюцца тыя, хто поўзае. Панамароў, здаецца, не адносіцца ні да першай катэгорыі, ні да другой.

**14 сакавіка.** Ноччу марозіць, з раніцы, калі ідзеш на службу, хрусціць лядок, а ўдзень растае.

**15 сакавіка.** Іосіф хоча сфатаграфавацца для часопіснай падборкі ў «Маладосці». Папрасіў у мяне гальштук у белую палоску, які яму надта падабаецца. Даў.

**17 сакавіка.** Зямля падсохла, з раніцы сыпануў сняжок. Звычайнае для канца сакавіка надвор’е: вецер, калючы сняжок, хмарнае неба.

Па пошце, у абедзенны перапынак, паслаў дзеду Лявону ўпакоўку балгарскіх цыгарэт «Шипка». Лёгкія. Ён так і не кінуў курыць.

Вечарам чытаў ваенныя мемуары — кнігі маршала Конева «Сорок пятый» і лётчыка Пакрышкіна «Небо войны». Цяжка было ўсім, хто ваяваў.

**18 сакавіка.** В. Панамароў прэтэндуе на рэдактара «Немана». Пісьменніцкай падтрымкі аднак не мае. Не падтрымлівае яго і наш аддзел. «Папа» таксама перастаў глядзець у яго бок.

**22 сакавіка.** Па панядзелках па даручэнні Ленінскага райкама партыі вяду тэарэтычны (!) семінар з работнікамі ашчадных кас. Збіраемся ў памяшканні ашчаднай касы па вуліцы Кірава. Гэта каля вакзала. Тэма семінара — «Навуковы камунізм». Пазнаёміўся з чалавекам, які працуе ў гэтай ашчаднай касе. Прозвішча — Троцкі. Пытаюся: можа з Трокаў родам? Ёсць такі горад у Літоўскай ССР. Не, кажа, прозвішча памяняў дзед у пачатку яшчэ 20-х гадоў, каб быць бліжэй да рэвалюцыйных падзей. З цягам часу дзеда, за прозвішча, палічылі, што сваяк Льву Троцкаму, расстралялі, а сын і ўнук выжылі. Цяпер да прозвішча ніхто надта не чапляецца.

**26 сакавіка.** Распагодзілася. Падбіраем рэдактара на «Неман». Да С. заходзіў Хведар Жычка (яны сябруюць). Чуў, як Хведар на развітанне сказаў, заікаючыся і смешна вымаўляючы «л» замест «р»: «Жыццё — гэта балба».

**31 сакавіка.** Галоўны орган у чалавека — гэта нос. Гэта яшчэ Гогаль заўважыў. Нос адчувае пах. Калі пах добры, значыць маем справу з жывым, нармальным, калі дрэнны — значыць разлажэнне. На вуліцах пасля зімы шмат смецця (нос гэта адчувае), праз пару тыдняў — суботнік, уборка.

**1 красавіка.** Дзень падманаў. Быў напагатове, што хто-небудзь паспрабуе ўвесці ў зман, але абышлося. У мінулыя гады такое здаралася.

**3 красавіка.** Прачытаў выступленне М. Шолахава на партыйным з’ездзе ў Маскве. У сваім стылі. Усіх крытыкуе, але, у адрозненне ад Карпюка, не чапае партыі, кіраўніцтва, і яго ўзносяць да неба.

**4 красавіка.** Туман. Вільгаць. Вясна. Завяршыліся Дні беларускай літаратуры на Брэстчыне. Апошнім часам Брэстчыну пачалі называць Берасцейшчынай. Гэта, відаць, больш правільна, бо ў нас, у Кругелі, кажуць не Брэст, а Берасць.

З Брэстам у мяне звязана безліч успамінаў.

Мы, студэнты, любілі сваіх выкладчыкаў — Смальянаву, Калесніка, Германовіча, Царанкова, Барысаўца. І паміж сабой сябравалі — Грыша Лазіцкі, Федзя Цудзіла, Марк Любін, Вера Ляшук, Віктар Карповіч, Тася Тарасевіч, Фіра Гафштэйн, Вера Маннук… У Марка Любіна ў пашпарце стаяла: Мен-

дэль Янкавіч Любін, — але па яго просьбе яго называлі Марк Якаўлевіч. Ніхто не пярэчыў — каму што даспадобы.

Аднойчы ідзём з Маркам Якаўлевічам па Савецкай. Было гэта ў 1957-м, вясной. Едзе на возе, па бруку, селянін. Едзе без аднаго задняга кола, воз валачэцца на жэрдцы, падкладзенай пад вось. Што зробіш — зламалася кола, і чалавек едзе на бярозавай жардзіне. Бегае вакол воза нейкі ўвішны суб'ект з фотаапаратам, фатаграфуе і так, і сяк, папраўляе на галаве вазака зімовую шапку-аблавушку. Нешта ва ўсім гэтым падалося нам наўмысным і здзеклівым. Мы з Маркам падышлі да таго фатографа. Аказалася — журналіст з ФРГ. У нас узняўся патрыятычны пыл: «Што ж ты робіш, нягоднік? Вакол столькі цікавага, вартага ўвагі, нашага, савецкага, а ты прычапіўся да няспраўнага воза на бярозавай жардзіне! Замежныя газеты, вядома, з ахвотай апублікуюць здымак — зламаны воз на прымітыўнай жардзіне, наіўны паляшук у аблезлай аблавушцы…» Разам з Маркам узялі гэтага журналіста ў работу: «Засвяці плёнку!» Той страшэнна напалохаўся, але выканаць наш загад адмовіўся. Тады мы павалаклі яго ў міліцыю, дзе сустрэў дзяжурны. Немец апраўдваўся, нешта тлумачыў. Дзяжурны прысарамаціў яго, але паводзіў сябе больш спакайна за нас. Плёнкі ў журналіста не адымаў, а толькі пахітаў галавой і павадзіў пальцам. Іншаземец развітаўся і пайшоў.

У нас з Маркам было адчуванне выкананага абавязку.

**6 красавіка.** Прысутнічаў на пасяджэнні Сакратарыята СП. Разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да чарговага з'езда пісьменнікаў Беларусі. З асноўным, справаздачным, дакладам будзе выступаць М. Танк як старшыня Прэзідыума СП. У дапамогу яму — кансультанты, робяць агляды па жанрах. Намецілі рабочыя органы з'езда і месца правядзення — тэатр імя Я. Купалы. Абмяркоўвалі, каму адкрываць з'езд. Я. Брыль падаў думку прасіць Кандрата Кандратавіча.

У канцы вырашылі замачыць добры пачатак, крыху расслабіцца і выпіць па чарцы. Між іншым, цікава прыглядзецца, як хто п'е. Кожны, мушу сказаць, па-свойму. М. Танк толькі прыгубіў. Рагоча грамчэй за ўсіх, але не п'е, трымае кілішак у руцэ, «грэе».

**12 красавіка.** Якая гэта прыгожая пара года — вясна! Нават у горадзе, які скрозь утыканы дымнымі трубамі. На Берасцейшчыне, відаць, ужо амаль лета. Ужо, пэўна, прыляцелі буслы. Лаўлю сябе на думцы, што мяне, як заўсёды, цікавіць жыццё прыроды. Усё ж такі прырода — гэта норма, гаючы сродак, які можа супакоіць, вярнуць да раўнавагі.

**13 красавіка.** Правёў у ашчаднай касе чарговы семінар. Разглядалі пытанне аб экалогіі, пра ўзаемаадносіны чалавека і прыроды. Разважаў у асноўным я, семінарысты паводзяць сябе даволі пасіўна. Большасць удзельнікаў семінара — дзяўчаты, жанчыны. Ну, і той Троцкі. Слухалі, мне здалося, уважліва. Тэма ўзаемадачыненняў чалавека і прыроды выразна выступае ў нядаўнім вершы А. Куляшова «Сасна і бяроза»:

Трымаюць Зямлю без падважнікаў тых,
Без мудрага троса
Жывымі рукамі карэнняў сваіх
Сасна і бяроза…

Ёсць у гэтым вершы і, думаецца, прыхаваны падтэкст, палеміка. Камуністы, як вядома, ставяць на мэце перарабіць, перабудаваць свет, у тым ліку пакарыць прыроду, на месца «першай» прыроды паставіць «другую», штучную, якая, аднак, павінна скласці матэрыяльную аснову камуністычнай цывілізацыі. Паэт на баку прыроды, прыроднага ўлоння, адмаўляе значэнне «мудрага троса». Вядома, сваім семінарыстам я пра гэта не сказаў. Не сказаў

таксама, што і сам чалавек — частка прыроднага космасу і што адпаведна патрабуе больш паважных адносін да сябе. Але гэта — асобная тэма.

Закончыўшы семінар, ідучы на работу, параўняўся з дзяўчынай у летнім паліто, рослай, з доўгімі косамі. Была яна з сяброўкай. Разгаварыліся.

— Я простая медсястра, — сказала яна. Працуе ў дзіцячай чыгуначнай паліклініцы. Назвала сваё імя: Тамара. Жыве ў інтэрнаце.

Здалася прыгожай. Зрэшты, кожная жанчына па-свойму прыгожая, варта толькі ўгледзецца. Я ў гэтым пераканаўся. Фрэйд, якога я чытаў у акадэмічнай бібліятэцы, пісаў, што светам кіруе сексуальнасць. Гэтую думку ў змененай форме часта паўтарае А. Мальдзіс, згадваючы польскую прымаўку: «Мы жондзімы святэм, а намі — кобеты».

Толькі чаму сказала: «Простая медсястра»? Медсястра ды і ўсё. Чым гэта блага? Дала тэлефон.

**15 красавіка.** Падрыхтоўка да VI пісьменніцкага з'езда. Здаецца, будзе выступаць Пётр Міронавіч. Панамароў ужо на іншай пасадзе — працуе на тэлебачанні на чале групы палітычных аглядальнікаў, так што рыхтаваць прамову Машэраву давядзецца мне аднаму. Хачу, каб выступіў па-беларуску.

**18 красавіка.** Выхадны. Захацелася сустрэцца з Тамарай. Пазваніў. Паехала ў Плешчаніцы, да бацькоў.

Тамара — у перакладзе з іўрыта — фінікавая пальма. Падабенства з пальмай ёсць.

**19 красавіка.** Пішу прамову Пятру Міронавічу. Ён даў згоду выступіць на беларускай мове. Інструктуючы мяне па сваім выступе, ён, між іншым, сказаў:

— Ні ў якім разе нельга павучаць — гаварыць пісьменніку: пішы вось так і не інакш. Кожны піша па-свойму. І яшчэ. Звярніце ўвагу на мову, на майстэрства.

**24 красавіка.** Як звычайна — суботнік. Зноў цягалі бетон. Бетаніравалі пляцоўкі пад новы цэх. Пад канец ледзьве трымаўся на нагах, нічога не хацелася, апроч адпачынку.

Пасля суботніка ў некаторых радыкуліт. Інструктар з аддзела транспарту наогул цягне нагу і круціць галавой. «Укалваў, як Паўка Карчагін», — кажа ён. У мяне пры рэзкім руху паколвае ў паху.

Парватава на суботніку не было, спаслаўся на тэрміновае заданне.

А Пётр Міронавіч быў.

У перапынку мае калегі звярталі, у чарговы раз, увагу на тое, што Пётр Міронавіч надта хутка ездзіць на сваёй «Чайцы». Чалавек з аргаддзела — знаўца гэтага пытання — даступна патлумачыў, што Пётр Міронавіч — кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС і яму ездзіць павольна не дазваляецца. Ён чалавек дысцыплінаваны, трымаецца інструктыўных указанняў ад службы бяспекі, ездзіць заўсёды з хуткасцю не меней як 90 км у гадзіну. Пятра Міронавіча паважаюць.

**25 красавіка.** Заўтра пісьменніцкі з'езд. Сёння раздаюць дэлегатам «папкі». Дэлегаты — усе члены СП. Будзе вялікі склік.

**26—27 красавіка.** У памяшканні Купалаўскага тэатра адбыўся VI з'езд пісьменнікаў Беларусі. З'езд адкрываў К. Крапіва. З дакладам выступіў М. Танк. Шмат было пісьменніцкіх прамоў, але не пра галоўнае. Галоўнае ў тым, што выступіў П. М. Машэраў. Як і планавалася, выступіў па-беларуску. Перад гэтым, паклікаўшы мяне, удасканальваўся ў беларускім вымаўленні. Абрусеў ён парадкам, даводзілася папраўляць.

Настаяў, каб у дакладзе быў абзац пра станоўчага героя. Пісьменнікі, на яго думку, часта арыентуюцца на крайнасці. Нярэдкія факты, калі пісьменнік, паказваючы тую ці іншую з'яву жыцця, бярэ толькі крайнія моманты, крайнія полюсы. З аднаго боку — ідэальна станоўчы герой, з другога — заведа-

ма адмоўны тып. А ці не ўпускаем мы пры гэтым з поля зроку неабдымна шырокую сферу спраў і здзяйсненняў мільёнаў і мільёнаў нашых людзей, людзей цікавых, змястоўных, з гушчы якіх, дарэчы, і вырастаюць героі нашага часу, чыё жыццё і праца, у сваю чаргу, з'яўляюцца ўзорам для пераймання і паступова становяцца нормай жыццядзейнасці для большасці членаў нашага грамадства. Герой — той, хто рашуча не прымае снабізму, лайдацтва, самазадаволенасці і самазаспакоенасці.

У тэорыі гэта, вядома, прыгожа, але як на практыцы?..

Падыходзіў да мяне Васіль Васільевіч Барысенка, перад выступленнем Машэрава. Хваляваўся, чакаючы крытыкі ў адрас інстытута. Я супакоіў свайго былога дырэктара. В. Барысенка нагадвае мне літаратурнага героя, для якога галоўнае — «абы ціха», бо баіцца ўсяго, а рэакцыя начальства можа быць самая нечаканая. Пасля В. Барысенкі сустрэў А. Семяновіча. Ён былы аспірант Васіля Васільевіча, цяпер кандыдат навук, выкладае ў педінстытуце. Бачыў, што я стаю з яго былым шэфам, і стаў казаць, як не паладзіў, размінуўся з ім. Яблыкам разладу стаўся малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры Дзмітрый Бародзіч, да якога Барысенка меў прэтэнзіі, а Семяновіч абараняў.

Пачаўся з'езд. У прамовах некаторых выступоўцаў пракідалася думка, што больш адпаведнай увагі да сябе патрабуюць самыя асновы чалавечага быцця — прырода, гісторыя, інтымная сфера, жыццё духу. Жыццё мае столькі таямніц, а наша літаратура пакуль што піша пра гэта мала, а больш пра ўраджайнасць, надоі, выкананне плана.

Яшчэ раз пераканаўся, што талент мусіць мець выйсце, што для пісьменніка павінен існаваць сектар свабоды.

Старшынёй СП абралі М. Танка. Калісьці пра Броўку (думаю, што менавіта пра яго) Танк напісаў так: «І дурны ж ты, Квэк, што згадзіўся стаць // над цыганскім табарам каралём...» А цяпер і сам згадзіўся. Навіна, што адзін з яго намеснікаў цяпер — А. Грачанікаў. Думаю, што справіцца, досвед работы з людзьмі ў яго ёсць.

Абралі дэлегатаў на V з'езд пісьменнікаў СССР.

**30 красавіка.** Пасля работы прайшоўся па скверыку каля тэатра Я. Купалы. Сустрэў Я. Брыля. Павітаўся. У руцэ, пры кішэні, трымае паўлітэрку. Я выгляду не падаў, але здзівіўся: Іван Антонавіч не п'е. Але ж заўтра свята. Можа, будзе госць...

**1 мая.** Я чуў, ад старых людзей, што калі ноч пад 1 мая зорная і цёплы дзённы вецер, то лета будзе з бурамі, але цёплае і ўраджайнае. Здаецца, так і было — і ноч зорная, і цёплы ветрык днём.

Быў на дэманстрацыі. Шматлюдна і чырвана ад сцягоў і лозунгаў, грымелі рэпрадуктары, але ўсё афіцыйна, прывычна, асаблівай радасці не адчувалася. Мне ўспомнілася дзяцінства — першы ў маім жыцці Першамай 1946 года. Я тады вучыўся ў другім класе нашай Кругельскай школы. Да свята рыхтаваліся загаддзя. Меркавалася, што калонай пойдзем у сельсавет, у Ратайчыцы, дзе адбудзецца дэманстрацыя. Трэба было, каб у кожнага вучня быў чырвоны сцяг. А дзе яго ўзяць у 1946 годзе? Нідзе не купіць. Бабуля адрэзала кавалак палатна і пафарбавала ў чыгунку з буракамі. Кіпяціла з гадзіну, а можа і болей, каб палатно набралася чырвані. Потым сушыла. Кужаль пачырванеў, але колер далёка не адпавядаў чырвані афіцыйнай, яму не хапала яркасці. Атрымаўся, цяперашнім словам кажучы, нейкі рэвізіянісцкі. Тым не менш мы з дзедам змайстравалі сцяг, прымацаваўшы палатно да дрэўка. Ваенрук у школе мой сцяг забракаваў — не той колер, і, калі калона рушыла ў Ратайчыцы, паставіў мяне ззаду, у самым канцы, «замыкаючым». Спачатку ішлі па вуліцы праз

сваю вёску. З хаты выйшлі дзед з бабуляй і, стоячы каля веснічак, падбадзёрвалі мяне, махалі рукамі.

— Вышэй нагу! — чулася дзедава каманда (калісьці ён служыў у войску, яшчэ царскім).

Да Ратайчыцаў дарога няблізкая — шэсць кіламетраў. Там быў мітынг. Народу назбіралася поўна, з усяго сельсавета. Прамовы выступоўцаў складаліся ў асноўным з гучных заклікаў і пажаданняў. Слухалі мы стоячы, мітынг доўжыўся не адну гадзіну. Дадому брылі ўжо не калонай, а даволі бязладна. Без абеду я дык зусім змогся і ледзь валок свой «бурачковы» сцяг. З яго, здаецца, выветрылася апошняя чырвань. Ішлі, помню, не дарогай, а напрасткі, полем, пераходзілі рэчку...

Успаміны, успаміны...

**7 мая.** Юбілей Сцяпана Ліхадзіеўскага. 70 гадоў. Цяпер ён жыве ў Ташкенце, сярод узбекаў. Некалькі гадоў таму мы з М. Грынчыкам наведалі яго ў яго кватэры, у блочным доме, у якім ён жыве пасля землятрусу. Гасцінны. Паставіў на стол гарэлку. Дачка (не помню імя) згатавала плоў з бараніны, нарэзала памідораў. Да гарэлкі — беларускі матыў — падала селядзец з цыбуляй, бульбу. Ташкенцкі жнівень гарачы, на сонцы градусаў сорак. Абліваліся потам. Сцяпан Іванавіч хварэе на цукровы дыябет, і дачка (налаўчылася) час ад часу закасвае бацьку рукаў і коле інсулін. Сцяпан Іванавіч, як дыябетчык, аддае перавагу гарэлцы, каньяк не спажывае. Ён, казаў, адзіны на ўсю Сярэднюю Азію доктар навук па замежнай літаратуры. Дасканала ведае французскую мову. Дысертацыя — па творчасці Анатоля Франса. Доктарская ступень далася цяжка, таму што яе, як і кандыдацкую, прысвяціў аднаму і таму ж пісьменніку — Анатолю Франсу.

Гаварылі аб усім. Сцяпан Іванавіч быў нядаўна з сынамі ў Мінску і на роднай Случчыне, пахадзілі з косамі па лузе. Каб дзеці ведалі, дзе і якая іх радзіма.

Сцяпан Іванавіч між іншым выказаў глухую крыўду на С. Пілатовіча, які абяцаў дапамагчы пераехаць на працу ў Мінск, у БДУ, але не спраўдзіў свайго абяцання («Абяцаў чарэшні на вярбе», — жартаваў Сцяпан Іванавіч), і на сябра Стася Шушкевіча, які, мяркуючы па ўсім, не надта цэніць паэзію Ліхадзіеўскага. Яны, дарэчы, перапісваюцца, і Стась не ўтрымаўся, каб не адзначыць, што яго кнігі раскупілі, а зборнік Сцяпана Іванавіча заляжаўся.

Пасля ўсяго, калі гарачыня крыху спала, Сцяпан Іванавіч нас праводзіў. Побач з яго домам — Фархадскі рынак. Прагуляліся па ім — квяцісты, гаманкі ўсходні базар. Купілі кішміш.

**8 мая.** Пярэдадзень свята Перамогі. Сабраліся, апроч загадчыка, С. Парватаў ужо каторы раз расказвае (забывае, што ўжо казаў пра гэта), як на ваенным заводзе, за Уралам, дзе ён у вайну працаваў парторгам ад ЦК, выпрабоўвалі новую канструкцыю мінамёта. Заданне заключалася ў тым, каб у хуткім тэмпе зрабіць запар 50 стрэлаў і паглядзець, які будзе вынік. Выехалі на палігон, устанавілі канструкцыю, і, па камандзе, пачалося выпрабаванне. Прысутнічала, як належыць, дзяржаўная камісія, якую ўзначальваў сам Парватаў. Да палавіны ўсё ішло нармальна, а потым ў мінамёта нечакана пачаў задзірацца хобат, і міны сталі класціся ўсё бліжэй і бліжэй. Асколкі засвісцелі над галовамі, камусьці з абслугі знесла шапку. Камісія схавалася ў бліндаж, і пачаліся спрэчкі. Некаторыя настойвалі на спыненні выпрабаванняў. Маўляў, загінуць людзі. Але гэта азначала б зрыў плана выпуску прадукцыі, за што можна было б трапіць пад трыбунал. Парватаў не дапусціў зрыву тэрмінаў, і ўсё неяк абышлося.

**9 мая.** Дзень Перамогі. На жаль, яшчэ не для ўсіх ён стаў днём справядлівасці. Барыс Сачанка расказваў пра чалавека з суседняй з яго Вялікім Борам

вёскі, якога кіраўніцтва калгаса не запрашала на святкаванне Дня Перамогі, бо ён трапіў у палон. Здарылася гэта ў трагічным 1941-м. Калі вызваліўся з палону, прысудзілі да штрафбата, у якім праваяваў — цэлы, не паранены — да канца вайны. У гэты дзень, 9-га Мая, ён выпівае з такім жа штрафнікам, як і сам.

Сустрэўся з Юзікам Скурко, які пазнаёміў з Міколам Заранком. Родам ён з-пад Мазыра, вёска Глінная Слабада. Аспірант Інстытута філасофіі. Да гэтага ён працаваў на Палессі, у вёсцы Зеляночы, у пачатковай школе дырэктарам. Жыццёвы вопыт мае. Адзначылі свята Перамогі. У Міколы на вайне загінуў бацька.

**10 мая.** Чуў першы гром. Грымела, здаецца, на поўдні. Ёсць прыкмета: калі вясною першы раз загрыміць на поўдні, то лета будзе цёплае і пагоднае, а як на поўначы — то халоднае.

**12 мая.** В. Быкаў, кажуць, збіраецца пераязджаць у Мінск. Нібыта разводзіцца з жонкай.

**15 мая.** Вырашыў наведаць Камароўку, захацелася купіць мёду. Здзівіўся ранішняму небу. Такім актыўна-зялёным, бліскучым яно бывае, напэўна толькі вясной, у траўні месяцы, як калісьці называлі май.

Камароўка — вечны рухавік жыцця. Віруе народ. Гамоніць, здзіўляецца, спрачаецца, шуміць. Мала пра яе пісалі пісьменнікі. Ёсць, праўда, добры верш у Р. Барадуліна.

Купіў у дзядзькі, які з белымі нарукаўнікамі стаяў за прылаўкам, слоік мёду. Заплаціў 10 руб. Ліповы мёд. Выбар гатункаў, дарэчы, не вялікі. Агульная назва: кветкавы, кветкавы, кветкавы. А я хацеў бы, напрыклад, пакаштаваць мёду з арэшніку, з вербалозу. Арэшнік (ляшчына) па лесе ўжо цвіце, у нас яго, як і вербалозу, шмат. Добры меданос — свірэпа. Дапамагае пры прастудзе. Мядовая каралева — грэчка. Мой хросны Сямён Гардзеевіч — знаны ў наваколлі пчаляр — сеяў яе малымі загонамі праз дзень на працягу двух тыдняў. Цвіла яна, духмяная прыгажуня, доўга радуючы пчол і пчаляра.

**16 мая.** Пахаладала, як звычайна ў гэты час.

Вечарам уключыў «Спідолу», слухаў (чамусьці не глушылі) выступленне доктара Вітаўта Тумаша. Гаварыў пра культуру Вялікага Княства Літоўскага, пра «готыку, рэнэсанс і барока» ў Беларусі. Хацелася б пачуць пра духоўна-філасофскі змест гэтых паняццяў.

**19 мая.** Ва ўсю буяе вясна. Зацвітаюць яблыні. Калгаснікі садзяць бульбу. Хутка будзе цвісці бэз. Кветачка бэзу складаецца з чатырох пялёсткаў, рэдка — з пяці. У дзяцінстве ў гронцы бэзу мы шукалі якраз такую — з пяці пялёсткаў. Калі знойдзеш — рады, значыць пашанцуе, будзе ў жыцці шчасце!

Да ўсяго дакранаецца таямнічая сіла вясны.

**20 мая.** Пайшла пераправерка партызанскіх дакументаў. Некаторыя, здаецца, не супраць адабраць партызанства ў Брыля. Але ў Івана Антонавіча надзейны сведка — Калеснік.

**24 мая.** Нарада ў загадчыка, які сустрэў мяне пытаннем: «Ну, як там твае пісьменнікі?»

— Пішуць.

Шэф аказаўся настроеным надта патрабавальна:

— Дрэнна яны пішуць. Нам сягоння патрэбен стопрацэнтны станоўчы герой. У жыцці ён ёсць, а ў літаратуры?

— Няма, — хіхікнуў Парватаў.

Я запярэчыў:

— Ёсць. Хіба Антанюк у «Снежных зімах» Шамякіна не станоўчы персанаж? А ў раманах Мележа хіба іх няма? А Сотнікаў?

— Ну, наконт Сотнікава ты, Уладзімір Васільевіч, загнуў, — заўважыў шэф.

Я змоўк, не спрачаўся, бо гэта было не тое месца, дзе спрачаюцца.

**5 чэрвеня.** У лазні пачуў прымаўку (гаварылі голыя дзядзькі, седзячы ў парылцы): «Той багаты, хто нікому не вінаваты». Калі так, дык я таксама не бедны.

Па вуліцы Пуліхава цвіце акацыя. Хто і калі яе пасадзіў?

**13 чэрвеня.** Памёр Сяргей Прытыцкі. Асоба гераічная. Гэта ён калісьці, у 1936 годзе, страляў у правакатара Стральчука і сам быў цяжка паранены. Прататып галоўнага героя кінафільма другой палавіны 50-х гадоў «Чырвонае лісце» («Беларусьфільм», сцэнарый А. Куляшова і А. Кучара), які так глыбока хваляваў наша пакаленне, — гэта ён, Сяргей Прытыцкі. Мне ён запомніўся яшчэ і тым, што на вяселлі ў Аляксея Карпюка (пасляваенныя гады) падарыў маладому «Капітал» К. Маркса (расказваў сам Карпюк).

Разам з тым Прытыцкі, як і ўсе яго калегі, — тыповы партыйны функцыянер. Герой і функцыянер у адной асобе.

На пахаванні выступіў М. Танк з вельмі прачулай прамовай. Машэраў плакаў. Цікава, пра што ён у гэты час думаў?

**19 чэрвеня.** Моцны паэт падняўся — Васіль Зуёнак. Яго «Крэсіва» і «Крутаяр» — арыгінальныя кнігі, у вершах шырока і пераканаўча праявіўся дэмакратызм аўтара, яго павага да жыцця, здольнасць бачыць паэтычнае ў звычайным, прывычным для ўсіх.

Ад Зуёнка можна чакаць многага, непадманнага.

**29 чэрвеня — 2 ліпеня.** У Маскве адбыўся V Усесаюзны з’езд пісьменнікаў. М. Танк выступіў з прамовай «На высокім уздыме».

На з’езд разам з іншымі паехаў Алесь Савіцкі. Апошнім часам, ён шырока выдае свае кнігі. […]

**3 ліпеня.** Дзень вызвалення Мінска. Алеі па-святочнаму ўпрыгожаны, шмат партрэтаў герояў Айчыннай вайны.

Вечарам сустрэўся з Тамарай, пайшлі ў Купалаўскі скверык, тут чысцейшае паветра. Аўтамашын у сталіцы ўсё больш і больш, пабольшала і загазаванасці. Дзяўчына мая — незачэпа, не дакраніся. Але ж няма кахання без прытуляння.

**4 ліпеня.** А можа, заставацца халасцяком?

Вальтэр, Платон, Пятрарка, Таса, Дантэ, Спіноза, Кальдэрон, Рышэлье, Брамс — усе, як вядома, засталіся халасцякамі. Найвялікшыя ў свеце мастакі — Рафаэль, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы таксама былі нежанатыя. Халасцякаваў Кант. За гаспадаркай у яго прыглядаў слуга Лямпэ. Парадак захоўваўся адносны: нельга было чапаць звычайнага беспарадку.

Словам, адказу на гэтае пытанне няма. Нічога не застаецца, як паспадзявацца на волю лёсу.

**6 ліпеня.** Па радыё пачуў, што памёр Луі Армстронг, выдатны амерыканскі джазавы музыкант, кампазітар. Яго называюць «трубачом-рэвалюцыянерам».

**8 ліпеня.** Гарачыня. Да таго ж яшчэ і вільготнасць. У службовым кабінеце духата. Усе сядзім у пінжаках і пры туга завязаных гальштуках — здымаць забаронена. У Парватава пінжак зашпілены на ўсе гузікі, але трывае, часта курыць. Кандыцыянераў няма. Адзін хіба толькі Яўген Бабосаў дазваляе сабе зняць пінжак.

У дзяцінстве з дзядулем Лявонам у такую спёку ішлі ў клуню і клаліся на ток. Прыемна было адчуваць лёгкую прахалоду.

**12 ліпеня.** Цвітуць і салодка пахнуць ліпы. Толькі не чуваць пчол у іх залатой квецені. На гарадскіх плошчах шмат галубоў. Гарадскія галубы зусім не баяцца людзей, гуляюць побач. Пенсіянеры прываблíваюць іх хлебам. На ўсіх плошчах Мінска чуецца буркат іх любімцаў.

Час ад часу бачуся з Тамарай, адчуваю да яе духоўную прывязанасць. Каханне — гэта пазнанне. А пазнанне — рэч тонкая, можна сказаць, далікатная. Недалікатнае пазнанне можа выклікаць адваротную рэакцыю.

**17 ліпеня.** Ездзілі з Тамарай на возера. Нарэшце, здаецца, убіўся да яе ў ласку.

**19 ліпеня.** Раніцай, ідучы на работу, убачыў над Чэрвеньскім рынкам вясёлку. Сеў у трамвай, і па вокнах заляпалі дажджавыя кроплі.

**24 ліпеня.** Адзначае 60-годдзе Анатоль Астрэйка. Яшчэ не стары, але развіццё прыпынілася. Тое ж самае і ў яго сяброў: А. Бялевіча, П. Прыходзькі, Р. Нехая, А. Вялюгіна і інш. Эксплуатуюць стары стыль і прыёмы.

**26 ліпеня.** Выйшаў вялікім тыражом трохтомнік Сяргея Ясеніна (у прылажэнні да часопіса «Огонёк»). Дэфіцыт, як кажа Аркадзій Райкін. Атрымалі тыя, хто падпісаўся. Пісьменніка Васіля Хомчанку да вайны, быў яшчэ студэнтам педінстытута, арыштавалі, знайшоўшы ў куфэрку кніжачку Ясеніна.

**28 ліпеня.** Прачытаў у «ЛГ» артыкул варонежскага крытыка Гусева «Истины, которые не следует забывать». Піша пра ўзрастанне філасафічнасці сучаснай паэзіі, што выяўляецца ў патрэбе паэта «адчуць ісціну». Чаму адчуць, а не ведаць? Пра якую ісціну гаворка? А ці існуе яна — ісціна? У Гусева ўсё абстрактна, па-кніжнаму, з напускной сур'ёзнасцю. Гэта так званая ўніверсітэцкая крытыка.

**29 ліпеня.** Прыкмячаю, што хінецца да мяне Барыс Сачанка. Я паважаю гэтага пісьменніка. Першымі сваімі кнігамі ён, на мой погляд, шмат у чым абнавіў нашу літаратуру. Помню яго «Канапляны чад». А аповесць «Дзік — бадзяга» — выдатны твор!

Сачанка — кнігалюб, фанатычна любіць кнігу, асабліва рэдкую.

[…]

**3 жніўня.** Памёр Янка Маўр — пісьменнік майго дзяцінства. Меў 88 гадоў. Прызнаны дзіцячы пісьменнік.

Іван Чыгрынаў расказваў чутае ад Маўра — як старцы-прасіўцы, пабіраючыся па людзях, сыходзіліся ў пэўны дзень (часцей на нейкае свята) у прызначаным месцы, недзе на лясной паляне, распальвалі вогнішча і на гарачым вуголлі пяклі «барану» — вялікую яечню з назбіраных яек. Як сімвал сваёй прафесіі, свайго брацтва.

На пахаванні быў Васіль Зуёнак і яшчэ некаторыя. Жнівень — час водпускаў. І ўсё-такі болей было народу, чым, як кажуць, на пахаванні Стэндаля. Там за трунай ішло ўсяго трое: Фёдар Талстой з Расіі, Альфрэд Мюсэ і яшчэ нейкі жабрак з надзеяй трапіць на памінкі.

**5 жніўня.** У Пятра Міронавіча новы памочнік — замест В. Панамарова Юрый Пятровіч Смірноў, які раней кіраваў групай лектараў. Кандыдат юрыдычных навук.

**6 жніўня.** Майго сябра Віктара Шматава прынялі ў Саюз мастакоў Беларусі. Павіншаваў. Ён мастак і мастацтвазнаўца. У аспіранцкія гады разам супрацоўнічалі, пісалі артыкулы пра гадавыя мастацкія выстаўкі. Нядаўна быў на гадавой выстаўцы ў мастацкім музеі, пачуў выраз: «земляные краски». Пасаромеўся спытаць, што гэта такое. Папытаю, думаю, у Віктара.

**9 жніўня.** У Жодзіне, на аўтазаводзе, выпусцілі новы самазвал на 75 тон — БелАЗ-549. Пра гэта загадчык аддзела абвясціў на «пяцімінутцы». Самазвал мае выкарыстоўвацца на серпанцінных распрацоўках.

**11 жніўня.** Аб'явіўся вялікі друг Савецкага Саюза спявак Дзін Рыд. Нешта ён не паладзіў са сваёй радзімай — ЗША.

Пра Амерыку сёння кажуць і так, і гэтак. Помню, з дзяцінства, аповеды дзеда Лявона Міхайлавіча пра яго знаходжанне ў Амерыцы з 1906 па 1913 га-

ды. Паехаў яшчэ юнаком, а потым усё жыццё шкадаваў, што вярнуўся. ЗША, безумоўна, краіна глыбокай, самабытнай культуры, калі нарадзіла такіх вось пісьменнікаў, як вядомы на ўвесь свет Фолкнер. Мяне заўсёды цікавіла багатая амерыканская літаратура, што чамусьці вельмі здзівіла В. Быкава, калі я яму пра гэта расказаў. Пра тое, што і ён начытаўся Джэка Лондана, ён мне не сказаў. У Амерыцы ёсць нават такое, што цяжка ўцяміць. У газеце «Известия» прачытаў нядаўна пра «общества «неродящих» в США». Гэта значыць, тыя, хто вымірае. Адчуваючы такое, яны, відаць, і аб'ядноўваюцца.

**12 жніўня.** Карціць сустрэцца з Тамарай, даўно не бачыліся. Надвор'е добрае, сонца ўжо не пячэ.

Успомніў, як убачыў яе ўпершыню. Вочы — зычлівыя і шырока адкрытыя, нібы чакала чагосьці незвычайнага.

**13 жніўня.** Пятніца, Заранок запрасіў паехаць на Палессе, на Прыпяць. Даў згоду і пазваніў Тамары: «Паехалі разам». У яе іншыя планы — едзе да бацькоў.

Ляцелі самалётам «Мінск—Мазыр». Нас трое: Мікола, Юзік і я.

**14—15 жніўня.** Гасцяванне ў Міколы, у Гліннай Слабадзе. Маці Міколы — настаўніца мясцовай школы, мілая жанчына. Бацька не вярнуўся з вайны. Мікола ўспомніў, як некалі бегаў з такімі ж, як ён, падлеткамі ў Накаў па пенсію на бацьку. Ніна Іванаўна пусціла слязу.

Пасядзелі за бяседным сталом. Ніна Іванаўна, відаць, папярэджаная сынам аб нашым прыездзе, падала крупеню з грыбамі (гэта такі адмысловы суп), а на другое — смажаную гуску з яблыкамі, ядлаўцовымі ягадамі і часнаком. Прыгадаўся даўні помнік нашай літаратуры — «Прамова Мялешкі»: «Добрая была гуска з грыбкамі». У Ніны Іванаўны — з яблыкамі. Начавалі на сене. Раніцай выйшаў на двор, траву ўсцілала раса. Нізка слаўся дым з коміна, руплівая Ніна Іванаўна ўжо нешта гатавала.

Сняданак — святочны, з дранікамі і чаркай самагонкі. Ціснуў, відаць, неблагі майстра — вінакур. Прадукт атрымаўся са знакам якасці.

— Робім, як для сябе, — патлумачыла Ніна Іванаўна.

Доўга гулялі па Гліннай Слабадзе і завіталі да Міколавага знаёмага Івана. Гаспадар пачаставаў мёдам са свежымі гуркамі. Не абышлося без самагонкі, не горшай, чым у Ніны Іванаўны. Іван — пчаляр-бортнік, трымае свае борці (вуллі) у лесе на дубах. Кажа, што пчолы яго любяць. Пчолы джаляць, калі пах не падабаецца. Калі Мікола кудысьці выйшаў, гаспадар сказаў пра яго:

— Маладзец! Усё дастане. Нырне, а дастане!

У нядзелю паехалі на Прыпяць. Купаліся. Я пераплыў на той бераг і, адпачыўшы, вярнуўся назад. Імклівая плынь аднесла далёка ўбок.

У Мінск вярталіся таксама самалётам.

Канчаю пісаць, бо дужа стаміўся.

**16 жніўня.** Пачаў кашляць, надыхаўшыся свежым палескім паветрам. Павысілася тэмпература. Пазваніў на работу свайму візаві Валерыю Сяргеевічу, сказаў, што захварэў. Гадзіны з дзве ці болей ляжаў на ложку, адчуваючы свой малапрыемны хваравіты стан. Нічога не хацелася. Раптам чую: званок у дзверы. Устаў, адчыніў. На парозе з'явіліся дзве дзяўчыны — Тамара з сяброўкай. Прыйшлі праведаць. Прынеслі шакаладны набор цукерак з лікёрам і іншымі напоямі. Я ўзрадаваўся прыгажуням.

— А як вы мяне знайшлі?

— Пазванілі на работу, Валерый Сяргеевіч падняў трубку і сказаў.

— Ну, дык добра зрабілі.

Тамара агледзела жытло: на падлозе пыл, па кутках павуцінне.

— Дзе ў вас ануча? — спытала.

— Я сам прыбяру.

Але яна кінулася ў ванну, знайшла анучу, намачыла, выціснула лішнюю ваду і пачала шчыраваць. Я міжволі загледзеўся на яе прыгожыя лыткі.

Частаваў дзяўчат чаем з каньяком. Гаманілі.

Цяпер, калі госці пайшлі, успамінаю народную прымаўку: «Каханне не блінцы, а закахаўшыся — канцы». Ну, што ж...

**17 жніўня.** На працы. Наведвалася двое пісьменнікаў. Не буду называць прозвішчы. Ёсць такія. Ходзяць, выпрошваюць узнагароды, прэміі, нагадваюць пра свае юбілеі.

**22 жніўня.** Прачытаў «Вершалінскі рай» А. Карпюка. Слаба. Неяк правінцыйна. А матэрыял цікавы!

**31 жніўня.** Пачуў барадулінскую эпіграму: «Коль на дружбу повелось, ваш — ишак, а наша — Лось». Не, так нельга. Выдатная паэтэса, жанчына...

На паэта К. (ён умее смачна гатаваць, у арміі быў поварам) прыдумаў: «паэт—трыбух». Гэта ўжо занадта.

**3 верасня.** 70 гадоў В. Вольскаму. Я. Герцовіч даў пра яго артыкул «Непаўторнасць», з якога відаць, як устарэла метадалогія гэтага крытыка. Ператварылася ў курэнне фіміяму.

Калісьці, да вайны, В. Вольскі быў дырэктарам Інстытута літаратуры. Цяпер у ценю. У ЦК ні за чым не звяртаецца. Стаў надта ціхмяны. «Цяжар гадоў на карак ціснe, — сумна прызнаўся пры сустрэчы і дадаў: — Як сказаў адзін паэт. Хто — дык ужо не помню».

У пачатку 30-х ГПУ праводзіла вобыск на кватэры Якуба Коласа. Прымаў удзел і Вольскі. «Абмацваў кожны рубчык», — успамінаў Колас. Але што зробіш — час быў такі.

**8 верасня.** У Мінск па запрашэнні А. Макаёнка прыехаў Яўгеній Еўтушэнка. Паэт вядомы далёка, папулярны, і я люблю яго вершы. Свежыя.

На Еўтушэнку нападаюць, але ён не саромеецца даваць здачы. І дае. Хтосьці, праўда, з незычліўцаў сказаў пра яго: «придворный вольнодумец». Зрэшты, яму самому гэта вядома болей, чым каму іншаму. Інакш бы ён не напісаў эпіграмы, прысвечанай свайму цёзку — Яўгенію Далматоўскаму:

Я — Евгений, ты — Евгений.
Я не гений, ты не гений.
Я г..., и ты г... —
Я недавно, ты давно.

Пра сучаснага рускага паэта Юрыя Кузняцова ён гаворыць як пра буйнога паэта-рэакцыянера. Уся паэтыка яго, на думку Еўтушэнкі, гэта казкі Афанасьева і анекдоты.

Макаёнак вельмі задаволены, што паэт аддаў у «Нёман» для першай публікацыі сваю новую паэму «Под тенью статуи Свободы». Прэстыжна!

Радаводныя карані Яўгенія Аляксандравіча — на Палессі.

**10 верасня.** Памёр Антон Алешка. Ваенурач і пісьменнік. У лютым разам ездзілі ў Гродна. Добры чалавек. Вельмі шкадую.

**13 верасня.** Быў у сваім Камянцы на раённай партканферэнцыі. У Кругель не заязджаў, не было як, папрасіў сакратара райкама, каб прывезлі дзядулю дроў. Пасля смерці бабулі Фёклы ў 1959 годзе ён ажаніўся, і я рады, што доўжыцца яго жыццё.

Пастаяў каля Камянецкага Стаўпа. Гэта славутасць маёй радзімы, узведзеная ў 1276—1277 гадах. Гісторыя Камянца глыбокая і драматычная. З 1366 года ён у складзе Вялікага Княства Літоўскага. Пачуўшы аднойчы ад А. Ф. Коршунава, што папраўдзе мы не беларусы, а літвіны, я ўспомніў, што менавіта

літвінам лічыў сябе і дзед мой Лявонцій Міхайлавіч Сцепанюк (пра якога я толькі што згадваў).

**15 верасня.** Праводзіў Тамару. Хадзілі ў кіно. Здаецца, узрадавалася, калі ёй пазваніў.

**17 верасня.** Дзень уз’яднання Заходняй Беларусі з Усходняй. Сёлета пра гэта «свята», здаецца, ніхто не ўспамінае. У мінулым годзе таксама не помню, каб адзначалі.

На Камянеччыне добра памятаюць той час.

**27 верасня.** Званіў з Брэста бацька, сказаў, што дзеду загацілі ўвесь падворак калодамі. А хто яму іх папілуе? Трэба неяк ехаць, дапамагаць. Набыць пілу «Дружба» і ехаць.

**1 кастрычніка.** У «Маладосці» новая аповесць В. Быкава «Абеліск». Даследаванне маральнага патэнцыялу чалавека, яго маральных прынцыпаў.

**3 кастрычніка.** Былі з Сачанкам у Лужаніна. У размове Сачанка паскардзіўся, што прыяцель пазычыў грошы і не аддае. Аляксандр Амвросьевіч — мудрэц! — патлумачыў:

— Калі вы пазычаеце каму-небудзь грошы — гэта значыць, што аддаяце тое, што вам не патрэбна. Аддаяце лішняе. Вы не маеце права патрабаваць іх назад.

Вядома, Барыс Іванавіч з гэтым не пагадзіўся. Ды і я таксама. Нас падтрымала жонка Аляксандра Амвросьевіча Яўгенія Эргардаўна.

Аляксандр Амвросьевіч паставіў на стол бутэльку. Барыс Іванавіч зірнуў на бутэльку (ён амаль не п’е) і расказаў анекдот:

— Урач пытае: «Скажыце, што прымушае вас так напівацца кожны дзень?» — «Нішто і ніхто! — адказвае чалавек. — Я дабраволец».

— Добраахвотнік, — паправіў яго Лужанін.

[…]

**9 кастрычніка.** Усе шукаюць працу для Аляксея Карпюка, які застаўся без працы. Ёсць у гэтым і наша віна. Маю на ўвазе тую камісію, якая правярала работу Гродзенскага аддзялення.

Працу, безумоўна, знойдуць.

**12 кастрычніка.** Адзначалася 75-годдзе з дня нараджэння Міхася Чарота. Адзін з нашых пакутнікаў. А на пачатку 20-х гадоў быў у вялікім фаворы! Пра яго пісаў сам У. Ігнатоўскі, сцвярджаючы, што Міхась Чарот «з’яўляецца адраджэнцам беларускай культуры як культуры пралетарыяў і сялянаў, падняўшыхся на барацьбу проціў палітыка-сацыяльнага, а разам з тым і культурна-нацыянальнага ўціску». Гэта быў час, калі пра паэзію пісалі дзяржаўныя дзеячы. Праца Ігнатоўскага пра Чарота называлася: «Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота» (Мн., 1922).

Цікава было б паглядзець на паэму «Босыя на вогнішчы» праз «карнавальную» метадалогію М. М. Бахціна.

**15 кастрычніка.** На Камароўцы яшчэ з ліпеня распачалі работы па ўзвядзенні помніка Якубу Коласу. Помнік Янку Купалу будзе стаяць у скверы каля музея. Распачата падрыхтоўка да 90-годдзя з дня нараджэння аднаго і другога.

**23 кастрычніка.** У лазні пачуў, як чалавек казаў:

Плакаў я, плакаў,
а Бог быў аднакаў.
А як стаў танцаваць,
пачало шанцаваць.

Народны язык часта лжэ, але лжэ прыгожа.

**3 лістапада.** Дзень нараджэння Якуба Коласа. Разам з Данілам Канстанцінавічам адведалі коласаўскія мясціны на Стаўбцоўшчыне. Паслухаў яго меркаванні, каб быць у курсе справы, што трэба зрабіць да бацькавага 90-годдзя.

**6 лістапада.** Атрымаў святочны заказ у размеркавальніку. Даведаўся, што ў Саўміне, і ў гаркаме, і ў райкаме, і ў ЦК ЛКСМБ, і па іншых установах ёсць свае размеркавальнікі, свае «сталы заказаў».

**7 лістапада.** Сустракаўся з Тамарай. Запрашаў да сябе. Адбываецца, як сказаў бы Цішка Гартны (ці не ў яго я гэта вычытаў?) «марудлівая крышталізацыя пачуцця ў нетрах душы».

**10 лістапада.** У Беларусі адзначана 150-годдзе з дня нараджэння Ф. Дастаеўскага. У вёсцы Дастоева адбыўся юбілейны вечар, на якім з дакладам выступіў Аляксей Майсейчык. Алёша — таленавіты літаратуразнавец. Дастоева знаходзіцца на Брэстчыне, непадалёку ад Пінска. Тут літоўскія (беларускія) карані роду Дастаеўскіх. Дастоева і да гэтага часу наведвае адзін з нашчадкаў Фёдара Міхайлавіча — прафесар механікі Андрэй Фёдаравіч Дастаеўскі (здаецца, унучаты пляменнік, жыхар Ленінграда).

Рыгор Бярозкін нядаўна ў размове сказаў пра Дастаеўскага: «Там на кожнай старонцы ёсць каго любіць».

**11 лістапада.** Вечар з нагоды 150-годдзя з дня нараджэння Ф. М. Дастаеўскага ў тэатры імя Я. Купалы. З дакладам, даволі сухаватым, выступіў прафесар Ф. І. Куляшоў.

Я ўспомніў патрабаванне Дастаеўскага: «Смирись, гордый человек!» Цяжка знайсці пісьменніка больш эмацыянальнага. Чытаючы «Бесы» (па-беларуску — «Д'яблы»?), адчуваў жах ад дзікіх, гарачлівых, шалёных дыялогаў і маналогаў персанажаў гэтага рамана. Не паспее скончыць адзін — як пачынае другі.

Каштоўнасць творчасці Дастаеўскага — бязлітасная праўда пра чалавека. Гэта — з аднаго боку. З другога — павага, вера ў яго.

Пытанні, якія хвалявалі Дастаеўскага, хвалявалі і хвалююць і беларускіх пісьменнікаў, якія ўбіраюць у свой роздум таксама і яго вопыт. Справа ў асаблівасцях таленту. У Я. Брыля ёсць тэндэнцыя акцэнтаваць маральны пачатак за кошт замоўчвання, «згладжвання» жыццёвай праўдзівасці. Пташнікаў, наадварот, больш прыземлены, рэаліст, нават «натураліст», яму трэба, відаць, большай духоўнай прасветленасці. У нас Дастаеўскім, у плане ўплыву яго творчасці на беларускую літаратуру, асабліва на Чорнага, вельмі зацікавіўся Алесь Адамовіч.

**12 лістапада.** Сустракаўся з Тамарай. Канчаткова павярнулася на сур'ёзнае.

**15 лістапада.** Нарада ў загадчыка. Гаворка пра паводзіны супрацоўнікаў: «Вы павінны прыстойна сябе паводзіць, таму што на вас звяртаюць увагу». Я згодзен, і нагадаць пра гэта не шкодзіць.

**27 лістапада.** Маё з Тамарай вяселле. У рэстаране «Журавінка». Прыязджалі бацькі, родзічы, дзядуля Лявонцій Міхайлавіч, цесць, цешча...

**29 лістапада.** Перад клубам творчай і навуковай моладзі Мінска выступаў вядомы кінарэжысёр Сяргей Параджанаў (аўтар фільма «Цені забытых продкаў» і інш.). Гэта было ў Доме акцёра, дырэктар якога запісаў выступленне Параджанава на магнітафонную плёнку і прынёс плёнку да нас, у ЦК.

Параджанаў сцвярджаў, што ведае наш беларускі менталітэт лепш, чым мы самі. Справа, маўляў, не толькі ў тым, што беларусы любяць бульбу.

**30 лістапада.** Скончыў самагубствам Уладзімір Корбан. А нядаўна ж (у мінулым годзе) у добрым настроі адзначаў 60-годдзе! Што здарылася?

**7 снежня.** Адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча.

Упершыню ўбачыў яго партрэт і прачытаў вершы зімою 1945 года, калі вучыўся ў першым класе Кругельскай пачатковай тады школы. Вершы кра-

нулі: «Здароў, марозны звонкі вечар!» Адчуў, што гэта пра наш вечар і пра наш мароз.

Максім Багдановіч — геніяльны наш лірык. З яго вершаў помніцца многае.

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую, сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

Верш чытаецца як напісаны сёння.

Творчасць паэта ўвабрала ў сябе вялікае багацце сусветнай інтэлектуальнай культуры. Ён, мне здаецца, быў нават няблага знаёмы з вучэннем З. Фрэйда, які прыдумаў тэрмін «Яно» для абазначэння сферы безасабовага, тых інстынктыўных нахілаў, якія складаюць аснову фарміравання жыцця чалавека.

Набягае яно
Вечарамі, начамі,
Адчыняе вакно
І шамрэе кустамі.

І гавора адну
Старадаўнюю казку —
Аб любоў і вясну
І жаночую ласку.

Сэрца сніць аб красу —
Аб слядочак дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы...

Вершаскладаннем М. Багдановіча займаецца І. Ралько, які звярнуў увагу на выключна багаты метрычны рэпертуар паэта: 101 вершаваны памер.

**10 снежня.** Усе кажуць, што вельмі прыстойна было адзначана 80-годдзе М. Багдановіча. Прыемна чуць.

Трэба помнік і Максіму.

**17 снежня.** У Маскве запланавана правядзенне Савета па беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў СССР. Наважыліся абмеркаваць ход падрыхтоўкі да 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа ў галіне перакладу і выданняў. Удзельнічаць у пасяджэнні Савета даручана мне.

**18 снежня.** Даведаўся пра смерць Аляксандра Твардоўскага. Днём быў (разам з Тамарай) у філармоніі на сустрэчы з паэтамі Расулам Гамзатавым, Кайсынам Куліевым і Міхаілам Дудзіным — яны і паведамілі гэтую сумную навіну.

Заўтра еду (разам з групай беларускіх літаратараў) у Маскву на пасяджэнне Савета па беларускай літаратуры і выходзіць, на пахаванне Твардоўскага.

Асоба Твардоўскага бачная была здалёк. Са школы любіў яго «Васілія Цёркіна», іншыя творы, вершы.

**20 снежня.** У Маскве, на Беларускім вакзале, як звычайна, сустракала Валянціна Шчадрына з «рафікам». Прыехалі ў Саюз пісьменнікаў на вуліцу Вароўскага. Труна ўжо стаяла на сцэне ў вялікай зале ЦДЛ. Каля труны —

ганаровая варта з пісьменнікаў. Давялося пастаяць і мне. Зала запоўнена людзьмі. Процьма народу. Пазнаў акцёраў Ульянава і Высоцкага. Сустрэў калегаў — Грыбанава і інш. — з аддзела культуры ЦК КПСС. Вельмі здзіўлены маім з'яўленнем у Маскве, на гэтым пахаванні. Пісьменнікам з рэспублік прыязджаць не рэкамендавана. Ад беларускіх пісьменнікаў адзін толькі А. Куляшоў, асабісты сябар. Потым пад'ехаў яшчэ і В. Быкаў.

На паніхідзе выступалі К. Сіманаў і інш. У канцы нехта ў зале закрычаў, нейкая жанчына, абвінавачваючы ў смерці паэта кіраўніцтва СП. Да яе праціснуліся людзі ў цывільным і вывелі з залы.

Хавалі на Новадзявочых могілках. Першым камяк мерзлай зямлі кінуў Салжаніцын. Камяк гулка грукнуў па вечку дамавіны. Потым Салжаніцын падышоў да магілы Хрушчова, якая знаходзілася побач, і нізка пакланіўся.

Памяналі ўскладчыну ў адным з маскоўскіх рэстаранаў. Быў Быкаў і некаторыя блізкія яму маскоўскія літаратары.

Няма Твардоўскага, мне гэта баліць.

**21 снежня.** Адбылося пасяджэнне Савета па беларускай літаратуры. Гаварылі ў асноўным пра пераклады твораў Купалы і Коласа на рускую мову, пра іх выданне ў парадку падрыхтоўкі да юбілеяў у маскоўскіх выдавецтвах.

**24 снежня.** «ЛіМ» з некралогамі. Кароткі водгук П. Панчанкі «Развітанне»:

«Цяжка і горка гаварыць аб гэтай незваротнай страце. Пасля смерці Маякоўскага не было такога вялікага гора ў савецкай паэзіі. Абое яны былі найвялікшымі песнярамі сацыялістычнай Радзімы.

«Краіна Муравія» — выдатная паэма Аляксандра Твардоўскага, яна была і ёсць лепшым паэтычным творам пра людзей эпохі калектывізацыі. «Васілій Цёркін», паэма, вершы ваенных гадоў былі грознай зброяй у змаганні з фашызмам. «За даллю даль» уражвае чытача сваім размахам, свежасцю паэтычных фарбаў, сілай абагульнення.

Усё жыццё Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага — паэтычны і грамадзянскі подзвіг у імя камунізму. Яго творы будуць жыць вечна.

Мы нізка схіляем галовы над салдацкай магілай выдатнага рускага савецкага паэта Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага».

Я згодзен з Панчанкам. Твардоўскі, між іншым, сказаў, што толькі тое застанецца ў гісторыі, што атрымае пацвярджэнне ў літаратуры.

**26 снежня.** Адзначаў разам з Тамарай дзень нараджэння. Запрасілі Лёню.

**27 снежня.** Нядзеля. З раніцы з Тамарай хадзілі ў бліжэйшы гастраном, дзе дырэктар усімі паважаны Пекер. У Мінску ўсё болей магазінаў самаабслугоўвання, але да Пекера гэтае наша наваўвядзенне яшчэ не дайшло.

Тое-сёе купілі пад Новы год.

**31 снежня.** У «ЛіМе» адказы пісьменнікаў на навагоднюю анкету. Піліп Пестрак:

«У перспектыве мне бачацца палескія балоты і змагары, якія іх асушваюць. Ужо даўно хочацца пра іх напісаць. Асушка Палесся разумеецца мною, як справа гістарычнай важнасці ў Беларусі, як пачатак новай эпохі ў гісторыі нашага землязнаўства і яго культуры.

Удалося пазнаёміцца з раманамі «Мсціжы» Івана Пташнікава і «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава. Лічу гэтыя творы ўдалымі».

Свае адказы змясцілі І. Шамякін, А. Савіцкі і інш. Ні чым надта не парадавалі.

***Працяг будзе.***



## Уладзімір МАЗГО

### МІРСКІ ЗАМАК

І я спяшаюся таксама
У Мір,
Нібы цікаўны госць,
Дзе самы мірны —
Мірскі —
Замак
Адкрыў стагоддзяў прыгажосць,

Каб хоць на хвілю дакрануцца
Да абарончай моцы сцен,
Да нашай велічы вярнуцца
З часоў мінулых перамен,

Цераз вякі
Зірнуць навокал
Вачамі вежавых байніц,
Каб берагчы як зрэнку вока
Сваю Радзіму,
Бараніць.

Сабе нанова прапісныя
Адкрыем ісціны быцця,
Дзе продкаў вежы крапасныя
Бароняць нас ад забыцця.

---

***Мазго Уладзімір Мінавіч** нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у выдавецтвах «Юнацтва» і «Мастацкая літаратура», у часопісе «Вясёлка». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».*

*Аўтар кніг паэзіі «Пад спеў крыніц» (1982), «Вершаліна» (1987), «Марафон» (1992), «Анёл нябесны» (2007), а таксама кніг для дзяцей «Калі спрачаюцца маланкі» (1989), «Суседзі па сусвеце» (1994), «Смехапад» (1999), «Прыгоды марахода» (2002), «Цуда-вуда» (2008), «Таямнічая планета» (2008).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

## БЕРАСЦЯНКА

Ты не заснеш ізноў да ранку,
Нібыта вецер у трысці,
Калі згадаеш берасцянку
У старажытным Берасці.

Яна спускалася з аблокаў
На гістарычныя пласты,
Дзе з глыбіні зямных вытокаў
Дамы ўставалі і платы,

Дзе адкрываліся сакрэты
Часін далёкіх і падзей,
Нібы другіх,
Як горад гэты,
Няма на свеце анідзе.

Жадаеш ты бесперастанку,
Што намі згублена, знайсці,
Калі згадаеш берасцянку
У старажытным Берасці.

* * *

Паклон табе, Нясвіжчына,
Што зберагла, —
Не знішчыла,
Нашчадкам адрадзіла
Багацці Радзівілаў.

У душах экскурсантаў
Гучыць,
Нібы саната,
Чароўная мелодыя
Кірылы і Мефодзія.

Мы будзем захапляцца
Шэдэўрамі палацаў,
Што сталі ў хвілю гэту
Нам восьмым цудам свету.

## АЎГУСТОЎСКІ КАНАЛ

Мінуўшчыны дух не сканаў,
Нібы абярэг у паходзе.
Лязом Аўгустоўскі канал
Разрэзаў абсягі стагоддзяў.

Працяўшы лясы і палі,
Блакітная водная жыла
Надзеямі,
            быццам праліў
Марскі,
         галаву закружыла.

Аблокі павольна плывуць,
Як лодкі,
            ад Нёмна да Віслы.
Шпурляе пярун у траву
Маланкі,
            чакаючы візы.

Нібыта былы кардынал,
Што веру не здаў паняверцы,
Прыйшоў Аўгустоўскі канал,
Злучыўшы стагоддзі і сэрцы.

## НОВЫ НОЙ

Хапае вецер за крысо.
Трапеча птахам
Парасон.
Дзяўбуць, што кроплі,
Думкі ў лоб:
«Мо лівень
Выльецца ў патоп?»

Брыдзеш
З трывогаю зямной,
Нібы даўно забыты
Ной.
Шукаеш
Страчаны каўчэг,
А над зямлёй —
То дождж,
То снег.

## У ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

У Дзень святога Валянціна
Знячэўку ўразіла карціна:
Спаткаў Яе
                  Ён на двары —
І свет кульнуўся дагары.

Агонь нябёс ярчэй палаў,
Калі Яе
Ён мілаваў.
Быў сведкам гэтага адзін
Ад шчасця п’яны Валянцін.

## ДЫПТЫХ ЛЕТА

**1**

Дзівы
Клічуць на Мальдзівы,
Цуды
Вабяць да Піцунды.
Вецер,
Божа літасцівы,
Гоніць парусныя судны.

Мроя,
Мроячы высока,
Знічкай падаючы,
Плача,
Бо,
Парослая асотам,
Спрытных рук чакае дача.

**2**

Тут з маладою маладзён
Адчулі жарсць спякотных дзён,

Дзе хвалі нам хвалююць кроў,
Нібы хаўрусніцы вятроў.

Авансам мора раздае
Прызнанні шчырыя свае

І страсна б’ецца аб прычал
Твайго дрыготкага пляча.

Дзівоснай музыкай гучыць,
Што сэрцы здолела злучыць.

А навальніца, як тыгрыца,
Раве, шалеючы, над Рыцай.

## БЕРАГ НАДЗЕЙ

Наш ветразь, вітаючы далі,
Акрэсліў нямала кругоў,

Калі мы знянацку прысталі
Да цёмных, як ноч,
Берагоў.

Зваліла няўмольная змора
І вёслы адкінула ўбок,
Бо чорнае гора,
Атруціўшы мора,
Давала за ўрокам урок.

А вера —
Свяцілася быццам,
Спрыяючы выйсце знайсці,
Са шляху не збіцца,
Між хваль не згубіцца,
Да мэты жаданай дайсці,

Дзе скорыцца мужным стыхія,
А воля адужыць палон,
Дзе словы пачуюць глухія,
Сляпыя —
Убачаць святло.

У промнях вячыстага сонца —
Бліжэй і бліжэй да людзей —
Адкрыецца бераг надзей
У роднай
Пакутнай старонцы.

### ЛЮДЗІ І ЗОРКІ

Прыходзяць людзі
І сыходзяць.
І патухаюць,
Як агні.
А ў небе зоркі карагодзяць
У недасяжнай вышыні.

Калі зямныя гаснуць зоркі,
Што ні кажы,
Як ні тужы,
А застаецца прысак горкі —
І на зямлі,
І на душы.

* * *

Згадаем родныя лясы —
Маленства гай,
Дзяцінства бор —

Абудзяць птушак галасы
Сагрэты сонейкам прастор.

Тут у вакно хаціны лес
Галінкай дрогкаю сасны,
Як злодзей,
Ціхенька залез,
Украўшы ранішнія сны.

Вітае нас птушыны грай
Неспадзявана,
Быццам гром,
Каб мы грыбны адчулі рай,
Між дрэў блукаючы з вядром.

Бо нас чакае праз гады
І родны гай,
І родны бор.
Бо саграває ў халады
Нязгаснай памяці касцёр.



**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# ЛІСТ ДАДОМУ

*Апавяданне*

«Добры дзень, дарагія мама, тата, Паўлік і Танечка! Вось ужо праляцела пяць дзён, як я зноў служу на граніцы, — малодшы сяржант Мікалай Салаўёў зірнуў у акно, якое выходзіла на пушчу, і міжволі залюбаваўся стройнай беланогай бярозкай з густой зялёнай кронай. Якраз такая ж расце і каля бацькавай хаты на яго роднай Быхаўшчыне: пасадзілі з татам, калі пайшоў у першы клас. Цяпер і яна выцягнулася, нібы прыгажуня вясковая.

Воін-пагранічнік узняўся з-за стала і падышоў да акна. Бяроза стаяла ў пяці кроках ад казармы. Праз адчыненую фортку чуваць быў пяшчотны шолах духмянай лістоты. Падалося, што дрэва ад ягонага позірку страпянулася, нібы прывітала, падбадзёрыла: «Не сумуй, усё будзе добра!»

Мікалай вярнуўся за пісьмовы стол. — «Для праходжання далейшай службы мяне накіравалі на адну з брэсцкіх пагранічных застаў, многія зайздросцілі. І не дарэмна! Размешчана ў знакамітай Белавежскай пушчы. Якія гэта маляўнічыя мясціны! Сустрэлі мяне вельмі добра. Хлопцы тут усе як на падбор, цягавітыя. Атмасфера выключна сяброўская. Начальнік заставы і яго намеснікі — патрабавальныя, але клапатлівыя — нядаўнія выпускнікі нашай Ваеннай акадэміі. Адзін старшына — старажыл, служыць пятнаццаць гадоў. Усё ў мяне пакуль добра, служба ідзе нармальна, спакойна, без якіх-небудзь надзвычайных здарэнняў. У нас тут маецца і свая невялічкая гаспадарка, некалькі кароў, свіней, сад, агарод... Да таго ж ёсць і гасцінныя шэфы. Забеспячэнне проста выдатнае, таму, мама, не хвалюйся, з харчаваннем усё цудоўна, я нават папаўнеў. Служыць вельмі цікава, небяспечнага нічога няма...»

---

*__Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч__ нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.*

*Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці» (1989), «Час надзеі» (1991), «Любі і помні» (2006), «Святое правіла...» (2008) і інш., «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» (1988), многіх кніг для дзяцей, а таксама кнігі прозы «Паміж радасцю і болем» (2010).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2009).*

Мікалай перавёў дыханне, уявіў маці — настаўніцу пачатковых класаў; яна не сядзіць зараз над сваімі сшыткамі, як да водпуску, а, магчыма, завіхаецца на кухні... Бацька, відаць, вярнуўся з працы, прынёс свежыя газеты, праглядае перад вячэрай і дзеліцца навінамі. Ён таксама служыў у пагранічных войсках, у элітных, як часта падкрэсліваў, бо далёка не кожнаму davepаць ахову дзяржаўных межаў.

«Тата, ты не хвалюйся, не падвяду. Закіснуць мне тут не дадуць, сам разумееш добра. Адным словам, парадак поўны. Тройчы быў ужо ў дазоры, нават ноччу. Адчуванні — не выказаць... Увогуле, трэба будзе нам з табою, тата, паразмаўляць больш дэталёва наконт майго далейшага лёсу... Я хачу абмеркаваць тваю параду стаць прафесіянальным абаронцам Радзімы...»

Малодшы сяржант Салаўёў паклаў на стол ручку, задумаўся. Калісьці, зрэшты, як і многія хлопчыкі, ён марыў стаць касманаўтам, затым геолагам. Пазней захапіўся камп’ютарам, пацягнула да складанай тэхнікі... Пасля заканчэння школы ва ўніверсітэт не паступіў, не хапіла балаў, а на платнае навучанне і не разлічваў: «навошта такое пакаранне сям’і, не выцягнуць бацькі, заробкі не дазволяць...»

«Як там Паўлік? — працягваў Мікалай. — Старайся, дарагі брацік, пабольш чытай разумных, сур’ёзных кніжак. Не губляй часу на пустыя дэтэктывы ды крымінальныя раманы. Не засмечвай імі галавы. Запомні: класіка — гэта вечнае і мудрае, гэта — аснова, на якой фарміруецца душа чалавека. Актыўней займайся спортам і дапамагай бацькам. Беражы маму ад фізічных нагрузак, табе яны — карысныя. Выбачай, братка, за натацыі, але ведай: працавітасць, здароўе і веды ў наш няпросты час — на вагу золата. А час такі, што ўсё будзе залежаць ад нашых рук і галоў. Вось табе яркі прыклад. На суседняй заставе некалі служыў наш Прэзідэнт. Пачынаў радавым, між іншым. І, уяўляеш, усяго ў жыцці дабіўся сам! Настойлівасцю, працавітасцю, стараннасцю! А які моцны характар! Захапленне спортам! У сусветнай палітыцы разбіраецца будзь здароў! Ты бацьку распытай пра ўсё, ён табе раскажа як мае быць... Хачу пабываць на заставе, дзе служыў кіраўнік нашай дзяржавы. А ён, дарэчы, быў там нядаўна. Вось пашанцавала хлопцам! З самім Прэзідэнтам чай пілі!.. Карацей, Паўлік, я гэта кажу да таго, каб ты больш актыўны быў у школе і дома. І ведай, што не святыя гаршкі лепяць. А калі з цягам часу паклічуць у ваенкамат, мар толькі аб пагранвойсках. Марыць мар, але ж і сам не рабі промаху, браток. Напішы мне пра свае справы, праблемы і поспехі... Падзяліся, мажліва, падкажу нешта, дапамагу...»

У пакой зайшоў радавы Васіль Голубеў.

— Прывітанне, Калян! Дадому пішаш? Страчы, страчы, пакуль час вольны маеш, а то штосьці на суседняй заставе неспакойна, могуць і нас падключыць...

— Ды некалькі слоў родным патрэбна напісаць, усё ніяк не выпадала раней, амаль тыдзень на заставе, лічы...

— Я таксама ўсё заняты, то ў дазоры, то на гаспадарцы, то на прыродзе — не адарвацца. Лета вакол такое, ходзіш, быццам п’яны. Вось камандзір прымусіў пісьмо маці чыркнуць, двойчы ўжо званіла, хвалюецца, а мяне якраз на заставе не было, калі яна тэлефанавала. — Васіль усеўся за суседнім сталом, дастаў паперу і ручку. А Мікалай працягваў: «Танюшка, дарагая мая сястрычка, вялікае прывітанне табе з Белавежскай пушчы. Вось бы табе сюды на дзянёк-другі з тваім эцюднікам. Якія чароўныя пейзажы тут! Якія зубры пахаджваюць! А дубы! Ёсць нават такі, якому, як кажуць, больш за семсот гадоў. Уяўляеш, чаго толькі не бачыў ён за гэтакі прамежак часу! Між іншым, непадалёку ад нас знаходзіцца рэзідэнцыя Дзеда Мароза. Будзеш добра

вучыцца ды маме дапамагаць — абавязкова атрымаеш пасля ад яго сапраўдны дзедамарозаўскі падарунак. Таму напішы мне, загадвай жаданне...»

Дапісаць пісьмо Мікалай не паспеў — прагучаў сігнал трывогі, і ён разам з Васілём пабег на пастраенне.

* * *

Прыкладна ў гэты ж самы час у глыбіні Белавежскай пушчы па звілістай сцежцы ішоў чалавек. Быў ён малады, хударлявы, невысокі. Яго цёмна-карычневыя вочы і чорная шчэць на смуглявым твары неяк не спалучаліся са светлымі, яўна пафарбаванымі валасамі. На ім быў спартыўны касцюм зялёнага колеру, на нагах — чорныя красоўкі. Падарожнік быў стомлены і нечым надта незадаволены. У руках ён трымаў аб'ёмны пакет і нож, які па форме нагадваў кінжал. Калі б хтосьці ўважліва прыгледзеўся, то мог бы здагадацца, што з-пад касцюма ў чалавека выпірае пісталет. Грыбы, вядома, падарожнік не збіраў і апынуўся тут таксама не з-за іх. У думках невядомы праклінаў усё на свеце. Ва ўмоўленым месцы, дзе яго павінен быў сустрэць праваднік, паслугі якога былі аплачаны з лішкам, як, дарэчы, і праезд падарожніка ў бочцы загружанага КамАЗа з Падмаскоўя да Белавежскай пушчы, нікога не аказалася. І ён марна чакаў, круціўся там як уюн на гарачай патэльні ажно восем гадзін.

Калі ж пачало змяркацца, на свой страх і рызыку чалавек паглыбіўся ў пушчу, забраўся на мажную елку, прывязаўся і так пераначаваў. Спаць у такім стане, вядома, немагчыма было, і ён радаваўся, што бяссонніца апанавала яго. І не такое даводзілася трываць. І ў Чачні, і па дарозе ў падмаскоўны гарадок, ды і ў самой золатагаловай. Паўдзельнічаў ён і ў баях — на радзіме, калі браты завялі ў горы, і ў Кізляры... Праваахоўныя органы выйшлі на іх групу, і ён вымушаны быў тэрмінова ўцякаць. Хаўруснікі вырашылі накіраваць яго ў Польшчу, дзе б ён мог крыху адседзецца. Ну, а далейшы лёс Аслана, менавіта так звалі падарожніка, павінен быў вырашыць эмісар, які акапаўся ў самім Лондане. «Мне б толькі сустрэць некага з мясцовых, я з яго кішкі дастану, калі не дапаможа перабрацца цераз калючку, абмінуўшы дазоры і заставы, — разважаў бандыт. — Трэба ж так пракалоцца з праваднiком... Шакал! Грошы ўсе любяць...»

Падарожнік прысеў ля сасны. Прыслухаўся. Насцярожана, нібы асуджальна шумела пушча. «У Беларусі, — паглыбіўся ён зноў у свае думкі, — не ўсё распрадаецца. Тут не дазволена грашовым дзялкам за бесцань прыхопліваць спакуслівае народнае багацце... Не тое, што ў Расіі было... Давялі там... Уцякаць даводзіцца... Але нічога... Неяк выкручуся. Не з такіх пастак выбіраўся... Галоўнае — не памыліцца, прадумаць усё да драбніц, перахітрыць, злаўчыцца, дайсці...»

Раніцай, даеўшы рэшткі харчоў, Аслан накіраваўся на захад. «Дрэнна, што я адзін, — злаваў ён на арганізатараў уцёкаў, — казаў жа, што лепей прабірацца групай — больш надзейна... А так што адзін? Не наваюеш, не адаб'ешся, калі што...»

Бліжэй да вечара бандыт заўважыў зводдаль за дрэвамі нейкія пабудовы. Гэта была пушчанская вёсачка. Падышоўшы бліжэй, ён выбраў зручнае месца і стаў чакаць. Крыху больш як праз гадзіну на сцежцы паказаўся пажылы мужчына, у руках той вёў веласіпед. Аслан выйшаў насустрач вяскоўцу:

— Дарагі, дзе тут дарога, заблукаў я зусім, заблытаўся... Ад групы адстаў, пушчай любуючыся... Баюся, каб на заставу не трапіць, граніцу не парушыць, — заўсміхаўся ён, — відаць, яна блізка недзе? Ты пакажы, дарагі, куды не трэба хадзіць...

— Застава?.. — Вясковец прыгледзеўся да незнаёмца і пасля хвіліннага роздуму, нават і не здзівіўшыся, прапанаваў: — Але ж позна, лепш заначаваць у вёсцы, а заўтра што-небудзь прыдумаем... Далекавата ж вас занесла...

— Вось дзякуй, добры чалавек! — прытворна ўсміхнуўся Аслан, — яно і сапраўды лепей заначаваць. Пераначуем — болей пачуем, ды і ногі збіў за дзень, ледзь валакуся....

Пажылы мужчына прывёў падарожніка да сваёй сядзібы і паказаў на хлеў:

— Размяшчайцеся на сене. Я сёе-тое перакусіць прынясу... У хаце ў мяне не прыбрана, адзін жыву... А на сене і больш свабодна, і паветра свежае...

— Вось ужо сапраўды Алах мне вас паслаў, — пачаў Аслан і асекся, нібы абпаліўся словам «Алах» — каб хоць не западозрыў дзед...

Вясковец пайшоў у хату і праз нейкі час прынёс талерку з ежай.

— Дык кажаш, граніца там? — махнуў бандыт рукой у бок лазні. — Кіламетры тры-чатыры будзе, напэўна?

— Дык ніхто ж не мераў, — ухіліўся ад адказу дзед. — Добрай ночы! Раніцай разбуджу. Мажліва, сусед на машыне прыедзе, дык падкіне да вялікай дарогі.

Калі дзед пайшоў, Аслан адставіў убок талерку: «Нешта не падабаецца мне гэты хлебасол, не надта гаваркі, паслужлівы, ці не падазрае?..»

Ён усё ж-такі ўзяў у рукі талерку, голад не цётка. Пачаў жаваць хлеб з агурком і мясам. Трывожныя думкі адна за адной лезлі ў галаву: «Выдасць ён мяне... Неабходна змывацца, пакуль не прывёў нікога... Ноччу зазірну ў хату... Нідзе не дзенецца — перавядзе праз граніцу, а там — затычку ў рот і да дрэва прывяжу... Калі перавядзе, вядома...»

Пакінуўшы прышэльца ў хляве, вясковец накіраваўся да Пятровіча, які жыў праз тры сядзібы і быў у вёсцы старшым.

— Пятровіч! На ўсялякі выпадак ведай: нейкі чалавек заблукаў у пушчы. Акцэнт не наш, Алаха згадвае. А што да чаго — не ведаю. Начуе ў мяне на сене. У хату не паклікаў, ліпучы нейкі, ці што...

— К-хе-хе, — закрактаў Пятровіч. — Усё можа быць на белым свеце. Але сцеражонага, Сцяпан, Бог сцеражэ. Будзь абачлівым у хаце. Зашчапіся надзейна, ды стрэльбу на ўсякі выпадак побач трымай... Сам ведаеш, жыццё наша — прыгранічнае, не ўпершыню трымаць вуха востра...

Вярнуўшыся дамоў, Сцяпан надзейна зашчапіў дзверы і лёг спаць. У пушчы ён жыве змалку. Рознае здаралася, і чужынцы часам завітвалі. Праўда, не злыя людзі. Усё больш афганцы і в’етнамцы. Ім у Еўропу вельмі моцна хацелася. Толькі ж дзе там. Пагранічнікі сваю справу ведаюць добра. Чуў ён, што іх затрымлівалі ды назад адпраўлялі, адкуль з’явіліся. Можа, гэты ад вайны ўцякае?.. У пушчы Сцяпан даўно жыве адзін. Жонка пайшла ад яго, з’ехала з вёскі, не вытрымаўшы цішыні і адзіноты. Не склалася ў іх, не заладзілася адразу. Але хіба ён вінаваты: прырос да родных мясцін, адчувае і разумее тут кожнае дрэва, кожную птушку, у любое надвор’е яму добра і ўтульна ў пушчы. А жонка замаркоцілася, жыве цяпер у сына ў сталіцы... Ды і не пушча вінавата. Калі кахаеш чалавека па-сапраўднаму, хіба прырода гэтаму перашкода? Наадварот. Што там у горадзе смуродным адчуеш у душы? Іншая справа тут! Жыві, дыхай напоўніцу, атрымлівай асалоду!.. Дрэнна, калі людзі ўцякаюць ад прыгажосці. Яшчэ горш, калі парушаюць яе. Чалавек жа часцінка прыроды і без яе загіне. Таму ў горадзе featured рознага бруду шмат... Што ж гэта будзе, калі ўсе зямлю родную кінем, збяромся ў каменных пачварах?.. І чалавек акамянее, не будзе здольным пачуць, як пяшчотна перагукваюцца лясныя фіялкі. Ад такога тады дабра не чакай...

* * *

Падмацаваўшыся, Аслан зноўку паглыбіўся ў роздум. Успомніў маці. Яны жылі ў горным ауле на беразе бурлівай рачулкі. Раніцай маці клапатліва будзіла яго і збірала ў школу. Ён часта бегаў на шумлівы бераг, займаўся фіззарадкай. Удалечыні віднеліся невысокія горы, вабілі сваімі непаўторнымі фарбамі на ўсходзе сонца. Было свежа і светла навокал, спакойна і мірна на душы. Побач пасвіліся авечкі, у гаёчку спявалі птушкі. Людзі паважліва віталі адзін аднаго, жадаючы радасці на ўвесь новы дзень. Маці праводзіла яго да аўтобуса, на якім ён з сябрамі ехаў у школу, а пасля заняткаў вяртаўся дамоў. Маці радавалася яго поспехам і часта казала:

— Вывучышся, сынок, станеш архітэктарам і пабудуеш самы прыгожы ў акрузе дом непадалёку ад школы. І мы з татам прыедзем жыць у ім. І я буду раніцай вадзіць у школу ўнукаў. А школа таксама будзе новая, са спартыўнай залай, басейнам. А вакол школы — мора кветак...

І вось — ні маці, ні бацькі, ні старэйшага брата, ні школы, ні новага дома... Усё разбурана і знішчана вайной. І людзі пачалі забіваць, а не вітаць адзін аднаго. Хто вінаваты? Каму розум зацямніла? Хіба мала было свабоды? Хто нацкаваў людзей на людзей, быццам дзікіх шакалаў? Хтосьці асуджае Гарбачова, іншыя — Ельцына, трэція Дудаева і гарачлівых горцаў... Напэўна, вінаваты ўсе разам, калі дазволілі сябе ўвесці ў зман, кінуць у вогненны вір, нібы траву ў бурлівую горную плынь... Так разважаў ён у хвіліны прасвятлення сэрца, калі незразумелая злосць адступала.

Паступова Аслан заснуў салодкім, моцным сном. І яму прыснілася маці. Яна пільна глядзела ў ягоныя вочы, плакала і прасіла прабачэння: «Даруй, сынок, што не здолела ўберагчы цябе ад жорсткасці... Даруй, што тваё сэрца зрабілася каменным...»

Ён прачнуўся ад гэтага матчынага плачу, а дакладней, ад сваіх балючых слоў у адказ: «Мама, гэта ты даруй мне, што спалены наш дом, што загінулі вы з татам, што мы наклікалі бяду на родны парог...»

Ён доўга ляжаў на сене, зразумеўшы, што маці толькі прыснілася, засмуціла, але быў ужо нейкім іншым, больш мяккім ці што? Нібыта сон размякчыў яго сэрца. І гэта інакшае пачуццё змагалася ў ім з яго ранейшымі задумамі і планамі...

Аслан выбраўся на дворышча, падышоў да хаты. Паспрабаваў адчыніць дзверы, але яны не паддаліся. Падбег махнаты сабака, завіляў хвастом, мабыць, памятаючы смачны кавалак мяса з яго рук учора вечарам...

«Спаліць, ці што гэтага дзеда з ягонай хацінай? — зласліва падумаў Аслан і пачаў намацваць у кішэні запалкі. Але раптам у цемры нібыта ўзніклі заплаканыя матчыны вочы... — Не, зарыва заўважаць, і я не здолею схавацца як след...» — схамянуўся бандыт.

Нагледзеўшы ў паўзмроку бервяно, ён падпёр ім сенцы, затым адступіў убок, зірнуў на неба. Далягляд з аднаго боку крышачку асвятліўся, і ён пакрочыў у процілеглым кірунку:

«Што будзе, тое будзе. Калі не прарвуся, то схітрую, маўляў, у французскі легіён хацеў прабрацца... А пакуль будуць разбірацца, хто, куды ды адкуль, там, магчыма, і збегчы змагу... Але мяне не проста ўзяць! А сабакі след не пачуюць, сродак у мяне надзейны, выпрабаваны неаднойчы...»

* * *

Ноч на заставе, дзе служыў малодшы сяржант Мікалай Салаўёў прайшла ў трывожных клопатах. Пасля паведамлення з суседняй заставы аб магчымай

спробе перайсці дзяржаўную граніцу асабліва небяспечным злачынцам усё ішло ў надзвычайным рэжыме. Была задзейнічана ўся застава. Узмоцненыя дазоры неаслабна патрулявалі давераны ўчастак. Рэзервовыя групы перакрылі магчымыя шляхі падыходу да граніцы, пільныя сакрэты занялі вызначаныя месцы назірання. Тэхніка стаяла напагатове. Сувязь пастаянная. У 14:12 спрацавала сігналізацыя. Праз тры хвіліны начальніку заставы Мікалаю Пятрэнку далажылі, што выпадковым парушальнікам стала аленяня. Знясіленае, павалілася проста на кантрольна-следавай паласе. Напэўна, захварэла моцна і прыйшло прасіць дапамогі ў людзей. Разумная жывёліна.

— Калі хутка не ачухаецца, — вязіце сюды, — загадаў начальнік заставы старшыне Іванюку, адпраўляючы яго з двума байцамі на ўазіку да месца спрацоўкі сігналізацыі. — Тут выхадзім, інакш загіне малое. Ды і як не дапамагчы — жывём жа ў адным, лічы, доме. Закон пушчы!

Калі ўазік адбыў, старшы лейтэнант Андрэй Саломін, ён жа намеснік начальніка заставы па аператыўнай рабоце, далажыў Пятрэнку аб атрыманым паведамленні ад члена добраахвотнай дружыны садзейнічання пра з’яўленне падазронага ў вёсцы Барсукова.

— Прыкметы супадаюць, таварыш начальнік заставы!

— Паведаміце суседзям злева і справа, праінфармуйце крымінальны вышук.

—Ужо зроблена. Група з райаддзела — на дарозе ў Барсукова. Адтуль нам паведамяць.

— Ну што ж, пайду далажу начальніку штаба. Аб змяненнях абставін адразу ж дакладвайце.

* * *

Малодшы сяржант Салаўёў з двума байцамі вяртаўся з дазору. Цёплая летняя ноч была на зыходзе. Нічога асаблівага за некалькі гадзін нясення службы не заўважана, аб чым, як належала, час ад часу паведамлялі на заставу. Зрэшты, нічога не адбылося і на ўсім участку граніцы, калі не лічыць, вядома, «папаўнення» чатырохногім сябрам аленянём. Гадзіну таму назад старшына Іванюк, аказаўшы першую ветэрынарную дапамогу, прывёз яго на тэрыторыю заставы. Малайчына, здагадалася «пастукацца» да пагранічнікаў: «ратуйце, маўляў, без вашай дапамогі не абыдуся». А старшыне не ўпершыню лячыць «братоў нашых меншых».

Нечакана развагі малодшага сяржанта абарваў выразны хруст ламачча. Дазор замёр на месцы, аўтаматы напагатове.

— Радавы Ракіта, — шапнуў Салаўёў аднаму з воінаў, — разведайце, што за трэск...

Праз некалькі хвілін радавы Ракіта падаў умоўны сігнал: дзік. Павольна абышлі мясцінку, дзе харчавалася жывёліна. І толькі перад самай заставай радавы Ракіта з палёгкай уздыхнуў:

— Фу! Як убачыў секача, дык ногі ад страху і падкасіліся. Хвіліны дзве з месца не мог скрануцца.

— Дык у цябе ж аўтамат у руках, — засмяяўся радавы Лапацін.

— Ды хіба рука паднімецца ў яго страляць? А страх — ад нечаканасці...

— А я лічу, хлопцы, што кабан гэты, пачуўшы нас, нават лычом не павёў, бо разумее, што ў кожнага свой клопат, і мы адзін аднаму не перашкода, — усміхаючыся, заўважыў Лапацін.

— Гэта ўжо дакладна! Чатырохногія паважаюць нас. Відаць, сапраўды адчуваюць, разумеюць, што мы не паляўнічыя, хоць і са зброяй, што ў нас

задача найвышэйшай важнасці — ахоўваць Дзяржаўную граніцу, — падвёў рысу малодшы сяржант Салаўёў.

Далажыўшы аб сваім прыбыцці, паснедаўшы, усе трое ў хуткім часе заснулі моцным ранішнім сном.

У гэты дзень Мікалаю ўпершыню прыснілася Наташа. Ён пазнаёміўся з ёю вясной у Брэсце на мастацкай выстаўцы. У той час Мікалай знаходзіўся на вучобе ў пагранічнай групе. Наташа — студэнтка ўніверсітэта, першакурсніца. Яны некалькі разоў сустракаліся. Хадзілі ў тэатр, кіно, наведвалі музеі, гулялі па горадзе. Мікалаю вельмі спадабалася гэта сур'ёзная, прыгожая дзяўчына. Два месяцы іх знаёмства праляцелі надта хутка, ён не паспеў нават прызнацца ёй у сваіх пачуццях. А на заставе зразумеў, як моцна кахае яе, як востра перажывае расстанне.

Незвычайны гэта быў сон, зусім не падобны на ўсе яго ранейшыя сны. Наташа плыла над пушчай, вецер развяваў яе доўгія русявыя валасы. Яна плыла да яго, ён гэта адчуў адразу. Убачыўшы Мікалая, дзяўчына завісла на месцы і прамовіла:

— Ростань, напэўна, і патрэбна была для таго, каб зразумець, што ты значыш для мяне. Мне вельмі сумна без цябе, каханы.

Слухаючы яе, Мікалай напаўняўся невыказнай усемагутнай радасцю. Ён разагнаўся, узмахнуў рукамі, нібы магутнымі крыламі, і ўзляцеў. Узнімаўся вышэй і вышэй. Дух займала ад адчування палёту і захаплення. Падляцеўшы да Наташы, прызнаўся:

— Мілая мая, чароўная! Я не змагу без цябе жыць, я кахаю цябе моцна-моцна!

Яна ўзяла яго за руку і прапанавала:

— Паляцелі разам! Гэта так цудоўна — ты і я! І ўвесь свет належыць нам...

І тут Мікалай прачнуўся ад нейкага шуму ў калідоры.

Амаль у гэты ж час з Барсукова паступіла паведамленне ад работнікаў міліцыі, што невядомы тып знік уначы, нібы скрозь зямлю праваліўся. Сляды яго абарваліся за вёскай, але вялі ў бок граніцы. Пацвердзілі таксама, што ён узброены і па ўсіх прыкметах з'яўляецца тым, хто аб'яўлены ў вышуку.

Начальнік заставы Пятрэнка схіліўся над картай мясцовасці. «Гэта як двойчы два зразумела, — разважаў ён, — бандыт, нагледзеўшы досвіткам магчымае месца пераходу мяжы, затоіцца на дзень паблізу, каб уночы ажыццявіць свой намер... Дзе ж ён можа схавацца на нашым участку? Усе сцежкі, лагчынкі і рачулкі перакрыты... А вось балацявінка гнілая, месцамі глыбокая, праўда, амаль не зарослая дрэвамі і кустоўем... І ўсё ж загнаны звер можа рашыцца і на такое нязручнае месца ўкрыцця... Сабакі не пачуюць на адлегласці, ды і сляды нечым «замятае»... Значыць, калі праз гадзіну-другую звестак аб затрыманні не будзе, трэба прамацаць гэтую балацявінку як мае быць...»

Гадзіны праз дзве, пасля тэлефонных размоў са штабам атрада і начальнікамі суседніх застаў, старшы лейтэнант Пятрэнка падаў каманду дзяжурнаму:

— Групу Салаўёва праз дзесяць хвілін у поўнай гатоўнасці да мяне.

Калі малодшы сяржант Салаўёў далажыў аб гатоўнасці групы, начальнік заставы паклікаў яго да карты ўчастка:

— Усё прадугледзелі, усюды дазоры і сакрэты. Суседнія ўчасткі таксама пад пільным кантролем... Баюся, што магчымы парушальнік залёг недзе перад нашым участкам... Вось глядзі, тут балацявінка, — ён намаляваў алоўкам на карце кружок, — крыху збоку, ды варта добра прыгледзецца, узяць пад назіранне. Будзьце асцярожнымі. Дзейнічайце па абставінах. Праз кожныя дваццаць хвілін выходзьце на сувязь...

* * *

Астатак ночы Аслан правёў у пушчы. Ён вырас у горнай мясцовасці, нямала пабадзяўся ў свой час па перадгор'ях і раўнінах у складзе розных банд-груп, таму добра арыентаваўся і тут, у незнаёмай лясістай мясцовасці. Калі ўжо амаль развіднела, залез на выносістую яліну і ўважліва агледзеўся па баках. Але апрача дрэў ды невялічкай паляны нічога не прыкмеціў. Тады ён зноў асцярожным крокам, не парушаючы цішыні, пакіраваў на захад. Хвілін праз сорак ледзь не сутыкнуўся з пагранічным нарадам. Своечасова адскочыў за старую сасну, адтуль непрыкметна шмыгануў у зараснік. «Добра, што сабакі няма, — выратавальнай маланкай пранеслася ў галаве думка. — Значыць, граніца зусім побач...»

Бандыт дачакаўся, пакуль пагранічнікі зніклі, хутка ўскараскаўся на дрэва і зноў агледзеўся. На гэты раз убачыў непадалёку кантрольна-следавую паласу, заўважыў і дзве групы пагранічнікаў, адна з якіх была з сабакам. «Яны ўжо мяне чакаюць тут, магчыма, нават і шукаюць, — задумаўся Аслан. — Выхад адзіны — забіцца ў нейкую шчыліну і дачакацца ночы...»

Ён разумеў, што на дрэве сядзець небяспечна, ды і дзень вельмі доўгі, не выседзіш столькі. Да таго ж могуць заўважыць з верталёта. Вопыт падказваў, што патрэбна шукаць якую-небудзь непраходную мясцінку, магчыма, забалочаную, дзе ніхто не ходзіць. Злез з дрэва і неўзабаве спусціўся ў неглыбокі роў. Асцярожна пасунуўся па ім ніжэй. Запахла гнілой расліннасцю. Праз некалькі хвілін ён падыходзіў да невялічкага пушчанскага балотца. «Тое, што трэба, — узрадаваўся бандыт, — цяпер, не пакінуўшы слядоў, забрацца ўглыб і замерці...»

Адламаўшы акуратна некалькі яловых лапак, Аслан пачаў замятаць сляды і рассыпаць спецыяльна падрыхтаваны парашок. Пад нагамі зачвякала вада. Хутка яна ўжо была вышэй за калена. Ды і не столькі сама вада, колькі жыжка, гнілая, смуродная. А яшчэ праз нейкую хвіліну ён праваліўся па пояс. «Нічога страшнага, тым лепш для мяне, ніхто не рызыкне тут сноўдацца...» Аслан яшчэ крыху прасунуўся наперад і пачаў прыглядваць месца для логава — не ў багне ж тырчэць... Позірк спыніўся на купцы невялічкіх елачак, што стоўпіліся на ўзвышэнні. Падабраўся да іх, убіўся ўсярэдзіну, прыгнуў адно з дрэўцаў і ўсеўся на яго. Затым сплёў з лапак штосьці падобнае на галаўны ўбор...

* * *

Група малодшага сяржанта Мікалая Салаўёва ўжо некалькі гадзін кружляла вакол балацявіны, дакладваючы ў належны час на заставу аб выніках пошукаў. Нічога падазронага так і не заўважылі. Дайшоўшы ў чарговы раз да неглыбокага высахлага рова, вырашылі перадыхнуць.Скінулі боты, развесілі вільготныя анучы. І тут позірк Салаўёва выхапіў на суседняй елцы свежы злом лапкі. Ён знакамі паклікаў радавых Ракіту і Лапаціна. Паказаўшы на злом, загадаў шэптам:

— Абуцца і быць напагатове, лавіць кожны рух паветра.

Затым далажыў на заставу.

— Працягвайце кантраляваць мясцовасць, — быў загад, — падмацаванне будзе хвілін праз дваццаць-трыццаць...

Пагранічнікі пакіравалі ўздоўж балотца, пад нагамі зачвякала вада. Зарослае сям-там невысокім кустоўем і рэдкімі елачкамі да сасонкамі, балотца было не такім ужо і малым. Зрабіўшы круг, паглыбіліся метраў на трыццаць. У гэты час падышлі яшчэ два нарады пагранічнікаў з сабакамі. Ды тыя, як ні стараліся, як ні прынюхваліся, але ўзяць след не атрымалася. Прайшоўшы вакол балотца, нарады з сабакамі накіраваліся далей, а група Салаўёва вярну-

лася ў роў. Штосьці не адпускала іх. Атрымаўшы загад працягваць кружыць вакол балацявіны, Салаўёў вырашыў зноў паглыбіцца метраў на дваццаць-трыццаць і прайсці па крузе. Гэтая задума падалася яшчэ больш неабходнай пасля таго, як з заставы пацвердзілі, што нікому не ўдалося выйсці на след бандыта. Не дапамог і верталёт, які нядаўна пралятаў над іх галовамі. Было горача, душыла балотная гніль, даймала машкара, назалялі камары, лезлі нахабна за каўнер, нават даводзілася змываць іх балотнай жыжкай. Прайшоўшы, а дзе і амаль прапоўзшы, метраў трыста, Мікалай раптам улавіў незразумелы шум: ці то шолах крылаў вялікай птушкі, ці то нібы хтосьці хвастаўся венікам. Падаўшы знак таварышам, замёр. Ускінуў да вачэй бінокль — нічога не відаць. Паволі пасунуўся далей. Праз некалькі хвілін шум паўтарыўся, на гэты раз больш выразна. Малодшы сяржант прыпаў да бінокля: так і ёсць, нехта адганяе машкару. Нябачны пакуль, аднак, вядома, не птушка і не звер... «Вярнуцца на сухое месца і паведаміць на заставу?.. Не, бяром і дакладваем. Нашы ўсюды, калі што — стральбу пачуюць...» Ён падаў байцам умоўны знак падрыхтавацца. Зрабіўшы некалькі крокаў, для зручнасці, наперад і, узяўшы аўтамат напагатоў, гучна скамандаваў:

— Загадваю здацца! Вы акружаны! Павольна падняцца і ўзняць рукі ўверх! Радавы Лапацін, паведаміце на заставу, што невядомы выяўлены.

Зморaны, галодны, пакусаны машкарой, змучаны смагай, злы ад бязвыходнасці, Аслан сціснуў у руках пісталет. «Абклалі, шакалы!.. — скрыгатаў ён зубамі. — Першага застрэлю, аўтамат будзе мой, — сутаргава працавала думка. Ён прыцэліўся... — А далей што? Зрашэцяць няверныя, як у ціры мішэнь...»

— Паўтараю, выходзьце з паднятымі рукамі! Вам нічога не пагражае! Супраціўляцца дарэмна!..

«Трэба было праз Прыбалтыку або Украіну даваць драпака», — злосна мацюкнуўся Аслан у адрас сваіх хаўруснікаў, працягваючы трымаць на мушцы малодшага сяржанта. На нейкае імгненне перад ім усплыў матчын твар. У яе заплаканых вачах было маленне... І ён апусціў пісталет, затым шпурнуў яго ў балотную жыжку і павольна падымаючыся, узняў рукі...

На беразе рова затрыманага ўжо чакалі работнікі крымінальнага вышуку і начальнік заставы. На руках бандыта пстрыкнулі наручнікі.

Пасля лазні і амаль святочнай вячэры група Мікалая Салаўёва атрымала ў якасці заахвочвання працяглы адпачынак. Мікалай адразу ж адправіўся дапісваць пісьмо родным.

«Заканчваю свой ліст амаль праз суткі, — паведамляў ён, — так атрымалася. Перад гэтым мы з хлопцамі затрымалі аднаго нетутэйшага дзівака, які надумаў швэндацца паблізу граніцы. Ведаеце, дарагія мае, я за гэты час прыняў канчатковае рашэнне наконт свайго далейшага лёсу: буду грунтоўна рыхтавацца да паступлення ў Ваенную акадэмію, каб прысвяціць сваё жыццё ахове дзяржаўных межаў...»

Закончыўшы пісьмо, падпісаўшы яго і запячатаўшы канверт, Мікалай нарэшце адчуў цяжкую стому. Але хвалюючая, шчаслівая думка зноўку надала сіл: «Заўтра еду ў Брэст, заўтра абавязкова ўбачу Наташу!..»

За акном казармы таямніча і велічна шумела пушча. І было ў яе пошуме штосьці радаснае, прыемнае, вельмі блізкае яго сэрцу. Як толькі лёг на ложак, гаючы сон імгненна авалодаў ім.



Любоў РУСІЛКА

# ЗЯМЛІ І ЛЮДЗЯМ

***Урыўкі з паэмы паводле ўспамінаў Элізы Ажэшкі***

**Вяртанне ў родны дом**

З Людвінова ад’язджаю —
І са мною крыху жалю
Ды вузельчык успамінаў,
Як таму і быць павінна.
… Як паўстанне пачалося,
Памагала, чым прыйшлося.
Харчам, лекамі, адзеннем
І на войска навядзеннем.
...Траўгута лячыла раны
Тайна, цяжка ды старанна
І са страхам самым большым
Адвязла яго да Польшчы.
… Людвінова адабрана…
Тры браты —і ўсе сасланы…
А маё выратаванне —
Ў Мількаўшчыну зноў вяртанне.

**Дзень добры!**

Дзень добры, край радзінны,
Прытулак мой адзіны!..
Спустошаны, самотны, як і душа мая...
І што нас уратуе,
Што дасць нам сілу тую,
Каб здолеў ты акрэпнуць, каб узнялася я?

---

***Русілка Любоў Мікалаеўна*** *нарадзілася 15 мая 1940 года ў Казахстане. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў вёсцы Мількаўшчына Гродзенскага раёна.*

*Скончыла Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча (1957), факультэт пачатковых класаў Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы (1966) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1976). Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Берштаўскай школе Шчучынскага раёна.*

*Аўтар зборніка паэзіі «Пад сонцам» (2005).*

Не ўспамінаць былога:
Няўдзячнага і злога,
Наіўных спадзяванняў, і смерцяў, і трывог.
І з мужам адчужэння,
Хоць і майго рашэння...
Не ўспамінаць, мой краю, каб ты мне дапамог.

Засып маю самоту
І снегам над лістотай —
Няхай вакол святлее; мне ж толькі дваццаць тры.
І я ўзнімуся духам,
Каб толькі не патухла
Надзея, што, як свечка, трымаецца, гарыць.

## Што — далей?

...Год прайшоў, і праходзіць другі.
Гаспадарка ў знясіллі. Даўгі.
Трэба думаць і ночы і дні,
Як такую навалу спыніць.

Ды развагі ўсяго — хвілін пяць.
Потым думак маіх не суняць...
Аддаліўся маёнтак... і знік...
Толькі прывід задуманых кніг.

Можа, гэтым змагу паслужыць
І таму, без чаго мне не жыць,
Што жыве і што плача ў душы?
«Для радзімы і трэба — пішы...»

## Радасць творчасці

Блакітнае світанне
Зноў падае на стол —
І свечкай лямпа стане,
Схаваецца ў прастор.

Я зноў світанню веру,
І да сябе заву,
Ад спісанай паперы
Ўздымаю галаву.

Ускокваю — і з дому.
На луг! Туды ўцячы!
І вось ніякай стомы
Ад працы і ўначы.

Раса ў траве, на лісці
Ўжо золатам дрыжыць...

Мой новы дзень так блізка.
Як хочацца ў ім жыць!

## Свята кахання

Зыгмунце, мілы, што з намі стала?
Наша каханне лісцем апала.
Хмурна і пуста ў нашай алеі,
І пад нагамі стынуць надзеі...

Ты разлюбіў... Неспадзявана.
Сэрца смыліць дзіўнаю ранай.
Толькі ні крыўды, ні наракання:
Зыгмунт Свянціцкі — свята кахання!

## З цяжкім сэрцам

...Даруй мне, тата, любы мой,
Што Мількаўшчыну… прадала...
Карціны, кнігі ўсе — са мной:
Я не магу без іх цяпла.

Бывай, куток, гаючы, родны...
Цяпер для іншых будзь такі.
Благаславі мяне на Гродна.
А я цябе — на ўсе вякі!

## Зорныя леты

...Ах, міневіцкія леты,
Песняй Нёмана апеты!
Плённа тут я працавала.
Так нідзе не шанцавала.

Восем летаў, без змянення,
Ззяла творчае натхненне.
Тут, на нёманскай прыродзе,
Шчодра Бог узнагародзіў.

Ах, міневіцкія людзі...
Век іх сэрца не забудзе.
Шанавалі, і вучылі,
І з жыццём сваім лучылі.

Край наш рэкамі багаты.
І людзьмі — дамы і хаты.
Ды нішто мне не заменіць
Нёман і людзей з Міневіч...

**Пажар у Гродне**

Бушаваў пажар чацвёра сутак.
Мучыў жах людзей, і боль, і смутак.
Дым, агонь і гул званоў знаёмых.
І спяшаўся, хто як мог, за Нёман.

Выдыхнуліся агонь і вецер —
Горада не стала да дзвюх трэціх...
Дзе жыла я, тлее папялішча.
А набытак, як і ўсіх, панішчан.

… І пані Эліза — душа камітэта,
Надзея і праўда ва ўсіх пагарэльцаў —
Зварот адаслала паўсюдна газетам
Ды людзям вядомым, спагаднага сэрца.

І здарыўся цуд! Велізарную суму
Прыняў адусюль камітэт дапамогі.
І горад ажыў. Аніхто і не думаў,
Што прыйдзе палёгка, прыціхне трывога.

Партрэты Элізы ў дамах, установах —
Падзяка людская праяваю новай.
Здароўя прасілі па храмах у Бога
За добрае сэрца і за дапамогу.

**Другі шлюб**

…На пяцьдзясят чацвёртым годзе
Выходжу замуж — смех ды й годзе,
Калі па шчырасці прызнацца,
Бо першы раз ішла ў сямнаццаць.
А Стасю ўжо шэсцьдзесят пяты.
Гада́мі шлюб наш, ой, багаты...
Больш дваццаці, як злая слава,
А сэрцы ў плётках і аблавах,
Бо мы кахаем не ў законе.
Нарэшце, шлюб у нас сягоння.
Як і ў жыцці, кастрычнік — восень.
І ўсё ж у Бога шчасця просім.
І, як усе, жывём надзеяй..
Душою нават маладзеем.

**Развітанне**

Ёй у труне — букецік бэзу.
Падкрэсліў хтосьці боль імпрэзы.

Пасля ў слязах і паняверцы
Паклалі ландышы пры сэрцы.

Яшчэ ўсё жалю больш рабіла:
І бэз, і ландышы любіла.
Наказ яе шануюць строга —
І свечак ля труны нямнога.

А навакольныя сяляне —
Любоўна, для шаноўнай пані —
Аж да магілы шлях ад дома
Адборнай выслалі саломай.

Картэж жалобны, як ахова,
Шаноўнай пані Ажашковай.
Увесь — ад сэрцаў. Не збіраны.
Тут ксёндз з малітваю старannай.

Ідзе і сябар, як жадала,
З слязой, прыхаванай удала.
І — тысячы, каму так міла,
За тое, што дабро рабіла...

## Мікола КАНДРАТАЎ



### ПРАГА

Прагоніць вецер хмары страху,
і сонца высветліць масты.
Я проста прагну бачыць Прагу —
Цуд успамінаў залатых.

Я прагну Прагі, як адвагі,
як прагнуць славы мысляры.
Кім бы Скарына быў без Прагі?
Для Вільні эру б ці адкрыў?

І веліч, і вайну спазнала —
тут порах быў заўжды сухім.
Ды быць сабой не перастала,
хоць прамінулі сотні зім.

Яна ні грэку, ні варагу
не пакланяецца здаля.
Хай спраўдзіць мары,
хай пад Прагай
не прагінаецца зямля.

* * *

Белыя змеі
паўзуць па скаванай марозам зямлі,
служкі зімнай завеі.
Белыя змеі
шыпеннем сягаюць да голых галін,
снежных дахаў і весніц.

---

***Кандратаў Мікалай Мікалаевіч*** *нарадзіўся 20 мая 1957 года ў вёсцы Замосце Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў матэматычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1978). Працаваў у Вілейскім ГПТВ № 48. Служыў у Савецкай Арміі. Цяпер працуе праграмістам у Мінскім вытворчым аб'яднанні вылічальнай тэхнікі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Возера Рудакова» (2002), «Вершы і зоркі» (2008).*

Белыя змеі
замерзлае ссуць малако
з вымя рэк і азёраў.
Белыя змеі
імкнуць паасобку, то цэлым клубком
у халодныя норы.
Белыя змеі
над кожнаю згубленай летам душой
непадзельна ўладараць.
Белыя змеі
шукаюць за позняй начною мяжой
цёплай ахвяры.

## КРОПЛІ ДАЖДЖУ

Дождж ад раніцы ідзе
досыць цёплы,
скачуць кроплі па вадзе,
танчаць кроплі.

З паўгадзіны мо стаю
ля таполі,
назіраю, як зямлю
лашчаць кроплі.

Не прымружыць вочы, бо
сню Акропаль,
што знаёміў нас з табой
гукам кропель...

Заблудзіўся наш раман
ў жытнім полі.
Больш Акропалю няма,
толькі кроплі.

Дождж канчаецца, але
так паволі.
На асфальце, як на шкле,
танчаць кроплі.

* * *

Што можна новага сказаць
у свеце, што стары, як мора,
калі пагас былы азарт,
калі прамоўлена так многа
слоў, што згарэлі на кастры
ці патанулі ў водах Стыкса?..
Магчыма толькі паўтарыць
з таго, што свет паспеў забыцца.

## У АДКАЗ СПАДАРЫНІ М.

Я прызнаю, што я не твой паэт,
мае радкі, на жаль, табе чужыя,
для маладой тваёй душы яны
някідкія — ні пачуццём, ні думкай.
У час прызнанняў рознакаляровых
і эпатажных заклікаў куміраў,
у час істэрык вобразных, бадай,
не проста лёс паміж радкоў убачыць.

А для мяне радкі і словы ў іх,
бы кроў, што запяклася між бінтамі
сучасных думак неэкзальтаваных,
раскутых мар і вольных меркаванняў,
дзе смешнае сплялося з вычварэнствам,
дзе смерць плыве ракою праз свядомасць…
Свет нібы сніць стагоддзі ў страшным сне,
але пара, пара яму прачнуцца.

І хто я ў ім: сімфонія ці фон,
Дажджынка ці няспраўджаная знічка?
Прыступка паміж будучыняй блізкай
і тым мінулым, што гукае нас,
пра нешта імкнучыся папярэдзіць?..
Калі наіўны гук пусты — не слухай,
калі прыступка — паспрабуй ступіць,
калі сусвет у кроплі — зазірні,
а калі знічка — загадай жаданне…



**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА**

## ДАХАТЫ!

Я ляцела дахаты з краіны чужой
І не дні, а хвіліны лічыла,
Ледзь на родную глебу ступіла нагой —
Нібы зноў наталілася сілай.

І, націнку сарваўшы, віталася з ёй,
А яна мне ў адказ прашаптала:
— Ты мая! Ты мая! І што бачыш — тваё!
Хіба гэтага — гэтага! — мала?

І ляцела машына насустрач гаям,
Долу гнуліся ніцыя лозы.
Кожны куст прыдарожны звінеў:
— Ты мая!
— Наша ты! — падпявалі бярозы…

Я вітаю палеткі… Як вабіць вясна
Дакрануцца да красак лагодных!

---

*__Гусачэнка Тамара Іванаўна (Тамара Краснова-Гусачэнка)__ нарадзілася 1 красавіка 1948 года ў вёсцы Шчапяціна Брасаўскага раёна Бранскай вобласці. У 1974 годзе пераехала ў Віцебск. Скончыла Маскоўскі аўтатранспартны тэхнікум (1971), філалагічны факультэт бранскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя акадэміка І. Г. Пятроўскага (1977), факультэт лагапедыі Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1986).*

*Працавала ў рэдакцыях бранскіх абласных газет «Брянский комсомолец», «Автомобилист», на Віцебскім тэлебачанні, у чыгуначным райана горада Віцебска і дырэктарам дашкольнай установы. Цяпер — старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных кніг «На одном дыхании» (1999), «Отпусти меня, боль» (2000), «Посреди зимы» (2003), «Золотая капля» (2004), «Сложнее жизни» (2005), «Я пришла» (2006), «Осень молодая» (2007), «Спас» (2008), «Белое пламя листа» (2010) і інш.*

*Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Сімяона Полацкага (2005), Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Фёдара Цютчава (2009), Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2010).*

І каштан запаліў сваю свечку, бы знак:
— Наша ты, найраднейшая з родных!

Мы цябе па хадзе адгадалі — свая!
Без падказак ты бачыш работу.
Так ідзе гаспадыня…
Хай прыме зямля
Рук даччыных цяпло і турботу!

* * *

**1**

Калаўрот радавы
Гэткі дзіўны:
Я — над сынам,
А сын над унучкай дрыжыць,
Тая — лёгка і шпарка,
Як ветрык, бяжыць,
Напаўняючы смехам
Хаціну.

**2**

Пазакінуты яр
Там, за лесам, ракой,
У маўчанні,
У цішы адвечнай.
Зарастаюць дарогі
Густой лебядой,
Што ніхто не сарве
Недарэчна.

Набіраецца моцы
Пакінуты яр
Доўга,
Каб зацягнуць свае раны.
Я спакойна жыву,
Не ўважаючы хмар:
Пра мяне покуль моліцца
Мама.

* * *

Боль за Радзіму — больш, чым проста боль.
У ім жыццё маё. І мой прысуд.
Яго я атрымала як пароль,
Які да скону ў сэрцы пранясу.

Нап’ецца дол расталае вады,
Зялёнай рунню возьмуцца палі,
Нальецца сілай колас малады.
І толькі гэты боль не адбаліць.

## ПАЭЗІЯ

То сонцам выблісне над слотай,
А то — сусвет
Закрые хмарай.
То ў вочы зазірне пяшчотай,
То падштурхне раптоўна
З яра:

Зрачыся,
Што магла лятаць —
Ці рукі разгарні, каб неслі,
Бы два крылы.
Умей маўчаць,
Калі грукоча гром нябесны.

Да скону тайны не спазнаць,
За ўсё глыбей яе навука:
Увысь — буслом!
Заклекатаць!
Ніц — прахам, пылам,
І — ні гуку.

## ДЗЕ ЖЫВЫЯ ЎСЕ

А ўва сне ўсё такое дзіўнае:
Луг — зялёны неверагодна,
Каласяцца палеткі жніўныя,
І прачнуцца няма ахвоты.

Можна ў неба сягнуць высокае,
Каб з нягодамі развітацца,
Белым голубам, вольным сокалам
Над бядою сваёй узняцца.

Ці нядоля мая, ці долечка —
Тая вёска, якой няма ўжо,
Дзе яшчэ не загінуў Колечка,
І пра гора нішто не кажа…

Не патрэбна зямных багаццяў мне —
Хай бы доўжыўся сон павек!
І я еду дамоў, у Шчапяціна,
І там маці мая — жыве.

## ДЗЕД ДАНІЛА

Ён пчол змахнуў з тугой таемнай,
Усё: дабраў апошні мёд.

Прапахлы воскам, хлебам, кменам
Быў дом, і дзед, і ўвесь наш род.

І не было прытворству месца,
Была работа дзень пры дні,
Заўжды напоўненая зместам
Сялянскай простай дабрыні.

У навярэджаных далонях
Жылі дабро і цеплыня.
А ён схіляў сівыя скроні
Перад іконаю штодня.

Мой дзед, прабач, што не магла я
Тады малітвам спагадаць:
Як жыць, калі мо сам чакаеш,
Ці не назаўтра паміраць…

* * *

Як час ляціць! Юнацтва адгрымела,
І цела горай чуецца з гадамі.
Ды што ж тады рабіць на свеце белым
З душой? Яна такая маладая!

І рвецца ўвышыню, і шчасця просіць,
І ўзросту бы не ведае, дзівачка,
То ў неба пачуцця віхура ўзносіць
Яе, то зоркі вабяць, то заплача,

То запяе насустрач травам росным,
То палыновай горыччу ўзарвецца,
То жаўрука званочкам над пакосам,
Над аксамітнай рунню
льецца, льецца...

І хочацца кахаць! Ракой вірлівай
У мора плыць і з бурамі змагацца,
Імчаць, ляцець ля самага абрыву,
І аніколі, чуеш, не сарвацца.

* * *

О, калі б я Вас не кахала
Так моцна,
верны сябар мой,
Даўно б свой шлях накіравала
За жураўлінай чарадой,
Туды, туды, дзе вечна — лета,

Дзе ўсё ў прыродзе абагрэта
Праменнем сонца поўны год.
Я ж — тут,
дзе ўсё — наадварот.

* * *

Прарастае скрозь памяць трава
На руінах хацін спапялёных.
Нібы дзіды, стаяць крапіва
З асакой; побач — стрэламі — клёны.

На світанні дымкоў не відно,
Тут жытло чалавека астыла,
Раўнаважнае неба адно
Толькі й памяці той не зманіла.

Зноў хаціну былую мінаць
Выпадае няпрошаны лёс.
І мне сэрца ніяк не суняць,
Рвецца крыкам яно да нябёс.

Нешта розуму лішак у нас,
А сумленне нібыта заснула…
Час такі. Незасмучаны час.
Дык нашто гараваць аб мінулым?

Зараз модна — губіць і губляць,
Забываць… Што яшчэ застаецца?
Не спыніць, аніяк не суняць
Безназоўнага болю, што ў сэрцы…

## ПАМЯЦІ СЫНА

Цішыня
Ў сусвеце цэлым,
Белым полем — снег.
Там душа
Злятала з цела
Раніцай — навек.

Развіталася,
Трымцела,
Трызніла адно,
На імгненне
Заляцела
Ў роднае акно.

Схамянулася
Між ночы
Маці — не пазнаць:
Гора, гора сэрца точыць.
Вочы выплакала, вочы —
Слёз няма рыдаць.

Скруха
Выбеліла гукі,
Сумам замяла…
Не падставіла
Я рукі,
Не засцерагла.

Мо малілася
Няўмела,
Ці анёл не дбаў.
І — зляцела
Ноччу белай
Чорная журба...

У чысцюткім
Белым полі —
Белае святло,
Бы ратунак…
Ды ад болю
Не падняць
Крыло.

***Пераклад з рускай***
***Андрэя Цяўлоўскага.***

Раман ДУБАШЫНСКІ

# КАНЦЭПТЫ ПРЫПАВЕСЦЕЙ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Канцэпты і канстанты («канстанта ў культуры — гэта канцэпт, які існуе пастаянна альбо, прынамсі, вельмі доўгі час» [1, с. 84]) утвараюць знакавыя сэнсава-змястоўныя пласты твора[1]. Семіятычнае ядро прыпавесці складаецца з функцыянальнага, структурнага, марфалагічнага і іншых узроўняў. Задача, якую мы паставілі пры напісанні гэтага артыкула, — раскрыць сутнасць сэнсу і зместу асобных прыпавесцей В. Быкава з улікам іх канцэптуальнай асновы і філасофска-псіхалагічнай скіраванасці.

Прыклад Быкава-творцы сведчыць, што, як гэта ні парадаксальна, Быкаў-пісьменнік філосафам нарадзіўся і філосафам стаўся. І ўвесь ягоны творчы шлях сведчыць аб яго няўхільнай эвалюцыі да творцы-філосафа. Жыццё чалавека, грамадства, народа, нацыі як праблемы лакальнага і ўніверсальнага парадкаў рэалізуюцца ў яго прыпавесці праз разгалінаваную канцэптуальную парадыгму, што, у сваю чаргу, сведчыць пра фундаментальную аснову прыпавесці як жанру.

Цэнтральнай канстантай для ўсёй творчасці пісьменніка і прыпавесцей у прыватнасці з'яўляецца паняцце «Радзіма». Кожны народ мае сваю зямлю. Кожны асобны чалавек з гэтага народа мае сваю радзіму. На жаль, у гісторыі здараюцца выпадкі, калі той або іншы народ перажывае нацыянальную катастрофу — перастае адчуваць **сваё**. Сваё пераўтвараецца ў чужое, нязвыклае, далёкае, а сапраўды чужое становіцца сваім. Але, нягледзячы на гэтыя акалічнасці, повязь з бацькаўшчынай, хай і на генным узроўні, усё роўна будзе захоўвацца і праз нейкі час, магчыма, стане выразна адчувацца, нават «насуперак уласнае волі і абставінам» [3, с. 167]. Аднак шлях вяртання да Радзімы заўсёды надзвычай складаны, пакутлівы, пра што сведчыць прыпавесць «Пахаджане». Знайсці страчаную радзіму — задача нялёгкая. Вырашальная яна толькі пры ўмове цеснай згуртаванасці людзей вакол агульнай мэты і непахіснасці іх духу. Пошук, бясконцыя блуканні не прыносілі племю пахаджан жаданага выніку. А хіба маглі прынесці, калі адсутнічала галоўнае — *згода*?!

У прыпавесці яскрава вымалёўваецца канцэптуальны ланцужок «Радзіма» — «Дарога» — «Правадыр». Значная роля пры вырашэнні лёсавызначальнай праблемы, якая стаіць перад тым ці іншым грамадствам у адпаведныя часы, перыяды яго існавання, належыць правадыру. Задача яго —згуртаваць людзей на дасягненне мэты. Але чалавек па сваёй прыродзе схільны шукаць простыя

---

[1] У беларускім літаратуразнаўстве праблемамі канцэпталогіі займаецца Ю. Масарэнка. У дачыненні да мастацкага твора яна азначае ***канцэпт*** як «асаблівую ментальную адзінку ідэальнага зместу, якая, суб'ектыўна абумоўленая і мяжоўна індывідуалізаваная, выразна выяўляе сутнасць прадметаў і з'яў (вытворнага і невытворнага характару, жывой і нежывой прыроды), рэалізуючыся пераважна на свядомасным узроўні праз мысленчы і моўны механізмы ў інтэлектуальна-эстэтычнай дзейнасці чалавека… Базавыя, альбо галоўныя, канцэпты абагуленага характару, хоць і належаць, як вядома, сферы калектыўнай свядомасці (скажам, гэтак званыя базавыя канцэпты нацыі), у канкрэтным творы таксама набываюць суб'ектыўна і кантэкстна абумоўленыя адценні ў сваёй семантыцы, і могуць мець вельмі складаную ўнутраную структуру» [2, с. 119].

шляхі, без паваротаў і перашкод. Жыццё ж такія падарункі робіць рэдка. Бясконцыя нараканні, змены правадыроў ставілі на вялікай мэце крыж. Таму прынцып «дарогу адолее той, хто ідзе» тут не спрацоўвае.

Зусім іншае мы назіраем у прыпавесці «Насарогі ідуць». Племя, адчуўшы прыгнёт з боку «агідных і магутных людзей-насарогаў» [3, с. 86], напачатку спадзявалася адкупіцца пэўнымі ахвяраваннямі, якія тыя ад іх патрабавалі. Аднак калі справа дайшла да прыгожых жанчын, у прыватнасці, сястры і жонкі правадыра, стала зразумелым, што саступкамі спакойнае жыццё не здабудзеш. У гэтай сітуацыі шлях вайны для племя быў адзіным спосабам выратавання. Хоць надзеі на поспех не было, правадыр Ко сабраў усе сілы і выступіў супраць насарогаў. І адбылося неверагоднае. Людзі, якія «ніякіх шанцаў ня мелі і ні на што не спадзяваліся» [3, с. 91], здолелі ў крывавай бітве адужаць магутнага ворага.

Племя вярнула страчаную незалежнасць дарагой цаной. Але іншага выйсця не было. Толькі ў *супрацьстаянні* чужым і можна было на нешта разлічваць.

Важнасць і неабходнасць супрацьстаяння падкрэслівае В. Быкаў і ў прыпавесці «Хутаранцы», якой дае адмысловы падзагаловак: «Хрэстаматыйная казачка для маленькіх». Сапраўды, тут ёсць і цікавы, займальны сюжэт, і інтрыга, і шчаслівы канец. Але ў той жа час за гэтай знешняй займальнасцю хаваецца глыбокі сэнс.

У прыпавесці апавядаецца пра адну сямейку (бацька, маці і два сыны), якая жыла «не багата і ня бедна, дзень і ноч працавала, бяз хлеба ня ела» [3, с. 35]. Увесь яе спакой парушыў незнаёмы чалавек, які нечакана завітаў у хату. Ён сказаў, каб хутаранцы інтэграваліся з суседняй вёскай. «Гаспадары неўразумела ўтаропіліся ў чалавека — ужо яны ведалі, як жывуць у суседняй вёсцы» [3, с. 36]. Незнаёмец жа турбаваў сямейку амаль кожны дзень. Перамагчы «чужога» ўдалося дзякуючы намаганням старэйшага сына, які «ведаў антыд'ябальскі сродак» [3, с. 38].

Паказальна тое, што «чужым» у творы з'яўляецца д'ябал, якога «ні ўпрасіць, ні напалохаць немагчыма» [3, с. 38], але якому трэба супрацьстаяць. «Антыд'ябальскія» сродкі існуюць, але кожны, відаць, павінен вынайсці свой, уласны. Кожнага чалавека прыгнятае «чужое», і толькі ён ведае, як з ім трэба змагацца і якім чынам перамагаць.

У ідэйным змесце прыпавесці асобнае месца займае канцэпт «Аб'яднанне», які ў дачыненні да пэўных з'яў жыцця набывае канкрэтную рэалізацыю. План, скіраваны на чалавека-асобу, высвечвае адмысловыя сэнсавыя ўзроўні гэтага канцэпта. Любое аб'яднанне прадугледжвае пераход у якасна новы стан. Якім гэты стан будзе для чалавека, залежыць ад таго, з чым і з кім ён «аб'ядноўваецца». Аб'яднанне з «чужым» ставіць пад пагрозу страту «свайго», сваёй самасці. Але справа ў тым, што часам бывае даволі складана вызначыць сапраўднае «чужое». У такой сітуацыі вялікае значэнне мае здольнасць чалавека ў адказны момант не прымаць паспешлівых рашэнняў, усё рацыянальна ўзважваць і аналізаваць, каб не памыліцца ў канчатковым выбары.

Вялікія перамогі ніколі лёгка не здабываюцца. Не скарыцца перад выпрабаваннямі, змагацца да канца, нават калі няма надзеі, — толькі так учарашняя мара сёння можа стаць рэальнасцю. У гэтым і пераконвае В. Быкаў прыпавесцямі «Насарогі ідуць» і «Хутаранцы», як і ў тым, што спадзявацца на літасць ворага — справа бескарысная і няўдзячная.

Гэтая спрадвечная ісціна заключана аўтарам у ідэю прыпавесці «Кошка і мышка». Даследчык творчасці пісьменніка Дз. Бугаёў, супастаўляючы «Казкі жыцця» Я. Коласа і творы В. Быкава, адзначае, што «быкаўскія прыпавесці больш строгія ў развіцці апавядальнай плыні. Галоўная ідэя ў іх падкрэсліваецца вельмі настойліва і паслядоўна на працягу ўсяго твора. Гэта асабліва выразна бачыцца ў прыпавесці «Кошка і мышка», дзе празаік, нібы цвікамі, убівае ў галаву чытача думку пра згубнасць ілюзій, беспадстаўнага аптымізму» [4, с. 28—29]. Мышка, трапіўшы ў лапы заўсёднага ворага, «не магла паверыць у кепскае» [3, с. 18]. «Яна мкнулася быць аптымісткай» [3, с. 16]. Шмат разоў у розных варыяцыях

паўтараецца гэтая фраза, «паўтараецца з іроніяй і горыччу, якія перарастаюць у з'едлівасць» [4, с. 29]. Але праз той наіўны аптымізм усё ж прабіваюцца і цвярозыя разважанні — думкі мышкі пра справядлівасць. «Усё ж несправядліва ўладкаваны сьвет, калі адны істоты дужыя і нахабныя, а іншыя слабыя і палахлівыя. Слабым і палахлівым жывецца кепска, і, мусіць, таму яны дбаюць пра справядлівасьць, дабрыню і спагаду. Ды дужыя не зважаюць на тое. А і праўда, нашто дужым спагада? Дужым патрэбна яшчэ болей сілы, бо сілу сіла дае» [3, с. 19].

Спадзявацца на лепшае, у тым ліку і на падсвядомым узроўні, уласціва кожнаму. Але заўжды варта памятаць, што пасіўны аптымізм можа мець сумныя наступствы (як сведчыць біблейская ісціна, «вера бязь дзеяў мёртвая» [5, Як. 2: 26]). Выключную важнасць маюць рашучыя дзеянні. Іншага спосабу дасягнення жаданага выніку папросту не існуе.

Апрача «Кошкі і мышкі», В. Быкаў стварыў яшчэ шэраг прыпавесцей, персанажамі якіх з'яўляюцца прадстаўнікі фаўны («Вуціны статак», «Пагібель зайца», «Парсюк» і інш.). У «Вуціным статку» пісьменнік уздымае ўсё тую ж праблему марнага аптымізму і неабходнасці рашучых дзеянняў. Калі ўсе птушкі ўжо даўно паляцелі ў вырай, вуткі засталіся на возеры. Думалі, што, можа, ніякіх маразоў і не будзе... Бацька-вуцяк спярша спрабаваў пераканаць маці і дзяцей, што ляцець неабходна, ды ўсё марна. А пасля ён і сам «пачынаў сумнявацца ў сваёй праўдзе» [3, с. 14]. Птушкі спадзяваліся на лепшае. «А што лепшае — падманная рэч, вуткі таго не разумелі» [3, с. 14].

У прыпавесці досыць яскрава вымалёўваецца канстанта «Бацькі і Дзеці». Аўтарытэт бацькі ў сям'і бясспрэчны. Але што рабіць тады, калі пры вырашэнні важнага пытання маці з дзецьмі ігнаруюць яго думкі, меркаванні, прапановы? Бацька ведае і, больш за тое, упэўнены, што праўда на яго баку, але ж прымусам схіляць на свой бок — не па-бацькоўску. Вось тут і палягае асноўная праблема сямейнага жыцця. Непаслухмянасць, безуважлівасць можа мець сумныя наступствы. Выйсце, напэўна ж, у згодзе, у даверлівых адносінах, бо толькі гэтым шляхам можна дасягнуць паразумення.

У прыпавесці «Пагібель зайца» В. Быкаў робіць акцэнт на праблеме лідарства. Па самой назве можна меркаваць, што фінал твора будзе трагічны. Лесавым звярам неабходна абраць галоўнага Упраўцу. Дзеля гэтага склікаецца сход. І тут адбываецца незвычайнае. Абіраюць не ваўка і не мядзведзя (што было найбольш верагодным), а «слабога, палахлівага, прыгнечанага» [3, с. 20] зайца, якому і не сніўся такі паварот у жыцці. Справіцца ж з абавязкамі галоўнага Упраўцы яму не па сіле.

Канцэпт «Лідар» выступае ў звязцы з антытэзай «Моцны — Слабы». Выразна гучыць у творы матыў невядомасці. Ніхто не ведае, што чакае яго праз пэўны момант, праз імгненне. У жыцці абсалютна любы чалавек, які і блізка не атаясамлівае сябе з лідарам, можа трапіць у сітуацыю, дзе ён мусіць, нягледзячы на сваю «слабасць», праяўляць усе лідарскія якасці. Бо ў адваротным выпадку не пазбегнуць несуцяшальных наступстваў.

Адмысловае аўтарскае вызначэнне атрымала прыпавесць «Хвастаты» — «Сучасная казка для дарослых». У творы пісьменнік звяртае ўвагу на жахлівую праяву, якая неаднаразова фігуравала ў творах пра вайну. Братазабойства, на вялікі жаль, можа мець месца не толькі ў ваенны час, але і ў мірным жыцці.

Цэнтральным героем прыпавесці з'яўляецца пацук Хвастаты. У «пацучыным грамадстве» ён пачуваўся сапраўдным лідарам, «быў... разумны, хітры і спрактыкаваны» [3, с. 26]. Да таго ж, што немалаважна, «быў пацук цярплівы і ўмеў чакаць» [3, с. 28]. У адрозненне ад сваіх суродзічаў, якія былі няздольныя стрываць голад, вылазілі з нары і траплялі ў рукі галоўнага ворага — людзей. Аднак пацучынага розуму ўсё адно не хапіла, каб пазбегнуць трагедыі. А трагедыя, неўсвядомленая як след Хвастатым, здарылася жудасная. Калі пацукі трапілі ў пастку, сталася тое, што і планавалі ворагі, — «сьмяротная схватка ўсіх з усімі» [3, с. 31]. Перамога ў гэтай братазабойчай вайне Хвастатага, «самага рашучага

і самага спрытнага» [3, с. 31], яго пераход на службу да ворагаў і вынішчэнне ўсіх сваіх астатніх суродзічаў — такі змрочны фінал твора.

Пасткі, якія непрыкметна месцяцца ледзь не на кожным кроку, не заўсёды ўдаецца абмінуць нават пры выключнай спрактыкаванасці, пільнасці, разважлівасці. Шлях да згоды, пошуку выйсця з крытычнага становішча, калі ў яго давялося патрапіць, можа быць перакрыты тыповымі ў такіх сітуацыях з’явамі — пачуццём страху, панікай. Самае ж важнае і лёсавызначальнае ў дадзеным выпадку — пазбегнуць здрадніцтва. Каб не стаць братазабойцам (у шырокім значэнні гэтага слова), неабходна мець чыстае сумленне, спагаду, жаданне *паразумецца са сваімі*. А для гэтага перадусім трэба заставацца людзьмі.

Апазіцыя «Свае — Чужыя» трансфармуецца ў дадзенай прыпавесці ў «Свае — Свае». Канцэптуальная ж схема, як уяўляецца, можа мець наступны выгляд:




Непарыўную сувязь з «Радзімай», са «сваім народам» утварае «мова» — існасць усяго жывога на Зямлі. Пра важнасць, значэнне і патэнцыял мовы ідзе гаворка ў прыпавесці «Тры словы нямых».

Твор пачынаецца лаканічнай, але надзвычай ёмістай фразай з заключанай у ёй галоўнай праблемай: «Народ быў нямы» [3, с. 50]. У прыпавесці апавядаецца, як аднойчы, адчуўшы прыгнёт з боку чужынцаў — «гаваркіх» (яшчэ адно яскравае праяўленне канцэпта «Свае — Чужыя»[1]), — «адзін... сапраўдны глуханямы» [3, с. 53] перастаў выконваць іхнія загады. Падчас катавання ён гучна выкрыкнуў тры словы праклёну, якія магічна падзейнічалі на ворагаў: паліцыянты «ўпалі патыліцай аб зямлю й не крануліся болей» [3, с. 54].

У цяжкі час на дапамогу прыйшла родная мова. «Ад таго часу глуханямы стаўся першым апосталам нямога народу» [3, с. 54]. Аднак перамагчы «гаваркіх» «нямыя» не здолелі з-за адданасці «нацыянальнай традыцыі маўчаньня» [3, с. 57]. Праклён вырашылі перарабіць у ласкавую просьбу, якая ніяк не дзейнічала на чужынцаў. Фінал прыпавесці несуцяшальны:

«Зьбяднелы, апанураны, зьняверaны народ на высьпе памалу забыўся пра свайго глуханямога апостала і тры ягоныя словы. І зноў стаў нямы.

Тым часам — назаўжды» [3, с. 58].

Паводле ўласнага вызначэння В. Быкава, мова — гэта той «сук, на якім трымаецца ўся нацыянальная культура» [7, с. 531]. Таму вяртанне да Свайго, напэўна, і павінна адбывацца найперш праз вяртанне да роднай мовы.

Адзін з глыбінных ідэйных узроўняў прыпавесці «Новая цывілізацыя» — канцэптуальнае супрацьпастаўленне «Старое — Новае». У танальнасці аповеда дамінуюць з’едлівыя, саркастычныя ноты.

Калі ў краіне ўзніклі праблемы з бюджэтам, урад пастанавіў знішчыць «вялізную армію пэнсіянэраў» [3, с. 66]. У якасці сродку знішчэння была абрана гарэлка і ўжыты прынцып зваротнага эквіваленту: этыкетка на бутэльцы адпавядала пэўнай асігнацыі. «Сьцвердзіўся небывалы эканамічны фэномен — чым болей людзі спажывалі гарэлкі, тым больш багацелі. Запачаткавалася новая беспрэцэдэнтная цывілізацыя» [3, с. 76]. А ў выніку, «напрыканцы XX стагодзьдзя ў краіне... засталося ўсяго 9 (магічная лічба)» [3, с. 76] пенсіянераў.

[1] Паводле Ю. Сцяпанава, апазіцыя «Свае — Чужыя» «з’яўляецца адным з галоўных канцэптаў любога калектыўнага, масавага, народнага, нацыянальнага светаадчування» [6, с. 126].

Сур'ёзная праблема пакладзена аўтарам у гратэскавую фабулу твора. Калі аналізуеш прыпавесць у глабальным зрэзе, натуральна паўстае пытанне: што рыхтуе цывілізацыя, заснаваная на «новых» законах быцця? В. Быкаў, рэагуючы на падзеі 11 верасня 2001 г. у ЗША, выказаўся так: «Цывілізацыя рыхтуе або, можна сказаць, у сваёй патэнцыі мае такія жахлівыя рэчы. Гэтыя жахлівыя рэчы будуць, відаць, яшчэ больш жахлівыя ў сувязі з развіццём гэтай бяздумнай цывілізацыі» [8, с. 246].

«Калі… казаць пра змест канцэпта «Цывілізацыя», — заўважае Ю. Сцяпанаў, — як ён **арганічна** на працягу стагоддзяў — ад антычнасці да нашых дзён — склаўся ў грамадскай свядомасці, то атрымаецца наступнае… Цывілізацыя — гэта працэс руху да нейкай высокай стадыі развіцця грамадства… Менавіта такое разуменне цывілізацыі **патрабуе маральнай ацэнкі**: грамадства, якое дасягнула гэтай стадыі, мусіць натуральна ацэньвацца як вышэйшае, «лепшае», у параўнанні з іншым, якое гэтай стадыі не дасягнула…

«Цывілізацыя» яшчэ можа азначацца «не як «працэс», а як «тып», — тып арганізацыі грамадства і культуры» [9, с. 621—623].

Цывілізацыя, заснаваная на нябоскіх законах быцця, калі мэты дасягаюцца цаной жыцця чалавека, наўрад ці можа стасавацца з азначэннем «вышэйшая». Пераход да новага заўсёды патрабуе пэўных (і часам немалых) выдаткаў. І выдаткі гэтыя відавочныя. Але калі такі пераход адбыўся, пра магчымасць вяртання да «старога» казаць не выпадае.

Аспект прыпавесці, скіраваны на асобнага індывідуума, таксама вымушае гаварыць пра супрацьстаянне *старога* і *новага*.

Калі чалавек *нараджаецца* ў новым, для яго гэтае новае натуральным чынам будзе з'яўляцца звыклым, сваім. Невядомае старое, адпаведна, ён можа разглядаць як чужое. Чалавек нараджаецца ў *гэтай* культурнай парадыгме і, натуральна, фарміруецца ў адпаведнасці з ёй. Уплыў новага (хоць для гэтага індывіда яно такім і не з'яўляецца) адбываецца на самых розных узроўнях. Старое ж, ранейшае яму невядома. Пра яго ён можа атрымліваць толькі тэарэтычныя звесткі.

Той чалавек, *пры жыцці* якога адбылася *змена* культурнай парадыгмы, мае магчымасць, кіруючыся ўласным досведам, супаставіць, суаднесці старое і новае. І які бок ён прыме, увогуле залежыць ад яго самога. Іншая справа, што, выбіраючы «ранейшае», жыць усё адно яму даводзіцца ў «цяперашнім», з яго праявамі ён так або інакш будзе непасрэдна сутыкацца. Здолее ці не ён выстаяць пад націскам новага, залежыць, відаць, ад яго асобы. Праблема тут ужо, хутчэй, псіхалагічнага характару.

Па сутнасці, знаходзячыся ў межах той ці іншай культурнай парадыгмы, чалавек сам вызначае, што для яго з'яўляецца *сваім*, а што — *чужым*, хоць *аб'ектыўна* яно можа такім і не быць. Часам здараецца так, што з прычыны жыццёвых акалічнасцей ён не па сваёй волі апынаецца адарваным ад свайго-сапраўднага, памылкова пачынае лічыць такім чужое, не ўсведамляючы гэтай памылкі. Але, што важна, патэнцыйная магчымасць **вярнуцца да свайго** ў яго ўсё ж ёсць. Даволі красамоўна сведчыць пра гэта прыпавесць «Музыка».

Увогуле, «Музыка» — адмысловы твор. Ён вылучаецца сярод усіх астатніх прыпавесцей пісьменніка. Арэол таемнасці, загадкавасці, у некаторай ступені нават містычнасці, што пануе ў прыпавесці, гіпнатычна ўплывае на чытача. Гэтая прыпавесційная рэальнасць фантастычна-містычнага тыпу, таленавіта створаная В. Быкавым, па-сапраўднаму запалоньвае, убірае ў сябе. Аповед пабудаваны так, што ты быццам не чытаеш твор, а перажываеш яго знутры. Матыў трывожнага гуку («звонку ці, можа, **знутры** [вылучана намі. — **Р. Д.**], у сабе» [3, с. 160]), які паступова нарастае, пераходзіць у рэквіем, а пасля заціхае, набывае рысы лейтматыву прыпавесці.

У колеравай палітры аповеда дамінуюць цёмныя фарбы. Прыпавесць адкрываецца сімвалічнай карцінай зацішша перад бураю. Узмацненне загадкавага гулу суправаджаецца наступным пацямненнем. Надвячорак змяняецца ноччу. Музыка

ўздымаецца «ў зорную мітусьню чорнага начнога неба» [3, с. 164] і ляціць насустрач таемнаму гуку. Адзінота яго, чарната космасу, цёмная зямля і спеў-рэквіем нібы зліваюцца ў адну агульную сімфонію трагізму:

«Ён быў адзін — у суцэльнай цемрадзі, пад зорным купалам, над цёмнай зямлёй, адкуль імкнула ўвысь і ўшыркі загадкавая музыка» [3, с. 170]. Калі палёт музыкі запавольваецца, не запавольваецца рух напружання, якое па-ранейшаму ўзрастае, набірае моц і ўрэшце дасягае кульмінацыі.

Ноч для музыкі становіцца ноччу яго ўласнага «Я»: «Глушэла жалобная мэлёдыя, і ён раставаў зь ёй разам... Ён усьвядоміў, што яго самога ў прасторы стала да мізэрнага мала. Краёчак ягонага былога Я. Усё астатняе сасмактала цемра з далёкім, як у пачатку, жалобным гулам, ды зорным касьмічным бляскам угары.

А пасьля не засталося нічога...» [3, с. 171].

М. Тычына сцвярджае, што прыпавесць мае адзнакі антыўтапічнасці [10]. З думкай даследчыка можна пагадзіцца. «Музыка» сапраўды ўяўляецца творам-перасцярогай, у якім выразна гучыць праблема памяці і вернасці. Памятаць і служыць свайму, роднаму, каб пазбегнуць катастрофы. Не застацца без роду і племені. Прыслухоўвацца да голасу сэрца, гукаў душы, каб у выпадку страты Скарбу мець магчымасць яго адшукаць і вярнуць. Трагедыя музыкі ў тым, што ён, адчуваючы покліч сэрца, не пайшоў насустрач гэтаму гуку. Ён застаўся на месцы і як вынік — канчаткова страціў і скарб (сваю сапраўдную радзіму), і сябе — як часцінку гэтага скарбу.

Вяртанне для музыкі немагчымае. Але нават пры веданні і ўсведамленні важнасці вяртання, так або інакш паўстае праблема дакладнага вызначэння *шляху*. Напрамкаў можа быць некалькі, а правільны і дакладны часцей за ўсё адзін. Пошук гэтага адзінага шляху, вядома ж, няпросты, але заўсёды неабходны. Пошук уласны, самастойны. Падказкі з боку іншага «Я» могуць быць дарэчныя, аднак канчатковае рашэнне ўсё адно мусіць з'яўляцца асабістым.

«Але як ён [музыка. — **Р. Д.**] мог нешта зрабіць, калі быў падначалены чужой волі, пазбаўлены ўласнага Я» [3, с. 171]. Залежнасць ад чужой волі, знаходжанне па-за межамі свайго, асабістага — таксама катастрофа, катастрофа духоўнага «Я» («сябе фізычнага ён па-ранейшаму не адчуваў, бы і ня меў свайго цялеснага Я. Але цяпер пачало марнець і ягонае Я духоўнае...» [3, с. 171]).

Матыў адзіноты-самоты — яшчэ адзін ідэйны ўзровень прыпавесці. Герой заўсёды сам-насам з сабою (напачатку — у гатэльным нумары, затым — у касмічнай прасторы). Ён быццам знаходзіцца ў пэўным зняволенні, зняволенні перадусім духоўнага кшталту. Аднак гэта не азначае, што ён пазбаўляецца ўплываў звонку. Відаць, менавіта ў такой сітуацыі і пачынае дзейнічаць «чужая воля», якая яшчэ больш звужае яго «прастору» і выклікае паступовае адміранне ўласнага «Я». У такім становішчы на першы план выходзіць магчымасць і здольнасць чалавека супрацьстаяць. Музыку не ўдаецца пазбавіцца ўплыву чужога, ён не знаходзіць у сабе адпаведных, сваіх контраргументаў. «Чужое» высмоктвае «сваё», яго становіцца да мізэрнага мала, а пасля не застаецца нічога.

Арганічна ў фармальную і ідэйна-тэматычную тканіну прыпавесці ўплецены сон музыкі, які, у сваю чаргу, можна разглядаць як асобную прыпавесць. Па сутнасці, мы маем справу з кампазіцыйным прыёмам «прыпавесць у прыпавесці». Гэты сон гучыць набатам усё таго ж спеву-рэквіему. Сувязь тут непасрэдная: палёт музыкі на пахавальны матыў — гэта ягоны шлях у сне да абрыву — «шырокай бездані, якую было не абмінуць» [3, с. 162].

Асуджанасць чалавека на невяртанне — экзістэнцыйны бок прыпавесці «Музыка». Жыццё чалавека — гэта незваротны палёт насустрач хаўтурнаму звону. Так ці інакш, вынік для кожнага аднолькавы. І ў гэтым — выключная ўніверсальнасць гучання твора ў цэлым і яго апошняй фразы ў прыватнасці.

Майстэрства пісьменніка ствараць псіхалагічна завостраныя сітуацыі крытыкай было заўважана даўно. Не з'яўляюцца выключэннем і творы, напісаныя ў жанры прыпавесці. У прыватнасці, гранічным псіхалагізмам напоўнены пры-

павесці В. Быкава «Музыка», «Сцяна». Псіхалагічна-экзістэнцыйнай дамінантай пазначана і прыпавесць «Вослік». Герой-самотнік, які дзейнічае і ў гэтым творы, робіць рашучы крок, мэтанакіраваны выбар: ён павінен ахвяраваць сабой, «ня дзеля славы — дзеля народа»[1] [3, с. 183].

Танальнасць першых радкоў твора ў нечым падобная да пачатку папярэдняй прыпавесці, але разам з тым заўважаецца і пэўная супрацьлегласць. Экспазіцыя прыпавесці «Музыка» наступная:

«Надвячоркам ён задрамаў у зацемненым гатэльным нумары. Празь няшчыльныя пласьціны белых жалюзі ў пакой цадзілася дробна-паласатае сьвятло, якое ламана стракацела па мэблі, дыване на падлозе, па сьценах, невялікай карціне з выявай карыды... Ён, аднак, не ўглядаўся ў карціну — ён ня дужа заўважаў карцін ні ў гатэлях, ні ў офісах. Ён быў музыка, і нашмат большую цікавасьць для яго мелі гукі. Але цяпер, калі сіеста збольшага скончалася, а вечаровы курортны тлум яшчэ не настаў, было быццам ціха... І ўсё ж менавіта ў гэтай цішы ўзьнік нейкі незразумелы гук, які вынікаў невядома адкуль і чамусьці трывожыў слых...» [3, с. 159].

А гэта пачатак прыпавесці «Вослік»:

«На зорным небе між чорных верхавін кіпарысаў бліскуча сьвяціла летняя поўня. Яе ясны зіхотны водсьвет няроўна ляжаў на верхніх камянях доўгай мураванай сьцяны, за якой туліўся вузкі бядняцкі падворак з мандарынавымі дрэўцамі на схіле ды двума-трыма каменнымі хлеўчукамі ніжэй. Ля рогу аднаго зь іх, прыхаваны ценем ад бліжняга кіпарысу, сядзеў чалавек, які, не зважаючы на начны позьні час, ня спаў і нават не заплюшчваў вочы, здаецца, і ня дыхаў нават, толькі чуйна ўслухоўваўся ў кожны гук з навакольля...» [3, с. 172].

Відавочна, што для абодвух зачынаў агульнай з'яўляецца іншасказальная атмасфера ночы, пэўнага начнога зацішша, стоенасці, якая ўдакладняецца матывам трывожнага чакання. У той жа час у кожным творы гэты матыў набывае адмысловае гучанне. Калі музыка чакаў чагосьці невядомага, няпэўнага, то герой прыпавесці «Вослік» выразна ўсведамляў, што яму належыць зрабіць. Ён не мог, у адрозненне ад музыкі, дазволіць сабе заснуць, бо гэта магло абярнуцца правалам ягонага плана. Ён мусіў валодаць музычным слыхам, але не для таго, каб адрозніваць гукі музыкі, а для таго, каб пазбегнуць непажаданай сустрэчы і захаваць сябе да рашаючага моманту.

Яскрава праяўляецца ў творы матыў адчужанасці. Каб выканаць заданне, герой вяртаецца ў родны горад, аднак у ім ён не пачуваецца *сваім*. Ён павінен хавацца ад тых, для каго з'яўляецца ворагам. Ён мусіць быць *адзін*. Адзінай жывой істотай, з якой ён мог паразумецца, быў вослік. Па-сапраўднаму кранае шчымлівая сцэна размовы чалавека з жывёлай:

«Чалавек адыйшоўся ад весьнічак да арбы з прывязаным да яе восьлікам, ласкава паляпаў яго па шыі. Восьлік даверліва памкнуўся да яго, пацёрся аб яго сьцягном. Бедны восьлік, ён таксама пакутаваў на адзіноце, чакаючы ад чалавека ласкі і разуменьня» [3, с. 177].

Развітанне з жывёлай успрымаецца як развітанне з дарагім сябрам, які стаў такім для чалавека ў трывожную часіну, але якога па волі абставін ён вымушаны пакінуць аднаго (вартасная вага гэтага сяброўства асабліва адчуваецца ў кульмінацыйны момант твора):

«На разьвітаньне з восьлікам ён коратка палашчыў яго даверлівую шыю і засьцярожліва ўзьняў на плячо невялікі хатулёк... Літровая бутля з бэнзынам была ягонай найбольшай каштоўнасьцю, даражэйшай за жыцьцё» [3, с. 178].

Характэрна і тое, што месца для здзяйснення «самапалу» чалавек выбірае таксама дарагое. Ратушную «плошчу ён ведаў змалку, туды хадзіў гуляць зь нянькай, затым цераз яе бегаў у недалёкую школу. Там жа ён упершыню спаткаўся са сваім адзіным і такім няшчасным каханьнем...» [3, с. 175].

---

[1] Тут прасочваецца паралель з апавяданнем пісьменніка «На Чорных лядах», у якім героі здзяйсняюць акт самазнішчэння дзеля жыцця сваіх родных і блізкіх.

І ўсё было б нічога, калі б не адна акалічнасць, якая сведчыла супраць яго: здзейсніць самазабойства належала *на людзях*. Каб прайсці незаўважаным на плошчу, таксама патрэбныя былі людзі. І менавіта гэты фактар стаўся вырашальным. Пры падыходзе да плошчы яго пазнала знаёмая жанчына.

На чалавека ладзіцца сапраўдная аблава (дарэчы тут прыгадаць аднайменную аповесць В. Быкава). Ніхто са «сваіх» за яго не заступіўся. Кантраст чалавека і натоўпу набывае рысы глабальнасці. Здаецца, увесь свет паўстаў супраць гэтага мужчыны. Дапамогі чакаць няма адкуль. Ён *адзін* супраць *усіх*:

«Адчуўшы, што ўсё ў яго рушыцца, ён ірвануўся прэч... Але жанчына не адрывалася ад яго, прадаўжала крычаць, і людзі, колькі іх было навакол і паблізу, паварочваліся да іх — сьпераду, ззаду, з бакоў...

З шырокай вуліцы ля царквы ён завярнуў на вузейшую, на рагу азірнуўся — за ім беглі пераважна мужчыны, але траплялі і жанкі таксама. Сьледам па вуліцы несься разрозьнены лямант і крык. Натоўп даганятых усё гусьцеў, зьяўляліся новыя людзі... Праз момант яго ўжо сталі абмінаць — з бакоў і пад сьценамі... Іх там усё большала, а ў яго ўжо не хапала дыханьня ад гэтага зьдзічэлага бегу, і ён ня ведаў, што рабіць...» [3, с. 184—185].

Выканаць смяротны прысуд самому сабе яму не дазволілі. Рэшта надзеі сканала тады, калі чалавек, пераадольваючы сцяну, разліў бензін. У прыпавесці «Сцяна» надзея жыла ў вязню да таго моманту, пакуль ён не апынуўся *за сцяной*. Імкнуцца на той бок герою прыпавесці «Вослік» ужо не мела сэнсу, «і Чалавек абвяла зваліўся на брук пад сьцяну» [3, с. 185].

Слова «чалавек», заўважым, напісана тут з вялікай літары. І наўрад ці гэта выпадковасць альбо памылка друку. Герой твора быў чужым сярод сваіх. Ён пацярпеў паразу, але застаўся *Чалавекам* і ўжо гэтым узвысіўся і пераўзышоў усіх тых, хто паўстаў супраць яго. Ён жадаў іншай перамогі, а перамог у *Чалавечнасці*.

Сэнсы і зместы прыпавесці тычацца як жыцця грамадства, народа, нацыі, так і жыцця кожнага асобна ўзятага чалавека. План, скіраваны на чалавека-індывідуума, чалавека-асобу, на яго ўнутраны стан, яго самарэалізацыю і самавызначэнне, высвечвае адметныя ідэйныя грані той ці іншай прыпавесці.

Кожны чалавек, аднойчы нарадзіўшыся, вымушаны ісці па дарозе жыцця. У кожнага свой уласны шлях на зямлі. Як ён яго пройдзе, залежыць ад многіх акалічнасцей. Пастаўленых мэт трэба дасягаць праз пераадоленне шматлікіх унутраных перашкод, якія на працягу жыцця могуць неаднаразова паўтарацца ў самых розных сваіх формах і варыяцыях. Вельмі многае вызначаюць таксама знешнія абставіны і ўплывы. Чалавек вымушаны жыць у «хворым», сапсаваным свеце, супрацьстаяць якому надзвычай складана. У прыпавесці «Мурашкі» пісьменнік, па сутнасці, прасочвае асноўныя вехі эвалюцыі чалавецтва, насычанай варажнечаю, нянавісцю, забойствамі, глабальнымі катастрофамі.

Надзвычай важным для чалавека з'яўляецца тое, хто ці што на гэтым шляху выступае яго правадыром (прыпавесць «Пахаджане»). Даволі часта кіруюць чалавекам усё тыя ж абставіны альбо выпадак (адна са скразных праблем творчасці В. Быкава). У сітуацыях, якія прынята называць памежнымі, тое ці іншае рашэнне можа прымацца ім на неўсвядомлена-інстынктыўным узроўні.

Як бы ні было, чалавек павінен спраўляцца са сваімі праблемамі, цяжкасцямі ўласнымі сіламі. Бо «калі ты сам сабе не паможаш, дык не паможа ніхто» [7, с. 466].

Мабыць, самае галоўнае і вызначальнае, што павінна кіраваць чалавекам у жыцці, — пачуццё Любові. Любіць, каб не здрадзіць Свайму. Каб не трапіць у пастку нянавісці і пазбегнуць братазабойства. Каб заставацца верным да канца, да апошняй мяжы. Сапраўдная любоў выяўляецца, напэўна, тады, калі чалавек апынаецца ў крытычным становішчы, перад тварам небяспекі, пагрозы, смерці, дзе мяжа паміж вернасцю і здрадай вельмі хісткая (прыпавесці «Хвастаты», «Маленькая чырвоная кветачка»).

«Зьнявага чалавечых і боскіх законаў быцьця» [3, с. 135] прыводзіць да самага рознага кшталту катастроф. Чым кіруецца чалавек у жыцці, як ставіцца да навакольнага асяроддзя, да іншых людзей і да сябе самога, у многім прадвызначае яго ўласны лёс. Якую мэту імкнецца ён дасягнуць — таксама мае немалаважнае значэнне. Пастаяннае знаходжанне пад уладай нездзяйсняльных думак і мар, у палоне віртуальнасці можа мець сумныя наступствы (прыпавесць «Сонца ў ваконцы?»). Так або інакш, ад рэальнасці не ўцячы. «Здараецца тое, што і павінна здарыцца — паводле законаў жыцьця» [3, с. 148].

«Але, як вядома, чалавек уладкаваны гэткім чынам, што калі добра, дык хочацца, каб і яшчэ лепш» [3, с. 39—40]. Разам з тым на шляху да зманліва-няпэўнага «лепшага» ён часам схільны прымаць паспешлівыя, няўзважаныя як след рашэнні, цалкам пакладаючыся толькі на веру-спадзяванне, што можа прывесці да непапраўнага. Жыццёвыя сітуацыі паводле ступені сур’ёзнасці і складанасці бываюць, вядома, розныя. Цэнтральная ідэя прыпавесцей «Кошка і мышка», «Вуціны статак», «Аб’яднанне» — кіравацца не сляпым аптымізмам, а цвярозым розумам, хоць ён і не заўсёды можа дапамагчы. Бо жыццё — рэч даволі непрадказальная, і тыя ці іншыя яе праявы ўсё адно будуць супярэчыць вывераным лагічным развагам (прыпавесць «Хвастаты»).

Калі чалавек жадае дамагчыся нечага ў жыцці, ён мусіць дзейнічаць неадкладна, «тут і цяпер». «Periculum est in mora» («небяспека ў прамаруджванні») — яшчэ адзін вызначальны матыў прыпавесцей В. Быкава. Той, хто знаходзіць у сабе сілы адхінуць заслону прывіднасці, у каго ў «заплечніку» жыццёвых правілаў маецца месца мудраму лацінскаму выслоўю, хто рашучыя дзеянні падмацоўвае яшчэ і шчырым жаданнем, прагай, — менавіта такі чалавек здольны ў выніку перамагчы.

Талент сталага творцы па сваёй прыродзе, па сутнасным змесце імкнецца, з аднаго боку, да ўсёабдымнасці і, з другога, да лаканічнасці, выразнай адшліфаванасці мовы, вербальнага матэрыялу. Гэта дазволіла В. Быкаву тварыць у злітным суладдзі формы і зместу, напаўняючы прыпавесці незвычайнай моцы псіхалогіяй, жывой філасофіяй быцця, а ўсё гэта разам спарадзіла мастацкія шэдэўры малой празаічнай формы.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 23 лістапада 2010 года.

**Літаратура**

1. Степанов, Ю. С. Константа / Ю. С. Степанов // Константы : словарь русской культуры / Ю. С. Степанов. — 2-е изд., испр. и доп. — М. : Академический Проект, 2001. — С. 84—85.

2. Масарэнка, Ю. А. Канцэпталагічны падыход у даследаванні актуальных праблем тэорыі літаратуры / Ю. А. Масарэнка // Выяўленча-мастацкія, арганізацыйныя і ідэалагічныя праблемы сучаснай беларускай літаратуры ў яе сувязях з грамадскімі практыкамі: матэрыялы рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, г. Мінск, 19—20 мая 2009 г. / Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі ; рэдкал.: М. А. Тычына [і інш.]. — Мінск, 2009. — С. 116—122.

3. Быкаў, В. Пахаджане : прыпавесьці / В. Быкаў. — Вільня : Наша Ніва, 1999—2000. — 192 с.

4. Бугаёў, Дз. Коласаўская традыцыя ў творчасці Васіля Быкава / Дз. Бугаёў // Служэнне Беларусі : прабл. арт., літ. партр., эсэ, успаміны / Дз. Бугаёў. — Мінск : Маст. літ., 2003. — С. 19—30.

5. Біблія : Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету : кананічныя / У беларус. пер. В. Сёмухі. — Duncanville (USA) : World Wide Printing, 2002. — 1535 с.

6. Степанов, Ю. С. «Свои» и «Чужие» / Ю. С. Степанов // Константы : словарь русской культуры / Ю. С. Степанов. — 2-е изд., испр. и доп. — М. : Академический Проект, 2001. — С. 126—143.

7. Быкаў, В. Доўгая дарога дадому : кніга ўспамінаў / В. Быкаў. — Мінск : ГА БТ «Кніга», 2003. — 544 с.

8. Быкаў на Свабодзе / В. Быкаў ; Радыё «Свабода». — 2-е выд., дап. — Б. м. : Радыё Свабодная Эўропа, 2005. — 662 с. — (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе).

9. Степанов, Ю. С. Цивилизация / Ю. С. Степанов // Константы : словарь русской культуры / Ю. С. Степанов. — 2-е изд., испр. и доп. — М. : Академический Проект, 2001. — С. 621—649.

10. Тычына, М. У жанры антыутопіі / М. Тычына // ЛіМ. — 1997. — 3 кастр. — С. 6—7.

**Раман Дубашынскі**
**Канцэпты прыпавесцей Васіля Быкава**

**Рэзюмэ**

Увага даследчыка звернута на асэнсаванне канцэптуальных асноў прыпавесцей Васіля Быкава. Даследуюцца канцэпты «Свой — Чужы», «Старое — Новае», «Цывілізацыя» і інш. Шляхам канцэптуальнага аналізу аўтар узыходзіць на ўзровень філасофскіх абагульненняў і выяўляе філасофска-псіхалагічную парадыгму твораў.

**Roman Duboshinski**
**The conceptions Vasil Bykau's parables**

**The Summary**

Researcher's attention is paid to understanding of conceptual basis of Vasil Bykau's parables. The concepts «One's — Other's», «Old — New», «Civilization» and others ones have been researched. The author touches upon the level of philosophical generalizations and defines philosophical-psychological paradigm of the works by means of conceptual analysis.

**Аляксандр КАВАЛЕНЯ**

# ГЕРАІЧНАСЦЬ І ТРАГЕДЫЯ 1941 ГОДА: ЗАБЫЦЦЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ

Патрыятызм, любоў да роднай зямлі на працягу многіх стагоддзяў нашы продкі дэманстравалі неаднаразова, падчас фарміравання беларускай дзяржаўнасці даючы адпор іншаземным захопнікам. З германскай агрэсіяй, «націскам на Усход» ім, у прыватнасці, давялося змагацца больш як два стагоддзі, да самага разгрому нямецкіх крыжакоў у 1410 годзе пад Грунвальдам. Пасля гэтага на пяць стагоддзяў, аж да развязвання Першай сусветнай вайны, былі спынены іхнія спробы ўварвання на славянскія землі. Досвед продкаў, іх гераічныя традыцыі і духоўная сіла сталі запатрабаванымі і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі старажытны германскі «Дранг нах Остэн» у нацысцкім выкананні зноў абрынуў беды і няшчасці на беларускую зямлю ў суровым 1941 годзе.

Памяць пра вялікія ратныя здзяйсненні народа заўсёды з'яўлялася важнейшым зместам афіцыйнай ідэалогіі кожнай дзяржавы, якая перамагла. Перамога Савецкага Саюза над нацысцкай Германіяй была здабыта ў справядлівай, вызваленчай вайне. Фашысцкія агрэсары імкнуліся самымі варварскімі метадамі знішчыць і заняволіць славянскія народы, ліквідаваць дзяржаўны суверэнітэт СССР і забяспечыць сусветную гегемонію. Навуковая распрацоўка пытанняў гісторыі Другой сусветнай вайны, асабліва найбольш складанага і супярэчлівага пачатковага яе перыяду, сёння набывае прынцыповы характар. Захаваць і данесці да будучых пакаленняў памяць пра гераічныя і трагічныя падзеі пачатку Вялікай Айчыннай вайны — адна з найважнейшых задач даследчыкаў.

Вялікая Перамога 1945 года, вытокі якой у гераічнасці і ахвярнасці абаронцаў 1941 года, у іхняй веры ў справядлівую справу, заклалі асновы таго светаладу, які, нягледзячы на ўсе яго заганы, дазволіў пазбегнуць новага глабальнага ваеннага канфлікту і ў цэлым спрыяў руху чалавецтва да больш стабільнага, бяспечнага і гуманнага свету. Сёння некаторыя аўтары, схільныя да пошуку сенсацый, спрабуюць унушыць ідэю таго, што Вялікая Айчынная вайна, маўляў, з'явілася супрацьстаяннем паміж двума крывавымі дыктатарамі — Гітлерам і Сталінам. Тым самым падтрымліваецца лжывы тэзіс пра ўзаемную адказнасць Германіі і Савецкага Саюза за развязванне Другой сусветнай вайны. Ёсць сілы, якія зацята спрабуюць дэманціраваць светалад, што склаўся ў пасляваенны перыяд, але ён, гэты светалад, насуперак усяму, працягвае існаваць і ўплываць не толькі на постсавецкую, але і на еўрапейскую і сусветную геапалітыку ўжо і ў новым, XXI стагоддзі.

Пачатак барацьбы з гітлераўскай Германіяй для Савецкага Саюза быў не толькі трагічным, пра што так шмат шуміць «дэмакратычная» пішучая супольнасць, але і, што асабліва важна падкрэсліць, — гераічным. Не толькі велізарнымі бязвіннымі ахвярамі напісана гісторыя пачатку Вялікай Айчыннай вайны, як пра гэта можна прачытаць у шэрагу выданняў апошніх гадоў. Хоць менавіта тады, у найцяжкіх умовах маральнай і тэхнічнай перавагі нямецкага вермахта, з'явіліся тысячы і тысячы першых герояў, якія здолелі не толькі спыніць яго пераможны паход, але і сарвалі маланкавы рух немцаў на Усход. Менавіта ўпартасць, муж-

насць і самаадданасць савецкага салдата зрабілі тое, чаго не змаглі ажыццявіць хвалёныя войскі цывілізаваных краін Заходняй Еўропы.

Для Рэспублікі Беларусь, якая страціла ў 1941—1945 гг. кожнага свайго трэцяга жыхара, вывучэнне і ўвекавечванне гераічнага подзвігу і бязвінных ахвяр — справа дзяржаўнай палітыкі, якую мэтанакіравана рэалізуюць заканадаўчыя, дзяржаўныя, выканаўчыя органы ўлады, навуковыя і грамадскія аб'яднанні і арганізацыі.

Няма ў нас такога кутка, які не стаў бы месцам народнага подзвігу, здзейсненага за гады шматлікіх войн, што пранесліся вогненным смерчам па нашай шматпакутнай зямлі. І няма ў Рэспубліцы Беларусь таго месца, дзе б не ўшаноўвалі гэтыя подзвігі. Удзячныя нашчадкі ўжо ў першыя пасляваенныя гады ўзводзілі мемарыяльныя комплексы, курганы Славы, абеліскі, помнікі. Ля падножжа многіх з іх гарыць Вечны агонь, ускладаюцца кветкі. Мемарыяльныя комплексы, брацкія магілы, абеліскі і помнікі, адлітыя з бронзы і высечаныя з каменя, апранутыя ў граніт, з імёнамі тых, хто не вярнуўся з палёў вайны, і безыменныя, устаноўлены на гарадскіх плошчах, у парках, вёсках, на скрыжаваннях шашэйных дарог, на лясных палянах. Яны не толькі сведчаць пра веліч подзвігу, але і з'яўляюцца важнай часткай духоўнага жыцця нашага грамадства, выконваюць вызначальную ролю ў фарміраванні патрыятычнай і нацыянальнай самасвядомасці. Не кожны народ мае такую слаўную і гераічную гісторыю. Беларускаму народу ёсць чым ганарыцца!

На нашай зямлі каля 8,5 тысячы памятных месцаў, брацкіх магіл, абеліскаў і помнікаў. Пад імі супакоіліся вечным сном сыны Айчыны — воіны, партызаны, падпольшчыкі, мірныя жыхары, расстраляныя і закатаваныя германскімі захопнікамі. Сярод гэтых памятных месцаў важкая частка прысвечана ваенным падзеям 1941 года.

Да ліку найболей значных мемарыяльных комплексаў, што захоўваюць памяць пра іх, з'яўляецца перш за ўсё Брэсцкая крэпасць-герой, якую справядліва называюць універсітэтам мужнасці. Велічны мемарыял быў адкрыты 25 верасня 1971 года і ўвекавечыў бяспрыкладны гераізм і мужнасць абаронцаў цытадэлі і мірных жыхароў. Кампазіцыйным цэнтрам ансамбля стаўся манумент «Мужнасць» — скульптура воіна вышынёй 33,5 метра і штык-абеліск, што ўзнёсся на 104,5 метра.

З 22 чэрвеня 1941 года Брэсцкая крэпасць і сам горад Брэст былі падвергнуты жорсткім бомбавым ударам. Гітлераўцы цалкам ці часткова знішчылі склады з боепрыпасамі, водаправод, парушылі камунікацыі і сувязь. Асабовы склад крэпасці ў выніку маланкавага нападу быў разбіты на некалькі частак. На што заставалася спадзявацца пагранічнікам, іх сем'ям, абслугоўваючаму персаналу? Здацца германскім агрэсарам і, магчыма, застацца ў жывых? Да канца выканаць свой абавязак перад Радзімай і аказаць супраціўленне ворагу?

Знаходзячыся ў поўнай блакадзе, пры недахопе боепрыпасаў, харчу, вады і медыкаментаў, акружаныя пераўзыходзячымі сіламі ворага, упэўненага ў непераможнасці германскага вермахта, які забяспечыў «еўрапейскі бліцкрыг», яны, не задумваючыся, зрабілі выбар, што выявіўся ў выкананні свайго воінскага абавязку, у беззапаветнай адданасці Радзіме. Гераічнае, самаадданае супраціўленне падраздзяленняў 6-й і 42-й стралковых дывізій, 17-га пагранатрада і 132-га канвойнага батальёна войскаў НКУС было зламана толькі пасля смерці ўсіх байцоў, якія да апошняга патрона аказвалі супраціўленне.

Нават праціўнік напоўніўся павагай да стойкасці і мужнасці савецкіх салдат і афіцэраў. Ва ўспамінах нямецкага гісторыка Паўля Карэла, які быў афіцэрам у штабе Блюментрыта, падзеі абароны Брэсцкай крэпасці пададзены празмерна натуралістычна: «Увесь фронт над Бугам, наколькі можна было ахапіць вокам, палаў і скаланаўся ад выбухаў. Усё знішчаецца артналётам і бамбардзіроўкай. Кананада падняла на ногі гарнізон Брэсцкай крэпасці. Батальёны двух палкоў нашай дывізіі рынуліся ў атаку, але ўварвацца ўнутр крэпасці не

змаглі — абаронцы яе стаялі насмерць; агонь стралкоў і кулямётчыкаў не даваў падняцца. У другой палове дня на дапамогу штурмавікам кінулі рэзервовы полк дывізіі. Марна! Потым на падмогу быў кінуты дывізіён штурмавых гармат. «Самаходкі» ва ўпор расстрэльвалі пазіцыі рускіх. Безвынікова! Да вечара страты нашы склалі 21 афіцэр і 230 унтэр-афіцэраў і салдат. Не дабіўшыся поспеху, штурмавыя роты былі адведзены на зыходныя пазіцыі. Толькі пасля гэтага прымянілі авіяцыю і артылерыю. Крэпасць стаяла! 29 чэрвеня фельдмаршал авіяцыі Кесельрынг загадаў бамбіць і бамбіць. Але бомбы ў 500 кілаграмаў не дапамаглі. Сталі кідаць вагой у 1800 кілаграмаў. Сцены абрушваліся, цэгла плавілася, але абаронцы стаялі. Ніводзін не здаўся ў палон! 30 чэрвеня. Нашы страты: 40 афіцэраў і 482 унтэр-афіцэры і салдаты, больш як тысяча раненых, шмат з якіх неўзабаве памерлі. Барацьба працягвалася, пазіцыі рускіх, будынкі казарм давялося крок за крокам падрываць па частках. А яшчэ напярэдадні нападу нікому ў галаву не магло прыйсці, колькі нашай крыві пральецца тут, ля старой крэпасці».

Адной з драматычных старонак абароны Брэсцкай крэпасці стаў востры недахоп вады. Вада была неабходна для раненых, жанчынам і дзецям — усім удзельнікам абароны і для астуджэння кулямётаў. Захопнікі днём і ўначы ахоўвалі подступы да ракі, асвятляючы пражэктарамі і абстрэльваючы прылеглую тэрыторыю. Стваральнікі мемарыяла, ведаючы пра гэту трагедыю, вырашылі распавесці пра яе, стварыўшы скульптурную кампазіцыю «Смага» ля скрыжавання ракі Мухавец. Постаць салдата, які паўзе да вады з каскай у руцэ, не пакідае нікога абыякавым. Сёння ў працягнутай наперад касцы — жывыя кветкі ад наведвальнікаў.

Рэльефныя кампазіцыі Брэсцкай крэпасці-героя адлюстроўваюць гераічныя эпізоды яе абароны. З цэнтральным манументам арганічна злучаны трыбуна і трох’ярусны некропаль. Пад ім прах 962 загінуўшых у цытадэлі. На плітах напісаны імёны 269 абаронцаў і членаў іх сем’яў. Астатнія пазначаны як «невядомыя». Побач з руінамі былога інжынернага ўпраўлення гарыць Вечны агонь Славы. Перад ім адлітыя з бронзы словы: «Стаялі насмерць, слава героям!» Вечны агонь быў запалены ў дзень адкрыцця мемарыяла 9 мая 1985 года Героем Савецкага Саюза, першым сакратаром ЦК КПБ Пятром Міронавічам Машэравым. Непадалёку ад Вечнага агню знаходзіцца мемарыяльная пляцоўка гарадоў-герояў, на якой пад гранітнымі плітамі ўстаноўлены капсулы з зямлёй з усіх гарадоў-герояў былога Савецкага Саюза.

У музеі сабраны багацейшыя матэрыялы, створаны скульптурныя кампазіцыі, экспазіцыі малюнкаў, прадстаўлены кінафотадакументы, узбраенне і асабістыя рэчы абаронцаў. У некалькіх кіназалах дэманструюцца хранікальна-дакументальныя фільмы пра гераічную абарону.

Важным укладам у захаванне памяці пра гэтую векапомную падзею стала публікацыя дакументальных і навуковых зборнікаў, успамінаў. Заслуга аднаўлення памяці герояў крэпасці шмат у чым належыць пісьменніку і гісторыку С. С. Смірнову, які за кнігу «Брэсцкая крэпасць» уганараваны Ленінскай прэміяй. Пасля гэтага тэма абароны Брэсцкай крэпасці стала важным сімвалам афіцыйнай патрыятычнай прапаганды.

Нават у самы цяжкі перыяд 90-х гадоў XX стагоддзя, калі разбураліся колішнія ідэалы, знішчаліся шматлікія помнікі, кіраўніцтва краіны зрабіла ўсё магчымае, каб захаваць для нашчадкаў гэты найвялікшы сімвал мужнасці, самаадданасці і вернасці воінскаму абавязку. За гады існавання музей і мемарыял Брэсцкая крэпасць-герой сталі цэнтрам ваенна-патрыятычнага выхавання, склаліся шматлікія традыцыі. Ганаровую вахту на Пасту Памяці нясуць мемарыяльныя атрады школ і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў горада. Штогод 9 мая, у Дзень Перамогі, не толькі з Брэста і ўсёй Беларусі, а і з многіх былых саюзных рэспублік збіраюцца на мітынг людзі, каб аддаць даніну павагі тым, хто не скарыўся ворагу. Маладыя салдаты на свяшчэннай зямлі прымаюць воінскую прысягу. У дзень нараджэння

новай сям'і прыносяць кветкі. На Плошчы цырыманіалаў 1 верасня ўручаюцца студэнцкія білеты.

Аднавіла служэнне размешчаная на тэрыторыі крэпасці Свята-Мікалаеўская царква, перададзеная ў 1994 годзе Брэсцка-Кобрынскаму епархіяльнаму ўпраўленню. З верасня 1995 года ў храме зноў набываюць духоўнае супакаенне праваслаўныя хрысціяне. Стала традыцыяй штогод 22 чэрвеня служыць літургію па загінуўшых.

Гераічныя падзеі абароны адлюстраваны ў палотнах беларускіх жывапісцаў, напрыклад, І. Ахрэмчыка «Абаронцы Брэсцкай крэпасці», Я. Зайцава «Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе» і інш. Гэтай тэме прысвечаны шматлікія выпускі Міністэрства сувязі Савецкага Саюза і пошты Рэспублікі Беларусь. У жніўні 1961 года выдадзена паштовая мініяцюра, на якой адлюстравана вядомае палатно П. Крываногава «Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе». Другая марка выйшла напярэдадні 20-годдзя Перамогі. Аўтары Д. Надзеждзін і А. Плятнёў узнавілі на ёй бой ля сцен цытадэлі, помнік загінуўшым і «Залатую Зорку», якой крэпасць была ўганаравана 8 мая 1965 года.

Да 20-годдзя абароны цытадэлі выпушчаны канверт з малюнкам Холмскіх варот і чырвоным сцягам. Пад імі — абломак сцяны форта са словамі «Тут стаялі насмерць абаронцы Брэсцкай крэпасці». Гэты канверт быў паўтораны ў сувязі з прысваеннем цытадэлі звання Крэпасць-герой.

Праца па ўвекавечванні абаронцаў працягваецца. У 2009 годзе ў ваенна-гістарычным музеі ў горадзе Лёзна ўстаноўлена скульптура легендарнага камісара Я. Фаміна, які нарадзіўся ў тамашняй вёсцы Колышкі. Яго імя прысвоена адной з вуліц гэтага райцэнтра, швейнай фабрыцы ў Брэсце, сярэдняй школе ў Колышках, вуліцам у Брэсце, Мінску, Лёзна.

Жыве ў народа памяць пра пагранічнікаў, якія першымі прынялі на сябе ўдар ворага. Сярод іх была трэцяя пагранзастава — камандзір лейтэнант В. Усаў, палітрук А. Шарыпаў. Па заставе быў адкрыты ўраганны мінамётны і артылерыйскі агонь, але 39 байцоў, заняўшы кругавую абарону, не здаваліся. За дзесяць гадзін яны адбілі сем атак, а калі скончыліся патроны, падняліся ў штыкавую атаку. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 6 мая 1965 года лейтэнанту В. Усаву пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Застава, якой камандаваў ён, носіць ягонае імя. Устаноўлены помнік — салдат на пастаменце. У будынку заставы адкрыты музей, у якім сабраны асабістыя рэчы абаронцаў, рэшткі зброі і боепрыпасаў. Экспазіцыя апавядае пра гісторыю і сучаснае жыццё заставы і пагранічных войскаў у цэлым, подзвіг пагранічнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. У музеі і на заставе праводзяцца не толькі экскурсіі для турыстаў, але і арганізавана вялікая праца па патрыятычным выхаванні моладзі. У гонар В. Усава ў горадзе Гродна названа вуліца, устаноўлены помнік, штогод праводзіцца турнір па боксе памяці героя-пагранічніка.

Па-геройску абаранялі савецкую граніцу кулямётчык 15-й заставы малодшы сяржант А. Новікаў і радавы М. Стаўніцкі. Схаваўшыся ў дупле велізарнага дуба, яны агнём з кулямёта не дазвалялі праціўніку пераправіцца праз Заходні Буг. Пасля таго як Стаўніцкі загінуў, Новікаў працягваў весці бой у адзіночку. Па месцы, дзе хаваўся адважны воін, вораг біў з артылерыі, мінамётаў і нават выклікаў на падмогу авіяцыю. Стойкасць пагранічніка выклікала павагу ворага. Нямецкі афіцэр загадаў пахаваць героя з воінскімі ўшанаваннямі.

У большасці падраздзяленняў беларускіх пагранічнікаў сёння вядзецца вялікая работа па патрыятычным выхаванні. Напрыклад, на заставе № 2 імя Р. Каханава, якая дыслакуецца ў Белавежскай пушчы, рэгулярна арганізуецца ваенна-спартыўны лагер «Абаронца мяжы». У ім збіраюцца вучні агульнаадукацыйных школ Пружан і Брэста, а таксама студэнты Пружанскага аграрнатэхнічнага каледжа. Сумесна з нарадам пагранічнікаў дзеці ўдзельнічаюць у ахове Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь, праводзяць спартыўныя турніры. Лагер створаны і для прапаганды здаровага ладу жыцця, знаёмства пад-

леткаў з побытам вайскоўцаў, дзеля захавання і памнажэння слаўных традыцый пагранічнікаў.

Адзіны ўзведзены на тэрыторыі СНД мемарыял воінам-пагранічнікам, якія першымі сустрэлі войскі германскага вермахта раніцай 22 чэрвеня 1941 года, адкрыты 22 чэрвеня 2004 года ў Гродне. Камандзір, палітрук і чырвонаармеец — тры байцы, якія закрываюць пралом у сімвалічнай мяжы. Вакол — 15 слупоў былой граніцы СССР, што сімвалізуюць сабой былыя саюзныя рэспублікі. Гэты мемарыяльны комплекс па праве называюць народным. Не толькі з-за яго значнасці, але і таму, што грошы на яго ўзвядзенне збіралі ўсёй грамадою. Ён ствараўся на ахвяраванні пагранічнікаў Беларусі, Расіі, Казахстана, Кыргыстана, Малдовы, а таксама грамадзян і арганізацый, што і занатавана на бронзавай дошцы, устаноўленай на задняй сценцы мемарыяла.

Пра гераічнасць людзей у зялёных фуражках напісаны шматлікія навуковыя даследаванні, выдадзены зборнікі дакументаў, мемуарная літаратура, выпушчаны канверты і маркі. Праніклівыя радкі прысвяціў ім у сваім вершы «У Муховца» вядомы беларускі паэт Б. Спрынчан:

Истекая кровью средь руин,
Вы врастали в землю — и ни с места!
Потому-то первый бой у Бреста
Стал началом битвы за Берлин.

У ліпені 1941 года савецкія воіны часцей і злучэнняў 13-й арміі Заходняга фронту, работнікі міліцыі, курсанты школы НКУС і 12 тысяч апалчэнцаў Магілёва 23 дні трымалі гераічную абарону горада. Толькі за 10 дзён баёў, па звестках штаба 172-й дывізіі, было адбіта 27 варожых нападаў, падбіта і спалена 179 танкаў і бронетранспарцёраў, захоплена 2 танкі, 12 мінамётаў, 25 кулямётаў, узята ў палон 600 і знішчана не менш як 4 тысячы салдат і афіцэраў праціўніка. Газета «Известия» 20 ліпеня 1941 года апублікавала нарыс К. Сіманава «Гарачы дзень» і здымкі Трошкіна, што сведчылі аб стойкасці і бяспрыкладнай мужнасці абаронцаў «горада Д» (так ён назваў Магілёў).

У памяць пра слаўныя старонкі абароны Магілёва ў ліпені 1941 года на галоўным рубяжы — Буйніцкім полі 9 мая 1995 года адкрыты мемарыяльны комплекс, які займае плошчу больш як 20 гектараў. У цэнтры яго 27-метровая капліца — сімвал веліччы воінскага духу. Сцены распісаны фрэскамі, у нішах змешчаны мармуровыя дошкі з імёнамі абаронцаў Магілёва, а ў цэнтры ўсталяваны маятнік Фуко — знак вечнага жыцця, руху і памяці аб усіх, хто загінуў на гэтым полі ў 1941-м. Непадалёку невялікі штучны вадаём «Возера Слёз», што сімвалізуе слёзы маці, якія страцілі сыноў у гады вайны. Ад капліцы разыходзяцца чатыры алеі. Адна з іх носіць імя К. Сіманава, які апеў гераічнасць абаронцаў Магілёва ў сваіх кнігах «Жывыя і мёртвыя» і «Розныя дні вайны». На назіральнай пляцоўцы ўсталявана ваенная тэхніка часоў вайны: танкі, дывізіённыя і артылерыйскія гарматы, зенітная ўстаноўка.

Як унікальны выпадак увайшла ў гісторыю Вялікай Айчыннай вайны абарона Жлобіна. Горад тройчы вызваляўся ад германскіх захопнікаў. Першы раз праціўнік адступіў 6 ліпеня 1941 года, але ўжо на зыходзе дня немцы вярнуліся. 13 ліпеня воіны 63-га стралковага корпуса пад камандаваннем камкора Леаніда Пятроўскага сакрушальным ударам, фарсіраваўшы Днепр, адбілі Жлобін і цэлы месяц трымалі абарону. Гэта была адна з першых перамог Чырвонай Арміі, пра якую Савінфармбюро паведаміла на ўвесь Савецкі Саюз, бліскучая аперацыя не толькі акрыляла байцоў і камандзіраў адступаючай Чырвонай Арміі, яна значна падарвала планы Гітлера пра маланкавую вайну, пасеяла няўпэўненасць у стане ворага. У памяць пра гэтыя гераічныя падзеі ў вёсцы Завод Жлобінскага раёна ўстаноўлены помнік, на мемарыяльнай дошцы якога напісана: «Ліпень — жнівень 1941, байцам Жлобінскага знішчальнага батальёна».

Каля вёскі Лашаны Мінскага раёна, за 6 кіламетраў ад Заслаўя створаны гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна». Гэта — адзін з найбольш грандыёзных

фартыфікацыйных ансамбляў на тэрыторыі Беларусі. Ён з’явіўся да 60-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне па ініцыятыве дабрачыннага фонду «Памяць Афгана», пры падтрымцы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Комплекс уяўляе сабой ваенна-гістарычны музей пад адкрытым небам, што раскінуўся на плошчы 26 гектараў. Аснову яго складаюць доты Мінскага ўмацаванага раёна. Узноўлены і абсталяваны яго ротны ўчастак.

На Беларусі ў ліпені 1941 года ўпершыню прыменена рэактыўная артылерыя. Сем машын «БМ-13» склалі касцяк эксперыментальнай батарэі, рашэнне аб фарміраванні якой было прынята 28 чэрвеня. Камандны склад укамплектавалі галоўным чынам са слухачоў Артылерыйскай акадэміі імя Ф. Дзяржынскага, якія скончылі першы курс. Камандзірам прызначылі капітана І . Флёрава.

Адзін з распрацоўшчыкаў «кацюш» А. Папоў распавядаў: «У ноч з 1 на 2 ліпеня 1941 года мы рушылі з Масквы па Мінскай шашы. На Барадзінскім полі воіны пакляліся: ні пры якіх абставінах не аддаваць ворагу новую баявую тэхніку. Пасля першай бамбёжкі прыйшоў загад: рухацца толькі ўначы, днём адседжвацца ў лясах. 9 ліпеня занялі пазіцыю пад горадам Барысавам, чакалі бою. У ноч з 12 на 13 ліпеня нас паднялі па трывозе, і мы рушылі да Оршы. На станцыі Орша назапасілася шмат нямецкіх эшалонаў з войскамі, тэхнікай, боепрыпасамі, гаручым. Мы разгарнулі батарэю ў кіламетрах пяці-шасці ад станцыі за горкай. Рухавікі машын не заглушалі, каб пасля стральбы імгненна пакінуць пазіцыю. Стаяў ясны сонечны, цёплы дзень. У 15 гадзін 15 мінут 14 ліпеня 1941 года капітан Флёраў аддаў каманду адкрыць агонь. За 7-8 секунд мы выпусцілі 112 снарадаў. Чыгуначны вузел быў сцёрты з твару зямлі, сем дзён там нікога не было...»

Высокую эфектыўнасць новай савецкай зброі змушаны былі прызнаць і нямецкія франтавыя афіцэры. У адным з першых данясенняў у генеральны штаб вермахта паведамлялася: «Рускія прымянілі батарэю з небывалай колькасцю гармат. Снарады фугасна-запальныя, але незвычайнага дзеяння. Войскі, абстраляныя рускімі, сведчаць: агнявы налёт падобны ўрагану. Снарады ўзрываюцца адначасова. Страты ў людзях значныя».

Генштаб сухапутных войскаў Германіі ў верасні 1941-га мусіў прыняць дзве спецыяльныя дырэктывы, якімі абавязаў палявыя часці разгарнуць дзеянні з мэтай захопу ўзораў гэтай сакрэтнай зброі.

Газета «Советская Белоруссия» 15 ліпеня 2005 года апублікавала даследаванне старшыні віцебскага ваенна-патрыятычнага клуба «Пошук» Анатоля Бурда «Апошні залп капітана Флёрава». Калі часці Чырвонай Арміі ў раёне Смаленска і Ельні трапілі ў акружэнне, у цяжкім становішчы апынуліся і байцы батарэі. Камандзір зрабіў усё магчымае для таго, каб выратаваць матэрыяльную частку і прабрацца да сваіх. Калі гаручае скончылася, ён загадаў зарадзіць установкі, а ракеты, што засталіся, і большасць транспартных машын падарваць. Баявыя ж установкі і 3-4 грузавікі з людзьмі прайшлі па варожых тылах больш як 150 кіламетраў (ад Раслаўля міма Спас-Дзяменска на паўночны ўсход).

У ноч на 7 кастрычніка 1941 года ля вёскі Волат, цяпер Угранскага раёна Смаленскай вобласці, батарэя трапіла ў засаду. І. Флёраў і яго падначаленыя ўступілі ў смяротны бой. Пад шквальным агнём непрыяцеля яны падарвалі машыны. З 170 чалавек, якія складалі батарэю, за лінію фронту прабраліся толькі 46 байцоў. Астатнія разам з камандзірам загінулі. Ніхто, як высветлілася пасля перамогі, у палон не патрапіў.

Пасля бою немцы знялі з забітых узнагароды, зброю, забралі дакументы. Хавалі воінаў мясцовыя жыхары непадалёку ад гасцінца Вязьма—Юхноў. Адзін з удзельнікаў гэтага бою прайшоў усю вайну і кожны год 9 Мая прыязджаў на магілу аднапалчан, разам з мясцовымі жыхарамі даглядаў яе. Так працягвалася да 1984 года. Многія вясковыя ветэраны пайшлі з жыцця. Плот вакол магілы згніў і паваліўся, а месца пахавання разам з дарогай, што ішла праз поле да вёскі, зааралі.

У 1995 годзе Указам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі «Аб узнагароджанні дзяржаўнымі ўзнагародамі Расійскай Федэрацыі актыўных удзельнікаў Вялікай

Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў» Івану Андрэевічу Флёраву за мужнасць і гераічнасць, праяўленыя ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, пасмяротна прысвоена званне Героя Расійскай Федэрацыі. Пасля гэтага кіраўніцтва Смаленскай вобласці прыняло рашэнне знайсці і перазахаваць прах загінуўшых.

Калі ўстанавілі месца пахавання і расчысцілі яго контуры, аказалася, што І. Флёрава (гэта відаць было па «шпалах» на пятліцах) пахавалі асобна, а 6 чалавек ляжалі з другога боку ў рад (адзін з іх быў старшы лейтэнант). На пятліцах добра праглядаліся артылерыйскія эмблемы.

Урачыстая цырымонія перазахавання пачалася мітынгам у раённым цэнтры Угра, а затым калона з трунамі на артылерыйскім лафеце і з ганаровай вартай адправілася ў гарадскі пасёлак Знаменка, дзе быў зроблены залп з сучасных рэактыўных установак «Град». Прах герояў знайшоў вечны спачын у вёсцы Волат, ля таго ж гасцінца. На ўскраіне лесу, паўночней вёскі Пішчалава, устаноўлены памятны знак з надпісам: «Тут 14 ліпеня 1941 года савецкія воіны пад камандаваннем І. А. Флёрава зрабілі першы залп з рэактыўных мінамётаў «кацюша» па нямецка-фашысцкіх захопніках. Адгэтуль пачаўся пераможны шлях савецкай рэактыўнай тэхнікі».

У Оршы на высокім маляўнічым беразе Дняпра да 25-годдзя першага залпу рэактыўнай артылерыі ў 1966 годзе адкрыты мемарыяльны комплекс «Кацюша» (афіцыйная назва «За нашу Савецкую Радзіму»). У цэнтры самай высокай пляцоўкі на пастаменце ўстаноўлены макет рэактыўнага мінамёта «БМ-13» на аўтамашыне. Злева ад увахода ў лінію знаходзяцца 8-метровыя жалезабетонныя элементы-рэйкі, размешчаныя на шасці тумбах з рэльефнымі 5-канцовымі зоркамі, якія сімвалізуюць пускавыя ўстаноўкі. Справа — невялікі чорны куб з мемарыяльным надпісам.

У пачатку вайны беларуская зямля літаральна гарэла пад нагамі захопнікаў. Дзякуючы намаганням першага сакратара Акцябрскага райкама КП(б)Б Ц. Бумажкова і Ф. Паўлоўскага быў створаны адзін з першых партызанскіх атрадаў — «Чырвоны Кастрычнік», які пачаў сваю баявую дзейнасць ужо ў ліпені 1941-га. Ц. Бумажкову і Ф. Паўлоўскаму 6 жніўня 1941 года было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яны сталі першымі партызанамі, удастоенымі гэтага высокага звання.

З Беларуссю цесна звязана імя навукоўца-фартыфікатара Д. Карбышава. У пачатку вайны ён удзельнічаў у баявых аперацыях пад Гродна, Магілёвам. У жніўні 1941 года пры спробе выйсці з акружэння быў цяжка кантужаны ў баі ў раёне Дняпра, ля вёскі Дабрэйка Магілёўскай вобласці. Непрытомны, трапіў у палон. У лютым 1945 года яго закатавалі ў канцлагеры Маутгаўзен.

На адным з дамоў Ваўкавыска ўстаноўлена мемарыяльная дошка: «У гэтым заходнім р-не г. Ваўкавыска генерал Карбышаў Д. М. 25 і 26 чэрвеня 1941 г. удзельнічаў у арганізацыі адпору жорсткіх атак нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў вывадзе з палаючага горада часцей 3 і 10 армій». Імя Героя Савецкага Саюза Д. Карбышава носіць Народны мемарыяльны музей, адкрыты ў 1968 годзе ў СШ № 15 горада Гродна. Дарэчы, яна таксама носіць яго імя. У фондах музея 1385 экспанатаў. Імем Д. Карбышава названы таксама вуліцы ў Мінску, Брэсце, Гродна, Санкт-Пецярбургу і іншых гарадах.

1941 год стаў цяжкім выпрабаваннем для франтавой авіяцыі Савецкага Саюза, але нават у гэтых умовах супраціўленне ворагу не спынялася. У вёсцы Зубава Аршанскага раёна знаходзіцца брацкая магіла. Сярод 16 загінуўшых — Герой Савецкага Саюза К. Анохін, які 16 ліпеня 1941 года першым уступіў у бой з 16 фашысцкімі бамбардзіроўшчыкамі, што з'явіліся над тэрыторыяй палкавога аэрадрома. Ён збіў адзін варожы самалёт, аднак і сам загінуў.

У Брэсцкай вобласці, у вёсцы Літвіны стаіць абеліск у памяць аб лётчыку, прозвішча якога, на жаль, не ўстаноўлена. Абеліск на магіле А. Кучарэнкі ў вёсцы Рагачы Ляхавіцкага раёна, помнікі — у вёсцы Ліпнікі Пінскага раёна, на ўскраіне горада Бяроза каля дарогі Брэст—Баранавічы; савецкім лётчыкам 33-га

знішчальнага авіяпалка з дзвюма мармуровымі дошкамі і самалётам-знішчальнікам на пастаменце на ўскраіне горада Пружаны — далёка не поўны спіс помнікаў і абеліскаў у памяць пра іх, пілотаў і штурманаў баявой авіяцыі, якія гарэлі ў самалётах, накіроўваючы свае паветраныя машыны ў скопішча варожай тэхнікі, уступалі ў бой з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка.

26 чэрвеня 1941 года эскадрылля М. Гастэлы атрымала заданне разбамбіць танкавую калону пад Мінскам. Экіпаж самалёта быў інтэрнацыянальны: камандзір — беларус, штурман А. Бурдзянюк — рускі, паветраны стралок Г. Скорабагаты — украінец, радыст А. Калінін — комі-пярмяк. Калі снарад варожай зеніткі прабіў бензабак самалёта, ахопленая полымем машына была накіравана на скопішча тэхнікі ворага.

Імя М. Гастэлы прысвоена многім пасёлкам гарадскога тыпу ў розных абласцях былога СССР, вуліцам у Баранавічах, Бабруйску, Барысаве, Ваўкавыску, Лунінцу, Мінску і больш як у 20 іншых гарадах Беларусі.

У вёсцы Ракітніца Жабінкаўскага раёна абеліск устаноўлены на магіле сем'яў вайскоўцаў, расстраляных нямецкімі катамі. Вайна не выбірала ахвяр, у яе жорны траплялі ўсе, хто знаходзіў у сабе мужнасць аказаць супраціўленне.

Зірнём на карту Беларусі. Вось абеліск ля вёскі Ямічна, устаноўлены ў памяць аб 76 яе жыхарах, закатаваных у першы год вайны. У той жа Брэсцкай вобласці ў вёсцы Чарнаўчыцы знаходзіцца магіла нявінных ахвяр фашызму, у 1941-м расстраляных.

Што ні месца — то новая трагедыя. І чарговы помнік! Адзін з іх нагадвае аб спаленай у 1941 годзе вёсцы Байкі Пружанскага раёна. У Іванаўскім раёне ў вёсцы Крытышын магіла настаўніцы М. Бабіч, расстралянай там жа ў 1941-м. Толькі ў першы год вайны гітлераўцы ўчынілі сотні акцый па знішчэнні мірных жыхароў. У 143 вёсках было спалена і разбурана 8215 хат, у якіх пазбавілі жыцця 1841 чалавека. Напамінак аб 433 населеных пунктах Беларусі, спаленых у гады нямецка-фашысцкай акупацыі — мемарыяльны комплекс «Хатынь», які пабудаваны на месцы аднайменнай вёскі, што перастала існаваць у сакавіку 1943 года.

У 1964 годзе ў вёсцы Пудаць Віцебскага раёна ў гонар атрада Бацькі Міная — М. Шмырова — устаноўлены абеліск. Менавіта тут у ліпені 1941 года з ліку работнікаў кардоннай фабрыкі быў арганізаваны адзін з першых на беларускай зямлі партызанскіх атрадаў. Акупанты нічога не маглі супрацьпаставіць яго эфектыўнай баявой дзейнасці. Тады яны захапілі чацвярых дзяцей камандзіра: чатырнаццацігадовую Лізу, дзесяцігадовага Сяргея, сямігадовую Зіну і Мішу, якому споўнілася ўсяго тры гады. Паабяцалі, што калі М. Шмыроў здасца ў палон, то яны будуць адпушчаны.

Ліза здолела таемна перадаць з турэмных засценкаў запіску, у якой прасіла бацьку не верыць ворагам. Рашэнне Бацькі Міная не было лёгкім, як не было яно і простым. Абавязак камуніста і патрыёта патрабаваў ад яго працягу непрымірымай барацьбы з захопнікамі, абавязак бацькі — выратавання сваіх дзяцей.

12 лютага 1942 года дзяцей М. Шмырова, а таксама маці яго жонкі і сястру фашысты расстралялі. Дарага, вельмі дарага заплаціў ён за свой выбар. Вось так ваенная часіна звяла разам асабістую трагедыю і трагедыю ўсёй краіны. Хоць абеліск, устаноўлены ў 1964 годзе, прысвечаны самому атраду, але ён жа сімвалізуе і асабістую мужнасць нявінных дзяцей. А роўна праз дваццаць гадоў, у 1984 — была ўшанавана і памяць іх: чатыры стылізаваныя пілоны са скульптурнымі выявамі юных ахвяр.

Помнік «Дзецям вайны» адкрыты 3 ліпеня 2009 года ў Магілёве. У мерапрыемстве прынялі ўдзел кіраўніцтва вобласці і горада, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дэпутаты нацыянальнага парламента, замежныя дэлегацыі, ветэраны вайны, прадстаўнікі працоўных калектываў, грамадскасці і моладзі. Помнік пабудаваны на ахвяраванні службоўцаў, працоўных, пенсіянераў, ветэранаў, моладзі — усіх, хто не абыякавы да нашай гісторыі, да памяці

нявінна забітых падчас ваенных дзеянняў, закатаваных у лагерах смерці малалетніх грамадзян.

У пасёлку Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна знаходзіўся адзін з найбуйнейшых дзіцячых донарскіх канцлагераў. У садзе гэтага населенага пункта 28 чэрвеня 2007 года адкрыты мемарыяльны комплекс для ўшанавання памяці дзяцей ва ўзросце ад 8 да 14 гадоў, якіх везлі ў Нямеччыну ў якасці донараў для раненых салдат і афіцэраў вермахта. Каля 2 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак, у тым ліку 15 дзяцей з Чырвонабярэжскага сельсавета, прозвішчы якіх вядомы, былі адпраўлены на пагібель.

Каля вёскі Альбрэхтава Расонскага раёна ў 1967 годзе з'явіўся Курган памяці, а ў 1981-м на ім устаноўлена мемарыяльная пліта. 17 ліпеня 1941 года школьнікі Васіль Прыбыткаў, Генадзь Кузякоў і Уладзімір Драздоў падарвалі гранатай машыну, у якой ехалі нямецкія афіцэры. Васіль быў схоплены і закатаваны да смерці, пазней гітлераўцы знайшлі і пакаралі яго сяброў.

Выдатным помнікам подзвігу, здзейсненаму на беларускай зямлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, стала 146-томнае выданне гісторыка-дакументальных хронік «Памяць», што выпускалася па рашэнні Урада рэспублікі з 1985 г. і было завершана да 60-годдзя Вялікай Перамогі. Гэта своеасаблівыя малыя энцыклапедыі раёнаў і гарадоў Беларусі, у якіх ушанавана памяць усіх воінаў Чырвонай Арміі, загінуўшых пры абароне і вызваленні рэспублікі; воінаў-землякоў, якія паклалі галовы на франтах Вялікай Айчыннай вайны; партызан, падпольшчыкаў, мірных жыхароў — ахвяр фашысцкага генацыду, а таксама тых, хто вярнуўся дахаты пераможцам.

У краіне шмат робіцца для захавання ў грамадскай свядомасці памяці пра гераічную і трагічную гісторыю Вялікай Айчыннай вайны. Значную ролю ў справе фарміравання патрыятычнага светапогляду моладзі, якая вучыцца, з'яўляецца спецкурс і факультатыў «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа» (у кантэксце Другой сусветнай вайны), уведзены ў вышэйшых навучальных установах і школах Рэспублікі Беларусь з 1994 года.

Распрацавана праграма, падрыхтаваны навучальныя дапаможнікі для настаўнікаў і навучэнцаў. Для выканання гэтага важнага навукова-метадычнага праекта быў створаны творчы калектыў у складзе высокакваліфікаваных навукоўцаў-выкладчыкаў.

Поспеху вырашэння праблемы спрыяла не толькі высокая навуковая кваліфікацыя членаў творчага калектыву, але і тое, што ўсе яны прафесіянальна займаліся распрацоўкай праблем гісторыі Другой сусветнай вайны. Прыцягваючы найноўшыя дасягненні айчыннай і замежнай гістарыяграфіі, шырока выкарыстоўваючы арыгінальныя дакументальныя матэрыялы, удалося стварыць навукова-метадычны дапаможнік, які не мае аналагаў у школьнай сістэме адукацыі не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, але і ў краінах СНД.

У расійскім метадычным часопісе «Преподавание истории в школе» з'явілася рэцэнзія на гэтую працу «Навучальны дапаможнік па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны»[1]. Даючы высокую ацэнку таму здзейсненаму, аўтар адзначыў, што «напярэдадні 60-годдзя Перамогі ў Мінску пабачыў свет па-свойму ўнікальны навучальны дапаможнік. Па-першае, Вялікая Айчынная вайна разглядаецца ў ім у цеснай сувязі і ў агульным кантэксце Другой сусветнай вайны, па праву названай аўтарамі найбуйнейшым узброеным супрацьстаяннем у гісторыі чалавецтва. Па-другое, пастаўлена задача выкладу драматычных і гераічных падзей 1939—1945 гг. з улікам апошніх дасягненняў гістарычнай навукі. Варта адразу адзначыць, што ў цэлым гэта задача паспяхова вырашана, паколькі ў склад аўтарскага калектыву падручніка ўвайшлі вядомыя беларускія гісторыкі».

---

[1] Невежин В. А. Учебное пособие по истории Великой Отечественной войны // Преподавание истории в школе. № 1. 2006. С. 71—75.

У заключэнне расійскі прафесар падкрэсліў, што гэтую кнігу можна кваліфікаваць як адну з удалых спроб давесці да маладога пакалення, якое ўваходзіць у жыццё, праўду пра Вялікую Айчынную і Другую сусветную вайну, пра гераічную і самаадданую барацьбу свабодалюбівых народаў супраць фашызму і мілітарызму.

Праз пяць гадоў у расійскім «Военно-историческом журнале» быў апублікаваны артыкул намесніка дырэктара Цэнтра адукацыі № 1461 горада Масквы «Падручнік як сродак выхавання патрыёта і грамадзяніна». Адзначаючы добрыя якасці навучальнага дапаможніка, аўтар піша: «Апроч грунтоўнага фактычнага матэрыялу ў тэкстах аўтары беларускага падручніка адвялі досыць шмат месца ілюстрацыйнаму раду: у кнізе каля 450 ілюстрацый, у тым ліку 28 карт, шмат упершыню апублікаваных старых фатаграфій з фондаў Музея гісторыі Айчыннай вайны, якія перадаюць дух эпохі. Вонкава падручнік афармлены на высокім узроўні: схемы і табліцы — каляровыя, яркія і вельмі змястоўныя. Прадстаўленыя здымкі забяспечаны не толькі подпісамі, але і цікавымі каментарыямі.

Прывядзём прыклад толькі двух здымкаў, якія даюць магчымасць кожнаму вучню «адчуць» сябе на акупіраванай тэрыторыі: нямецкі плакат «Рускі павінен памерці — каб мы жылі» і другі — «Вада толькі для немцаў». Падобных ілюстрацый у падручніку шмат. Аўтары выкарыстоўвалі аптымальны прыём: менш слоў, больш дакументаў, ілюстрацый і карт.

Напрыканцы адзначым, што аўтарам удалося стварыць падручнік, які служыць не раз’яднанню, а кансалідацыі грамадства. Менавіта гэта, на наш погляд, неабходна і ў Расіі, асабліва цяпер, пры багацці інфармацыі і спробах пераглядзець аб’ектыўныя ацэнкі вайны. Прычым як у бок нівеліравання ролі СССР у Перамозе, так і — стварэння лубачнага малюначка — бяздушнага міфа, дзе ўсё і ўся падзелены толькі на чорнае і белае. Асабліва гэта неабходна напярэдадні знамянальнай даты — 65-годдзя Вялікай Перамогі»[1].

Айчынныя даследчыкі значную ўвагу надалі навуковаму асэнсаванню барацьбы маладых патрыётаў. У пасляваенныя гады па гэтай праблеме абаронены дысертацыйныя працы, апублікавана велізарная колькасць навуковых артыкулаў і мемуарнай літаратуры. У апошні час падзеі 1941 года сталі прадметам разгляду на навуковых канферэнцыях, прысвечаных гэтай праблематыцы.

Згаданы перыяд знайшоў шырокае адлюстраванне і ў мемуарнай літаратуры, творах вядомых беларускіх паэтаў, празаікаў, драматургаў, кінадакументалістаў. Увекавечванне народнага подзвігу пачалося яшчэ ў гады ваеннага ліхалецця. Пісьменнікі заклікалі беларускіх людзей да барацьбы, садзейнічалі фарміраванню нянавісці да ворага, умацаванню веры ў перамогу над каварным ворагам. Пра гэта сведчыць «Зварот народных паэтаў Беларускай ССР Я. Купалы і Я. Коласа да беларускага народа». Падобны заклік быў адлюстраваны і ў публіцыстычных артыкулах Я. Купалы пад агульнай назвай «Узнялася Беларусь» і Я. Коласа «На бітву, браты-беларусы!»

У самым пачатку вайны з’явілася лістоўка-верш Я. Купалы, якая знайшла гарачы водгук у сэрцах простых людзей. Яе радкі перапісваліся ад рукі, твор перадрукоўвалі ў партызанскіх газетах, лістоўках, якія потым распаўсюджвалі на акупіраванай тэрыторыі:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

З найбольш вядомых вершаў Я. Купалы гэтага перыяду можна назваць: «Грабежнік», «На Гітлера-звера», «Дзевяць асінавых колляў», у якіх паэт, выка-

[1] Малов-Гра А. Г. Учебник как средство воспитания патриота и гражданина. // Военно-исторический журнал. № 8. 2009.

рыстоўваючы народныя вобразы і фразеалагізмы, выкрывае каварныя замыслы нямецкіх заваёўнікаў, у першую чаргу — германскага фюрэра.

Патрыятычная тэматыка пачатку Вялікай Айчыннай вайны шырока прадстаўлена творамі К. Крапівы «Сон Гітлера», «Біблія людаеда», у якіх у сатырычнай форме паказваюцца нямецкі фюрэр і яго падначаленыя. У вершах «Зброю к бою!» і «Партызанская ноч» аўтар звяртаецца з заклікам да беларускага народа даць сакрушальны адпор ворагу.

Выкарыстоўваючы сатырычную форму, паэты імкнуліся данесці галоўную ідэю шляхам вобразных параўнанняў і высмейвання нацысцкіх злачынцаў і іх задум. Вершы патрыятычнага гучання М. Танка, П. Панчанкі, П. Броўкі, А. Вялюгіна, П. Глебкі і іншых знаходзілі шырокі водгук у людзей, натхнялі іх на смяротную барацьбу з моцным і каварным ворагам.

Свае лепшыя вершы «Ліст з палону», «Балада аб чатырох заложніках» і «Камсамольскі білет» на той час малады беларускі паэт А. Куляшоў надрукаваў упершыню ў армейскай газеце «Знамя Советов». Пазней гэтыя творы, прасякнутыя патрыятычным уздымам, былі апублікаваны ў калектыўным зборніку.

Да тэмы трагічнага 1941 года звярталіся ў пасляваенны час у сваіх раманах такія пісьменнікі, як А. Адамовіч у дылогіі «Вайна пад стрэхамі», Л. Арабей — «Іскры ў папялішчы», А. Асіпенка — «Вогненны азімут», У. Карпаў — «Нямігі крывавыя берагі», М. Лынькоў — «Векапомныя дні», І. Навуменка — «Сасна пры дарозе», І. Чыгрынаў — «Плач перапёлкі», а таксама ў драматургічных творах: К. Губарэвіч — «Брэсцкая крэпасць», А. Макаёнак — «Трыбунал», А. Маўзон — «Канстанцін Заслонаў».

Мікола Сурначоў у 1941 годзе напісаў на фронце верш «У стоптаным жыце»:

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.
Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.
Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце, —
Ёй не кажыце.

Па злой іроніі лёсу сам паэт не дажыў да перамогі, ён склаў сваю галаву пад Берлінам у 1945 годзе. Але пакуль жыве яго твор, жыве ён сам, а з ім і памяць пра ўсіх абаронцаў нашай Радзімы.

У 1970 годзе вядомы беларускі жывапісец В. Грамыка напісаў карціну «1941 год. Над Прыпяццю». На ёй адлюстраваны бераг ракі Прыпяць і жанчына, якая схілілася над параненым савецкім воінам, а непадалёку дзяўчынка-падлетак кліча на дапамогу. У гады Вялікай Айчыннай вайны героямі станавіліся не толькі тыя, хто са зброяй у руках адстойваў свабоду сваёй зямлі, але і звычайныя людзі. Хто лячыў і выходжваў, хто хаваў і карміў... У гістарычнай памяці беларускага народа ўсе яны — удзельнікі вайны і яны ж усе — пераможцы.

Першы год Вялікай Айчыннай вайны быў няпростым для ўсёй краіны і яе арміі, але мужнасць яе абаронцаў у 1941 годзе натхняла ваеннаслужачых Чырвонай Арміі, партызан і падпольшчыкаў на ратныя подзвігі. Беларуская зямля была арэнай жорсткіх баёў, яна зведала і горыч адступленняў, і радасць перамог. Наш народ свята ўшаноўвае памяць пра гераічнае супраціўленне нямецка-фашысцкім акупантам. Для нас — у кожным раёне была свая «Брэсцкая крэпасць», свае абаронцы. І гэта не прыгожы літаратурны вобраз, а даніна павагі і пакланення перад вядомымі і безыменнымі воінамі, якія паклалі свае галовы на палях бітваў, у пагранічных заставах і гарадах, у вёсках і на палях...

Вядомае выслоўе гаворыць: «Хто не памятае свайго мінулага, асуджаны на яго паўтор». Ці можа беларускі народ не захоўваць памяць пра Вялікую Айчынную вайну? Не, не можа. Бо не для гэтага нашы бацькі і дзяды адстойвалі са зброяй у руках родную зямлю, каб у XXI стагоддзі мы, спадчыннікі той Вялікай Перамогі, адмовіліся ад неад’емнай часткі нашай гісторыі.

У выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» 2 ліпеня 2009 года адбылася прэзентацыя ўнікальнага выдання — «Энцыклапедыя Перамогі. Беларусь — Масква». Гэта сумесны праект Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Урада Масквы. Кніга падрыхтавана беларускімі энцыклапедыстамі сумесна з расійскім выдавецтвам «Армпресс» і ААТ «Московские учебники и Картолитография» і навукоўцамі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Напярэдадні 65-й гадавіны Вялікай Перамогі савецкага народа над нацысцкай Германіяй значна актывізавалася работа па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны ў гады войн і ваенных канфліктаў. У сувязі са святкаваннем 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў мэтах увекавечання подзвігу воінаў Чырвонай Арміі, працоўных, партызан і падпольшчыкаў, здзейсненага пры абароне і вызваленні беларускіх гарадоў і іншых населеных пунктаў, вымпелам «За мужнасць і стойкасць у гады Вялікай Айчыннай вайны» ўзнагароджаны 22 населеныя пункты краіны. 29 чэрвеня 2009 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падпісаў адпаведны ўказ. Вымпелам узнагароджаны Брэст, Бабруйск, Барысаў, Віцебск, Гродна, Гомель, Жлобін, Заслаўе, Клічаў, Крычаў, Ліда, Мінск, Магілёў, Маладзечна, Орша, Полацк, Скідаль, гарадскія пасёлкі Бягомль, Лоеў, Акцябрскі (Карпілаўка), Ушачы, вёска Астрашыцкі Гарадок.

Усё менш сярод нас людзей, хто не па чутках ведае пра ўсе жахі вайны. Мы аддаём даніну павагі ўсім, хто знішчыў карычневую чуму XX стагоддзя. Памяць пра іх будзе нам дапамагаць жыць і паспяхова ажыццяўляць сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні, спрыяць умацаванню лепшых маральных якасцей беларускага народа.

***Пераклад з рускай Генадзя Верчанкі.***

# Адам МАЛЬДЗІС: «Беларуская цывілізацыя мае даўнія традыцыі»

Прызнацца, я нават у пэўнай разгубленасці: як ахарактарызаваць гэтага няўрымслівага, шматграннага, шматаблічнага чалавека? Хто ён, Адам Мальдзіс?

Журналіст? Канечне. Пра гэта нават запісана ва ўніверсітэцкім дыпломе. Дый пачынаў свой працоўны шлях з раённай газеты, у якой чэсна і добрасумленна адслужыў тры гады. Пасля шмат гадоў рэдагаваў штомесячны бюлетэнь «Кантакты і дыялогі», серыйны зборнік «Вяртанне». Цяпер — супрацоўнік вядомага тыднёвіка «Голас Радзімы», аглядальнік газеты «СБ. Беларусь сегодня».

Пісьменнік? Несумненна. Першую ягоную аповесць «Восень пасярод вясны» высока ацаніў Уладзімір Караткевіч і вельмі раіў працягваць творчую працу. Аднак другую аповесць з-за вострага дэфіцыту часу ўсё ніяк не ўдаецца скончыць. Але гэта не значыць, што свой пісьменніцкі талент ён закапаў у зямлю. Той, хто сочыць за газетай «СБ. Беларусь сегодня», ведае, што на яе старонках вось ужо на працягу некалькіх гадоў з зайздроснай рэгулярнасцю з'яўляюцца яго мастацкія эсэ, якія чытаюцца як захапляльныя дэтэктыўныя аповеды.

Вучоны? З галавы да пят! Доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар шматлікіх манаграфій, у якіх ён паўстае як нястомны шукальнік, удумлівы даследчык і першаадкрывальнік многіх цікавейшых, а часам проста сенсацыйных гістарычных і літаратурных фактаў. Дзякуючы гэтаму мы ў многім па-новаму зірнулі на наша мінулае, зразумелі, што сваёй багатай і слаўнай гісторыяй мы можам і павінны па праве ганарыцца.

Краязнаўца? І не абы-які, а грунтоўны, дасведчаны, захоплены. Любоў да роднага краю, да ўчарашняга і сённяшняга дня Беларусі жыве ў ім з юначых гадоў. Сваёй малой радзіме ён прысвяціў адмысловую кнігу «Астравеччына, край дарагі…», а ў шматлікіх даследаваннях раскрыў многія таямніцы нашай нацыянальнай культурнай спадчыны.

Энцыклапедыст? Не саграшу супроць ісціны, калі скажу, што і гэтага звання ён заслугоўвае, як не хто іншы. Глыбокія, рознабаковыя веды літаратуразнаўцы, гісторыка, краязнаўцы, географа, этнографа ў спалучэнні з асабістымі якасцямі — жывым, дапытлівым розумам, чэпкай памяццю, неспатольнай цікаўнасцю — робяць яго асобу ўніверсальнай і ўнікальнай. Нявыпадкова да яго звяртаюцца (у пісьмах, па тэлефоне, асабіста) дзясяткі, сотні людзей, якія жадаюць атрымаць дасведчаны каментарый, вычарпальную кансультацыю, аўтарытэтную параду па той ці іншай праблеме.

Грамадскі дзеяч? Мяркуйце самі. Адам Мальдзіс — шматгадовы кіраўнік Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, нязменны старшыня камісіі «Вяртанне» пры Беларускім фондзе культуры, член дзвюх спецыяльных міжведамасных камісій пры Савеце Міністраў рэспублікі. У 1990 годзе ў якасці члена

дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце 45-й сесіі ААН… Усяго мы з Адамам Восіпавічам налічылі недзе за трыццаць яго грамадскіх нагрузак. А яшчэ ж трэба ўлічыць удзел у розных прэзентацыях, прэс-канферэнцыях, абаронах дысертацый, юбілеях, вечарынах, што таксама патрабуюць і часу, і сур'ёзнай падрыхтоўкі.

Якую ж з гэтых іпастасяў Адама Мальдзіса можна назваць галоўнай, вызначальнай? Я разумею, што цяжка вызначыць, вылучыць з іх нейкую адну, бо ўсе яны цесна ўзаемазвязаны і толькі ў гэтай арганічнай еднасці ствараюць цэльны, паўнакроўны партрэт асобы. І ўсё ж калі называць, то, як мне здаецца, гэта будзе навуковая, творчая праца. Важкім набыткам гэтай працы сталі амаль два дзясяткі ёмістых кніг. Найбольш удалай сярод іх Адам Восіпавіч лічыць «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча». Тут яму ўдалося спалучыць у адно цэлае мемуары, эсэістыку і літаратуразнаўства.

Самай дарагой для аўтара кнігай з'яўляецца «Падарожжа ў XIX стагоддзе». Дарагой, таму што гэта была першая сур'ёзная спроба расказаць пра нашу культурную спадчыну, намаляваць яскравыя партрэты пісьменнікаў, кампазітараў, падарожнікаў, дзеячаў вызваленчага руху. І, вядома ж, пісалася ўсё гэта з вялікім жаданнем, ад душы і для душы.

Найбольш значнай, на думку многіх даследчыкаў, можна лічыць кнігу «Беларусь на скрыжаванні славянскіх традыцый». Ёю Адам Мальдзіс адкрыў цэлую эпоху — эпоху барока культуры XVII—XVIII стагоддзяў.

А самай папулярнай, самай захапляльнай стала кніга «З літаратуразнаўчых вандраванняў». Зноў-такі дзякуючы таму, што ў ёй атрымаўся арганічны сплаў навуковага даследавання, публіцыстыкі і апавядальніцкага майстэрства.

Але чым бы ні займаўся Адам Восіпавіч — навукай, творчасцю, грамадскай дзейнасцю — усё гэта, як правіла, скіравана на адно: аднаўленне, адраджэнне нашай гістарычнай і культурнай спадчыны, здабыткі якой пахаваны пад друзам напластаванняў часу альбо рассеяны па свеце. Шукаць, грунтоўна вывучаць і вяртаць нашыя матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці на радзіму — вось сэнс працы і, можна сказаць, сэнс жыцця нястомнага даследчыка, шчырага руплііўца на ніве беларушчыны.

Прыемна адзначыць, што актыўная і плённая праца Адама Мальдзіса дастойна ўшанавана высокімі айчыннымі і замежнымі ўзнагародамі. Ён — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, уганараваны медалём Францыска Скарыны, мае званне «Заслужаны дзеяч польскай культуры», камандор ордэна «За заслугі» Польскай Рэспублікі, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР, па рашэнні Амерыканскага біяграфічнага інстытута двойчы станавіўся «Чалавекам года».

Можа ўзнікнуць натуральнае пытанне: дзе ж чалавек бярэ час, каб займацца такой markрознабаковай і такой напружанай дзейнасцю? А яго, гэтага часу, хранічна і не хапае. Даводзіцца пастаянна ахвяраваць сном, адпачынкам. Калі мы дамаўляліся пра сустрэчу, Адам Восіпавіч пажартаваў:

— Надтачыце мне суткі хоць бы на шэсць гадзін, і я з задавальненнем падару іх вам.

Ну а паколькі я не Бог, дадатковага часу ў мяне не знайшлося, то нашу сустрэчу давялося пераносіць некалькі разоў. Нарэшце Адам Восіпавіч як чалавек абавязковы, інтэлігентны зразумеў, што адступаць больш няма куды і прызначыў мне спатканне на другі дзень новага года, у сваім рабочым кабінеце.

— Дык жа свята… — сумеўся я. — Што скажуць вашы сямейнікі?

— Вось і добра. Хоць ніхто нам не будзе перашкаджаць. А я ўсё роўна збіраўся папрацаваць…

Мы прагаварылі восем гадзін! Прычым прамільгнулі яны для мяне, як адзін міг. Ды, здаецца, і для майго субяседніка таксама, бо ён быў у сваёй стыхіі, захоплена, натхнёна апавядаў пра свой любімы, запаветны клопат. Схамянуліся мы, калі зазваніў мабільнік і ў трубцы пачуўся голас малодшага сына, які трывожыўся, чаму бацька не прыйшоў на вячэру. І толькі тут Мальдзіс зірнуў на гадзіннік:

— Ай-яй-яй… Ужо сёмая гадзіна? Ну, прабач, крыху затрымаўся. Вячэрай адзін, мяне не чакай.

Я паспяшаўся развітацца, Адам жа Восіпавіч застаўся. Яму трэба было яшчэ пару гадзін папрацаваць.

## Таямніцы сівой мінуўшчыны

**— Пра мінулае Беларусі да нядаўняга часу пісалі толькі адмоўна, малявалі яго чорнымі фарбамі. Маўляў, гэта край лясоў і балот, дзе жылі цёмныя, забітыя, няшчасныя людзі, галоўным здабыткам якіх былі лапці ды каўтун. У нас нават імя свайго не было, нас называлі то Крэсамі ўсходнімі, то Паўночна-Заходнім краем, а гісторыю сваю пачыналі з 1917 года…**

— Нават не з 1917-га, а з 1919-га, калі была ўтворана БССР. А тоё-сёй з гісторыкаў ішоў яшчэ далей ці ў даным выпадку лепш сказаць бліжэй — прапаноўваў адлік нашай гісторыі пачынаць з часу ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй.

Канечне ж, такі падыход быў абсурдны, антынавуковы, цалкам ідэалагізаваны. Наша гістарычная асаблівасць і наша бяда заключалася ў тым, што мы доўга, вельмі доўга, літаральна да апошняга часу, уваходзілі ў склад іншых, больш магутных дзяржаўных утварэнняў і выступалі ў гісторыі сапраўды пад чужымі імёнамі: спачатку — Кіеўская Русь, пасля Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, нарэшце — Расійская імперыя, Савецкі Саюз, міжваенная Польшча… І разам з гэтымі пераменамі мы механічна станавіліся то рускімі, то палякамі, то зноў рускімі.

Між тым імя ў нас сваё было! І было яшчэ падчас утварэння ВКЛ. Ужо тады некаторыя нашы землі называліся Белай Руссю — Alba Ruscia.

**— Значыць, Кацярына ІІ, калі загадала перайменаваць Літву ў Белую Русь, нешта пра гэта ведала?**

— Ведаць-то ведала, але не ўсё і не да канца. Некаторыя сенсацыйныя факты і дакументы адкрыліся толькі ў апошнія дзесяцігоддзі. Але давайце па парадку.

Канечне, сур'ёзныя вучоныя, якія цікавіліся славянскай гісторыяй, разумелі, што вытокі беларускай дзяржаўнасці бяруць свой пачатак не з XX стагоддзя, а намнога раней. Ва ўсякім разе яны прыгадвалі, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у Падзвінні і Падняпроўі ўтварыліся беларускія губерні, якія праіснавалі ажно да 1840 года, калі іх перайменавалі ў Паўночна-Заходні край.

Той-сёй з гісторыкаў заглядваў глыбей. У архівах адшукалі дакументы, якія сведчылі, што яшчэ ў XVI стагоддзі збіральнік народных прымавак і прыказак Саламон Рысінскі, дарэчы, родам з Полацкага ваяводства, называў сябе па-грэчаску леўкаросам, гэта значыць беларусам.

А самыя ўніклівыя даследчыкі дакапаліся да большага. Знайшлі грамату, якую вялікі маскоўскі князь Іван III накіраваў Папе Рымскаму Сіксту і ў якой ён іменаваў сябе таксама «князем Белай Русі». І было гэта ў 1472 годзе!

Аднак сапраўдныя адкрыцці чакалі нас наперадзе. У 1979 годзе амерыканскі даследчык еўрапейскага Сярэднявечча М. Колкер адшукаў у рукапіс-

ным аддзеле дублінскага Трыніці каледжа надзвычай важны для нас дакумент — трактат «Апісанне зямель», у якім апавядалася і пра землі літоўскія. Аўтар гэтага апісання — ірландскі місіянер, які прыехаў сюды прапаведаваць каталіцтва сярод яцвягаў і жэмайтаў і нават прысутнічаў на каранацыі Міндоўга. Дык вось, апавядаючы пра шматлікія падзеі, сведкам якіх ён быў, аўтар упамінае і пра землі Белай Русі, што знаходзіліся на ўсход ад Літвы. Няцяжка зрабіць выснову, што пад Белай Руссю падразумявалася ўсходняя частка ВКЛ. Заўважце, размова ідзе пра сярэдзіну XIII стагоддзя!



*Адам Мальдзіс. 1980 г.*

Але і гэта яшчэ не ўсё. На пачатку 2008 года старшыня Венгерскай асацыяцыі беларусістаў, прафесар Андраш Золтан раптам прысылае мне «Вугорска-беларускі слоўнік». І вось у прадмове да гэтага слоўніка чытаю, што хутка можна будзе адзначаць 800-годдзе першага ўпамінання этноніма «беларус». Справа ў тым, што ў 1217 годзе быў каранаваны на галіцка-валынскі трон кароль Кальман, сын вугорскага караля Андраша II, і атрымаў пры гэтым яшчэ і тытул «караля беларусаў».

**— Чаму ж тады многія нашы вядомыя, славутыя беларусы, такія, як Тадэвуш Касцюшка, Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, называлі сябе ліцвінамі?**

— Пытанне няпростае. Узяць, скажам, таго ж Ігната Дамейку. Доўгі час я дастаткова актыўна займаўся вывучэннем жыцця і навуковай дзейнасці гэтага выдатнага асветніка, нацыянальнага героя Чылі. Чытаў яго кнігі, рукапісы, лісты. Сапраўды, усюды ён называў сябе ліцвінам. Чаму? Не ведаў, што існуе этнонім «беларус»? Ведаў. Больш таго, калі да яго ў Чылі прыязджаў Бенядзікт Галынскі, дык ён называў яго беларусам, таму што той быў з Задняпроўя. Але распаўсюдзіць гэту назву «беларус» на ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі Дамейка яшчэ не асмеліўся. Хаця сам ён і па духу, і па менталітэце быў чыстым беларусам, выдатна ведаў беларускую мову, любіў чытаць вершы Яна Чачота…

А другая прычына, па якой многія беларусы называлі сябе ліцвінамі, заключалася ў тым, што яны ўсё яшчэ не гублялі надзею на адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага. Прыгадаем хаця б радкі з паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»: «Літва! Ты, як здароўе ў нас, мая Айчына!..» Гэткімі ж настальгічнымі матывамі прасякнута паэзія Уладзіслава Сыракомлі, творы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, музыка Станіслава Манюшкі, Міхала Клеафаса Агінскага. А што датычыцца апошняга, то ён свае мары аб адраджэнні ВКЛ увасабляў не толькі ў музыцы, але і ў рэальных, канкрэтных праектах, якія ўручаліся Аляксандру I. Кажуць, была на гэты конт нават цвёрдая дамова з царом, згодна з якой намеснікам княства быў бы нехта з царскай сям'і, але пры гэтым яно мела б адносную самастойнасць.

Перашкодзіла вайна 1812 года. Як вядома, з землякоў і нават сваякоў Міхала Агінскага былі сфарміраваны легіёны, якія ваявалі на баку Напалео-

на. Бо Напалеон таксама абяцаў аднавіць ВКЛ. У Мінску, напрыклад, выдавалася «беларуская» газета. Быў створаны «літоўскі» ўрад, канечне, гэта быў аперэтачны ўрад, але ж многія на гэта купіліся. Як, скажам, Дамінік Радзівіл, стаўшы на чале мясцовага легіёна, з-за чаго Радзівілы пасля на многія дзесяцігоддзі пазбавіліся сваіх маёнткаў.

А вось Міхал Клеафас Агінскі не далучыўся да французаў, а паехаў да Аляксандра I. З гэтым звязаны такі эпізод. У Маладзечне жыў яго дзядзька — Францішак Ксаверый Агінскі, той, што падараваў будучаму кампазітару маёнтак Залессе. І так сталася, што ў яго доме пры адступленні з Масквы начаваў Напалеон. Вечарам, кладучыся спаць, імператар пачаў ушчуваць Францішка Агінскага, чаму яго пляменнік здрадзіў Літве і перайшоў на бок рускага цара. На што Агінскі-дзядзька спакойна адказаў: «Мой пляменнік зрабіў разумна. Вы прыйшлі і цяпер адступаеце, а славяне павінны быць разам». Раззлаваны Напалеон выскачыў з-за стала і, ляпнуўшы дзвярыма, пайшоў спаць.

Але вернемся да вашага пытання. Чаму быць ліцвінам у той час лічылася ганаровым? Таму што гэта была не толькі гістарычная, але і палітычная памяць. Памяць пра Вялікае Княства Літоўскае — адно з самых магутных і перадавых дзяржаўных утварэнняў у тагачаснай Еўропе.

**— Адам Восіпавіч, а адкуль узялася назва «Літва», якая, наколькі мне вядома, ніякага дачынення да сучаснай Літвы не мае?**

— Адкуль узялася? Ёсць дзве канцэпцыі. Прыхільнікі адной з іх сцвярджаюць, што назву гістарычнай Літве далі заходнеславянскія плямёны, якія прыйшлі на нашыя землі з берагоў Эльбы. Так, рускі гісторык Міхаіл Галдзянкоў у сваёй вострапалемічнай кнізе «Русь — другая история…», падсумоўваючы думкі іншых даследчыкаў, даказвае: племя, якое дало пасля імя Літве як краіне, першапачаткова ўтварылася ў правінцыі Мекленбург, на берагах Паўночнага мора, дзе знаходзіўся горад Лютэнбург і жылі люцічы (лютва). Пад націскам германцаў і франкаў гэтае племя пакінула сваіх бліжэйшых славянскіх суседзяў, лужыцкіх сербаў і кашубаў, перасялілася ў вярхоўі Нёмана і Віліі. Гэта, маўляў, пацвярджаюць і назвы — трох вёсак Літва на тэрыторыі сённяшняй Міншчыны і дзвюх вёсак Літоўск і Літвінавы на Гродзеншчыне.

Як быццам лагічна. Але мне, прызнацца, канцэпцыя Міхаіла Галдзянкова падалася недастаткова пераканаўчай. І найпершае пытанне: чаму ж тады гэты заходнеславянскі этнас, перабраўшыся на нашыя землі, сяліўся не гуртна, кампактна (так лягчэй было б і выжываць, і бараніцца ад ворагаў), а раскідана, кропкава?..

Адказ я знайшоў у кнізе беларускага даследчыка Здзіслава Сіцькі «Утроп літвы». Утроп — гэта значыць «ісці следам». Дык вось, З.Сіцька на падставе бібліяграфічных спасылак пераканаўча даказвае, што літва — ніякі не этнас, а саслоўе, служывыя воіны, рыцарства, якое сапраўды было выціснута з узбярэжжа Паўночнага мора. На новых, усходнеславянскіх землях, яно служыла новым гаспадарам, пасялялася ў мястэчках і вёсках асобнымі канцамі. Адсюль яшчэ і цяпер у некаторых вёсках можна сустрэць назву — Літоўскі канец.

З цягам часу многія з гэтых мужных і адважных ваяроў прабіваліся нават ва ўладу, будавалі ўласныя маёнткі, замчышчы. І, як на маю думку, менавіта з гэтага саслоўя паходзілі некаторыя князі, а магчыма, нават першы і апошні літоўскі кароль Міндоўг. Усе спрачаюцца, адкуль ён мог узяцца ў Навагрудку? А яго як смелага, разумнага воіна проста маглі запрасіць з суседняй вёскі Літоўка.

Дык вось, калі вярнуцца да каранацыі Міндоўга, то тут ёсць адзін момант, вакол якога да гэтага часу вядуцца гарачыя спрэчкі. Літоўцы сцвярджаюць, што каранацыя праходзіла ў Вільні, нашыя ж гісторыкі даказваюць (і доказва-

юць дакументальна, пераканаўча!), што гэта важная падзея адбылася ў Навагрудку. Бо калі Навагрудак на той час быў сталіцай ВКЛ, то чаго для каранацыі трэба было ехаць невядома куды? Ніякай логікі. Да таго ж Вільня як горад быў заснаваны значна пазней князем Гедымінам.

Вы можаце запытацца: а чаму ліцвіны былі зацікаўлены ў тым, каб прыняць хрысціянства? Адказ вельмі просты. Таму што тады крыжакі ўжо не мелі б права агнём і мячом знішчаць літоўскія пасяленні — маўляў, язычнікі. На жаль, пасля Міндоўга хрысціянізацыя на нашых землях затрымалася амаль на трыста гадоў. Калі б гэты працэс не перапыняўся, то акцыі беларусаў у ВКЛ былі б яшчэ мацнейшыя. Хаця яны і так былі моцныя.

**— Вы назвалі Вялікае Княства Літоўскае адным з самых моцных дзяржаўных утварэнняў Еўропы…**

— І гэта не толькі маё меркаванне. Да такой думкі прыходзіць усё больш і больш самых розных гісторыкаў.

**— А што было пачаткам нашай дзяржаўнасці? Ці можна лічыць гэтым пачаткам Полацкае і Тураўскае княствы?**

— Безумоўна. На карысць гэтага шматлікія гістарычныя факты. І найперш тое, што кіеўскім князям даводзілася заваёўваць гэтыя землі ў няпростай барацьбе. Княствы мелі свае дружыны, свае веча. Трэба сказаць, крывічы былі людзі не толькі гаспадарлівыя, але і дастаткова ваяўнічыя. Аднак для таго, каб паспяхова бараніцца ад шматлікіх набегаў чужынцаў, трэба было аб'яднаць свае сілы і рэсурсы. Менавіта гэтае імкненне — процістаяць агрэсіі крыжакоў і татара-манголаў — і паслужыла, па маім глыбокім перакананні, першапачатковым штуршком для аб'яднання, для стварэння Вялікага Княства Літоўскага. ВКЛ — гэта ўжо наступная, больш высокая ступень нашай дзяржаўнасці.

**— Адам Восіпавіч, дык колькі ж нам гадоў?**

— Літоўцы ў 2009 годзе святкавалі тысячагоддзе першага ўпамінання Літвы ў гістарычных крыніцах. Упамінанне гэтае, праўда, звязана з выпадкам дастаткова трагічным. 9 сакавіка 1009 года, апавядае нямецкая хроніка, на памежжы Літвы і Русі пакутніцкай смерцю ад рук язычнікаў загінуў кверфурцкі архіепіскап Бруна. Канкрэтна месца трагедыі не ўказваецца, даюцца толькі агульныя звесткі аб тым, што адбылося, але, як мне ўяўляецца, здарылася гэта недзе на землях старажытнай Берасцейшчыны альбо Навагрудчыны. Чаму? Таму што крывіцкія, дрыгавіцкія і радзіміцкія тэрыторыі да таго часу ўжо прынялі хрысціянства ў яго візантыйскім варыянце, а польскія — у рымскім. У такім разе забойцамі маглі быць язычнікі яцвягі, якія ўклініліся між славянаў і перашкаджалі хрысціянам у іх кантактах.

Але размова зараз не пра гэта. А пра першае пісьмовае ўпамінанне Літвы. Дык добра, Літва ўпаміналася, але ж упаміналася і Русь. Нагадаю, што гэта не сучасная Расія, а, кажучы словамі класікаў марксізму, «Русь Літоўская». А калі Русь згадваецца разам з Літвою, значыць ёй таксама ўжо не меней чым тысячу гадоў.

А цяпер давайце зірнём і на іншыя гістарычныя факты. Наш Полацк у гістарычных летапісах упамінаецца ўжо ў 925 годзе. Пры гэтым хачу асаблівую ўвагу звярнуць на тое, што Полацкая Сафія тут прыгадваецца адначасова з аднайменнымі храмамі Вялікага Ноўгарада і Кіева. З гэтага вынікаюць дзве вельмі істотныя рэчы. Па-першае, мы больш старажытныя, чым назва «Літва» і, па-другое, Русь Маскоўская і Кіеўская Русь — нам ніякія не старэйшыя сёстры. Мы — трайняты. І гэта надзвычай важна, бо нас вечна папікалі (а часам яшчэ і цяпер папікаюць) нібы тую Папялушку: а, ты — малая, недаразвітая, ты не маеш свайго імя, ты невядома чыя — ці то руская, ці то польская…

Ну дык вось, мы можам з поўным правам, з высокім гонарам і годнасцю сказаць: нашай дзяржаўнасці больш за тысячу гадоў! А што датычыцца спадчыны ВКЛ — то яна не беларуская, не літоўская і не польская. Яна — агульная. Вялікае Княства Літоўскае — шматэтнічная, шматканфесійная і шматкультурная дзяржава. Нашы продкі былі на дзіва талерантныя ў адносінах да іншадумцаў і іншаверцаў. У гарадах і мястэчках на плошчах побач стаялі не толькі цэрквы і касцёлы, але і сінагогі і нават мячэці. А за гасцінным сталом у мясцовага магната альбо якога-небудзь шляхціца побач з замежным госцем маглі мірна сядзець не толькі праваслаўны бацюшка, каталіцкі ксёндз, лютэранскі пастар і ўніяцкі парох, але і яўрэйскі рабін, мусульманскі мула. На Захадзе ў тыя часы такія рэчы былі абсалютна немагчымыя. Успомнім хаця б Варфаламееўскую ноч.

**— Адам Восіпавіч, а ці не ідэалізуем мы крыху наша мінулае? Мне, напрыклад, даводзілася чытаць у кнігах некаторых гісторыкаў, што, маўляў, ніводзін вялікі князь ВКЛ не быў этнічным беларусам, і што карысталіся яны зусім не беларускаю моваю, а адным з балцкіх дыялектаў, і што ў рэшце рэшт хвалёны Статут ВКЛ не такі ўжо і прагрэсіўны — ён гарантаваў правы шляхты і жыхароў гарадоў з Магдэбургскім правам, а прыгонныя сяляне гэтых правоў былі пазбаўлены…**

— Тут, як кажуць у народзе, змяшаны боб з гарохам, праўда з няпраўдаю. Так, сапраўды, першыя князі мелі відавочнае балцкае паходжанне. Але затое іх жонкі — крывічанкі. А іх дзеці — хто? Да таго ж потым прыйшлі да ўлады і этнічныя беларусы — Сапега, Астрожскі, Храптовіч…

Наконт мовы. Як вядома, продкі беларусаў прынялі хрысціянства (у яго ўсходнім, праваслаўным варыянце) на некалькі стагоддзяў раней, чым продкі цяперашніх літоўцаў. А гэта значыць, што на момант аб'яднання ліцвіны і русіны ўжо мелі сваё пісьменства. Сваю мову. І не толькі царкоўнаславянскую (старабалгарскую), але і дзелавую, старабеларускую. Падкрэсліваю: не старажытнарускую, а менавіта старабеларускую. І гэтая мова была распаўсюджана на ўсіх ліцвінскіх, русінскіх і жамойцкіх землях, што ўваходзілі ў склад ВКЛ.



*На роднай Астравеччыне з бацькамі. 1944 г.*

Цяпер аб прыгонным праве. Так, Статут ВКЛ яго сапраўды не адмяняў. Але давайце паглядзім, ці было гэтае права такім, якім яно захоўвалася аж да другой паловы XIX стагоддзя ў Расіі? Ніякага параўнання! Жыхары ВКЛ абавязаны былі адпрацаваць на пана два дні на тыдзень альбо заплаціць чыншам, грашыма. Прычым норма ўстанаўлівалася ад дыма, гэта значыць ад хаты. Ды і падатак зноў-такі вызначаўся ад дыма, а не ад колькасці сямейнікаў.

Абумоўліваліся і пэўныя кары для тых, хто забіваў селяніна. Так што прыгонны чалавек не быў абсалютна бяспраўны. І гэта было разумным, бо бяспраўны селянін — кепскі гаспадар. А Вялікаму Княству Літоўскаму трэба было быць не толькі вялікім, але і моцным.

**— Вядомы наш гісторык-археолаг П. Лысенка ў адным са сваіх артыкулаў выказаў думку аб тым, што пасля абароны ад татара-мангольскага нашэсця і разгрому рускіх княстваў узрасла агрэсія літоўскіх князёў, якія заснавалі ў канцы XIII стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае. Беларускія землі такім чынам увайшлі ў ВКЛ. Але ці не было якраз наадварот? Частка літоўскіх зямель, якія тады называліся Жмуддзю, была ўключана ў склад ВКЛ мірным шляхам?**

— Я больш прыхільны менавіта да такога пункта гледжання. У Навагрудку, першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, усё-такі жылі славянскія плямёны. І аснова княства — беларускія землі. Да таго ж не трэба забываць, што на гэтых землях хрысціянства было прынята на некалькі стагоддзяў раней, чым у Жмудзі. А хрысціянства — гэта кнігі, кнігі вялі за сабой пісьменнасць. А ўсё разам — вялікі крок наперад да духоўнасці, да агульнай культуры.

Гэта першае. А другое — я б не ўжываў тэрміны «далучэнне», «уключэнне» і таму падобныя. Толькі — аб'яднанне! Вялікія князі выдатна разумелі, што сіла — у аб'яднанні. Але для таго, каб аб'яднаць землі, яны выбіралі сродкі не ваенныя, не дыпламатычныя, а дынастычныя. Жаніліся самі ці жанілі сваіх сыноў на ліцвінскіх і крывіцкіх князёўнах. Скажам, сын Гедыміна Альгерд пабраўся з Марыяй, дачкой апошняга віцебскага князя Яраслава Васільевіча, пасля смерці якога княства, зразумела, перайшло ў рукі зяця. І такіх выпадкаў было многа.

Ну а па прыкладзе князя прыдворныя рыцары бралі ў жонкі сваячак і сябровак княгіні, таму праз некалькі гадоў увесь двор «славянізаваўся» без усялякага прымусу. Больш таго, услед за княжнамі на літоўскі двор прыходзілі перапісчыкі і пісарчукі, перакладчыкі. Дзякуючы ім старабеларуская мова станавілася мовай агульнага ўжытку. На ёй пішуць пасланні ў Маскву і татарам, крыжакам і палякам. І што цікава: на ёй жа атрымоўваюць адказы!

Вось якую ролю адыгрывалі славянскія жанчыны ў часы ВКЛ! Не падумайце, што гэта мае здагадкі, мае фантазіі. Не, усё сказанае падрабязна апісана ў брашуры класіка літоўскай літаратуры Людаса Гіры. А яму можна верыць, бо хто-хто, а ён выдатна ведаў гісторыю ў цэлым і літоўскага краю ў прыватнасці.

**— Сапраўды, Адам Восіпавіч, у гэтым — у добрым веданні і шанаванні сваёй гісторыі — можна толькі пазайздросціць нашым літоўскім сябрам, нашым добрым суседзям. Возьмем нядаўні прыклад. Летась споўнілася 600 гадоў з часу шырокавядомай бітвы пад Грунвальдам. Вялікае Княства Літоўскае, атрымаўшы ў гэтай бітве бліскучую перамогу, надоўга, на цэлыя стагоддзі, адбіла ахвоту ў крыжакоў сунуцца на славянскія землі. Дык вось мы, беларусы, можна сказаць даволі сціпла ўшанавалі гэту падзею, а нашы суседзі адзначалі яе шырока і ўрачыста. Хаця, як вядома, у бітве ўдзельнічала толькі некалькі літоўскіх (жэмайцкіх) харугваў, а рашаючы ўклад у перамогу зрабілі якраз нашыя продкі. Ці вы можаце мне запярэчыць?**

— Тут я пярэчыць і абвяргаць нічога не буду. Ісціна вызначаецца вельмі проста: чыя большая была тэрыторыя — той і зрабіў большы ўклад. А мы ўжо з вамі гаварылі, што асноваю Вялікага Княства Літоўскага былі землі беларускія і, адпаведна, асноваю войска, якое ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве, былі харугвы беларускія. Таму сцвярджаць, што перамогу пад Грунвальдам

атрымалі літоўцы, гэта ўсё роўна, што сказаць нібыта Вялікую Айчынную вайну выйграла Беларусь.

Разам з тым хачу зазначыць, што ісціна ў нашым выпадку не такая ўжо і адназначная. У адной сітуацыі перамагалі палкі беларускія, у другой — польскія, у трэцяй — літоўскія… Словам, гэта была наша супольная перамога.

## Пошукі і знаходкі

**— У аб'ектыўным і дасканалым вывучэнні гісторыі рашаючую ролю адыгрываюць дакументы. Між тым, многія з іх знаходзяцца за межамі нашай рэспублікі і цяжкадаступныя для нашых даследчыкаў. Але вось нядаўна ў друку прамільгнула прыемнае паведамленне аб тым, што лічбавыя копіі дакументаў Вялікага Княства Літоўскага, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Францыі, могуць быць перададзены Беларусі. Як вы расцэньваеце гэты факт?**

— Безумоўна, станоўча. Дарэчы, камісія «Вяртанне», якая створана пры Беларускім фондзе культуры і якую я ўзначальваю ўжо не адзін год, многае зрабіла для таго, каб гэтыя замежныя архівы сталі для нас больш даступныя. Пачалося ўсё з таго, што вядомы італьянскі беларусіст Санта Грачыёцці падараваў нам падрыхтаваны Польскім гістарычным інстытутам у Рыме ўнікальны, дваццацісямітомны каталог усіх дакументаў, якія знаходзяцца ў сховішчах Вялікабрытаніі, Германіі, Даніі, Італіі, Іспаніі, Францыі і іншых краін і якія датычацца Першай Рэчы Паспалітай, куды, як вядома, разам з Вялікім Княствам Літоўскім уваходзілі і беларускія землі. Нам заставалася толькі выбраць з гэтага аб'ёмнага каталогу ўсё, што прама ці ўскосна тычылася непасрэдна Беларусі. І такую працу выканаў малады гісторык Яраш Малішэўскі. Валодаючы некалькімі замежнымі мовамі, ён адабраў патрэбную інфармацыю, якая склала больш за сто старонак машынапіснага тэксту.

Маючы гэты спіс, беларуская даследчыца Вольга Гарбачова паехала ў Францыю і вельмі плённа папрацавала ў тамтэйшых архівах, вывучыўшы дакументы, якія датычацца паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Зрабіла добрую публікацыю. А гісторык Ігар Лялькоў, які дасканала валодае французскаю мовай, уважліва прагледзеў адно з найбольш багатых рукапісных сховішчаў у Еўропе — фонды дэпартамента манускрыптаў Нацыянальнай бібліятэкі Францыі і зрабіў выбарачны вопіс беларусістыкі XVI—XVIII стагоддзяў. Але ж гэта — кропля ў моры. Пераважная большасць замежных архіўных дакументаў яшчэ чакае свайго вывучэння.

Перадача часткі архіваў Нацыянальнай бібліятэкі Францыі, хай сабе нават у лічбавым фармаце, значна аблегчыла б задачу нашых даследчыкаў. Але гэта не так проста, як можа падацца на першы погляд. Для таго, каб такая перадача адбылася, трэба заключыць міжурадавае пагадненне ці хаця б пагадненне на ўзроўні міністэрстваў культуры. А пасля зрабіць адпаведную аплату альбо прапанаваць французам адэкватны абмен. Але ўсё можна ажыццявіць, былі б, як кажуць, жаданне і добрая воля.

**— Адам Восіпавіч, ведаю, што і вы асабіста многае зрабілі, каб шматлікія архіўныя дакументы замежжа сталі набыткам для нашых даследчыкаў.**

— Было, было. У тым жа Парыжы, куды я быў запрошаны для ўдзелу ў міжнародным «круглым стале», прысвечаным дыялогу Усходу і Захаду, дзякуючы ініцыятыве і гасціннасці колішняга беларускага пасла ў Францыі Віктара Шыха, я меў дадатковыя тры дні, каб папрацаваць у парыжскіх архі-

вах. У выніку — у музеі Адама Міцкевіча адшукаў мемуары аднаго з самых блізкіх сяброў паэта Аляксандра Бергеля, у якіх ён сцвярджае, што Міцкевіч нарадзіўся «ў Завоссі пад Наваградкам» і толькі пасля ўжо яго бацькі «перасяліліся ў Новае Завоссе, якое было ўзята ў арэнду». Успаміны Бергеля ўскосна пацвярджае і Аляксандр Кабылінскі, запіскі якога таксама захоўваюцца ў рукапісным фондзе музея.

А яшчэ мне пашанцавала ў тым жа музеі «адкрыць» 10 невядомых да гэтага пісем беларускага і польскага паэта, фалькларыста Яна Чачота. Некалькі з іх адрасаваны графіні Марыі Путкамер — больш вядомай як Марыля Верашчака. Самае істотнае тут, бадай, у тым, што Чачот звяртаецца да Марылі як да кампазітара, дасылае ёй тры свае вершы і просіць, каб яна выбрала адзін з іх і паклала на музыку.

У фондах Польскага музея ў Парыжы мяне чакалі не менш каштоўныя знаходкі: сем сшыткаў з рукапісамі беларускага паэта і выдаўца Аляксандра Рыпінскага, мемуары эмігранта з Міншчыны Яўстафія Янушкевіча, фрагмент дзённіка Фларыяна Радзівіла з Нясвіжа і шмат іншага. Але самым галоўным былі пісьмы нашага знакамітага мастака Напалеона Орды. Перачытваючы іх, я звярнуў увагу на тое, што ўсе яны мелі адзін і той жа зваротны адрас: вуліца Людовіка Вялікага, 9. Значыць, тут мастак жыў пастаянна. На шчасце, дом гэты няблага захаваўся, і на ім праз пэўны час намаганнямі нашага пасольства была ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар Напалеона Орды. Першы беларускі памятны знак у Парыжы, а, можа, і ва ўсёй Заходняй Еўропе!

Так што тры дні я правёў у французскай сталіцы не дарма. Усяго ў двух парыжскіх сховішчах было выяўлена 77 рукапісаў, якія маюць прамое дачыненне да Беларусі. А колькі яшчэ знаходак і сапраўдных адкрыццяў чакае нас, калі мы нарэшце зоймемся архівамі знакамітых ураджэнцаў Беларусі і іх сваякоў! Таму што Парыж як магнітам прыцягваў да сябе і пісьменнікаў, і мастакоў, і вучоных, і рэвалюцыянераў. Дастаткова прыгадаць Гіёма Апалінэра, Марка Шагала, Хаіма Суціна, Лявона Бакста, Валерыя Урублеўскага, Яўгена Зака, Оскара Мілаша… А калі б яшчэ знайшоўся архіў беларуска-літоўска-ўкраінскай газеты «Змова», першы нумар якой выйшаў з дапамогаю французскіх сяброў у 1870 годзе, — гэта было б навуковай сенсацыяй. Словам, нашых даследчыкаў чакае ў Парыжы непачаты край работы.

**— А ў вас жа яшчэ былі не менш плённыя паездкі ў Англію…**

— Так, на зямлі туманнага (цяпер ужо, праўда, зусім не туманнага) Альбіёна мне пашэнціла пабываць ажно чатыры разы. Упершыню я трапіў туды ў 1982 годзе, на стыпендыю ЮНЕСКА, для пошукаў у бібліятэках і музеях беларускіх рукапісаў, кніг і экспанатаў. Сустрэлі мяне, савецкага чалавека, даволі насцярожана. Нават нашы землякі-эмігранты. Адзін з іх, Ян Дамінік, чалавек дастаткова заможны, усё правяраў мяне, ці той я самы Мальдзіс, якога ён ведаў па публікацыях, а раптам я не навуковец, а засланы кадэбэшнік. Таму пытаўся: «А ў нашым Клецаку вы былі?» « — «Быў. І не раз». — «А можа, Міхася Яраша ведаеце?» — «Ведаю. У адным інстытуце працуем…» Здаецца, паверыў, але на абед усё роўна не запрасіў.

А другі размоўца (не буду называць яго прозвішча) даволі настойліва прыпіраў мяне: «Ну прызнайся шчыра, чаго ты прыехаў?» Я зрабіў сур'ёзна-таямнічы твар: «Сказаць? Але каб нікому-нікому. Хачу ўзарваць Біг-Бэн». Дзякаваць богу, чалавек зразумеў жарт і, весела парагатаўшы, больш з такімі пытаннямі да мяне не прыставаў.

У наступныя мае вандроўкі падобных непаразуменняў ужо не было, і мне ўдалося сапраўды плённа папрацаваць. У Оксфардзе, у багатай Бадлеянскай бібліятэцы, я адшукаў вядомае ў нас толькі па ўрыўках пісьмо Сымона

Буднага англійскаму публіцысту Джону Фоксу. Пісьмо каштоўнае тым, што ў ім беларускі рэфарматар выкладае ўласныя філасофскія погляды, дае новую філалагічную трактоўку асобным мясцінам з Евангелля.

У гэтай жа бібліятэцы дастаткова грунтоўна пазнаёміўся з беларускімі друкаванымі выданнямі XVI—XVII стагоддзяў. Іх тут шмат. Гэта і «Граматыкі», і «Азбукі», і «Часасловы», выдадзеныя ў друкарнях Вялікага Княства Літоўскага.

А яшчэ ў Оксфардзе, у Ашмалейскім музеі, сустрэўся з творамі свайго земляка Лявона Бакста. У фондах музея захоўваецца больш як дзесяць малюнкаў мастака. Асабліва ўразіў партрэт Андрэя Белага і малюнак «Айседора Дункан, якая танцуе».

У знакамітай Брытанскай бібліятэцы ў мае рукі трапілі два тамы «Паэзіі…» і іншыя кнігі Аляксандра Рыпінскага. Па праўдзе кажучы, я ведаў яго раней як аўтара рамантычнай балады «Нячысцік», а тое, што ён яшчэ і пладавіты польскі паэт, — для мяне гэта было адкрыццём. Дарэчы, Рыпінскі вядомы не толькі як паэт, публіцыст, але і як выдавец. Разам з ураджэнцам Навагрудчыны Ігнаціем Яцкоўскім ён заснаваў у Тотнэме (прыгарадзе Лондана) Вольную славянскую друкарню.

Асобна трэба сказаць пра Беларускую бібліятэку і музей імя Францішка Скарыны, якія знаходзяцца на Холдэн-роўд, у паўночным раёне Лондана. Тут дастаткова поўна прадстаўлены эміgranцкія выданні. Як рэліквіі захоўваюцца пяць пражскіх кніг Скарыны са збору С. Дзягілева. Ёсць 24 беларускія дакументы 1499—1622 гадоў, а таксама архіў Пінскага праваслаўнага духоўнага праўлення. Сярод найбольш каштоўных экспанатаў — некалькі аўтографаў заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Перш за ўсё гэта рукапісы паэмы Янкі Купалы «Курган» і некалькіх вершаў, адзін з якіх — «Хаўруснік» — на момант знаходкі заставаўся невядомым. Неапублікаванымі аказаліся таксама некаторыя вершы і артыкулы Якуба Коласа.

Канечне ж, усё, што мне траплялася падчас гэтых бібліятэчных росшукаў, я старанна ксеракапіраваў, а копіі перадаваў што ў Інстытут літаратуры, а што ў спецфонд акадэмічнай бібліятэкі. Туды ж траплялі і найбольш каштоўныя кнігі, падараваныя мне нашымі замежнымі землякамі.

**— А што вы можаце сказаць пра лёс Беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея імя Івана Луцэвіча, які ў свой час працаваў у Вільні? Ці ёсць надзея, што ён калі-небудзь адновіцца?**

— Няпростае пытанне. Як вы ведаеце, музей быў, кажучы словамі Якуба Коласа, вельмі багаты і разнастайны. Ён займаў пяць прасторных пакояў. Асобна размяшчалася бібліятэка з 14 тысяч тамоў. У верасні 1939 года з прыходам Чырвонай Арміі дырэктар гэтага музея Антон Луцкевіч быў арыштаваны, а сам музей меркавалася перавезці ў Мінск. Аднак не паспелі — пачалася вайна. Падчас нямецкай акупацыі Беларускі музей высялілі з базіліянскіх муроў і размясцілі там ваенны шпіталь. Шматлікія экспанаты ўпакавалі ў драўляныя скрыні і перавезлі ў склеп касцёла святога Мікалая.

Пасля вайны пытанне аб пераводзе музея ў Мінск паўстала зноў. Але на гэты раз літоўскія ўлады пагадзіліся перадаць беларусам толькі мізэрную частку экспанатаў. Усё самае каштоўнае засталося ў Вільні. Праўда, цяпер яно раздроблена і размешчана ў самых розных месцах: карціны — у Мастацкай галерэі, рукапісы, кнігі і перыёдыка — у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук, прадметы матэрыяльнай культуры — у Нацыянальным музеі Літвы, архіўныя дакументы — у архівах. Нейкая частка экспанатаў, як я ўжо казаў, захоўваецца ў нашых музеях.

Усё гэта варта было б злучыць і адкрыць Беларускі культурны асяродак. Дзе? Ну, напэўна, у Вільнюсе. Тым больш, што Літоўскі культурны цэнтр

на тэрыторыі Беларусі, у Астравецкім раёне, ёсць. Я нават садзейнічаў яго адкрыццю. А ў Літве адпаведнага цэнтра няма. Яго арганізацыя на базе аднаўленага Беларускага музея была б выгадная і для беларусаў, і для літоўцаў. Трэба толькі добрая воля зацікаўленых асоб. Размовы пра гэта ідуць, і пакуль яны ідуць, надзея застаецца.

**— Адам Восіпавіч, сярод навукоўцаў да гэтага часу вядуцца гарачыя спрэчкі: мы, беларусы, нацыя альбо яшчэ толькі на падыходзе да гэтага стану? І ці можна гаварыць пра беларускую цывілізацыю?**

— Наша нацыя, па-мойму, яшчэ толькі пачынае фарміравацца. У сярэдзіне XIX стагоддзя быў у нас своеасаблівы літаратурны прарыў — і Дунін-Марцінкевіч, і Сыракомля, і Каратынскі пачынаюць пісаць па-беларуску. Аднак рэакцыйныя дзеянні царскіх улад пасля паўстання 1863 года замарозілі гэты працэс. Пэўнае ажыўленне пачалося ў нашаніўскі перыяд. Але ўсё гэта асцярожна, напаўголасу. Масавае і я нават сказаў бы бурнае адраджэнне беларушчыны было ў 20-я гады XX стагоддзя. А пасля — зноў замаразкі. Зноў настойлівая, актыўная русіфікацыя. Нам ні разу не далі давесці працэс фарміравання нацыі да канца. І сёння гэты працэс пакуль што ідзе, ён не завершаны.

А што датычыць цывілізацыі, то мы смела можам пра гэта гаварыць. Аргументы «за»: мы маем багатую гісторыю, высокі ўзровень культуры і развітую эканоміку. Усё гэта ў сукупнасці дае нам падставу лічыць сябе паўнацэннай і годнай цывілізацыяй.

**— Тады скажыце, калі ласка, адкуль у нас гэтая балючая і неадчэпная хвароба — комплекс уласнай непаўнацэннасці? Сацыяльную пасіўнасць, канфармізм, цярпімасць беларусаў тлумачаць тым, што тут тапталіся многія захопнікі, заваёўнікі. Трэба было выжываць, прыстасоўвацца. Але ж тое самае было і на землях Літвы, Украіны. Аднак нацыянальная самасвядомасць у літоўцаў і ўкраінцаў захавалася больш выразна. У чым жа прычына?**

— Усё вельмі проста. Менавіта таму, што гэтыя заваёўнікі хадзілі сюды-туды, і тое, што Беларусь была шматканфесійнай, шматнацыянальнай і шматкультурнай — гэта і нарадзіла нашу славутую талерантнасць. Але талерантнасць — гэта сіла моцных і слабасць слабых. Моцныя мы былі ў часы ВКЛ. А вось у складзе Рэчы Паспалітай ці пад каронай Расійскай імперыі беларускія тэндэнцыі слабелі, хірэлі. У выніку да сваёй незалежнасці мы прыйшлі аслабленыя, у сэнсе нацыянальнай самасвядомасці. Нам яна дасталася, што называецца, на сподачку з блакітным беражком. У многіх гэта нават выклікала недаўменне: «А зачем? Была б каўбаса ды добрая чарка». Самая вялікая бяда ў тым, што наша талерантнасць паступова, незаўважна нарадзіла комплекс непаўнацэннасці. Ва ўсіх суседніх народаў цывілізацыя ўжо была, а мы ўсё яшчэ знаходзіліся ў няведанні. А калі што і ведалі, то адмаўляліся ад гэтага, адхрышчваліся. Нам унушалі, што гэта класава варожыя элементы (князі, магнаты, паны) і яны нам не патрэбны.

**— Вядомы вам даследчык Анатоль Трусаў сцвярджае, што наша сапраўдная гісторыя толькі пачынаецца і таму нацыянальная самасвядомасць будзе расці. Мы — на самым пачатку шляху да сябе. Усё нібыта правільна. Але тут жа ён зазначае: калі беларусы не загавораць па-беларуску, трагедыі не здарыцца. Этнічная ідэнтычнасць, на яго думку, вызначаецца не мовай, не тэрыторыяй сумеснага пражывання, не адзінай гісторыяй, а самасвядомасцю. Кім людзі сябе самі лічаць, тым яны і ёсць.**

— Не, я з гэтым не згодзен. Чаму? Таму што якая можа быць свядомасць, калі няма агульнай тэрыторыі. А тым больш, калі ў людзей няма агульнай гісторыі. Да таго ж у нас яшчэ і канфесійныя адрозненні. Вось вы ўпамянулі



*З жонкай Марыяй. 1950 г.*

літоўцаў, але ж яны заўжды былі маналітна католікамі. А ў нас? Калі ты праваслаўны — значыць ты царкоўна рускі, калі католік — то касцельны паляк.

Тое, што мы талерантныя, з аднаго боку, гэта добра. Мы жывём у такі век, калі дзяржавы ўжо не могуць не аб’ядноўвацца. І гэта натуральна. Але мы ўсё яшчэ адчуваем сябе ўсё той жа Папялушкай. Нашы краіны-суседзі, якія лічаць сябе старэйшымі сёстрамі, усё яшчэ загадваюць нам: ідзі туды, рабі тое.

Самасвядомасць беларусаў прымусова знішчалася на працягу некалькіх стагоддзяў: то польскімі ўладамі, то царскім рэжымам. Ужо ў другой палове XVIII стагоддзя назва Літва была фактычна ліквідавана. Задача ставілася катэгарычна: «надо стереть ненужную историческую память литвинов». Былі знішчаны ўсе беларускія летапісы (полацкія, віцебскія, магілёўскія), забаронены гістарычныя працы Лызлова, Тацішчава. А ў рэшце рэшт была забаронена і сама беларуская мова.

Пасля сталінскіх рэпрэсій, пасля фашысцкіх злачынстваў, у выніку якіх асабліва пацярпела інтэлігенцыя, загінула найбольш свядомая частка грамадства, нам давялося пачынаць фактычна на голым месцы. Але ж гэта не падстава для таго, каб адмаўляцца ад роднай мовы.

Што неабходна для яе адраджэння? Трэба, каб на гэтай мове загаварыла эліта. Успомнім 1812 год. Да гэтага ўвесь Пецярбург, уся інтэлігенцыя гаварыла па-французску. Пасля разгрому Напалеона дастаткова было, каб царскі ўрад, сенат, губернатары загаварылі на рускай мове, і адразу гэта стала лічыцца патрыятычным. На гэтай хвалі з’явіўся і Пушкін, і Лермантаў, і Гогаль.

Мова — тое, што афармляе нацыю. Без мовы грамадства ўяўляе сабой нешта бясформеннае. Аднак моўнае пытанне надзвычай складанае, тонкае, далікатнае. Тут нельга дзейнічаць так, як хацеў Зянон Пазняк: сацыяльнае замяніць нацыянальным — і тады, маўляў, за год-два ўсё вырашыцца. Не, дзейнічаць трэба паступова, крок за крокам. Любы загад, прымус выклікае негатыўную рэакцыю.

У гэтым сэнсе мне падаюцца даволі разумнымі і абнадзейваючымі дзеянні ўлад Гродзеншчыны і Магілёўшчыны, якія абвясцілі курс на адраджэнне беларускай мовы. І курс гэты, наколькі я ведаю, мае пад сабой канкрэтную, добра прадуманую праграму. Што ж, як кажуць, дай бог!

**— Ці можна назваць нейкую адну — самую адметную, вызначальную рысу беларуса?**

— Ведаеце, я б тут назваў не адну, а дзве рысы, якія выпрацаваліся на працягу стагоддзяў. Гэта — сціпласць і працавітасць. На жаль, апошнім часам пад уплывам суседзяў і з усходу, і з захаду яны пачалі дэфармавацца. Асабліва пацярпела працавітасць. Усё больш нашых людзей задавольваюцца сакраментальным: «А навошта?» Навошта старацца, клапаціцца, высільвацца, калі можна пражыць і без гэтага: выпіў з раніцы — і цэлы дзень вольны.

Размываецца, губляецца і наша традыцыйная сціпласць. Усё часцей можна пачуць на вуліцы татара-мангольскую лексіку. І не толькі з вуснаў хлопцаў, але і дзяўчат. Разбэшчанасць становіцца ледзьве не нормай. Нічога гэтага раней і блізка не было. Я вам прывяду такі прыклад. Наш выдатны вучоны Бенядзікт Дыбоўскі, які быў сасланы за свае рэвалюцыйныя дзеянні ў Сібір, першы даследаваў і апісаў возера Байкал. А яшчэ выказаў меркаванне, што пасяленне, у якім ён жыў, заснавана ліцвінамі. Чаму? А таму, што яго жыхары не лаяліся. Лінгвістычная здагадка пасля была пацверджана навуковымі даследаваннямі.

**— Адам Восіпавіч, апошнім часам з’яўляецца ўсё больш і больш розных кніжак, у якіх выказваецца думка, што ніякага адзінага праславянскага народа не было і што беларусы і рускія — гэта зусім розныя народы.**

— Ну дык гэта ж ясна. У свой час прафесар Мікуліч з Акадэміі навук выдаў цікавую кніжку, у якой доказваў гэта на антрапалагічным узроўні, сцвярджаючы, што паходжанне чалавека лёгка можна вызначыць па генах. А другі акадэмічны вучоны Вяржбоўскі, які ведаў многа замежных моў, выводзіў аналагічную тэорыю з дапамогаю філалогіі. Так, напрыклад, ён лічыў, што ўкраінская мова ўтварылася дзякуючы татарска-турэцкаму элементу, руская — угра-фінскаму элементу, а беларуская — пад уплывам балтыйскага, балцкага элемента.

І была ўжо нават прызначана навуковая канферэнцыя для абмеркавання такіх тэорый, аднак у апошні момант яе адмянілі. Апаненты сталі ціснуць на ідэалагічны бок праблемы, маўляў, беларусы — нацыя чыстая, і ніякіх балтыйскіх элементаў у нас няма і быць не можа.

Але ж чыстых нацый не бывае. Людзі ўвесь час знаходзяцца ў кантактах. Міжэтнічныя шлюбы. Вялікія і малыя перасяленні. У кожным народзе столькі ўсяго намешана, што часам цяжка разабрацца, хто да якой нацыянальнасці адносіцца. Возьмем таго ж Адама Міцкевіча. Хто ён? Беларус, бо нарадзіўся на Навагрудчыне? Але ж пісаў па-польску. Значыць, паляк? Праўда, у сваіх творах прызнаваўся: «Літва! Ты… мая Айчына». Тады літовец?

Справа не ў тым, што з рускімі, украінцамі мы маем розныя гістарычныя вытокі. Галоўнае — у іншым. Мы — народы-суседзі, народы-браты. І нам воляю лёсу наканавана жыць у згодзе і цесным супрацоўніцтве. Нам дзяліць няма чаго.

**— Нядаўна ў друку праскочыла была інфармацыя аб тым, што і Хрыстафор Калумб мае беларускія карэнні. Нібыта першаадкрывальнік Амерыкі быў унукам польскага караля і вялікага князя літоўскага Ягайлы. Вы чыталі пра гэта?**

— Чытаў. Цалкам верагодна. Хаця і недастаткова доказна. Пакуль што гэта змахвае на прыгожы міф.

**— Дарэчы, пра міфы. Вось ужо колькі дзесяцігоддзяў у сродках масавай інфармацыі мусіруецца гісторыя пра золата Напалеона. Адзін час**

**вывучэннем заблытанага пытання займаліся нават і вы. Дык усё ж такі гэта — міф ці рэальнасць?**

— Рэальнасць. І я пра гэта пісаў у нашым друку. Апошні раз нарабаванае Напалеонам золата бачылі пад Смаргонню. Чатыры вялікія бочкі. Везлі на санях, бо ўжо выпаў снег. Гэта — важная дэталь. І другая дэталь, якую нельга прыдумаць: з адной бочкі зваліўся абруч, выпала нелькі залатовак — і людзі кінуліся падбіраць. Усё гэта зафіксавана ў польскіх мемуарах.

Дык вось даехалі французы з гэтым золатам да Ашмян і тут прыйшло данясенне, што наперадзе ўжо гойсаюць казакі, віленскі шлях перакрыты. Палякі пачалі ўгаворваць Напалеона, каб той гэтым шляхам не ехаў, бо небяспечна. І ён зразумеў, што золата наўрад ці давязе. Трэба яго хаваць недзе тут. Разгарнуўшы карту Вялікага Княства Літоўскага, ён стаў уважліва вывучаць тутэйшую мясцовасць. Я от паставіў сябе на яго месца: што ён мог выбраць? Капаць зямлю, якая ўжо падмерзла, і сляды гэтых раскопак застануцца на снезе — было б неразумна. Апусціць бочкі ў рэчку? Але рака рухомая, можа вымыць вадой. Дый падгледзець мог нехта. Найлепш схаваць золата ў адным з глухіх, лясных азёр.

Хутчэй за ўсё так і было зроблена. Бо калі Напалеон праз тры дні прыехаў у Вільню, золата з ім ужо не было. Дзе яно схавана? Вось гэта задача, якую яшчэ трэба разгадаць. Ёсць пэўныя арыенціры: вялікі чорны камень, а непадалёку ад яго магільныя капцы. Мясцовыя краязнаўцы сцвярджаюць, што там пахаваны французы. Але ж іх там не павінна быць. Яны там ні адступаючы, ні наступаючы не праходзілі. Значыць, гэта могуць быць магілы тых, хто хаваў золата. І недзе тут трэба яго шукаць.

**— І яшчэ аб адным хачу ў вас запытацца. Доўгі час неаспрэчнай ісцінай лічылася, што наша славянскае пісьменства пайшло ад Кірылы і Мяфодзія. Але вось апошнім часам у друку з’явіліся сенсацыйныя звесткі: да кірыліцы (нашмат раней!) у нас ужо было пісьменства, так званыя руны. Што вы можаце сказаць наконт гэтага?**

— Доказы як быццам такія ёсць. Я сам бачыў камень з рунічнымі пісьмёнамі ў агароджы касцёла ў Ракаве. Іншая справа, што гэта нідзе не зафіксавана ў гістарычных крыніцах. Але гэта нічога не значыць. Нашы продкі, язычнікі, былі не такімі дурнямі і цемрашаламі, якімі іх раней малявалі.

**— Адам Восіпавіч, вы — надзвычай дасведчаны ў нашай гісторыі чалавек. Вывучылі біяграфіі соцень выдатных гістарычных асоб. Якая ж з гэтых асоб вам найбольш блізкая па духу?**

— Францыск Скарына, канечне. Зробленае, хочацца нават сказаць — здзейсненае ім можна смела назваць жыццёвым подзвігам. Скарына — не толькі першадрукар усходняга славянства, але і выдатны асветнік-гуманіст, не толькі сімвал беларускай нацыянальнай ідэі, але і гарачы прыхільнік збліжэння этнасаў і канфесій. Служэнне люду паспалітаму было для яго галоўным. Іншымі словамі, грамадскія інтарэсы ён заўсёды ставіў вышэй асабістых. А гэта надзвычай актуальна і сёння.

**— Вядомы рускі вучоны Дзмітрый Ліхачоў аднойчы сказаў, што чым больш высокая форма жыцця, тым большую ролю адыгрывае памяць. І таму пытанне аб ахове помнікаў у дзяржаве павінна быць на першым месцы, інакш нам наогул і не варта існаваць. А што робіцца ў гэтым плане ў Беларусі? Што вас радуе альбо засмучае ва ўшанаванні нашай гістарычнай памяці?**

— Радуе многае. Добра, што мы нарэшце пачалі выводзіць свае вытокі не ад 1919 года. Пра нашу старажытную і багатую гісторыю напісаны сур’ёзныя кнігі, якія прайшлі еўрапейскую апрабацыю.

Ёсць вялікі зрух у адносінах да нашых гістарычных, і перш за ўсё архітэктурных помнікаў. Адноўлены замак у Міры. Заканчваецца рэстаўрацыя палацавага комплексу Радзівілаў у Нясвіжы. Часткова адноўлена сядзіба Сапегаў у Ружанах… Больш уважліва сталі адносіцца да раскопак, да так званых археалагічных дробязей.

Усё гэта, безумоўна, радуе. Але многае і засмучае. Няма шырока абмеркаванай, агульнапрынятай праграмы таго, што трэба рабіць у першую чаргу, а што можа і пачакаць. Вось, скажам, рашылі адбудоўваць Крэўскі замак. А яго варта было б толькі закансерваваць.

Адсутнасць сістэмы прыводзіць да стыхійнасці працэсу. Канкрэтны прыклад. Раптам ставяць помнік у Лепелі. Знайшоўся там ксёндз мясцовага касцёла, які ўспомніў, што Лепель быў ва ўладанні Сапегаў. Але ж гэта была не галоўная іх маёмасць. Галоўная знаходзілася ў Ружанах і ў Дзярэчыне.

Ці, скажам, помнік Міколу Гусоўскаму. Да гэтага часу ўлады спрачаюцца, дзе яго трэба ставіць, бо невядома месца нараджэння знакамітага паэта. Але ж ёсць ужо даволі слушнае і дастаткова абгрунтаванае меркаванне навукоўцаў, што месца гэтае знаходзіцца ў Налібоцкай пушчы, на беразе рачулкі Уса, паблізу вёскі Каралеўшчына. Мясцовыя жыхары даўно ўжо там паставілі каплічку. А кіраўнікі Валожынскага райвыканкама ўсё ніяк не адважацца на рашучы крок.

І яшчэ адна праблема мяне хвалюе і засмучае. Гэта — развіццё турызму па гістарычных мясцінах. Прычым для гэтага нічога не трэба прыдумляць, усё даўно прыдумана. Ёсць пяць распрацаваных цікавейшых маршрутаў: «Залатое кола Беларусі», «Па храмах-крэпасцях і цудатворных іконах», «З пушчы ў пушчу», «Беларускі экватар» і «Шлях з варагаў у грэкі». Рэалізаваўшы гэтыя праекты, мы маглі б зарабляць неблагія грошы. А самае галоўнае — вандроўкі ў мінулае ўзбагачалі б нашу гістарычную памяць, актыўна працавалі б на патрыятычнае выхаванне, асабліва моладзі.

## Скарбы матэрыяльныя, скарбы духоўныя

**— Адам Восіпавіч, вы прыклалі шмат намаганняў не толькі для таго, каб аднавіць, пашырыць, узбагаціць нашу гістарычную памяць, але і паставіць яе на трывалую матэрыяльную аснову. Я маю на ўвазе ваш актыўны, нястомны пошук музейных, бібліятэчных і архіўных каштоўнасцей, якія ў сілу розных абставін і ў розны час апынуліся за межамі Беларусі, а таксама вашу настойлівую барацьбу за вяртанне гэтых нацыянальных скарбаў на радзіму. Скажыце, калі ласка, як і з чаго пачалася гэтая няпростая, але такая высакародная, можна сказаць падзвіжніцкая праца?**

— Праца сапраўды няпростая, клопатная, а часам і малапрыемная. І я тут адзін нічога не дамогся б. Калі нешта і ўдалося, то гэта вынік калектыўных, сумесных намаганняў многіх энтузіястаў і зацікаўленых арганізацый.

А пачалося ўсё — магу дакладна сказаць — у лютым 1970 года. Менавіта тады па рэкамендацыі Акадэміі навук ЦК КПБ накіраваў мяне з лекцыямі ў Магілёў. І вось там, пасля адной з лекцый, да мяне падышоў чалавек і запытаўся: «А ці ведаеце вы, дзе зараз знаходзіцца Крыж святой Еўфрасінні Полацкай? А Слуцкае Евангелле? А залаты ключ ад Магілёва?»

У самім пытанні заключаўся пэўны падтэкст, адчувалася, што чалавек нешта ведае, але не дагаворвае.

Я пастараўся пазнаёміцца са сваім субяседнікам бліжэй. Ім аказаўся мясцовы інжынер Іеранім Філіповіч, які да вайны працаваў у Магілёўскім

краязнаўчым музеі і на свае вочы некалькі разоў бачыў і Крыж, і Евангелле, якія захоўваліся ў спецыяльным пакоі-сейфе. Больш таго, расказаў ён, у гэтым сейфе знаходзілася шмат іншых каштоўнасцей — залатыя прадметы з раскопак у Пампеях, унікальная старажытная зброя, кубак Пятра Першага, каля дваццаці царкоўных кніг у дарагіх акладах… Усяго гэтага пасля вайны ў музеі не аказалася. Куды яно знікла — невядома. Адны кажуць, што скарбы аселі недзе ў расійскіх сховішчах, другія сцвярджаюць, што сляды вядуць намнога далей — у Германію, а то і ажно ў Амерыку.

Расказанае І. Філіповічам зачапіла мяне за жывое. У мяне прачнуўся азарт даследчыка. А раптам мне пашанцуе і я патраплю на след зніклых каштоўнасцей?

Не буду пераказваць усе падрабязнасці маіх пошукаў (пра гэта я не раз пісаў у друку), скажу толькі, што яны, на жаль, канкрэтных вынікаў не далі. Германскі след адпаў адразу — нідзе магілёўскія экспанаты ў нямецкіх дакументах не засвяціліся, акрамя 300 скрынак кніг, вывезеных у 1943 годзе. Не пацвердзілася таксама і амерыканская версія. Ні ў фондзе, ні ў бібліятэцы, ні ў музеі Пірнонта Моргана нічога я не знайшоў.

Паступова я ўсё больш і больш пераконваўся, што рэальнае месцазнаходжанне Крыжа і іншых музейных каштоўнасцей трэба шукаць дома — у Маскве альбо ў Ленінградзе. Асабліва пасля таго, як я прачытаў успаміны Пятра Паддубскага. Вайна застала чырвонаармейца Пятра Харытонавіча ў Магілёве, дзе ён служыў шафёрам. У самы драматычны момант баёў за горад яго выклікаў да сябе камендант Ваяводзін і загадаў вывезці каштоўны груз. 13 ліпеня Пётр Паддубскі падагнаў машыну да будынка абкама партыі (менавіта там знаходзіўся пакой-сейф) і людзі ў цывільным пачалі грузіць у кузаў розныя клункі і мяшкі. У кабіну да яго сеў Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка, тады першы сакратар ЦК КП(б)Б, і яны рушылі на Маскву. Праз два дні груз быў дастаўлены ў расійскую сталіцу ва ўпраўленне Чырвонай Арміі. Пазней гэты факт пацвердзілі ў сваіх успамінах Панамарэнка і Ваяводзін.

Ёсць і крыху іншая версія. Нібыта музейныя экспанаты з пакоя-сейфа (карціны, іконы, золата, серабро — усяго больш за дзве тысячы прадметаў) адвезлі ў Маскву і здалі ў банк. Калі іх там прымалі, нечакана з’явіўся Берыя. Ён уважліва разглядваў прадметы і з захапленнем прыцмокваў: маўляў, якое багацце!

Ці знойдзецца калі-небудзь Крыж Еўфрасінні? Я асабіста настроены аптымістычна. Сказала ж аднойчы балгарская прарочыца Ванга: «А чаго беларусы хвалююцца? Крыж хутка знойдзецца».

Вярнулася ж з небыцця Слуцкае Евангелле. Значыць, павінны вярнуцца і астатнія каштоўнасці з магілёўскага збору. Трэба толькі не апускаць рукі, працягваць пошук.

**— Чытаючы вашы даследаванні, вашы кнігі пра згубленыя беларускія скарбы, вельмі часта сустракаеш даволі сумны вывад: след іх згубіўся ў Расіі. Прычым, як зазначаеце вы, звычайна гэтыя каштоўнасці захоўваюцца ў запасніках і беларускіх даследчыкаў туды не пускаюць.**

— Не, не, сітуацыя крыху не такая безнадзейная. Прычым, часам бывае, што ў гэтым мы вінаваты самі.

Характэрны прыклад. Да вайны ў Пінску працавала каталіцкая семінарыя. Дзякуючы клопатам яе рэктара Зыгмунта Лазінскага ў бібліятэцы і архіве было сабрана шмат каштоўнасцей. Адна бібліятэка налічвала каля 40 тысяч тамоў на розных мовах. Сярод кніг меліся ўнікальныя выданні XV—XVIII стагоддзяў. Сапраўдныя рарытэты захоўваліся ў рукапісным фондзе. Словам, бібліятэка ўяўляла вялікую навуковую каштоўнасць.



З Васілём Быкавым і Алесем Адамовічам. 1978 г.

І чым усё гэта скончылася? Семінарыю закрылі, яе памяшканні заняў ваенны шпіталь, а ўвесь багацейшы фонд літаратуры звалілі ў адзін пакой. Мясцовыя ўлады звярнуліся ў Акадэмію навук БССР з просьбаю прыняць бібліятэку на свой баланс, але ўнікальным скарбам не зацікавіліся. Тады пінчане напісалі ў Маскву, у Цэнтральны антырэлігійны музей. Там адрэагавалі імгненна. І неўзабаве два вагоны старажытных, бясцэнных кніг і рукапісаў былі адпраўлены ў маскоўскі музей. Цяпер, наколькі мне вядома, пінскія рарытэты захоўваюцца ў маскоўскай гістарычнай бібліятэцы.

Дык хто ў гэтай сітуацыі вінаваты?

Цяжка ў чым-небудзь папракнуць расійскіх калег і ў тых выпадках, калі ўласнік матэрыяльных каштоўнасцей падараваў іх, завяшчаў альбо прадаў. Так сталася, напрыклад, з гомельскімі калекцыямі Мікалая Румянцава, якія леглі ў аснову Дзяржаўнай бібліятэкі Расійскай Федэрацыі.

Ці, скажам, у Калужскім абласным мастацкім музеі выяўлены чатыры слуцкія антымінсы (адбіткі на палатне арыгінальных твораў станковай графікі, выразаных на дрэве), якія датуюцца XVII стагоддзем. Там жа аказалася яшчэ некалькі каштоўных прадметаў, выробленых майстрамі беларускага паходжання. Аднак ставіць пытанне аб іх вяртанні на радзіму не можам: у свой час усе гэтыя экспанаты былі падараваны ў Пафнуцьеў-Бораўскі манастыр, а пасля яго ліквідацыі перададзены ў Калугу.

Але большасць беларускіх скарбаў, што апынуліся за мяжою, усё ж такі падпадаюць пад закон аб рэстытуцыі. У першую чаргу гэта скарбы, якія былі эвакуіраваны ў сувязі з пачаткам ваенных дзеянняў. Такім чынам, напрыклад, з Віцебска і Мінска патрапілі ў Саратаў карціны Шагала, Юдовіна, Мініна, Пэна і іншых беларускіх, рускіх і заходнееўрапейскіх мастакоў. Калі пра гэта дазналася кандыдат мастацтвазнаўства Мая Яніцкая, яна неадкладна выехала ў Саратаў. Аднак у карціннай галерэі яе сустрэлі даволі стрымана: «Вы можаце глядзець толькі тое, што знаходзіцца ў экспазіцыі». Паказаць запаснікі нашай даследчыцы ветліва, але катэгарычна адмовіліся.

А колькі каштоўнасцей мы згубілі падчас Першай сусветнай вайны. Царскія ўлады далі тады каманду нічога не пакідаць ворагу. І на ўсход рушылі дзясяткі вагонаў з экспанатамі прыватных музеяў, прадметамі царкоўнага ўжытку, калекцыямі старажытных сядзібаў.

З найбольш каштоўных страт 1914—1918 гадоў можна назваць цудатворную ікону Прасвятой Багародзіцы Каложскай. Яна напісана на меднай дошцы, апранута ў сярэбраную з пазалотай рызу і ўпрыгожана каштоўны-

мі камянямі-гранатамі, сердалікамі, агатамі. Ёсць меркаванне, што старажытную ікону (канец XVII стагоддзя!) эвакуіравалі з Гродна ў Маскву прыкладна ў 1915 годзе разам з Барысаглебскім манастыром. А адтуль наша святыня ўжо не вярнулася. Апошні раз яе бачылі ў 1936 годзе ў Румянцаўскім музеі.

Вагонамі вывозіліся ў Маскву на часовае захоўванне і іншыя прыватныя зборы. Так зрабілі Гутэн-Чапскія са Станькава, Нямцэвічы са Скокаў, Браніцкія з Росі, Пуслоўскія з Альберціна, Цеханавецкія з Бачэйкава і іншыя землеўладальнікі. Прычым гэта былі далёка не шараговыя зборы. Напрыклад, калекцыя з Альберціна магла б зрабіць гонар не адной еўрапейскай галерэі. Тут былі творы Леанарда да Вінчы, Рубенса, Пітэра Брэйгеля, Дэвіда Тэньерса і іншых вядомых мастакоў. Акрамя таго ў Альберцінскім зборы былі каштоўнейшая «гданьская» мэбля, багацейшая калекцыя фарфору, кнігі XVII—XVIII стагоддзяў, пергаміны XV стагоддзя.

А былі ж яшчэ і паўстанні 1830—1831 і 1863—1864-х гадоў, пасля якіх прыватныя калекцыі іх уладальнікаў канфіскоўваліся і вывозіліся ў Пецярбург і Маскву.

Для прыкладу спашлюся на страты, панесеныя Сапегамі. Іх калекцыі ў Ружанах і Дзярэчыне па колькасці і каштоўнасці мала чым уступалі Радзівілаўскім. Тая ж Мая Яніцкая знайшла спіс скарбаў, адпраўленых з Гродна ў Пецярбург. Спіс гэты складае — колькі вы думаеце? — 70 старонак! Адных толькі твораў заходнееўрапейскага жывапісу названа 287 адзінак.

Нарэшце яшчэ адзін красамоўны факт. У 1920 годзе, падчас савецка-польскай вайны, з Мінскага Святадухава сабора ў Маскву вывезлі ікону XV стагоддзя. Ёсць меркаванне, што цяпер яна знаходзіцца ў Траццякоўскай галерэі.

**— Адам Восіпавіч, а што з нашымі знакамітымі слуцкімі паясамі? І чаму вакол іх існуе найбольш розных міфаў і таямніц?**

— Чаму столькі размоў? Таму што слуцкія паясы самі па сабе — сапраўдныя шэдэўры ткацкага мастацтва. А для Беларусі яны яшчэ і своеасаблівая візітоўка, такая, як для Чэхіі — багемскі крышталь, для Германіі — майсенскі фарфор, для Расіі — палехскія шкатулкі.

Слуцкія паясы акрамя мастацкай каштоўнасці мелі яшчэ і матэрыяльную. На выраб аднаго пояса трацілася каля 200 грамаў золата і каля 60 грамаў серабра. Залатыя, пазалочаныя і сярэбраныя ніці ўпляталіся ў шаўковую аснову і важылі да 800 грамаў. Таму кожны такі выраб каштаваў вельмі дорага — прыблізна 50 дукатаў, альбо 150 рублёў золатам. Зразумела, што насіць слуцкія паясы маглі толькі магнаты і багатая шляхта.

Колькі іх было выраблена ўсяго? Дакладнай лічбы няма. Можна падлічыць толькі прыблізна. Скажам, у 1796 годзе ў слуцкай персіярні на 24 станках было выткана 200 паясоў. А выраб іх доўжыўся на працягу сама меней 50 гадоў. І хай у сярэднім за год выраблялася не 200, а толькі 100 паясоў, дык і то іх павінна быць недзе каля 5 тысяч. Але дзе яны?

На сённяшні дзень у музеях Беларусі захоўваецца 11 вырабаў. Праўда, са слуцкай персіярні толькі 5, астатнія замежнай вытворчасці і таму менш каштоўныя. А між тым яшчэ да вайны ў Дзяржаўнай карціннай галерэі іх было 32, якія трапілі сюды на пачатку 1940 года з Нясвіжскага палаца Радзівілаў. Вясной таго ж года калекцыю адправілі з Мінска ў Маскву на выстаўку, прысвечаную Дэкадзе беларускага мастацтва. А далей след гэтых паясоў губляецца. Некаторыя сцвярджаюць, што паясы ўсё ж ацалелі і пасля вайны трапілі ў адзін з музеяў Расіі альбо Украіны.

Ва ўсякім разе самая вялікая калекцыя слуцкіх рарытэтаў цяпер знаходзіцца ў Маскве, у Дзяржаўным гістарычным музеі. На думку Маі Яніцкай,

іх там не менш як трыста. Расійскія чыноўнікі, праўда, афіцыйна прызнаюць лічбу ўдвая меншую. Аднак і такая лічба ўражвае.

Як яны трапілі ў Маскву? Значная частка паясоў была перададзена музею вядомым расійскім калекцыянерам Пятром Шчукіным. Астатнія хутчэй за ўсё былі паўлегальна вывезены з Беларусі перад вайною.

Вядома, разлічваць на тое, што гэтыя каштоўнасці будуць перададзены нам па законе аб рэстытуцыі цяжка. Супрацоўнікі музея будуць настойваць на эквівалентным абмене. І мне здаецца, варта на гэта пайсці.

**— А ці ўдасца калі-небудзь вярнуць знакамітую бібліятэку са Шчорсаў, якая належала Іяхіму Храптовічу?**

— О, гэта цэлая дэтэктыўная гісторыя! Але перш чым пра яе распавесці, варта колькі слоў сказаць пра Храптовіча як асобу. Уладальнік сядзібы Шчорсы — адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў беларускай эліты Вялікага Княства Літоўскага. Знакаміты род Храптовічаў бярэ свае вытокі з XV стагоддзя. Праўда, сам Іяхім у «Мемуарах…» пачынае аповед з сярэдзіны XVI стагоддзя — з таго моманту, калі Якуб Храптовіч падзяліў Шчорсы паміж сынамі Багданам, Данілам, Васілём і Міцькам. Як бачым па імёнах, гэта быў род праваслаўны, беларускі. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, нібыта з часам Храптовічы паланізаваліся. Але як сведчаць дакументальныя крыніцы, яшчэ ў XVII стагоддзі чарговыя пакаленні прытрымліваліся рускай мовы і праваслаўнай веры. Невыпадкова Храптовічы былі супраць уніі ВКЛ з Польшчай. Ды і пазней, ужо ў асобе Іяхіма, знакаміты род трымаў арыентацыю на Расійскую імперыю.

Нягледзячы на гэта, І. Храптовіч зрабіў даволі паспяховую кар’еру. Спачатку ён займае пасаду навагрудскага стольніка, пасля — палкоўніка войск ВКЛ, яшчэ крыху пазней — маршалка Літоўскага трыбунала, падканцлера, канцлера ВКЛ і нарэшце — міністра замежных спраў Рэчы Паспалітай.

Іяхім Храптовіч быў не толькі паспяховы палітык, але і ўдумлівы гаспадарнік-рэфарматар, мецэнат і адукаванейшы чалавек. Пад уздзеяннем ідэй французскага Асветніцтва ён даў сваім сялянам значную свабоду, вучыў іх рацыянальнаму гаспадаранню. На яго землях атрымоўвалі небывалыя ўраджаі збожжа.

І усё ж найбольшую вядомасць Шчорсам надавала знакамітая бібліятэка, якая налічвала каля 10 тысяч тамоў і вялікую колькасць рукапісаў. Каб пакарыстацца гэтым багаццем, сюды прыязджалі людзі з розных куткоў Рэчы Паспалітай. Тут, напрыклад, шукаў матэрыялы для сваіх паэм Адам Міцкевіч, працавалі многія іншыя вядомыя вучоныя, фалькларысты, этнографы.

Аднак з цягам часу шчорсаўская бібліятэка паступова страчвала сваю ролю аднаго з галоўных асяродкаў асветніцтва і культуры на беларускіх землях, бо ў многіх гарадах адчыняліся свае бібліятэкі. Да таго ж сядзіба перайшла ў рукі нашчадкаў Храптовічаў-Буцянёвых, для якіх бібліятэка была лішняй марокай.

Паўстала пытанне: што з ёю рабіць?

І вось пачынаецца сапраўдны дэтэктыў. На пачатку XX стагоддзя кніжны і рукапісны збор Іяхіма Храптовіча аказваецца на ўкраінскай зямлі. Але якім чынам?

Бытавала ўстойлівая версія, што як толькі пачалася Першая сусветная вайна, Храптовіч-Буцянёў, баючыся нямецкай акупацыі, загадаў перавезці бібліятэку ў Кіеў, ва ўніверсітэт святога Уладзіміра. А ў тастаменце агаворваў, каб пасля вайны ўсе каштоўнасці былі вернуты на яго радзіму, у першы ўніверсітэт, які там адкрыецца.

На гэтай падставе ў 1991 годзе камісія «Вяртанне» звярнулася да ўкраінскіх калег з просьбаю аб перавозе бібліятэкі ў Мінск. Тым больш, што

Дзяржаўная бібліятэка Беларусі зрабіла шырокі сустрэчны жэст: бязвыплатна передала ўкраінцам шмат кніг з Парыжскай бібліятэкі Пятлюры, што апынуліся пасля вайны ў Мінску. На гэта трэба было нечым адказваць…

І напачатку ніякіх пярэчанняў з боку Кіева не было. Але калі справа дайшла да канкрэтных дзеянняў, украінскія чыноўнікі раптам засумняваліся: маўляў, передача бібліятэкі адбылася яшчэ да вайны, у 1913 годзе, а ў тастаменце Храптовічы-Буцянёвы далі згоду на яе размяшчэнне ў Кіеўскім універсітэце. Члены беларускай камісіі справядліва папрасілі: пакажыце нам гэты таямнічы тастамент. У адказ — маўчанне.

Сітуацыя крыху праяснілася пазней, калі адзін з членаў камісіі, дацэнт БДУ Міхаіл Шумейка прывёз з кіеўскага архіва невядомыя раней беларусам дакументы аб умовах передачы бібліятэкі. Я неадкладна звязаўся з Міхаілам Фёдаравічам, каб пазнаёміцца з гэтымі дакументамі. Аказалася, што размовы аб перавозе шчорсаўскага кнігазбору ў Кіеў сапраўды пачаліся задоўга да вайны, у 1909 годзе. Ад універсітэта святога Уладзіміра ў Шчорсы быў накіраваны прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі для канкрэтных перамоў. Па невядомых прычынах гэтыя перамовы доўжыліся ажно чатыры гады. Нарэшце ў 1913 годзе з'явіўся адпаведны дакумент. Ім прадугледжвалася передача бібліятэкі на *часовае* захоўванне тэрмінам на 25 гадоў. Пасля гэтага кнігі, рукапісы неабходна вярнуць альбо назад у Шчорсы, альбо передаць іх Віленскаму ўніверсітэту. Калі ж сітуацыя будзе складанай, тады вярнуцца да пытання аб праве ўласнасці яшчэ праз 25 гадоў. Калі і тады рашэнне не будзе прынята — бібліятэка назаўсёды застаецца ў Кіеўскім універсітэце.

Сітуацыя заблыталася канчаткова. Тым больш, што дакумент гэты застаўся ў машынапіснай копіі, нікім не падпісаны і не завераны. Таму калі рэктар БДУ Уладзімір Пічэта ў 1924 годзе выехаў у Кіеў, каб у рэшце рэшт вырашыць заблытанае пытанне, то вярнуўся адтуль ні з чым. Украінскія калегі прывялі свае довады: па-першае, непадпісаная копія акта передачы юрыдычнай сілы не мае; па-другое, у дакуменце нічога не гаворыцца пра Мінск; і, па-трэцяе, акт не прадугледжаваў (ды і не мог прадугледзець) тых дзяржаўна-палітычных змен, якія адбыліся пасля Першай сусветнай вайны — Кіеў, Шчорсы і Вільня аказаліся ў розных краінах.

Кіраўніцтву Кіеўскага ўніверсітэта, відаць, надакучыла пастаянная мітрэнга з сумніўным набыткам, і яно неўзабаве передало бібліятэку Храптовіча іншай навучальнай установе, пакінуўшы сабе толькі рукапісы. Бяда аднак не ў гэтым, а ў тым, што калі я параўнаў вопіс, які быў зроблены яшчэ ў Шчорсах, з тым, што захавалася на сённяшні дзень, то са скрухаю ўбачыў: многага ўжо няма, яно, відаць, незваротна страчана.

Якое ж можа быць выйсце з гэтай няпростай сітуацыі? Украінскія калегі прапаноўваюць скласці і апублікаваць навуковае апісанне шчорсаўскага збору. І гэта, магчыма, слушная прапанова. Пакуль не знойдзены арыгінал дакумента, трэба лічыць бібліятэку Храптовіча сумесным беларуска-ўкраінскім скарбам.

**— Сляды нашых скарбаў вядуць не толькі ў Расію і Украіну, але і ў іншыя краіны блізкага і далёкага замежжа. Ці ёсць у нас канкрэтны ці хоць бы прыблізны спіс беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, якія па розных прычынах апынуліся за межамі нашай краіны, і што робіцца для таго, каб хоць частку страчанага вярнуць на Радзіму?**

— У вашым пытанні ўтрымліваецца адразу некалькі вельмі няпростых пытанняў. Давайце пачнём па парадку.

Дзе яшчэ ёсць нашыя скарбы? Напэўна, я не памылюся, калі скажу, што пасля Расіі іх больш за ўсё ў Польшчы. І гэта зразумела: мы — бліжэйшыя

суседзі, доўгі час былі нават у адной дзяржаве, у нас шмат міжэтнічных сувязей і многа іншых гістарычных, палітычных і ідэалагічных акалічнасцей.

Я ў свой час меў некалькі навуковых камандзіровак у Польшчу і даволі працяглы тэрмін працаваў у тамтэйшых музеях, бібліятэчных архівах. І таму магу аўтарытэтна сказаць: там багата самых разнастайных беларускіх каштоўнасцей. Трапілі яны туды, як вы правільна зазначылі, па розных прычынах.

Прывяду адзін паказальны прыклад. Уладальнік маёнтка ў Станькава Эмерык Гутэн-Чапскі за гады чыноўніцкай службы, шматлікіх падарожжаў па Расіі і Заходняй Еўропе сабраў некалькі каштоўных калекцый. Асабліва багатай была нумізматычная калекцыя, для якой гаспадар пабудаваў спецыяльны будынак — так званы скарбчык. Ён, дарэчы, захаваўся да нашых дзён. Шмат пакояў у палацы займала бібліятэка. Наколькі ўсё гэта было сур’ёзным і значным, можам меркаваць па тым, што навуковую працу Э. Чапскага Рускае археалагічнае таварыства адзначыла вялікім сярэбраным медалём.

І раптам амаль усе гэтыя музейныя каштоўнасці аказваюцца ў Кракаве. З якой нагоды? А так вырашыў сам гаспадар. Але чаму менавіта ў Кракаве, а не ў Варшаве, не ў Вільні? Справа ў тым, што старажытная сталіца палякаў знаходзілася тады за межамі Расіі, на тэрыторыі Аўстра-Венгерскай манархіі і, напэўна, Чапскі меркаваў, што там яго калекцыі будуць цалейшыя. А другім аргументам на карысць Кракава было тое, што ў другой палове XIX стагоддзя гэты горад стаў своеасаблівым навукова-культурным цэнтрам не толькі на польскіх землях, але і на ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Тут дзейнічаў знакаміты Ягелонскі ўніверсітэт, арганізавалася свая акадэмія навук, выдаваліся гістарычныя і этнаграфічныя часопісы, у якіх друкаваліся і аўтары з Беларусі. Акрамя таго, адчыніўся шэраг музеяў, у тым ліку перавезены з Парыжа музей Чартарыйскіх.

Мяне пэўны час хвалявала пытанне: а што ж перавёз у Кракаў Эмерык Чапскі? Нарэшце ў мясцовай газеце «Czas» за 1895 год я адшукаў заметку, у якой гаварылася аб тым, што скарбы будучага музея прыбылі з Вільні ў 134 скрынях і шасці вагонах. Уяўляеце сабе: шэсць вагонаў каштоўнейшых экспанатаў! Сярод іх была вялізная колькасць манет (12 тысяч), медальёны, старадаўні фарфор, зброя, старая «гданьская» мэбля, унікальная бібліятэка, якая ўключала і шматлікія экзэмпляры вывезенага з Варшавы ў Пецярбург кнігазбору Залускіх, нарэшце геалагічныя і мінералагічныя калекцыі, якія ўжо тады лічыліся буйнешымі ў Еўропе.

Перавозячы свае матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці ў Кракаў, Чапскі, канечне ж, жадаў не толькі іх захаваць, але і прымножыць. І гэтае жаданне станькаўскага калекцыянера пасля доўгага перыяду занядбання, здаецца, пачынае збывацца. Дзякуючы намаганням Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча праводзіцца тэхнічны рамонт палацамузея Чапскіх, а ў недалёкай будучыні ён стане цэнтрам музейна-даследчыцкага комплексу. Еўрапейскі цэнтр польскай нумізматыкі, асновай якога паслужыла станькаўская калекцыя, будзе дапоўнены спецыялізаванай бібліятэкай, чытальнай залай, шматлікімі дапаможнымі службамі. А ў сярэдзіне дворыка дадаткова пабудуюць так званы павільён Чапскіх, экспанаты якога будуць апавядаць пра заслугі старажытнага роду.

Чаму я назваў гэты прыклад паказальным? Таму што вывезеныя каштоўнасці аказаліся не толькі не страчаныя, але і прымножаныя, а імя іх уладальніка годна ўшанавана.

На жаль, так бывае не заўсёды.

У 1920 годзе, калі войскі Юзафа Пілсудскага адступалі пад націскам Чырвонай Арміі, яны вывезлі ў Польшчу агромністую колькасць каштоў-

насцей з беларускіх маёнткаў і сядзіб. Па дадзеных польскага музеязнаўца Эдварда Хвалевіка, легіянеры тады нагрузілі кнігамі, рукапісамі, карцінамі, скульптурамі, прадметамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва 36 тысяч (!) скрынь. Кажуць, што кіраўніцтвам Таварыства аматараў Мінскай зямлі быў нават складзены падрабязны спіс гэтых каштоўнасцей. Аднак нягледзячы на ўсе намаганні, ні спісу, ні каштоўнасцей (за выключэннем рукапісаў са збору Аляксандра Ельскага) знайсці не ўдалося.

Асабліва сумны лёс у нашых музейных, бібліятэчных і архіўных скарбаў, якія падчас Вялікай Айчыннай вайны сталі здабычай фашысцкіх акупантаў. Страты панесены агромністыя, і да гэтага часу многія беларускія каштоўнасці не адшуканы, а тыя, што знойдзены, дакументальна не пацверджаны і пытанне аб іх вяртанні ставіць пакуль рана.

У «спецыялістаў» Розенберга — аднаго з ідэолагаў нацысцкай партыі, які кіраваў рабункам і вывазам матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей з акупіраваных тэрыторый, — была скрупулёзна прадуманая і дакладная праграма. Яны шнырылі паўсюль, хапалі ўсё падрад у музеях, бібліятэках, прыватных зборах. Але найперш пацярпелі, вядома, буйныя гарады. У Мінску былі разрабаваны два асноўныя сховішчы — Дзяржаўная карцінная галерэя і Беларускі дзяржаўны музей. У даведцы, якая адразу пасля вайны была складзена начальнікам упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, вядомым беларускім пісьменнікам Піліпам Пестраком, называюцца страты карціннай галерэі: скульптур — 250, твораў графікі — каля 1500, жывапісу — 2000, прадметаў прыкладнога мастацтва (фарфору, мэблі і іншага) — 2500 экспанатаў.

Больш за 100 твораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва было вывезена з Дзяржаўнага музея. Сярод іх — 74 іконы, 8 скульптур, 9 слуцкіх паясоў і шмат іншых каштоўных экспанатаў. Гэткім жа чынам былі разрабаваны калекцыі Віцебскага, Магілёўскага, Гомельскага музеяў, а таксама экспанаты Баранавіцкага краязнаўчага музея, дзе было сабрана шмат выдатных твораў выяўленчага мастацтва, у тым ліку заходнееўрапейскага, звезеных з сядзіб даваеннай Заходняй Беларусі.

Усяго за гады акупацыі з беларускіх зямель акупантамі было вывезена ў Германію (па самых сціплых падліках) пяць вагонаў музейных каштоўнасцей. З нямецкай пунктуальнасцю «новыя гаспадары» ўсе экспанаты старанна апісалі, рассартавалі і склалі падрабязную картатэку. Апошняя мяне вельмі зацікавіла, і я папрасіў нямецкіх калег, якія прыязджалі ў Мінск на кангрэс беларусістаў, дапамагчы атрымаць копіі «беларускіх» картак. Яны сказалі, што ў прынцыпе гэта магчыма, але за работу давядзецца заплаціць немалую суму. На жаль, такой сумы ў нас не аказалася.

А каталог гэты надзвычай патрэбны. Бо з пяці вагонаў нарабаваных скарбаў у Мінск вярнулася толькі два. А дзе ж астатнія? У мяне склалася перакананне, што калі пасля вайны нарабаванае акупантамі агулам адпраўлялі з Берліна назад у СССР, значная частка нашых каштоўнасцей асела ў расійскіх музеях, а частка ўсё ж засталася ў Германіі, у прыватнасці, у Інстэрбургскім краязнаўчым музеі.

Цяпер наступнае пытанне: ці ёсць спіс вывезеных за мяжу (не толькі падчас акупацыі) беларускіх каштоўнасцей? Пакуль поўнага, падрабязнага, дакладна вывeранага спісу няма. Але праведзена вялікая падрыхтоўчая, навукова-даследчыцкая работа. І перш за ўсё грамадскай камісіяй «Вяртанне» пры Беларускім фондзе культуры. Дзякуючы энтузіястам гэтай камісіі, такім, як Віталь Скалабан, Мая Яніцкая, Надзея Высоцкая і іншыя, удалося выявіць многія адсутныя звёны ў лёсе нашай гісторыка-культурнай спадчыны, адшукаць, апісаць і вывучыць шматлікія музейныя, бібліятэчныя і архіўныя

каштоўнасці. Вынікам гэтай шматграннай, карпатлівай работы сталі восем выпускаў зборніка «Вяртанне», у якіх падрабязна апісана, што намі страчана, што вернута, а што яшчэ чакае свайго вяртання. На падставе сабраных матэрыялаў цяпер ужо можна прыступаць да састаўлення каталогаў страчанай спадчыны.

Мяне асабліва радуе тое, што да гэтай высакароднай і надзвычай важнай справы акрамя грамадскасці ўсё больш актыўна падключаюцца дзяржаўныя органы. Так, напрыклад, Міністэрствам замежных спраў рэспублікі складзены спецыяльны план па вяртанні на радзіму гістарычнай і культурнай спадчыны, якая апынулася ў сілу розных акалічнасцей за межамі Беларусі. Гэта дастаткова аб'ёмны, добра прадуманы дакумент, у якім прадугледжаны канкрэтныя і, на мой погляд, цалкам рэальныя меры, такія, скажам, як састаўленне рэестра каштоўнасцей, праграма работы экспертаў у архівах і сховішчах замежных краін, арганізацыя двухбаковых камісій па сумесным выкарыстанні выяўленых каштоўнасцей і г. д. Паспяховаму вырашэнню гэтых задач, несумненна, садзейнічае і спецыяльная камісія, створаная пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

## Жыццё — каштоўнейшы дар

**— Адам Восіпавіч, раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе. Адкуль вы родам? Хто былі вашыя бацькі? Якім было вашае дзяцінства, школьныя гады?**

— Нарадзіўся я на Астравеччыне, у вёсцы Расолы. Бацькі мае — звычайныя сяляне. Праўда, можа крыху і не зусім звычайныя, бо бацькавы продкі былі літоўцы. А маці — з суседняй вёскі Задворнікі, з крыху багацейшай сям'і, з беларусаў. Акрамя беларускай мовы іншай і не ведала. Цікава, што бацькі маіх бацькоў згоды на іх шлюб не далі, і таму маладыя закаханыя ўцяклі ў Пецярбург і там пабраліся.

Падчас Першай сусветнай вайны бацька, будучы салдатам царскай арміі, трапіў у нямецкі палон. Апынуўся ажно ў Баварыі, працаваў чорнарабочым у каталіцкім кляштары. З палону ўцёк, дадому вяртаўся пехатой — ноччу ішоў, а днём хаваўся. Пабачыўшы свету, спазнаўшы нямецкі парадак, ён пасля вяртання ўжо крыху інакш глядзеў на гаспадарку — больш рацыяналістычна, любіў дысцыпліну, культуру. За што ледзь не паплаціўся. Каб выканаць супрацьпажарныя патрабаванні брата-суседа, мусіў накрыць сваю хату бляхаю. А потым яго за гэта хацелі раскулачыць. Уратавала тое, што бацька ледзь не першым уступіў у калгас.

Сям'я наша была невялікая. Дзяцей нараджалася многа, але яны адно за адным паміралі. Засталіся толькі мая старэйшая сястра і я.

**— А што вызначыла ваш выбар прафесіі? Напэўна ж, бацькі хацелі, каб вы засталіся пры іх, узялі гаспадарку ў свае рукі?**

— Можа і хацелі, але мне пра гэта ніколі прама не гаварылі. А свой выбар я зрабіў сам. У школе я шмат пісаў, друкаваўся ў розных газетах. Найчасцей у «Піянер Беларусі». Першы вершык апублікаваў у раённай газеце яшчэ ў сёмым класе. Актыўна ўдзельнічаў у рабоце маладзечанскага, «ермаловічаўскага» літаб'яднання. Але, як бачыце, паэтам не стаў. А вось журналістыка мне падабалася. Таму і паступіў на аддзяленне журналістыкі БДУ. Аднак журналістам я таксама не стаў. Адпрацаваўшы тры гады ў раёнцы, паступіў у аспірантуру і сур'ёзна заняўся кандыдацкай дысертацыяй. Смак да даследчыцкай работы я адчуў яшчэ студэнтам. А крыху пазней канчаткова пера-

канаўся, што маё сапраўднае прызванне — навука. Чым і займаюся апошнія пяцьдзясят гадоў.

**— Ведаю, што вы амаль тры дзесяцігоддзі працавалі ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. А пасля — нечакана для многіх — сышлі з інстытута і ўзначалілі Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны. Як і чаму гэта адбылося?**

— Цэнтр быў створаны па рашэнні ЦК КПБ у рамках мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею нашага слыннага першадрукара. Спачатку цэнтр існаваў пры Інстытуце літаратуры, а пасля прыйшлі да высновы, што гэта павінна быць установа самастойная. З функцыямі колішняга Інбелкульта.

Узначаліць Скарынаўскі цэнтр даручылі мне. Напэўна таму, што я, па-першае, у нейкай меры займаўся даследаваннем аналагічнай праблематыкі і, па-другое, быў прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, якая мела сваіх людзей, добраахвотных нашых прапагандыстаў у 23 замежных краінах.

Пасля таго, як усе арганізацыйныя праблемы былі вырашаны, паўстала пытанне: а хто нас будзе фінансаваць? Я даводзіў, што навукова-асветніцкі цэнтр, галоўнай задачай якога з'яўляецца прапаганда беларускай культуры за мяжой, павінен быць пры ўрадзе рэспублікі, як гэта зроблена ў іншых краінах. Гэта надасць установе вагу, саліднасць, пашырыць яе магчымасці. Аднак у Савеце Міністраў не пагадзіліся і далучылі нас да Міністэрства адукацыі. Хаця мы былі там не зусім дарэчы. Больш лагічна было б прыпісаць нас да Міністэрства культуры альбо Міністэрства замежных спраў.

**— Тым не менш на працягу амаль дзесяці гадоў вы праводзілі актыўную і плённую работу з беларускімі дыяспарамі замежжа, дзейсна, мэтанакіравана заняліся пытаннямі рэстытуцыі нацыянальнай спадчыны, якая апынулася за межамі Беларусі. І раптам новая нечаканасць — ваш сыход з пасады дырэктара і ўвогуле закрыццё цэнтра. Што здарылася?**

— Прычынай сталася наша традыцыйная бяда: абражанае чыноўніцкае самалюбства. Калі верх бяруць не дзяржаўныя, а вузка асабістыя, карыслівыя інтарэсы. Здавалася б, дробязь. Мяне запрасілі ў Варшаву на мерапрыемствы, прысвечаныя юбілею Адама Міцкевіча. А туды раптам замест мяне захацеў паехаць высокі начальнік з металам у голасе, але недасведчаны ў літаратуры. Я дастаткова карэктна растлумачыў, што можа адбыцца канфуз, таму што там давядзецца працаваць як навукоўцу, але мяне ўсё роўна не зразумелі. Калі я вярнуўся з Варшавы, мне па сакрэце паведамілі: нада мною згушчаюцца хмары. Пачаліся цяжкасці з фінансаваннем, з вырашэннем іншых праблем. Скончылася тым, што калі я аднойчы вярнуўся з чарговай замежнай паездкі, аказалася, што я ўжо не дырэктар цэнтра. На жаль, справы ў маёй пераемніцы не пайшлі, і неўзабаве ўстанова, якая столькі рабіла неабходнага, важнага, карыснага, спыніла сваю дзейнасць.

**— Але, на шчасце, вы і на новых сваіх пасадах не пакінулі займацца пытаннямі дыяспар і рэстытуцыі.**

— Займацца то я займаюся, але далёка не ў той меры, у якой хацелася б. З-за фінансавых цяжкасцей спынілася выданне штомесячнага бюлетэня «Кантакты і дыялогі». Вялікі перапынак зроблены ў выпуску серыйнага зборніка «Вяртанне». Фактычна спыніў сваё існаванне тэматычны зборнік «Беларусіка-Albaruthenica». А тое, што робіцца, робіцца на грамадскіх пачатках, на голым энтузіязме былых супрацоўнікаў цэнтра.

**— Пэўны час таму ішла размова аб перавыданні энцыклапедыі знакамітых беларусаў, якія воляю лёсу апынуліся за мяжою. У якім стане гэтая праца?**

— Вы маеце на ўвазе энцыклапедычны даведнік «Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах»? Дык гэта будзе не перавыданне, а фактычна новае выданне. Дабаўляецца яшчэ амаль тысяча персаналіяў. Матэрыялы сабраны. Рэдагую іх вечарамі, а то і начамі. А паралельна збіраюцца матэрыялы пра беларусаў ва ўсім свеце. Гэта надзвычай аб'ёмная і складаная праца, якая, безумоўна, зойме не адзін год.

**— У вашай біяграфіі ёсць адзін важны факт: вы сустракаліся з Папам Рымскім. Калі і з якой нагоды гэта было?**

— Было гэта, дай бог памяць, у 1990 годзе, падчас міжнароднай канферэнцыі «Рым-1». Яна прысвячалася культурнай спадчыне краін, якія ўтварыліся на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, — Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Ад кожнай з іх у Рым было запрошана па шэсць чалавек. Перад намі стаяла задача: шукаць гістарычныя кампрамісы, якія дапамагалі б народам гэтых краін пераадольваць супярэчнасці і жыць у міры і згодзе. Вядомы польскі гісторык Ежы Клачоўскі прапанаваў напісаць чатыры нацыянальныя гісторыі і перакласці іх на тры астатнія мовы. Ніхто нікога ні ў чым не абмяжоўваў. Было толькі два патрабаванні: каб у тэкстах не было нічога абразлівага ў адрас суседзяў і каб не было ўзаемавыключных палажэнняў.

Гэту ідэю адобрыў Папа Ян Павел II — канферэнцыю ж праводзіў Папскі інстытут у Ватыкане. Пантыфік не толькі адобрыў, але і выслухаў па аднаму чалавеку ад кожнай дэлегацыі. Ад беларусаў выступіць гонар выпаў мне. Я падараваў пантыфіку энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына» і вельмі коратка (кожнаму адводзілася 3-4 хвіліны) сказаў пра тое, што нам перашкаджае ў духоўным развіцці. Адна з праблем — у нас мала сваіх нацыянальных каталіцкіх святароў, а прыезджыя не ведаюць беларускай мовы. Амаль няма кананізаваных святых.

«А каго тут можна мець на ўвазе?» — асцярожна запытаўся Папа.

Я на хаду пачаў успамінаць. Назваў Абрантовіча, прэлата, які ўзначальваў семінарыю ў Мінску, свае філасофска-духоўныя кніжкі пісаў на беларускай мове. Быў духоўнікам Янкі Купалы. А потым яго жыццё абарвалася на Лубян-



*З японскімі беларусістамі ў Такійскім універсітэце. 2001г.*

цы ў 1940 годзе. Дый святар і паэт Казімір Сваяк, сказаў я, уяўляецца дастойным кананізацыі, бо не шкадуючы жыцця змагаўся за веру, за мову.

І калі сёння чую, як годна ў каталіцкіх храмах святары вядуць службы на беларускай мове, я згадваю і тую незабыўную сустрэчу з пантыфікам.

**— Адам Восіпавіч, вы закранулі тэму кампрамісаў. Як вы наогул адносіцеся да такіх, груба кажучы, здзелак? Ці можна без іх абысціся? Нарэшце, кампраміс і беспрынцыпнасць — гэта розныя паняцці?**

— Розныя. Беспрынцыпнасць — гэта нежаданне адстойваць свой пункт гледжання. А кампраміс? Ён дыктуецца рэальным жыццём. Ёсць вельмі добрая французская прымаўка: усе спрэчкі канчаліся б вельмі хутка, калі б памыляўся толькі адзін бок.

Без кампрамісаў абысціся немагчыма. Возьмем, напрыклад, кнігу «Нашаму добрасуседству — тысяча гадоў», якую мы рыхтавалі разам з літоўскімі калегамі. Калі б мы не паразумеліся, не пайшлі адно аднаму насустрач, то кніга магла б і не выйсці. Таму заўсёды трэба шукаць разумнае, узаемапрымальнае рашэнне.

**— Які перыяд у сваім жыцці вы лічыце самым шчаслівым?**

— Мусіць, студэнцтва. Гэта найбольш светлы, бесклапотны перыяд. Вучоба мне давалася лёгка. Заставаўся яшчэ час на навуковую работу, якой я займаўся ахвотна, з вялікай прыемнасцю.

**— Ці можаце вы сфармуляваць, што такое шчасце?**

— Шчасце… Гэта, відаць, задавальненне ад таго, што робіш. Хаця, вядома, поўнага шчасця не бывае. Гэта — працэс. Але адчуваць, што ты да гэтага стану ўсё бліжэй і бліжэй — гэта вельмі добра.

**— Як вы думаеце, імкненне да славы, славалюбства памагае творчасці ці перашкаджае?**

— Умеранае імкненне памагае. А вось што перашкаджае ў рабоце — дык гэта комплекс непаўнацэннасці. Як і залішняя самаўпэўненасць — таксама.

**— Апошнім часам шмат спрэчак вядзецца наконт таго, ці можна ставіць знак роўнасці паміж інтэлігентам і інтэлектуалам. На Захадзе, як вы ведаеце, наогул не існуе паняцця інтэлігент. А ў нашым грамадстве, на ваш погляд, ёсць інтэлігентнасць і калі ёсць, то што гэта такое?**

— Ну, мусіць, перш за ўсё разуменне, што ты на гэтым свеце не адзін, што акрамя цябе ёсць яшчэ іншыя людзі. Інтэлігент і інтэлектуал — паняцці ўсё ж розныя. І яны не абавязкова павінны супадаць. Мой цесць, селянін, а потым калгаснік Кароль Вішнеўскі быў са шляхты. І паводзіў сябе як сапраўдны інтэлігент, хаця быў амаль непісьменны, умеў толькі распісацца. Дык вось інтэлігентнасць — гэта пастаяннае адчуванне, што побач з табою такія ж, як ты, і ты павінен адносіцца да іх гэтак жа, як бы ты хацеў, каб яны адносіліся да цябе. А гэта, паверце, вельмі няпроста.

**— Якой галоўнай якасцю павінен валодаць мужчына?**

— Ну, мусіць, зноў-такі не лічыць, што мужчына — вышэйшая асоба. Адчуванне роўнасці — найлепшая якасць. І не толькі для мужчыны. Бо дрэнна, калі і жанчына імкнецца ўзяць верх. Добра, калі абодва не бяруцца за чубы. А яшчэ для мужчыны важныя такія якасці, як настойлівасць, прынцыповасць.

**— А што жанчыне надае жаноцкасць?**

— У маім уяўленні гэта — пяшчотнасць.

**— Як вы адносіцеся да чалавечых слабасцей?**

— З разуменнем. Таму што калі ёсць іншыя людзі, то чаму ўсе павінны быць такімі, як я? Тым больш, што і ў мяне ёсць свае слабасці.

**— Ці сутыкаліся вы ў сваім жыцці з фактамі ліслівасці, няшчырай пахвалы? Як вы да гэтага ставіцеся?**

— З гумарам. Аднойчы нейкая жанчына, з Гомеля здаецца, якую я ледзьве ведаю, звоніць мне і пачынае рассыпацца ў кампліментах. Я далікатна спыняю яе і кажу: «Давайце пераходзіць да справы. Што ад мяне патрабуецца?» — «Каб выступілі апанентам на абароне маёй дысертацыі». — «Вось з гэтага і трэба было пачынаць».

**— А вы па натуры хто — песіміст ці аптыміст, вясёлы ці хмуры, добры ці жорсткі?**

— Гэта залежыць ад абставін. Жыццё ідзе, як гаварыў калісьці Караткевіч, палосамі. Выпадае то чорная паласа — і тады ўсё здаецца кепскім, нямілым, то светлая — і тады навакольны свет успрымаецца таксама светла, радасна. Пры ўсім пры тым, я усё-такі больш аптыміст, чым песіміст, і хутчэй за ўсё вясёлы, чым хмуры. А калі часам бываю змрочны, то гэта рэакцыя на хамства. Я арганічна, як і калісьці мой бацька, не пераношу мат. Ну і ліслівасць таксама.

**— Вы верыце ў каханне з першага погляду?**

— Веру.

**— А ў вечнае каханне?**

— Вечнае каханне… Калі гэта разумець як блізкасць, то яно вечным не можа быць. Калі маецца на ўвазе пачуццё, то каханне павінна перарасці ва ўзаемную павагу, глыбокае ўзаемаразуменне.

У нас з Марыяй таксама не ўсё адразу гладка складвалася. Былі псіхалагічныя перашкоды. І нават сацыяльныя. Марыіны бацькі разважалі: ён жа — студэнт, у яго ў Мінску поўна сябровак… А мае баяліся, каб я не прывёз з горада якую-небудзь фіфу. Марыя ж ім падабалася, як і мне, яны добра, амаль па-суседску, ведалі і яе, і яе бацькоў. Таму і благаславілі нас з лёгкай душой.

**— Вашы любімыя кнігі?**

— Цяжка вызначыць нешта адно. Бо прыярытэты пастаянна мяняюцца. З рускай класікі на першае месца выходзіць то Леў Талстой, то Чэхаў, то Дастаеўскі. А вось у беларускай літаратуры маёй нязменнай любоўю застаецца Караткевіч. Ды хіба яшчэ Чорны.

**— Як вы ставіцеся да сучаснага тэлебачання — гэта дабро ці зло ў нашым жыцці?**

— Гэта пераважна злодзей твайго часу. Асабліва некаторыя расійскія тэлеканалы, асабліва ТНТ, дзе з ранку да вечара частуюць гледача дэбільным гумарам. Каб не марнаваць каштоўны час, стараюся глядзець толькі навіны.

**— Вашы адносіны да музыкі — мінулай, сучаснай?**

— Да класічнай — захопленыя. У свой час я браў абанементы на канцэрты ў філармоніі. Цяпер, сорамна прызнацца, рэдка там бываю. Тое ж самае з кіно, тэатрам. Няма часу. У пастаянным цэйтноце.

**— Ці любіце вы песні? Самі спяваеце?**

— Не, сам не спяваю. Хаця быў у маім жыцці адзін кур'ёзны выпадак. Калі я вучыўся ў школе, у суседнім калгасе імя Сталіна стварылі хор. І вось для масавасці туды ўключылі і мяне. Пасля кіраваць хорам прыслалі са Смаргоні прафесіянала, заслужанага дзеяча культуры Аляксандра Дзяругу. Ён стаў правяраць, хто на што здатны. Паслухаўшы мяне, ён дужа здзівіўся: «Хто вас, мой даражэнькі, уключыў?»

З таго часу я больш не рызыкую спяваць. Але дужа люблю слухаць, як спяваюць іншыя. Асабліва, калі спяваюць народныя песні. Як жа хораша ўмеў іх выконваць Валодзя Караткевіч! І голас у яго быў прыгожы.

**— Ваш любімы занятак акрамя літаратуры?**

— Калісьці я калекцыяніраваў паштоўкі, маркі, звязаныя з літаратурай. Працягваю рабіць гэта трохі і цяпер, але ўжо без асаблівага імпэту і сістэмы.

Маркі давялося прадаць — адзін час востра патрэбны былі грошы на лячэнне жонкі. А паштоўкі перадаў вядомаму калекцыянеру Ліхадзедаву — там яны не прападуць. Калісьці захапляўся фатаграфіяй. Любіў вудзіць рыбу, лавіў стронгу ў нашай Лошы. Люблю збіраць грыбы.

**— Як вы адзначаеце свой дзень нараджэння.**

— Неахвотна адзначаю. Часцей за ўсё гэта адбываецца неяк стыхійна, сумбурна. Раней, калі была гаспадыня, рабілася ўсё больш арганізавана, святочна.

**— У вас многа сяброў?**

— На жаль, кола сяброў звужаецца. Сяброўства — штука няпростая. Яно, хутчэй, бывае сярод роўных, аднадумцаў. Але гэта не значыць, што мой сябра павінен думаць гэтак, як я. Важна, каб ён разумеў, пра што я гавару, а я разумеў, пра што гаворыць ён.

**— І на заканчэнне — вечнае, біблейскае пытанне: у чым, на вашу думку, сэнс жыцця?**

— Сэнс у тым, каб пражыць яго годна, у адпаведнасці з народнай, хрысціянскай мараллю. Разам з тым чалавеку трэба даваць права і на памылку. Чаму? Таму што ўсяго прадбачыць немагчыма. Хаця, калі б у мяне цяпер запыталіся, ці выбраў бы я нейкі іншы жыццёвы шлях, то я адказаў бы: увогуле пайшоў бы тым жа шляхам. Толькі ўжо больш, чым у маладосці, цаніў бы час. Бо жыццё — каштоўнейшы Боскі дар, і марнаваць яго на пустое — недаравальная, злачынная раскоша.

***Гутарку вёў Зіновій Прыгодзіч.***

**Серафім АНДРАЮК**

# СЛОВА ШЧЫРАЕ, ПАЛКАЕ

У гісторыі беларускай літаратуры даволі выразна праглядваецца заканамернасць: чым больш агульназначныя падзеі адбываюцца ў жыцці, уплываюць на яго (найперш, відаць, духоўна), на народ, грамадства, тым больш адчувальна, шырока яны ўздзейнічаюць на літаратуру, вызначаюць яе змест, характар. Але не непасрэдна, а праз жыццёвы лёс яе творцаў. У такім разе, можна ўжо гаварыць пра фарміраванне, вызначэнне лёсу не аднаго чалавека, а цэлага пакалення. Вялікія падзеі, пераломныя ў гісторыі народа, вялікія ўзрушэнні нараджаюць і фарміруюць пакаленні людзей, паяднаных агульнасцю перажытага, агульнасцю лёсу, агульнасцю светаўспрымання і светаадчування. Так, напэўна, можна сцвярджаць, што «філалагічнае пакаленне» выйшла духоўна з Вялікай Айчыннай вайны і хрушчоўскай адлігі. Бо ўвогуле ў станаўленні творчай асобы можна вылучыць як бы два перыяды: яе духоўна-эмацыянальнае выспяванне і яе выяўленне, самасцвярджэнне ў жыцці, найперш творчае.

Вайна не толькі засталася ў памяці жыццёвымі фактамі і падзеямі, умовамі штодзённага бытавання; яна робіць зрух у самім разуменні свету. Тыя, хто перажыў ваеннае ўзрушэнне, асабліва ў дзіцячым узросце, па-свойму пачынаюць бачыць свет, чалавека, грамадства, у іх выспявае свая шкала маральных каштоўнасцей, свая праграма псіхалагічных рэакцый, свой фундамент памяці.

Што гэта так, можна пераканацца, чытаючы і супастаўляючы аўтабіяграфічныя матэрыялы і мастацкія творы пра вайну, напрыклад, Р. Барадуліна і Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага і Н. Гілевіча, В. Зуёнка і У. Дамашэвіча, В. Адамчыка і А. Кудраўца, І. Пташнікава і І. Чыгрынава, Я. Сіпакова і Б. Сачанкі…

Вось дакладнае тлумачэнне на гэты конт В. Зуёнка: «Нават у самых сучаснагучных матывах чуваць, калі ўслухацца, рэха тых дзён, дзён пакутнага дзяцінства. Тымі днямі — як і ў франтавікоў — у дзяцей вайны многае вымяраецца, калі не ўсё: і маральна, і творча». Падобнае сведчанне У. Дамашэвіча: «…Вайна пакінула ў маёй памяці, у маім сэрцы, у маёй свядомасці і нават у псіхіцы след, які не сатрэцца датуль, пакуль я жывы».

Жахлівыя гады фашысцкай акупацыі, гнятлівыя гады сталіншчыны; духоўнае жыццё было даведзена да самага нізкага ўзроўню. Іншым тагачасным гаспадарам яно было непатрэбна. У 2-й палове 50-х гадоў дзякуючы палітычнай адлізе стварылася ў грамадстве больш-менш спрыяльная духоўная атмасфера. Пачалося пэўнае грамадскае ажыўленне. Каб выжыць, каб жыць, арганізм народны трэба было напоўніць светлай жыццетворнай духоўнай энергіяй. Прага духоўнасці вызначала стан грамадства. У найбольшай ступені гэта адчулі, усвядомілі і выявілі ў жыцці і творчасці, побач з удзельнікамі вайны, дзеці вайны. Іх потым назвалі «філалагічным пакаленнем». Менавіта ў філалогіі і праз філалогію чэрпалі яны духоўную энергію. Філалогія (кніга, літаратура) была для іх той запаветнай краінай, куды яны імкнуліся ўцячы ад непрымальнай рэальнасці, дзе яны маглі пазбыцца цяжару ваенных гадоў. Можна толькі здзіўляцца, колькі з дзяцей вайны прыйшло тады ў літаратуру. Былі ж гэта пераважна студэнты-філолагі.

Па сутнасці, кожны пісьменнік гэтага пакалення прыходзіў у літаратуру, несучы ў сабе вялікі груз рэальных падзей, падзей драматычнага, а то і тра-

гічнага зместу, вялікі цяжар асабіста перажытага. Каб адчуць сябе больш свабодна ў свеце, духоўна наталіцца і ўзбагаціцца, цяжар перажытага трэба было зняць з душы, хоць троху вызваліць памяць ад пякучых успамінаў. Трэба было пра гэта сказаць, сказаць так, каб адчулі і зразумелі іншыя. Сказаць проста, праўдзіва, шчыра.

Зразумела, цяжар перажытага — гэта найперш цяжар жахлівых успамінаў пра вайну, якія ніяк не пакідалі чалавечую памяць. І памяць народную. Гэта не выпадкова. У літаратуры такая з'ява выяўляецца па-свойму. У пераломныя гады тут (у развіцці літаратуры) заўсёды відаць моцная залежнасць творчай асобы ад агульнага літаратурнага працэсу. У творчасці пісьменніка, нават самага арыгінальнага, адчуваецца, з аднаго боку, выразная прысутнасць «агульных законаў» (на ўзроўні ўзаемадзеяння з рэчаіснасцю) усёй літаратуры, з другога — адкрытасць, шчырасць, нават абвостранасць самавыяўлення. Аснова гэтага — спалучэнне асабістага трагічнага жыццёвага вопыту з вопытам народным, усведамленне, адчуванне асабіста перажытага як часцінкі, кроплі жыцця народнага, у творах — увасабленне ў індывідуальна адметнай жыццёвай гісторыі народнага лёсу. Як здзяйсненне, гэта значыць, мастацкае спасціжэнне нядаўняй вайны як вайны агульнай, народнай, аказалася рэальным у такой ступені, у якой асабісты досвед творцы, яго асабістая памяць былі «аплоднены» досведам і памяццю народнай. Народную памяць нясуць і творы дакументальныя, і творы мастацкія. І чым больш твор таленавіты, чым больш праўдзівы і шчыры, тым глыбейшыя пласты памяці народнай ён увасабляе. Першаступеннае значэнне тут мае асабістая «ваенная» памяць пісьменніка. За гады яна ўвабрала ў сябе памяць іншых, памяць многіх, кандэнсуючы яе, робячы сваёю, надаючы ёй жыццёвую непасрэднасць, эмацыянальную пранізлівасць, этычную пэўнасць. Тут матыў асабістага перажывання грунтуецца на эмацыянальным адчуванні ўсёй вайны і веданні народнай трагедыі.

Творчасць тых, чыё дзяцінства абпалена вайною, іх жыццёвы лёс сведчаць недвухсэнсоўна, што вайна ў жыцці і творчасці пісьменніка — гэта назаўсёды. Што вайна для пісьменніка і ў пісьменніка — гэта не проста жыццёвы матэрыял, успамін, ураджанне. Вайна вызначыла характар, сутнасць разумення жыцця і чалавека, іх трагічную філасофію. Вайна, «у якой у найбольшай ступені дзейнічаюць і рацыянальныя, і фатальныя сілы» (М. Бярдзяеў) і якая найперш дзейнічае на чалавека, асабліва ўплывае на свет эмоцый, свет падсвядомасці. А гэта — свет пераважна жанчын і дзяцей. У гэтым свеце падзеі вайны, асобныя яе карціны, сітуацыі, эпізоды адбіваюцца назаўсёды ў сваёй вобразна-эмацыянальнай выразнасці, у сваім першапачатковым пякуча-трагічным змесце. Часта змест гэты вызначае ўвесь далейшы чалавечы лёс. І такая вайна, вайна ў яе знішчальна-разбуральнай сутнасці, у часы акупацыі беларускай вёскі адбывалася пастаянна, штодзённа. Людзі жылі ў вайне. Трагізм, бессэнсоўнасць, апакаліптычнасць яе ў найвышэйшай ступені ўспрынялі жанчыны і дзеці.

Прайшлі гады. Выраслі дзеці. Самі сталі бацькамі. Успомнілі ўсё тое, што перажылі самі, уявілі ўсё, што перажылі іхнія маці. Зжахнуліся. Тыя, хто пісаў, не маглі не расказаць пра гэта. Расказы гэтыя моцнага трагічнага гучання. Бо ўсё, пра што яны расказваюць, з жыцця іхніх маці, з жыцця асабістага, не проста пабачана ці пачута імі, усё гэта — іхняе. Іхні боль, іхняя горыч, іхняе неўразуменне.

Трагічнасць вайны для жанчын і дзяцей ва ўмовах акупацыі, партызанскай барацьбы — была гэта трагічнасць не так падзейная, учынкаў, як трагічнасць штодзённага шматгадовага стану чалавека — побытавага, маральнага, псіхічнага. Трагічнасць светаадчування становіцца як бы нормай штодзённага душэўнага і псіхічнага стану чалавека. Дзеці выраслі ў гэтай атмасферы, сфармаваліся ў ёй, увабралі ў сябе яе.

Характэрнае ў гэтых адносінах сведчанне В. Адамчыка, аднаго з самых яркіх прадстаўнікоў пісьменніцкага пакалення дзяцей вайны. Вось яго запісы ў апошнія гады жыцця ў дзённіках 1999 года:

Панядзелак, 30 жніўня.

«20.10. Залаціста-ружова-малінавы захад. Чамусьці ўваскрашае вайну, напаленае жалеза, растопленае шкло шыбаў, белыя печы на чорных папялішчах, недагарэлы, пачарнелы частакол плота…»

Нядзеля, 26 снежня.

«…Адгарнулася старонка з лічбаю 1943. У дзённіку Прышвіна. Якая яна неаднакава (я) для мяне і для таго ж Прышвіна. Мне дзесяць, Прышвіну — семдзесят. Над маёю галавою — вайна. У яго — падмаскоўнае глухое Усолле. Навіны па чутках, бо радыёпрыёмнікі адабраныя.

Перада мною кожны дзень смерць. Кожную ноч пажары, узрывы. У трупах — падлеткі, на тры-чатыры гады старэйшыя за мяне.

Для яго, як запісвае ў дзённіку, мысль сапраўдная прыходзіць у маўчанні і цішыні.

У Маскве з вышыні шостага паверха ён назірае, як каля комінаў маршыруюць коцікі.

Але добра, што ёсць прышвінскі дзённік, што вярнуў мне маю вайну».

Такіх запісаў-успамінаў шмат. Яны дазваляюць засведчыць, што такое вайна для аднаго з прадстаўнікоў пакалення дзяцей вайны, у якой ступені, нягледзячы на яе агульнанародны характар, вайна гэтая для кожнага свая ў фактах, канкрэтных прыкметах, колерах. Зноў жа ў памяці пакалення вайна захавалася не адзінкавымі прыкладамі і фактамі. Час у нечым змяняе цікавасць да асобных фактаў, падыход да іх, але не мяняе адчування і разумення вайны як трагедыі. Трагічнасць вайны, зло вайны, дэструктыўная сутнасць яе падзей адчуваецца, усведамляецца доўгі час, больш таго, усё гэта пашыраецца і паглыбляецца, пазбаўляецца аднабаковасці ацэнак і высноў.

Вось яшчэ адзін роздум, яшчэ адно сведчанне пісьменніка таго ж пакалення, сведчанне канца стагоддзя. У сваёй аўтабіяграфіі, названай «Першы ўспамін» Іван Чыгрынаў піша: «Чаму ж мы ўсё яшчэ пішам пра Вялікую Айчынную? Напэўна, таму, што мінулая вайна з яе жахамі і крыўёй — гэта такая з’ява, над якой сапраўды не ўладарыць час. Ну а для нас малалетніх, і таго больш — яна нас зрабіла не ў меру дарослымі, дазволіла зазірнуць за такую рысу, дзе пераблыталася рэальнае і тое, што цяжка ўявіць. Нават хто быў у той час свой, а хто — чужы, мы яшчэ доўга будзем разбірацца». Гэта — тое, што пісьменнік асабіста бачыў, уведаў, шмат у чым асэнсаваў. То момант аб’ектыўны. Але ён і сам асабіста перанёс, увабраў у сябе і ўсё жыццё нёс у сабе вайну. Добра пра гэта ў адным інтэрв’ю сказала Л. П. Чыгрынава, жонка пісьменніка: «Вайна прайшла праз усё жыццё Івана Чыгрынава. Вайна зрабіла яго пісьменнікам, яна ж яго і забіла».

Такі, па сутнасці, лёс і ўсяго пакалення дзяцей вайны. Вайна, акупацыя, гады пасляваеннай нястачы сталі для яго — падкрэслім гэта яшчэ раз — асабліва значнай тэмай творчасці, унутрана галоўнай. І справа тут не толькі ў шырыні і багацці, разнастайнасці і складанасці, сацыяльнай і чалавечай глыбіні аб’ектыўнага жыццёвага матэрыялу, яго творчай невычарпальнасці. Вайна стала ўнутраным духоўным і душэўным набыткам кожнага творцы гэтага пакалення, вызначыла сутнасць аўтаравай канцэпцыі свету і чалавека, змест эстэтычнай пазіцыі, угрунтавала трагічнае адчуванне свету і чалавека ў ім. Творчасць гэтага пакалення змагла ўбачыць і паказаць разбуральнасць, трагічнасць вайны ў дні мірным, у жыцці мірным, ужо далёкім ад тых дзён.

У 1917 годзе вядомы рускі філосаф М. Бярдзяеў у артыкуле «Сучасная вайна і нацыя» пісаў: «Сучасная еўрапейская вайна паказала, што войны таксама дэмакратызуюцца, становяцца грамадскімі і народнымі, як і ўсё жыццё». Пра тую ж вайну, па сутнасці, у той жа час у артыкуле «Наша літаратура і вайна» пісаў вялікі сербскі пісьменнік, пазней лаўрэат Нобелеўскай прэміі Іва Андрыч: «Вайна нават тым, хто раней не хацеў гэтага бачыць, паказала, як моцна звязаны мы са сваёй краінай, якая вялікая наша адказнасць і перад тымі, хто даўно памёр, і перад тымі, хто яшчэ не нарадзіўся. Вайна перасунула акцэнт з індыві-

дуальнага на агульнае. Чым больш аддавала барацьбе асоба, тым больш набывала грамадства». І ў адным, і ў другім выказванні важна падкрэсліць: «войны становяцца грамадскімі і народнымі, як і ўсё жыццё», войны перасоўваюць «акцэнт з індывідуальнага на агульнае». Гаворка ідзе пра Першую сусветную вайну, падкрэсліваецца яе змест грамадска-сацыяльны. Яшчэ ў большай ступені было гэта характэрна для Другой сусветнай вайны, для нашай краіны, нашага народа — Айчыннай. Гэтая вайна ў гісторыі нашай, у жыцці некалькіх пакаленняў стала своеасаблівай усеабдымнай аб'ектыўнай рэальнасцю. Са сваімі ўнутранымі законамі, са сваёй логікай (з пазіцый жыцця мірнага зусім алагічнай), са сваімі крытэрыямі добрага і дрэннага, праўдзівага і няпраўдзівага, справядлівага і несправядлівага, урэшце, прыгожага і непрыгожага. Хаця апошнія катэгорыі дзесьці ў рэальнасці вайны нібы знікаюць. Свет вайны падпарадкоўвае і ўцягвае ў сваё поле дзеяння ўсё і ўся. Маючы ў сваёй аснове змест грамадска-палітычны і сацыяльна-гістарычны, свет вайны ўбірае ў сябе побыт ва ўсіх яго праявах, працу мірную, асабістыя ўзаемаадносіны, прыроду. Такім гэты свет застаўся ў памяці, свядомасці жывых тагачасных пакаленняў, асабліва дзяцей, на доўгія пасляваенныя гады.

Асобны чалавек у гэтым свеце адчуваў сябе далучаным да вёскі, да грамады, урэшце, да народа, усведамляў сябе адказным за іх. Разам з тым дзесьці падсвядома, а то і ўсвядомлена прадстаўляў сябе іх часцінкай, адчуваў іх моц і сілу. Асобны чалавек як бы падмацоўваўся духоўнай энергіяй грамады, народа. Адкрыта, смела, публічна выяўляў сябе. Адбілася гэта па-свойму і ў літаратуры, асабліва ярка ў творчасці тых, чыё дзяцінства было абпалена полымем прайшоўшай вайны. І зноў жа ў літаратуры не само па сабе — як з'ява чыста мастацкая, эстэтычная. Зусім не. У гэтым выпадку, у мастацкай творчасці, у літаратуры, выяўлялася асоба творцы, яго грамадзянская пазіцыя. Прачытаўшы біяграфіі пісьменнікаў гэтага пакалення, адразу заўважаеш, што практычна ўсе яны актыўна праявілі сябе ў грамадскім жыцці. Адамчык і Барадулін, Бураўкін і Гілевіч, Вярцінскі і Дамашэвіч, Кудравец і Сіпакоў, Чыгрынаў і Сачанка… Кожны з іх вядомы ў літаратурных колах (і не толькі) не толькі сваімі літаратурнымі творамі, але і сваім актыўным удзелам, цвёрдай пазіцыяй у грамадскіх акцыях. У самой жа літаратуры іх грамадзянская пазіцыя, іх своеасаблівы статус у тагачасным жыцці быў пазначаны ўзмацненнем лірычнай і публіцыстычнай плыні. Накоплены багаты вопыт грамадскага жыцця, духоўны набытак, эмацыянальна абвостраныя адносіны да ўсяго навакольнага штурхалі да роздуму, патрабавалі асэнсавання, правакавалі на непасрэднае выказванне, на хуткую рэакцыю. Усё гэта па-свойму ўвасаблялася ў творчасці — нарысах, эсэ, артыкулах, нататках, інтэрв'ю, запісках, дзённіках. Многае надрукавана ў кнігах, яшчэ больш у перыядычных выданнях, шмат што і па сённяшні дзень застаецца ў асабістых архівах.

Вось гэтая суб'ектыўная, публіцыстычна-лірычная плынь займае асаблівае месца ў творчасці Барыса Сачанкі. Тут адбылося арганічнае паяднанне творчай натуры і часу. Прага жыцця, святла, свабоды, ведаў, накопленыя ў часы акупацыі і выгнання ў Нямеччыну (аж на два гады), выспеленая ў атмасферы пастаяннага ўціску, захаваецца ў пісьменніка на ўсё жыццё, вызначыць сутнасць творчасці, урэшце, змест усяго яго жыцця. Спачатку адбывалася гэта як натуральны жыццёвы працэс. Працэс сталення, росту. Дакладна скажа пра гэта Сачанка ў «Аўтабіяграфічнай нататцы».

Адчуванні на роднай зямлі пасля вяртання з Нямеччыны:

«Хадзіць па сваёй роднай зямлі, чуць дома, на вуліцы і ў школе сваё роднае слова і разам з тым адчуваць, што ты такі ж, як і ўсе, роўны між роўных, а не нейкі там чужак, «вайс русішэ»… Для таго, хто жыў далёка ад дому, без волі і хлеба, без мовы і сваіх людзей, хіба ж можа быць большая радасць? Поле, лес, луг — усё тваё, роднае, бо яно належала дзядам тваім і прадзедам, а цяпер вось належыць табе, тваім бацькам. Куды хочаш, туды ідзі, і ніхто цябе не спыніць, не скажа, што сюды, такім, як ты, нельга ісці…»

Адчуванне свабоды, радасці вольнага жыцця як бы раскрывала душу для ўспрыняцця навакольнага свету, хацелася ведаць як мага больш. Вучэнне было радасцю і ў школе, і ва ўніверсітэце. На гэтай хвалі адчування волі Сачанка ўшчыльную сутыкаецца з кнігай. Яна яго захоплівае, палоніць на ўсё жыццё. Яна заўсёды і паўсюль была нязменным і верным спадарожнікам. Яна была для яго абразом. На кнігу маліўся. Кнізе служыў беззапаветна — пісаў, ствараў яе, выдаваў, прапагандаваў. А да гэтага — набываў і чытаў, чытаў… Набываў у тыя часы і ў тых умовах (умовах кніжнага голаду) практычна ўсё, што яго цікавіла, праяўляючы ў гэтай справе выключную вынаходлівасць і настойлівасць. Гэта не было самамэтай. Практычна ўсё, што набываў, ён чытаў, перачытваў. Спачатку былі бібліятэкі. Школьная, потым універсітэцкая, «Ленінка». Пазней прызнаецца: «Цэлымі днямі я не выходзіў з бібліятэкі… Чытаў. Кожны дзень я адкрываў для сябе ўсё новых і новых аўтараў. Сярод іх асабліва многа было беларускіх, пра якіх я чуў краем вуха яшчэ ў школе ад настаўнікаў, — Дубоўка і Хадыка, Скрыган і Зарэцкі, Галавач і Гартны, Чарот і Гарэцкі, Александровіч і Пушча, Дудар і Баранавых, Каваль і Астапенка…»

Асабліва актыўнае далучэнне пакалення дзяцей вайны, як і ўсяго народа да духоўных крыніц адбывалася ў атмасферы той нядоўгатэрміновай адлігі, якая наступіла ў краіне ў 2-й палове 50-х гадоў — пасля XX з'езда Камуністычнай партыі і выкрыцця культу асобы Сталіна. Душа народа, душа моладзі ўнутрана была гатовая прымаць духоўную энергію свету, гісторыі. Прымаць свабодна, незапраграмавана. Праўда, перыяд гэты адкрытасці свету і гісторыі быў непрацяглы, але чалавек змог адчуць радасць свабоды, радасць свабоднага духоўнага наталення, пазнання свету і гісторыі. Крыніцы духоўнага наталення і ўзбагачэння сталі больш адкрытыя, больш багатыя і разнастайныя. Узятае, засвоенае асабіста як бы чужое (народаў іншых і народа свайго) апладняла асабістае — багатае, жывое, балючае, уводзіла яго ў нацыянальную гісторыю, падключала да з'яў і падзей агульназначнага зместу і сэнсу.

І што істотна ў гэтай сувязі падкрэсліць: па сутнасці ўсе гэтыя працэсы інтэнсіўнага, шматстайнага духоўнага ўзбагачэння чалавека і народа на тым этапе іх развіцця, на той стадыі іх унутранага абнаўлення ішлі праз кнігу і дзякуючы кнізе. У гэтыя гады пачалі выдавацца творы рэпрэсіраваных аўтараў, сталі даступныя для чытача найвыдатнейшыя набыткі сусветнай літаратурнай класікі, пры настойлівым жаданні можна было пазнаёміцца і з класікай мадэрнізму, і з найноўшымі пошукамі замежных майстроў слова. Увогуле пакаленне, якое ў тыя гады пачынала свой літаратурны шлях, вызнавала культ кнігі, мастацкай кнігі. Выдатнай асабістай бібліятэкай твораў мастацкай літаратуры можа і сёння пахваліцца не адзін з тых, хто адносіцца да філалагічнага пакалення.

І яшчэ варта зазначыць: адносіны да кнігі не былі стыхійнымі, выпадковымі. Прысутнічаў моцны момант прадуманасці, мэтанакіраванасці. Яшчэ ў 1962 годзе, гэта, па сутнасці, на пачатку творчага шляху, у адказе на пытанні анкеты газеты «Чырвоная змена» Барыс Сачанка пісаў: «Лічу, чытаць творы найвялікшых філосафаў свету і творы класікаў гэтак жа неабходна пісьменніку, як і вывучэнне жыцця, бо перш чым глядзець на тое, што робіцца навокал цябе, трэба ўзабрацца на нейкую вышыню, адкуль было б усё добра відаць…» Ён выдатна ведаў беларускую літаратуру, тагачасную савецкую, сусветную. Намнога глыбей, больш шырока, чым гэта давалася ва ўніверсітэцкіх курсах адпаведных літаратур. Мог расказаць пра той ці іншы твор, таго ці іншага пісьменніка — іх мастацкую адметнасць, месца ў нацыянальнай літаратуры, суаднесці з пэўнымі тэндэнцыямі і плынямі сусветнай літаратуры, выказаць свае асабістыя пісьменніцкія адносіны. Знаёмячыся з гэтым агромністым літаратурным, культуралагічна-гістарычным, філасофскім матэрыялам, у чымсьці творча яго засвойваючы, Сачанка ўсё ж пазбягае яго ўплыву, не паддаецца яго эмацыянальнай і інтэлектуальнай уладзе. Мусіць, гэта таму, па-першае, што «кніжны матэрыял» быў агромністы і надзвычай разнастайны, таму на творчы арганізм уздзейнічаў наогул, удасканальваючы,

паглыбляючы, умацоўваючы яго асноватворныя прынцыпы. Па-другое, трэба мець на ўвазе ў дадзеным выпадку, што творчы арганізм змяшчаў у сабе выключна моцную і грунтоўную жыццёвую аснову — гістарычную, сацыяльную, побытавую, прыродную. І ўсё прачытанае, пазнанае, вывучанае, пражытае і перажытае ўзаемадзейнічала, узаемаправяралася. Рэальны жыццёвы матэрыял заўсёды быў больш моцны і грунтоўны. Заўсёды перамагаў. Таму ў самой творчасці пісьменніка цяжка знайсці нейкія канкрэтныя відавочныя ўздзеянні, уплывы. Хаця глыбінны ўплыў несумненна існаваў. Інакш, напэўна, і быць не магло.

Сачанка жыў сярод кніг, з кнігамі. Яго бібліятэка па падборы аўтараў, значнасць прадстаўленых у ёй літаратурных імёнаў і твораў, па колькасці ўнікальных выданняў, рарытэтаў, па наяўнасці і паўнаце сусветнай класікі, па колькасці і значнасці выданняў рускага і беларускага замежжа, па цэласнасці і арганічнасці, абумоўленай пісьменніцкай і грамадскай дзейнасцю, высокай мэтай служэння беларускай справе, думаю, у Мінску не мае сабе роўных. Кніг выпадковых, праходных там няма.

Валодаючы такім скарбам, нельга было не адчуваць яго ўплыву, пастаяннага ўздзеяння. Знаходзячыся сярод кніг, чытаючы, перачытваючы іх, перагортваючы і знаёмячыся з імі, захапляючыся іх мастацкім афармленнем і паліграфічнай культурай, удыхаючы іх пах і ўслухоўваючыся ў шалясценне старонак, убіраючы ў сябе гэты кніжны дух, ён міжволі пранікаўся высокім адчуваннем і разуменнем кнігі для чалавека, для народа, яшчэ больш востра і балюча ўсведамляў незайздроснае становішча кнігі на роднай матчынай мове, само становішча беларускай мовы.

Жыццё і кніга — крыніцы творчасці. Жыццё давала багацце фактаў, з'яў, сітуацый, падзей. Кніга дэманстравала прыклады, заклікала, правакавала, турбавала розум, сумленне. Думаецца, што якраз гэтыя крыніцы нараджалі, жывілі публіцыстыку Сачанкі, розныя тэматычна-праблемныя, змястоўныя разнавіднасці. Ды і жанры таксама. Публіцыстыка, з аднаго боку, як бы дапамагала дасказаць, раскрыць, прама назваць, дапоўніць тое, што гаварылася, чаму былі прысвечаны непасрэдна мастацкія творы. З другога — у публіцыстыцы прама, адкрыта, эмацыянальна гаварылася пра тое, пра што ў раманах, аповесцях, апавяданнях па тых ці іншых прычынах не атрымлівалася.

Жыццём, лёсам, часам Б. Сачанка, як і іншыя пісьменнікі яго пакалення, з самога дзяцінства быў далучаны да жыцця народнага, можна сказаць, жыў гэтым жыццём. І вось такі сацыяльны стан духоўна выспельваў, унутрана — у свядомасці, у душы — угрунтоўваў пачуццё, усведамленне асабістай адказнасці за ўсё, што адбывалася навокал, што тварылася ў жыцці. Тут агульнае было асабістым, асабістае ў істотных момантах выяўляла агульнае. І калі ў творах (тэкстах) як бы чыста мастацкіх вось гэтая дыялектыка асабістага і агульнага прыхавана ў эстэтычнай стыхіі, то ўжо ў творах непасрэдна публіцыстычных выяўляецца адкрыта, непасрэдна. Варта падкрэсліць вось які момант: багацце жыццёвага матэрыялу, эмацыянальны напор непасрэдных уражанняў, унутраная прага непасрэднага ўдзелу былі настолькі моцныя, для аўтара жыццёва і творча неабходныя, што публіцыстычна-лірычны струмень прарываўся ў саму мастацкую апавядальную стыхію. Асабліва адчуваецца гэта, проста відаць у творах з моцнай аўтабіяграфічнай асновай.

Дастаткова тут будзе нагадаць, напрыклад, аповесць «Апошнія і першыя» ці раман «Вялікі Лес», а асабліва, відаць, «Чужое неба». Вузлы памяці — такое жанравае вызначэнне даў пісьменнік свайму твору. Яно дакладна перадае характар мастацкага адбору і асэнсавання жыццёвага матэрыялу. «Чужое неба» — гэта «вузлы памяці» асноўных герояў твора, памяці балючай, памяці, апаленай мінулай вайною. За імі ж («вузламі памяці») і ў іх моцна адчуваецца, выразна бачыцца памяць самога аўтара — Барыса Сачанкі. І гэта зусім не выпадкова. Падзеі, пра якія пісаў ён, пачуцці, перажыванні, якімі багата былі надзелены героі твора, былі ў такой ступні для пісьменніка асабістыя, настолькі яшчэ балючыя, што ён не мог асабіста не рэагаваць, не выказвацца.

Кніга адкрываецца раздзелам «Вёска майго маленства». Гэта своеасаблівае лірычна ўсхваляванае апавяданне пра родны, бясконца дарагі і герою, і аўтару куток зямлі, той куток, з якога пачынаецца Радзіма.

«На Палессі, на самым поўдні Беларусі, ёсць куточак зямлі, асабліва мілы, дарагі майму сэрцу. Дзе б ні быў я, куды б ні закінула мяне доля, не-не дый згадаю яго. У радасці і ў журбе, з блізкіх і далёкіх дарог я вяртаюся зноў і зноў туды, дзе сярод старых, пракаветных лясоў і вялізных, неабсяжных балот на пясчанай выспе раскінулася вёска, у якой я нарадзіўся, у якой жыве і сёння мая маці, жывуць браты».

Словы гэтыя надавалі твору адпаведную танальнасць, вызначалі для чытача аўтараў пункт гледжання на падзеі — адкрыта суб'ектыўны, лірычна-публіцыстычны.

«Як Антэй, дакрануўшыся маці-Зямлі, набіраўся новых сіл, так і я, наведаўшы родныя мясціны, гаюся, на доўгі час пазбываюся сноў…

Сноў свайго трывожнага, абпаленага нягодамі маленства…»

Словамі гэтымі «Чужое неба» канчаецца. Яны перадаюць непасрэдна адкрыта асноўны сэнс таго, што ў найбольшай ступені турбавала і хвалявала пісьменніка, калі ён пісаў гэты твор… Ды і пазней. Увогуле ж, мне здаецца, што тут выразна пазначаны галоўны духоўна-эмацыянальны матыў усёй творчасці, зроблена падказка на асноўны яе жыццёвы матэрыял.

Матыў гэты, матыў любові да роднага кутка зямлі, захаплення яго прыгажосцю, болю за яго руйнаванне, матыў услаўлення яго, стаў асноўным і ў публіцыстыцы Барыса Сачанкі.

«На Палессі, у паўднёвай яго частцы, прыкладна на роўнай адлегласці ад гарадоў — Мазыра, Рэчыцы, Лоева, Брагіна — і рэк — Прыпяці і Дняпра, сярод старых пракаветных лясоў і неабсяжных багністых балот, на вялікай пясчанай выспе стаіць палескае сяло — Вялікі Бор. Вялікі Бор — казка майго дзяцінства, першая мая радасць, першы смутак і боль».

Напісана гэта ў верасні 1964 г.

Заяўлена адкрыта, шчыра пра галоўнае ў жыцці і творчасці пісьменніка, у яго лёсе. Пазней лепшыя творы Сачанкі сцвердзяць, што тэма малой радзімы, матыў сынавай адданасці бацькоўскаму кутку сталі для яго творчасці самымі важнымі, самымі значнымі. Зноў жа ў публіцыстыцы, у эсэістыцы гэта тэма, гэты матыў прысутнічаюць пастаянна. Паглыбляючыся ў змесце, пашыраючы межы, суадносячыся ўвесь час з часам, з гісторыяй. Прыкметнай з'явай сталі тут нарыс «Зямля маіх продкаў», а таксама падарожны дзённік «Вечны кругазварот», у якіх родны пісьменнікаў кут падаецца ў больш шырокім гістарычным і геаграфічным кантэксце. Асаблівая прачуласць, нават замілаванасць у апісаннях роднага кутка зямлі заўсёды ў глыбіні пранізана драматызмам і трагізмам. Ды інакш, відаць, і быць не магло. Родны кут — гэта зямля, край дзяцінства, юнацтва. А гады дзяцінства і юнацтва — гэта гады ваеннага ліхалецця і пасляваеннай нішчымніцы. Прыгожае ж і светлае ў горы і бядзе становіцца на ўсё жыццё асабліва дарагім і помным.

Пісьменнік у розныя гады, у розным фізічным і творчым стане ў творчасці сваёй дзесьці па-рознаму падыходзіў да ўзнаўлення, паказу, спасціжэння роднага краю. Ёсць тут і публіцыстычна-лірычнае захапленне родным кутком зямлі (яго, здаецца, найбольш), ёсць шырокае эпічнае ўзнаўленне яго мінулага і сучаснасці, ёсць глыбокі драматызм і высокая трагічнасць у спасціжэнні лёсу народа і роднай зямлі. Разам з тым бачыцца мастакоўскае імкненне да глыбока гістарычнага, сацыяльна-этнаграфічнага і філасофскага спазнання і асэнсавання феномена роднага пісьменнікавай душы кутка зямлі і яго людзей.

Імкненне, жаданне ведаць усё пра свой край, яго гісторыю, людзей было ўнутранай душэўнай патрэбай, парываннем. І не толькі. Гэта былі і свядомыя, лагічна абгрунтаваныя адносіны. У гутарцы з маладымі чытачамі, якую ў 1989 годзе праводзіла газета «Чырвоная змена», Сачанка здзіўляўся-пытаў: «Выбачайце, хіба ж можна жыць і не ведаць нічога пра тую зямлю, той край, дзе жывеш?»

І ён ведаў шмат пра свой край, сваю зямлю. Жыў іх клопатамі і турботамі, іх радасцямі і горам, бядою. І калі ў творах, напісаных да сярэдзіны 80-х гадоў, да Чарнобыльскай катастрофы, у паказе роднага Палесся, у размове пра яго панаваў у эмацыянальным ладзе настрой любові, захаплення, радасці, то ўжо ў тым, што напісана ў гады пазнейшыя, глыбока адчуваюцца ноты болю, шкадавання, суму, дзесьці нават злосці, няпэўнасці…

«Раней ездзіў я ў сваю вёску, каб набрацца сіл, асвяжыць памяць, памаладзець душою, падужэць.

Цяпер пасля паездак дадому падоўгу хварэю. І фізічна, і маральна. Мілы, дарагі куточак — і яго атруцілі, так раптоўна адабралі ў мяне ды і ў многіх, хто нарадзіўся там, жыў…»

Адабралі пасля чарнобыльскай катастрофы, што адбылася ўсяго за якую паўсотню кіламетраў ад роднай пісьменнікавай вёскі. Для Сачанкі ўсё гэта (гэтая катастрофа — эканамічная, сацыяльна-бытавая, псіхалагічная) стала асабістым, асабліва балючым. Для яго, пісьменніка і чалавека, знікае цэлы свет, свет самы блізкі і дарагі, свет, з якога ён выйшаў, але які ўзяў з сабою і панёс у сабе, свет, дзе знаходзіліся тыя крыніцы, якія жывілі яго духоўна, жывою вадою загойвалі душэўныя раны і наталялі пачуцці. Неба дзяцінства, неба бацькоўскай зямлі, такое чыстае, блакітнае і празрыстае, раней яно ўзвышала чалавека, узнімала, клікала да жыцця. Паветрам гэтага неба, гэтай зямлі Палесся насычаны лепшыя творы пісьменніка. Пасля Чарнобыля неба гэтае пацямнела, яно гняце чалавека. Зямля тоіць небяспеку. Трывога і неспакой ахоплівае ўсю існасць, боль працінае сэрца.

Сачанка не мог не пісаць пра гэта. Не мог не адгукнуцца тут жа, непасрэдна. Бо парушаўся цэлы свет ягоны, сфармаваны, выспелены ў душы і свядомасці.

Гэты душэўны стан, свае адносіны да самой катастрофы, да ўсяго, што з ёю ў тыя часы было звязана, пісьменнік шчыра, адкрыта і мужна выказаў у публіцыстычных творах «Запіскі аб радыяцыі» і «Паездка ў «зону». Творы гэтыя выключна асабістыя, прачулыя, насычаныя драматычным зместам, востра публіцыстычныя. Запісы Сачанка робіць пра тое, што сам пабачыў, уведаў, перажыў. Усё прапускае праз сябе. І падрабязнасці бытавыя, прыватныя напаўняюцца глыбокім драматызмам, набываюць шырокі абагульняльны сэнс — для чалавека знікае цэлы свет, свой, блізкі, паэтычны, жывы.

Праз тры гады пасля аварыі надрукавалі карту, дзе якія грыбы можна збіраць. У родных мясцінах Сачанкавых забаронена. Забарона гэтая больш чым на трыццаць гадоў. «Значыцца, я больш ніколі ўжо не патрымаю ў руках, не з’ем баравіка, ні падасінавіка, ні рыжыка, ні якога іншага грыба са свайго лесу. А насіў жа я іх калісьці кашалямі. І калі вучыўся ў школе, ды і потым. Бывала, падхопішся з пасцелі на досвітку, яшчэ нацямочку, — і ў лес. Ідзеш па аднаму табе вядомых сцежках, ад грыбовішча да грыбовішча. Збочыш у малады бярэзнік, потым — на хвойнік. Пашастаеш па ягадніку, верасе, выскачыш на дубняк — «дубіну», як у нас кажуць, і вядома ж, абтупаеш, аббяжыш граду, дзе растуць надта ж прыгожыя, рэліктавыя баравікі з белым тоўстым каранём і чорнай, проста аксамітнай шапкаю…»

Дома грыбы па адным перабіраюцца. Зноў як бы вяртаешся ў лес, усё перажываеш яшчэ раз.

«Няўжо ўсяго гэтага я больш не спазнаю?..»

Для аўтара, для чалавека не проста парушаюцца звыклыя ўзаемаадносіны з навакольным светам, з прыродай. Знікае цэлы свет паэзіі — свет пачуццяў, перажыванняў, радасці, захаплення, самасцвярджэння.

Знікненне канкрэтнага свету палескага — рэальнага, да канца не раскрытага, не спазнанага ўражвае пісьменніка асабліва балюча.

Уражвае Бабчын, родная вёска маці пісьменніка, паэта М. Мятліцкага. Вёска ў «зоне», ужо выселеная. «Сёння ў Бабчыне нікога няма — мёртвая вёска: пустыя вуліцы, пустыя двары, пустыя хаты. Толькі трава, бур’ян параслі ўсюды ў рост

чалавека. У хатах выбіты вокны, паадчыняны, пазрываны з завесаў дзверы… Агароды, палі — таксама нясеяныя — утравелі, не пазнаць, дзе поле, дзе луг…»

А за ўсім жа гэтым людзі, іх мінулае, будучыня. Своеасаблівы, непаўторны свет — свет прыроды, свет людзей — знішчаецца, разбураецца, нявечыцца. Сачанка згадвае пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў раёнах, часткова адселеных: у Брагінскім нарадзіліся Р. Сабаленка, С. Блатун, М. Ракітны, у Веткаўскім — Дз. Кавалёў… Хойніцкі даў літаратуры І. Мележа, М. Мятліцкага, А. Кандрусевіча, Зм. Бяспалага, А. Канапельку, А. Шлега… «Колькі новага ўнеслі ўсе гэтыя пісьменнікі ў жыццё беларускага слова!.. Яно ж было жывое ў нас, нічым незапарушанае, спрадвечнае, глыбіннае, — як крыніца ў лесе. Што будзе з тымі песнямі, казкамі, прымаўкамі, якія нарадзіліся на гэтай зямлі, жывіліся яе сокамі і якія так мы і не запісалі?.. А дзеці, адарваныя ад сваіх каранёў? Хто з іх і калі зноў вернецца на бацькаўшчыну жыць?..»

Той жа матыў роспачы, адчаю, болю за людзей, за іх будучыню гучыць і ў нарысе «Паездка ў «зону». То была дэпутацкая паездка. Сачанка быў запрошаны. Выбраў родны Хойніцкі раён. Як і ў «Запісках аб радыяцыі», у «Паездцы…» пісьменнік падае многа рэальных фактаў няўвагі да чалавека, блытаніны ў ацэнцы вынікаў катастрофы, людскога гора, піша з любоўю пра родныя мясціны, абураецца неабгрунтаванасцю шматлікіх рашэнняў мясцовай адміністрацыі. І тут яго таксама ахоплівае роспач, разгубленасць, адчай, калі пачынае думаць пра будучыню краю і людзей. У канцы паездкі згадваюцца сустрэчы з людзьмі, размовы, іхнія вочы, галасы, у якіх чуліся просьбы паратунку, помачы. Зноў гучыць роспачны, поўны болю і адчаю аўтараў голас:

«Хто, хто верне ім, гэтым без віны вінаватым людзям, душэўную раўнавагу, спакой?.. Як будуць жыць яны, астаўшыся без роднага кутка, без сваёй бацькаўшчыны? Што чакае іх саміх і іхніх дзяцей ды і кожнага з нас і заўтра, і паслязаўтра, у блізкай і далёкай будучыні?..

Зноў здаўлівае горла тугі камяк, зноў хочацца плакаць…»

Тэма Чарнобыля, тэма роднага бацькоўскага кутка зямлі, знявечанага гэтай катастрофай, неаднойчы гучыць і ў пісьменнікавых інтэрв’ю, гутарках. Так, у гутарцы з тагачасным галоўным рэдактарам газеты «Советская Белоруссия» З. Прыгодзічам на пытанне таго: «што выносіце Вы са сваіх паездак на радзіму, якія думкі апаноўваюць Вас там, дома, у сваёй вёсцы?» — Сачанка зноў жа адказвае: «Часцей за ўсё хочацца плакаць. Ад бяссілля хоць чым памагчы людзям». Згадвае сваю паездку ў Хойніцкі раён у жніўні 1986 г., абураецца ўбачаным: людзі жылі на забруджаных землях, ідзе тут няспынная вытворчасць прадуктаў, людзей выселілі са спазненнем, медыцынскае абследаванне праводзілася наспех, павярхоўна, крытыка ў першыя гады пасля катастрофы не дазвалялася.

Мяркуючы па творчасці Б. Сачанкі, найбольш востра, крытычна, непасрэдна, зацікаўлена пісаць пра ўсё, што мела дачыненне да чарнобыльскіх падзей, можна было ў публіцыстыцы. Самі падзеі, сам матэрыял патрабаваў такога жанру. Сачанка разумеў гэта. На пытанне З. Прыгодзіча ў вышэй памянёнай гутарцы, чаму многія пісьменнікі пачалі часта выступаць у жанры публіцыстыкі, чым выклікана гэта, адказваў: «Жыццём, жаданнем дапамагчы людзям. Раней у гэтых жанрах не хацелася выступаць, бо нельга было гаварыць праўду. Цяпер можна калі не ўсё, дык ва ўсякім разе многае сказаць, супаставіць свае погляды з поглядамі іншых людзей, сёе-тое нагадаць, падказаць ці папярэдзіць… Не, публіцыстыка вельмі дзейсны і патрэбны жанр…» І далей: «…Здараюцца часы, калі не адклікнуцца на тую ці іншую падзею ці факт проста немагчыма». Сярэдзіна і другая палова 80-х, пачатак 90-х, перабудова, развал, нацыянальнае адраджэнне — якраз такі час, час публіцыстыкі, час актыўнага грамадскага дзеяння. У другім інтэрв’ю тых гадоў Сачанка сцвярджае: «На першы план выйшла публіцыстыка, яна ніколі не была такой шчырай і цікавай як цяпер».

Без усялякага перабольшвання можна сцвярджаць, што так сталася і ў Сачанкавай творчасці, такой была яго публіцыстыка. У тыя гады Сачанка жыў асабліва

актыўным грамадскім і творчым жыццём. Дзейнасць грамадская і творчасць літаратурная для яго былі непадзельныя. Бо клопат адзін тут і мэта адна — нацыянальнае духоўнае адраджэнне. Праз гады і яго дзейнасць, і яго творчасць успрымаюцца не самі па сабе, а як выяўленне даволі пэўнай глыбіннай грамадска-літаратурнай тэндэнцыі. А менавіта — выяўленне, надзвычай характэрнае, адметнае, глыбінных духоўных намаганняў пакалення, якое шмат перажыло, пабачыла, шмат адчула болю, пакалення, якое жыло ў высокім унутраным напружанні, якое актыўна адраджала і мацавала духоўныя асновы нацыі.

На X з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі (красавік 1990 г.) Барыс Сачанка гаварыў: «…Мы, беларусы, шчаслівыя і разам з тым няшчасныя людзі. Шчаслівыя, бо ў нас, як у большасці народаў, ёсць свая зямля, свая мова, свая культура, сваё мінулае і сваё будучае. Няшчасныя, бо, маючы, здаецца, усё, што трэба, мы тым не менш не мелі цягам стагоддзяў сваёй дзяржаўнасці. І не мелі не таму, што не дараслі да яе ці не хацелі, а таму, што, як пісаў Якуб Колас:

Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,
А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесці на здзек,
Каб у віры той ашукі
Знішчыць нашы ўсе сляды,
Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

І кожны, хто прыходзіў з агнём і мячом на нашу зямлю, прыносіў сюды і свае парадкі, імкнуўся калі не фізічна знішчыць нас, дык духоўна».

Разуменне драматызму гісторыі Беларусі, яе народа, яго духоўных пастаянных высілкаў: каб выжыць, разуменне, набытае і ў выніку грамадскіх гістарычных змен, і дзякуючы асабістым намаганням, Сачанка імкнуўся актыўна аддаць і перадаць іншым. Менавіта гэтаму была падпарадкавана яго творчая энергія. Адчуваючы сучаснасць, назіраючы за складанасцямі і супярэчнасцямі нацыянальнага адраджэння, ён выдатна ўсведамляў вызначальную ролю гістарычнага мінулага ў станаўленні сучаснасці і вызначэнні шляхоў у будучыню. Сам пачатак нацыянальнага адраджэння патрабаваў не толькі збірання, яднання, дэманстрацыі ўсіх нацыянальна свядомых сіл сучаснасці, але і пошуку ў мінулым нацыянальных асноў адраджэння, паказу, выяўлення драматычных і трагічных падзей мінулага, ролю асобы ў гістарычным працэсе. Добра ведаў, што ў нашай гісторыі даволі бедная фактычная аснова. Тыя факты, на падставе якіх рабіліся пэўныя гістарычныя вывады, былі бедныя, часта падабраныя тэндэнцыйна. Каб паверыць у якіясьці новыя высновы, патрэбныя былі факты. Факты, раней нярэдка невядомыя ці то тыя, якія па тых ці іншых прычынах утойліваліся.

Для ўстойлівага адчування сучаснасці, вызначэння перспектыўных шляхоў у будучыню, патрэбна была грунтоўная рэальная аснова ў мінулым — і далёкім, і больш блізкім, можна сказаць, учарашнім. А тут столькі было неадкрытага, заблытанага, памылковага, палітычна тэндэнцыйнага… таго, што не давала магчымасці правільна сарыентавацца ў гістарычным часе, вызначыць сваё ўстойлівае месца ў геапалітычнай прасторы. Гэта быў адзін з самых істотных, самых актуальных аспектаў грамадска-публіцыстычнай дзейнасці таго часу. Сачанка адчуваў гэта, усведамляў, самаахвярна працаваў у гэтым кірунку. Якраз у гэты час піша ён пра невядомыя ці то малавядомыя старонкі жыцця і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, піша пра Ф. Скарыну і Януша Радзівіла, М. Доўнар-Запольскага і В. Ластоўскага, А. Гаруна і К. Сваяка, Я. Лёсіка і Л. Геніюш, піша пра Мураўёва-

вешальніка і Л. Бэндэ… Творы гэтыя адкрыта публіцыстычныя. Але публіцстычнасць грунтуецца на багатым фактычным матэрыяле, яе эмацыянальны лад як бы вывераны і ўзмоцнены гістарычнай рэальнай асновай і тагачаснымі патрэбамі нацыянальнага жыцця. Творы гэтыя вылучаюцца жанравымі асаблівасцямі, эмацыянальнай афарбоўкай.

«Па слядах Скарыны» — своеасаблівы падарожны дзённік з багатымі матэрыяламі, прысвечанымі жыццю і дзейнасці першадрукара за межамі бацькаўшчыны. Наведванне Скарынавых мясцін дае магчымасць аўтару гаварыць і пра Скарыну, і пра тых, хто значна пазней быў вымушаны і меў магчымасць там жыць.

Прага… «Асабліва вялікая калонія беларусаў у Празе жыла на пачатку дваццатых гадоў нашага стагоддзя. Чэшскі ўрад спачуваў беларусам, дапамагаў, нават выдзеліў некалькі стыпендый. Можа, таму, што чэхі ведалі, як цяжка ідзе адраджэнне народа — прайшлі ж самі праз гэта». Сачанка згадвае тых беларусаў, хто знайшоў там гасцінны прытулак у першай палове XX стагоддзя, расказвае пра пазнейшыя літаратурныя сувязі дзвюх краін. Наведванне бібліятэкі, могілак зноў жа выклікае ўспаміны, згадкі пра тых сыноў зямлі беларускай, чый жыццёвы і творчы лёс выходзіў па тых або іншых прычынах за межы роднага краю.

Нарысы «Здраднік» і «Доўнар-Запольскі» ўяўляюць сабою своеасаблівыя жыццяпісы гетмана Вялікага Княства Літоўскага Януша Радзівіла і «шырока вядомага ў свой час і на Украіне, і ў Расіі, і ў Беларусі вучонага і педагога». Фігуры гэтыя цікавяць пісьменніка не самі па сабе (хоць ёсць і гэты момант), а сувязі з тымі працэсамі (рэальна-гістарычнымі і гісторыка-тэарэтычнымі), што суадносіліся даволі выразна з дзяржаўным і нацыянальным самавызначэннем нашага народа. Больш таго, увесь змест гэтых твораў моцна праецыраваны на сучаснасць. Увогуле трэба зазначыць, што, па сутнасці, уся публіцыстычная творчасць Сачанкі ідзе ад сучаснасці (тагачаснай), народжана ёю ды, відаць, і натхнёна ёю. Бо спакойна адносна, неўсхвалявана, з халодным розумам і халодным сэрцам пісаць пра такія рэчы і пісаць так нельга. Нават у такіх аналітычнага характару, багата дакументальна насычаных публіцыстычных творах, як «Мураўёў-вешальнік» і «Бэндэ» (30-я ў абліччах і дакументах)».

Прозвішча Мураўёва быццам бы не новае ў нашай гісторыі. Дадатак «вешальнік» звязаны з падзеямі паўстання 1963 года. Але гэта толькі адзін момант. Сачанка, спасылаючыся на шматлікія дакументы XIX стагоддзя, прасочвае паслядоўна, як гэты, па словах А. І. Герцана, «рабалепны нахабнік, выкрыты казнакрад — выкрывальнік злоўжыванняў, кат, інквізітар», які з 1826 г. звязаў свой лёс з нашым краем, паслядоўна, мэтанакіравана русіфікаваў яго, вынішчаючы, ліквідуючы любыя праявы нацыянальнага жыцця.

Па яго хадайніцтве імператар Мікалай I выдаў 1 студзеня 1831 года закон «аб адмене Літоўскага статута і забароне карыстацца беларускай мовай у судах і ў афіцыйных установах на ўсёй тэрыторыі Беларусі». У тым жа годзе ён прапанаваў зачыніць Віленскі ўніверсітэт, у якім з 48 выкладчыкаў 36 былі беларусамі. Зноў жа ў 1839 г. па яго прапанове была скасавана Унія, забаронены казанні на беларускай мове ў царквах і касцёлах. У 1840 г. было забаронена афіцыйнае ўжыванне назваў Беларусь і Літва. Быў непахісным абаронцам прыгону. Асабліва праявіў сябе падчас паўстання ў Заходнім краі ў 1863 годзе. Назначаны генерал-губернатарам Віленскай губерні, ён жорстка пачаў распраўляцца з паўстанцамі і тымі, хто памагаў ім. У Сібір было выслана за 5 тысяч чалавек з хутароў і вёсак. Мураўёў наняў цэлую армію даносчыкаў. Найбольшая заслуга губернатара ў тым, што ён усё зрабіў «по умиротворению и обрусению» краю, каб навечна прыяднаць яго да Расіі. Сачанка, цытуючы дакументы, сведчанні сучаснікаў, паказвае, як гэта ўсё праводзілася — нахабна, бесцырымонна. Становіцца шмат што больш зразумелым і з сучасным нацыянальным самасцвярджэннем і самавызначэннем.

Іншы час, іншая эпоха, іншая, спецыфічна духоўная, сфера нацыянальнага жыцця асветлена ў нарысе «Бэндэ». Характэрны падзагаловак «30-я ў абліччы і дакументах» і крыху пазнейшы дадатак «А суд гісторыі цяжкі!» Бэндэ тут

з'яўляецца фігурай, якая ўвасабляе час, яго палітычную і духоўную сутнасць. Ён прадукт гэтага часу і яго актыўны творца, увасабленне яго зместу, сутнасці. Часу даносаў, паклёпаў, беспадстаўных абвінавачанняў, палітыканства. Бэндэ быў такі не адзін. Можа, найбольш поўна і ярка ўвасабляў гэты крывавазмрочны час. І актыўна тварыў. Сачанка багата цытуе дакументы, факты. Паказвае вынікі. Яны жахлівыя. У канцы даецца спіс беларускіх пісьменнікаў, якія «ў гады Сталіна арыштоўваліся, высылаліся, сядзелі ў турмах і лагерах, былі асуджаны, расстраляны». Іх 66. Толькі некалькі з іх вярнуліся пасля рэабілітацыі. Яшчэ зазначаецца, што пасля 1937 года «ў складзе пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі асталося менш 40 чалавек». Названы прозвішчы 38 чалавек. Вывад гэтага перапоўненага чалавечым болем твора адназначны: пра мінулае трэба ведаць усю праўду, якой бы горкай яна ні была — каб будаваць будучыню, каб больш-менш нармальна пачуваць сябе ў сучаснасці. Гэта і для народа, і для асобнага чалавека.

Увогуле ў сваёй публіцыстыцы Б. Сачанка не адзін раз дае цэлыя спісы прозвішчаў вядомых людзей, што ў свой час так ці інакш прычыніліся да вывучэння гісторыі ці то духоўнага жыцця нашага краю. Спісы ж сведчаць пра адно: за імі лёс літаратуры, гісторыі, мовы, краязнаўства, а не толькі лёс аднаго творцы. У «думках уроссып» ідзе пералік імёнаў гісторыкаў, краязнаўцаў, фалькларыстаў, лінгвістаў: Я. Чачота, Ул. Сыракомлі, І. Насовіча, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, А. Кіркора, П. Шпілеўскага, П. Шэйна, П. Бяссонава, А. Сапунова, М. Доўнар-Запольскага, М. Любаўскага, П. Уладзімірава, Я. Карскага, А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага, Ч. Пяткевіча, К. Машынскага… Пытае: «Што ведаем сёння мы пра гэтых людзей, што зрабілі і робім дзеля вывучэння і прапаганды іх вялікай і такой каштоўнай творчай спадчыны?» Ушчувае за абыякавасць да свайго мінулага, таго, што пакінулі папярэднікі.

Адмаўляючы шмат што з мінулага, асабліва ў такіх творах, як «Мураўёў-вешальнік» і «Бэндэ», засцерагаючы ад яго жыццё яму сучаснае, Сачанка імкнуўся ўзяць адтуль усё станоўчае, карыснае для развіцця нацыянальнай культуры, літаратуры, наогул для нацыянальнага самасцвярджэння. На тым этапе развіцця дзяржавы галоўным здавалася памнажэнне нацыянальнага духоўнага багацця, узбагачэнне, пашырэнне і паглыбленне асноў беларускасці. Гэтай ідэяй пранізана ўся публіцыстыка пісьменніка, уся яго грамадская дзейнасць.

Барыс Сачанка любіў Беларусь, любіў зблізку, любіў такую, якою яна была, якою ёсць — яе людзей, прыроду, гісторыю, мову. Гэта адчуваецца ва ўсёй яго творчасці, відаць у яго грамадска-культурнай дзейнасці. Ён прымаў самы актыўны ўдзел у распрацоўцы Закона аб мовах, у якім беларускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай. Клопат пры ўзбагачэнне роднай мовы, яе развіццё, яе чысціню быў вызначальным ва ўсёй яго рэдактарска-выдавецкай дзейнасці: і тады, калі на самым пачатку сваёй творчай дарогі працаваў літсупрацоўнікам у часопісе «Вожык» (1958—1960), і ў доўгі час рэдактарскай працы ў аддзеле прозы часопіса «Полымя» (1960—1986), і тады, калі загадваў рэдакцыяй замежнай перакладной літаратуры ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (1986—1993), і на пасадзе галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» (1993—1995). І ўсюды ён не проста добрасумленна, прафесійна працаваў. Не. Сачанка — творца, грамадзянін, ён чула рэагуе на патрэбы часу, рэальна адчувае духоўную атмасферу, бачыць канкрэтныя з'явы, падзеі ў гістарычным кантэксце. Асабліва гэта выявілася ў часы перабудовы і пазней.

Так, дзякуючы Б. Сачанку, ім самім, напрыклад, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» была распрацавана серыя «Скарбы сусветнай літаратуры», выйшлі з друку першыя тамы. Прыцягваў да перакладчыцкай працы маладых аўтараў, рыхтаваў выпускі замежнага дэтэктыва і замежнай фантастыкі. Ім асабіста былі падрыхтаваны на рускай мове аднатомнікі М. Булгакава, У. Набокава, Б. Пільняка, Ф. Салагуба, пісьменнікаў, якія толькі што пачалі прыходзіць і вяртацца да нашага чытача. Па яго прапанове было здзейснена факсімільнае выданне «Слоўніка беларускай мовы» І. Насовіча, зборніка вершаў А. Гаруна «Матчын дар».

Сачанка — як творца, як чалавек — заўсёды быў актыўна ўключаны ў нацыянальны літаратурны працэс. Часта выступаў на з'ездах, на пленумах пісьменніцкай арганізацыі па актуальных пытаннях развіцця прозы, крытыкі, літаратуры для юнацтва і дзіцячай літаратуры. Усе гэтыя матэрыялы друкаваліся. Публіцыстыка была працягам грамадскай дзейнасці, грамадская дзейнасць — рэалізацыяй пэўных ідэй і палажэнняў публіцыстыкі. Свае погляды, ідэі пісьменнік актыўна даводзіў да шырокага чытача дзякуючы шматлікім інтэрв'ю, гутаркам з карэспандэнтамі газет. Асабліва адчувальна было гэта ў канцы 80-х гадоў. Якраз у гэты час разгорнутыя актуальныя гутаркі па надзённых пытаннях літаратурнага працэсу і наогул грамадскага жыцця з'явіліся на старонках газет «Літаратура і мастацтва», «Советская Белоруссия», «Голас Радзімы», «Ніва» (г. Беласток, Польшча), у часопісах «Беларусь» і «Маладосць», у зборніку «Вобраз-89».

Сёння, чытаючы гэтыя матэрыялы, бачым, як шырока, гістарычна глыбока Сачанка глядзеў на нацыянальны літаратурны працэс, слушна адзначыў і яго дасягненні і пэўныя слабасці, правільна акрэсліваў месца таго ці іншага творцы ў літаратуры. Ацэнкі, высновы гэтыя пацверджаны часам. Аналізуючы, ацэньваючы тагачасны літаратурны працэс, зразумела ж, аўтар не мог не сказаць сваё слова і непасрэдна пра асобных пісьменнікаў. І ён гаварыў. І не толькі пра тых, чыя творчасць стала нацыянальным навуковым і мастацкім набыткам, але і пра сваіх сучаснікаў. Найперш тых, хто творча і па-чалавечы быў яму блізкі — І. Мележа, М. Лынькова, М. Лужаніна, С. Дзергая…

Як ужо зазначалася, час, тыя палітычныя і духоўныя зрухі, што адбыліся ў 2-й палове 80-х гадоў, актывізавалі грамадскія пачуцці і памкненні пісьменніка, прымусілі, далі магчымасць на развіццё нацыянальнай літаратуры паглядзець глыбей і шырэй. А таксама паспрабаваць далучыць да нацыянальнага мацерыка літаратуры адарваныя па тых ці іншых прычынах у той або іншы час роднасныя землі. Зрабіць гістарычны грунт больш глыбокім, геаграфічна больш шырокім — як духоўную аснову нацыянальнай дзяржавы. Сачанка першы звярнуўся да шырокага гістарычнага разгляду і асэнсавання такой з'явы, як беларуская эміграцыя. У 1988 годзе ў часопісе «Маладосць» (№ 10, 11) была надрукавана грунтоўная праца «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні», як сведчыць аўтар, «плён… шматгадовых назіранняў, роздумаў і пошукаў». Твор выклікаў немалую цікавасць, аўтар атрымаў лісты ад некаторых, пра каго пісаў, меў вусныя сведчанні тых, хто ў свой час ведаў будучых прадстаўнікоў эміграцыі, асабліва літаратурнай. У наступным годзе пісьменнік піша дадатак — «У працяг размовы». Выйшла некалькі асобных выданняў «Беларускай эміграцыі…» На сённяшні дзень гэта адно з найбольш шырокіх і грунтоўных даследаванняў гэтага мацерыка нацыянальнага жыцця — няпростага, драматычнага, а то і трагічнага, але глыбока пранізанага нацыянальнай ідэяй. Гэта вылучалася і падкрэслівалася.

Выказаўшы свае меркаванні пра цікавасць тагачасную да эмігранцкай літаратуры, Сачанка прасочвае шляхі высялення-перасялення беларусаў ад часоў яшчэ да ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага, найбольш увагу акцэнтуючы на XX стагоддзі і на эміграцыі палітычнай. То была эміграцыя, выкліканая першай сусветнай вайной, рэвалюцыяй, падзелам Беларусі паводле Рыжскага мірнага дагавору. Асабліва — Другой сусветнай вайной: то была эміграцыя і прымусовая, і вольная. Тлумачачы характар і прычыны (найчасцей рэлігійныя і нацыянальныя) першай беларускай эміграцыі, пісьменнік асобна вылучае постаці ксяндза Язэпа Германовіча (пісьменнік Вінцук Адважны), спевака Міхася Забэйду-Суміцкага, паэтаў Ларысу Геніюш і Уладзіміра Жылку. Найбольш складаныя, супярэчлівыя, неадназначныя па сваіх прычынах і матывах эмігранцкія лёсы тых, хто апынуўся за межамі сваёй краіны пасля Другой сусветнай вайны. Сачанка гаворыць пра іх літаратуру, мову, паэзію, крытыку, пераклады, пра спевакоў, мастакоў, кампазітараў, вучоных, найбольш вылучаючы прозвішчы тых, хто звязаны з літаратурай.

Зразумела, вывучэнне тагачаснай беларускай эміграцыі, грунтоўнае непасрэднае знаёмства з яе мастацкай літаратурай, выклікала жаданне, дало маг-

чымасць Б. Сачанку пазнаёміць беларускага чытача з яе паасобнымі з'явамі. У выніку з'явіліся былі часопісныя публікацыі асобных аўтараў, а ў 1992 годзе анталогія паэзіі беларускай эміграцыі. Укладанне анталогіі, прадмова і невялікія біяграфічныя даведкі былі зроблены Сачанкам. У канцы прадмовы пісаў: «Туга па Радзіме» — гэта спроба вярнуць на Бацькаўшчыну тое, што ёй па праве належыць. Будзем спадзявацца, што ўслед за першай ластаўкай прыляціць, вернецца з доўгага выраю і ўсё, што таго заслугоўвае». Так яно і атрымалася. Сам аўтар-складальнік анталогіі ў хуткім часе непасрэдна прычыніўся да выдання кніг прозы Масея Сяднёва і паэзіі Ларысы Геніюш. А яшчэ да гэтага, у верасні 1989 г., была запісана гутарка са спеваком Данчыкам і яго маці Юляй Андрусішынай, а ў чэрвені 1990 — вялікая гутарка з тым жа Масеем Сяднёвым. У самой жа анталогіі багата і featured розна бакова была прадстаўлена паэзія Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя, досыць шырока — Хведара Ільяшэвіча, Уладзіміра Дудзіцкага, Янкі Золака, Уладзіміра Клішэвіча, Міхася Кавыля, Янкі Юхнаўца, асобнымі, найбольш характэрнымі, прыкладамі паэзія Вінцука Адважнага, Рыгора Крушыны, Алеся Смаленеца, Алеся Змагара, Сяргея Ясеня, Анатоля Бярозкі.

Час, новыя ўмовы духоўнага жыцця далі магчымасць паглядзець на свет шырока, убачыць, якой багатай, адметнай з'яўляецца літаратура на роднай мове, як усё ж шырока ў свеце гучыць беларускае слова. «Дзе толькі, у якіх краях не жывуць цяпер беларусы... Раз'ехаліся, разбрыліся па ўсім, можна сказаць, свеце. Ёсць і такія, што жывуць быццам дома, на спрадвечнай бацькаўскай зямлі, і аднак, не ў Беларусі, як, напрыклад, беластаччане — жыхары блізкіх да Белавежскай пушчы вёсак і мястэчак…» — так пачынаўся вялікі Сачанкаў нарыс «На зямлі беластоцкай». Яшчэ адна ўсхваляваная старонка пра этнічна беларускі куток, яго духоўнае жыццё, літаратуру. Пра вядучых літаратараў (даючы ім слова) — Алеся Барскага, Віктара Шведа, Сакрата Яновіча, Яна Чыквіна, Надзею Артымовіч…

Знаёмячыся з літаратурай беларускай эміграцыі, з літаратурай Беласточчыны, адкрываючы ўсё новыя старонкі беларускай мінуўшчыны, Барыс Сачанка ўсё больш, яшчэ і яшчэ раз пераконваўся ў тым, што жыло ў душы яго з самага ранняга дзяцінства, што мацавалася ў дні выгнання ў Нямеччыну, што вызначыла яго шлях у жыцці, а менавіта: мова — найвышэйшая адзнака адметнасці чалавека і народа, галоўны паказчык іх свабоды і натуральнасці існавання ў грамадстве і ў свеце.

Ужо ў 1956 годзе, калі ён яшчэ вучыўся на III курсе аддзялення БДУ, друкуе ў газеце «Літаратура і мастацтва» артыкул «Шанаваць родную мову», у якім выказваў заклапочанасць станам беларускай мовы ў грамадстве. У прыватнасці, пісаў: «…Каб наша беларуская мова ўвайшла ў паўсядзённы быт усіх слаёў насельніцтва, думаецца, першым практычным крокам да гэтага павінна быць увядзенне выкладання ва ўсіх навучальных установах рэспублікі на беларускай мове». Гаворачы, што вывучэнню рускай мовы і далей павінна надавацца самае сур'ёзнае значэнне як мове міжнацыянальных адносін, мове, «на якой надрукаваны найвялікшыя дасягненні чалавечага розуму», зноў жа падкрэсліваў, што «беларуская мова не павінна адыходзіць на другі план».

То былі гады духоўнага ажыўлення. Нацыянальнае пытанне для нас жа заўсёды актуальнае. Праблема, закранутая ў артыкуле, для таго часу была балючая. У рэдакцыю прыйшло сотні лістоў, рэзананс быў гучны. Артыкул быў перадрукаваны мюнхенскай «Бацькаўшчынай». Аўтару гэта пагражала складанымі праблемамі. Але… Ужо ў часы перабудовы Сачанка скажа: «Дзякуй Першаму сакратару ЦК КПБ Мазураву Кірылу Трафімавічу, які мяне прыняў і выратаваў ад яшчэ большых непрыемнасцей…»

З тых гадоў, на ўсім жыццёвым і творчым шляху Барыса Сачанкі, пытанні драматычнага мінулага роднай мовы, не менш драматычнага сучаснага яе становішча, няпэўны лёс у будучым сталі для яго аднымі з самых важных. Да іх ён звяртаўся пастаянна — у нарысах, артыкулах, эсэ, у інтэрв'ю, гутарках, дзённікавых запісках… Асабліва актыўна ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. Пішa пра мову мастацкай літаратуры, пра ўзаемадзеянне мовы гутарковай і літаратурнай,

пра выкладанне мовы ў школах, вышэйшых навучальных установах, пра афіцыйны статус роднай мовы, пра адсутнасць дзяржаўнай абароны нацыянальнай культуры і мовы.

У 1991 годзе з хваляваннем, гонарам, верай піша: «Пра нашы казкі, песні, прымаўкі, наогул фальклор сказана і напісана нямала самых хвалебных слоў. І справядліва сказана і напісана! Бо ў нашым фальклоры ёсць усё — шматвяковы вопыт, мудрасць, вера ў лепшую будучыню, мары і спадзяванні. І, вядома ж, што гадамі будзе набываць яшчэ больш вагі і вартасці — слова наша, мова — золата, якое ніхто ў нас не адніме ні пры якіх акалічнасцях, яно будзе з намі, пакуль жывём, саграваe нас, даказвае ўсім, што мы не бязроднае племя, а народ, маем такое багацце, якое ніхто не меў і мець не будзе. Яно было і будзе наша!»

Гэта была надзея таго часу — непрацяглага часу нацыянальнага адраджэння. А ўвогуле духоўную падтрымку ў гэтых адносінах знаходзіў не ў сучаснасці, а больш у мінулым — у дзейнасці лепшых сыноў зямлі нашай. Вось адзін запіс 1991 г. Сачанка ўзгадвае, як, працуючы ў «Полымі» і рыхтуючы да выдання рукапісныя творы М. Гарэцкага, прачытаў на адной старонцы своеасаблівае яго лірычнае адступленне, якое моцна ўразіла. Перадае яго змест: «М. Гарэцкі звяртаўся да Усявышняга, Валадара нашага: «Божа, навошта даў ты мне гэтую беларускую мову? За яе мяне пераследавалі палякі, немцы, садзілі ў турму бальшавікі. Усё маё жыццё — суцэльная пакута. І праз што — мову, якую ты даў мне быццам на радасць, каб я размаўляў на ёй і славіў цябе».

І, нягледзячы ні на што, М. Гарэцкі не выракся сваёй роднай мовы, гаварыў і пісаў на ёй. Да самага скону, да апошняй хвіліны жыцця…»

Згадвае неаднойчы пісьменнік і выказванні нашага земляка, выдатнейшага польскага паэта Адама Міцкевіча пра беларускую мову («якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай»), на якой «гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана».

Разважаючы пра славутую «Прадмову» Францішка Багушэвіча да яго зборніка вершаў «Дудка беларуская», усхваляваны яе высокім эмацыянальным ладам, палкім патрыятычным запалам («Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек перад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!») — Сачанка і сам пачынае прамаўляць у стылі паэты-патрыёта: «Дык давайце ж, братцы мілыя, не забываць яго слоў — заклiку і запавету, помніць іх, а заадно і яго самога, усіх тых, хто першы пракрычаў на ўвесь свет — ёсць такая «зямліца — *Беларусь*, ёсць такі народ — *беларускі*, ёсць такая мова — *беларуская*».

І ўсёй сваёй творчасцю ён сцвярджаў, што пра жыццё беларускае, гісторыю роднага краю, пра зямлю беларускую і прыроду беларускую, пра людзей зямлі гэтай трэба пісаць па-беларуску. Бо само агромністае жыццё тутэйшае думае і гаворыць на гэтай мове, гучыць гэтай, беларускай мовай. А пісаў Барыс Сачанка практычна ўсё пра жыццё наша, беларускае. Больш таго, пры жыццё сваё, асабістае — паляшуцкае. Тое жыццё, у якім ён на свет нарадзіўся, у якім жыў, рос, выхоўваўся, з якім не парываў глыбокай асабістай сувязі да апошніх дзён: «пісаў пра тое, што балела, што перажыў». У гэтым сэнсе творчасць яго — гэта творчасць сына зямлі беларускай: па жыццёвым матэрыяле, па яе ідэйнай накіраванасці, праблематыцы, вобразнай сістэме, па яе духоўна-эмацыянальнай напоўненасці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# МАСТЫ ПАБРАЦІМСТВА: БЕЛАРУСЬ І КАЗАХСТАН

Гісторыя беларуска-казахстанскіх гістарычных, культурных і літаратурных сувязей мае даўнія вытокі. У дакастрычніцкі перыяд, да 1917 года, яны насілі хутчэй эпізадычны характар, звязаны з жыццём і дзейнасцю пэўных асоб. Сярод рэдкіх фактаў знаходжання ў Казахстане беларусаў ці ўраджэнцаў Беларусі нельга абысці ўвагай канкрэтныя імёны ўдзельнікаў паўстання 1830—1831 гг. і паўстання 1863—1864 гг. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, якія былі высланы далей ад роднай старонкі.

У Сібір у 1832 г. трапіў адзін з кіраўнікоў легіёна Літвы, Валыні, Падоліі і Украіны Адольф Міхал Валяр'ян Юліян Янушкевіч, які нарадзіўся ў 1803 годзе ў Нясвіжы. У 1830-я гг. ён падарожнічаў па Сібіры, Казахстане, Кыргызстане. Пасля смерці падарожніка (памёр А. Янушкевіч у 1857 г.) яго брат Яўстафій сабраў, а Ф. Уратноўскі выдаў пад назвай «Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў» (кн. 1—2, Парыж, 1861) падарожныя нататкі нашага суайчынніка. У 1966 годзе перавыдадзены на рускай мове ў Алма-Аце пад назвай «Дневники и письма из путешествий по казахским степям».

У сваіх нататках А. Янушкевіч расказаў пра быт, матэрыяльную і духоўную культуру казахаў, выявіў сябе як публіцыст, чуйны да тэмы прыгнёту казахаў з боку расійскага самадзяржаўя.

Другое не менш цікавае імя, чыя творчая спадчына мае самае непасрэднае дачыненне да Казахстана, — беларускі і польскі мастак, пісьменнік Браніслаў Залескі (1820—1880), які нарадзіўся ў Слуцкім павеце (цяпер — г. п. Чырвоная Слабада Салігорскага раёна). У 1847 годзе ён быў сасланы ў Арэнбург, затым у Хіву, Туркестан. Разам з Тарасам Шаўчэнкам удзельнічаў як мастак у экспедыцыях па Аральскім краі і ў горы Каратау. У 1865 годзе выпусціў ілюстраванае выданне (22 афорты) «Жыццё кіргізскіх стэпаў», якое доўгі час лічылася адметнай крыніцай па вывучэнні матэрыяльнай і духоўнай культуры насельнікаў Казахстана.

У 1886—1888 гг. адбываў трохгадовае пакаранне высылкай у Акмолінскім павеце член арганізацыі «Чорны перадзел», а ў пазнейшы час — актывіст Мінскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі РСДРП (б) П. Румянцаў, у доме якога, як вядома, адбыўся І з'езд партыі.

У 1901 годзе ў Сяміпалацінску вёў рэвалюцыйную прпагандысцкую дзейнасць высланы туды прадстаўнік Мінскай гарадской сацыял-дэмакратычнай арганізацыі С. Міляўскі. А яшчэ ж былі і перасяленцы сярод тысяч сялянскіх сем'яў, якія ехалі ў Казахстан у пошуках лепшай долі ў пачатку ХХ стагоддзя.

Усе гэтыя факты сведчаць, што Беларусь і Казахстан лёсамі сваіх сыноў і дачок, іх жыццёвымі памкненнямі ўзаемна пранізвалі кантэкст духоўных і матэрыяльных асноў у фарміраванні жыццядзейнасці народаў. Безумоўна, у меншай ступені, калі мець на ўвазе другую палову XIX стагоддзя ці пачатак ХХ, гэта датычыцца духоўнага ўзаемапранікнення. Прычын на тое шмат. У некаторай ступені яны роднасныя і для Беларусі, і для Казахстана. І першая ў іх шэрагу — адсутнасць высокай нацыянальнай самасвядомасці, не вельмі акрэсленае нацыянальнае быццё. Але для гісторыі дарагія і тыя нямногія факты, пра якія мы згадвалі. Дарэчы, нельга абысці ўвагай і наступны штрышок. Старшынёю пер-

шага ўрада Казахстана з’яўляўся наш суродзіч — В. А. Радус-Зяньковіч, якога ў Беларусі ведаюць болей як прапагандыста і публіцыста ленінскай школы. Праўда, нарадзіўся Радус-Зяньковіч у Казахстане, у сям’і высланага з Беларусі ўдзельніка паўстання 1863—1864 гг., ураджэнца Мсціслаўскага павета Мінскай губерні.

Пачаткам жа фарміравання ўстойлівых беларуска-казахстанскіх культурных стасункаў можна лічыць хіба што паслякастрычніцкія гады, і ў большай ступені — 1930-я… Па-першае, істотна пашырыліся крыніцы, з дапамогай якіх і ў далёкім Казахстане магчыма было атрымаць інфармацыю пра жыццё ў Беларусі, пра літаратуру, мастацтва, культуру Беларусі. Тагачасны ўсесаюзны, цэнтральны, друк асвятляў шматгранныя праявы культурнага будаўніцтва. І асабліва, па зразумелых прычынах, усе імкнуліся распавесці пра поспехі на ўскраінах былой Расійскай імперыі. Выходзілі ў эфір і перадачы Усесаюзнага радыё, якое прапагандавала культурныя дасягненні шматнацыянальнай краіны. Па-другое, развіццю стасункаў спрыялі асабістыя кантакты дзеячаў культуры, літаратуры. Так заўсёды складваецца ў міжнацыянальных стасунках, што, пашырэнне прасторы сувязей адбываецца са з’яўленнем яркай, ініцыятыўнай асобы. Народ называе такіх людзей паўнамоцнымі прадстаўнікамі нацыянальнай культуры ці літаратуры.

Напрыклад, уваходжанне казахскай літаратуры ў Беларусь, на мой погляд, пачалося са знаёмства з творчасцю народнага акына Джамбула Джабаева. Яму прысвяцілі свае вершы Янка Купала і Якуб Колас.

Джамбул, песнятворац, казахскі акын,
Народа казахскага сонечны сын,
Спявай, казахстанскіх стэпоў салавей,
Чаруючых песень і дум чарадзей.

Джамбуле, баяне савецкіх часін,
Калі песню кінеш з казахскіх далін,
Ляціць гэта песня па нашай зямлі
І водгук знаходзіць у самым Крамлі.

Джамбуле, баяне, хоць стар на гады,
А сэрцам, а песняй заўжды малады,
На сталінскіх крылах ляціць песня ў свет,
А сонца да шчасця цярэбіць ёй след, —

пісаў у 1938 годзе народны паэт Беларусі Янка Купала. Што цікава, упершыню твор, прысвечаны 75-годдзю творчай дзейнасці казахскага акына Джамбула Джабаева (1846 — 1945), быў надрукаваны на рускай мове ў «Литературной газете» 20 мая 1938 г., а ў «Літаратуры і мастацтве» — 22 мая.

Існуе тры пераклады верша-прысвячэння на казахскую мову. Аўтары перакладаў — Б. Іскакаў, Б. Нурпеісаў, Г. Урманаў.

У тым жа нумары, за 22 мая 1938 г., газета «Літаратура і мастацтва» друкуе яшчэ адно прысвячэнне — верш Якуба Коласа «Джамбулу»:

Ад снежных вяршалін Каўказа, Паміра,
Як гордасць шчаслівых аулаў,
Грыміць мнагаструнная звонкая ліра,
Сімфонія песень Джамбула.

Дзівосныя песні яго — зараніцы,
Што ззяюць у яснай лазуры,
Што сыплюць вясёлкі, святло бліскавіцы,
Сатканыя з сонца і буры.

У іх дыша свежасць, юначая сіла,
І мудрасць у іх Казахстана,
Імклівасць патокаў, арліныя крылы
Чаруючых думак баяна.

Творы Джамбула з’явіліся на беларускай мове ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» ў чацвёртым нумары за 1938 год. А ў 1939 годзе ў Мінску выйшла асобная кніга казахскага акына «Песні і паэмы». Пераклад ажыццявілі А. Жаўрук і А. Зарыцкі. Але юбілею Джамбула яшчэ папярэднічала адна важная падзея ў гісторыі ўвогуле шматнацыянальнай савецкай літаратуры. І яна самым непасрэдным чынам мае дачыненне да развіцця стасункаў паміж літаратурамі Беларусі і Казахстана.

Размова пра трэці (паэтычны) пленум Саюза савецкіх пісьменнікаў, які праходзіў у Мінску 10—16 лютага 1936 года. Да разгляду на пленуме былі названы тры пытанні: стан беларускай і башкірскай літаратур і праблемы сучаснай савецкай паэзіі. Прыехалі ж у Мінск прадстаўнікі літаральна ўсіх рэспублік Савецкага Саюза. Казахстан прыслаў у Беларусь паэта Ільяса Джансугурава (1894—1938), першага старшыню Саюза пісьменнікаў Казахстана (1934—1936).

Выступаючы на пленуме, казахскі пісьменнік прачытаў верш «Прывітанне Беларусі». Акрамя Джунсугурава, у пленуме ўдзельнічалі казахскія паэты Майлін, К. Куанышаў і інш. Ільяс Джансугураў, які, нягледзячы на кароткае жыццё, паспеў паспрабаваць сябе ў самых розных жанрах, быў уважлівы і да перакладчыцкай работы.

Перастварыўшы на казахскую мову творы А. Пушкіна (у тым ліку і раман у вершах «Яўгеній Анегін»), М. Някрасава, М. Лермантава, У. Маякоўскага, М. Горкага, Дз. Беднага, У. Раждзественскага, Г. Гейнэ, В. Гюго, Ільяс Джансугураў спрычыніўся і да паэзіі Я. Купалы. Гэта адны з першых перакладаў класіка беларускай літаратуры на казахскую мову. Тады, у сярэдзіне 1930-х гадоў, поруч з вершамі Купалы «А хто там ідзе?», «Сонцу», «Сосны» былі надрукаваны і пераклады з паэзіі Я. Коласа — у прыватнасці, верш «Учора і сёння». Акрамя Джансугурава на ніве перакладаў паэзіі класікаў беларускай літаратуры папрацавалі Ж. Сыздыкаў, К. Жармагамбетаў, С. Сяітаў. Што цікава, у казахскай паэзіі пачынаюць з’яўляцца творы, напісаныя пад уплывам купалаўскай паэзіі. А гэта — «Дзядзька ў самалёце» Ж. Сыздыкава, «Пяць сыноў» С. Машакава і інш.

Хаця нельга не зазначыць, што сапраўднае ўваходжанне Купалы, яго народнай паэзіі ў кантэкст казахскага мастацкага слова адбылося ўсё ж такі крыху пазней. У 1955 годзе ў перакладзе К. Тагузакава друкуецца верш «Алеся». У наступныя гады ў казахстанскай перыёдыцы выходзяць творы Янкі Купалы «Мой край», «Мая навука», «Заўсёды наперад» і інш. Прыкметнай з’явай у літаратурным жыцці становіцца выданне зборніка Янкі Купалы «Выбранае» (Алма-Ата, 1982), куды ўвайшло болей як 90 вершаў класіка беларускай паэзіі.

У гэтым жа годзе выйшла ў Алма-Аце і кніга вершаў Якуба Коласа «Выбранае». А яшчэ раней — у 1956 годзе — на казахскай мове з’явіліся кнігі Я. Коласа «Вершы» і «Дрыгва» (пад назвай «Дзед Талаш»). Усяго на казахскай мове пабачылі свет болей як 20 кніг. На сваёй роднай мове казахі маюць магчымасць прачытаць раман І. Шамякіна «Глыбокая плынь» (выдадзены ў Алма-Аце ў 1954), зборнік апавяданняў Т. Хадкевіча «За сінім лесам» (1956), раманы І. Мележа «Людзі на балоце» (1976) і «Подых навальніцы» (1980), аповесці Я. Маўра «Палескія рабінзоны» (1980), В. Быкава «Альпійская балада» (1982), А. Адамовіча «Хатынская аповесць» (1982) і інш. А колькі імёнаў беларускіх паэтаў і празаікаў прадстаўлена ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы Казахстана!.. Нельга не згадаць публікацыі вершаў, апавяданняў П. Броўкі, А. Куляшова, Я. Брыля, М. Танка, У. Корбана, В. Хомчанкі, Е. Лось, М. Чарняўскага і інш.

У 1972 годзе ў палепшаным паліграфічным афармленні пабачыў свет у Алма-Аце зборнік вершаў народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Дарэчы, упершыню яго паэзія загучала па-казахску ў 1942 годзе — са старонак калектыўнага зборніка «Песня дружбы». З таго часу былі і іншыя публікацыі ў перыёдыцы. А вось кніга «Выбранае» выйшла толькі ў 1972 г. Перакладчык — вядомы казахскі літаратар Х. Бекхожын (1913—1980). У невялічкай прадмове да кнігі ён дае высокую ацэнку творчасці беларускага майстра слова, прыгадвае сваю першую сустрэчу з

Максімам Танкам, «тады яшчэ маладым», у 1940 годзе ў Элісце на святкаванні 500-годдзя калмыцкага народнага эпаса «Джангар».

Дазволю сабе зрабіць кароткае адступленне. Мо з часам перакладчыцкія сувязі паміж беларускай і казахскай літаратурамі выйдуць на такі ўзровень, што прадметам увагі стане клопат пра гучанне «Джангара» па-беларуску? А чаму б і не?.. Такая праца ўзбагаціць і беларускае прыгожае пісьменства. Тым болей, што традыцыі перакладаў твораў буйных форм у Беларусі працягваюцца. Як прыклад — перакладчыцкая дзейнасць Уладзіміра Скарынкіна, які асіліў перастварэнне «Боскай камедыі» Дантэ. А ў Беларусі да перакладу Абая падступаўся лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь паэт Мікола Мятліцкі. Ягоныя пераклады надрукаваны ў часопісе «Полымя» і выйшлі кнігай «Стэпавы прастор».

Шкада, што так і не з'явілася ў Казахстане кнігі перакладаў з паэзіі Максіма Багдановіча. Аўтар неўміручага «Вянка» прадстаўлены на мове Абая ўсяго толькі адным вершам (у перакладзе Т. Журтбаева) — у газеце «Казах адебиети». Будзем спадзявацца, што ўсё яшчэ наперадзе.

Вельмі шмат для прапаганды беларускай літаратуры зрабіў у Казахстане Сагінгалі Сяітаў, аўтар многіх артыкулаў пра творчасць беларускіх пісьменнікаў.

Гаворачы пра літаратурныя стасункі, нельга абысці ўвагай і такую тэму. У 1930—1950-я гг. у Казахстане ў высылцы і ўстановах ГУЛАГа знаходзіўся шэраг беларускіх паэтаў і празаікаў. Ці атаясамляюцца іх побыт, няпростыя ўмовы жыцця, пэўны маральны і фізічны гнёт, які кіраваў імі, з тэмай культурных узаемасувязей?.. Не спяшайцеся адказваць адназначна на гэтае пытанне. Не ўсе яшчэ прыватныя і дзяржаўныя архівы вывучаны як след дзеля гэтага. Відавочна адно: пісьменнікі, у якой бы ролі яны ні знаходзіліся, заставаліся творчымі асобамі. Нешта ўбіралі ў сябе, у сваё творчае мышленне, нешта пакідалі той старонцы, той прасторы, у якой існавалі.

Легендарны беларускі празаік Андрэй Мрый (1893—1943), аўтар сатырычнага рамана «Запіскі Самсона Самасуя», упершыню быў рэпрэсіраваны ў 1934 г. Пакаранне адбываў у Карагандзе. Вядома, што ў высылцы пісаў. У час паўторнага арышту ўжо ў Мурманску ў 1940 г. у літаратара быў канфіскаваны рукапіс рамана «Жывы дом».

У 1933 г. рэпрэсіраваны і высланы на тры гады на поўдзень Казахстана ў Сарыагачскі раён паэт і перакладчык Сцяпан Ліхадзіеўскі (1911—1979). Член СП СССР з 1948 г., доктар філалагічных навук, да высылкі ён паспеў выдаць у Беларусі чатыры кнігі вершаў.

Дарэчы, у тым жа Сарыагачы (Чымкенцкая вобласць) у 1933—1935 гг. настаўнічаў рэпрэсіраваны беларускі паэт Клім Грыневіч (1912—1941).

Пасля другога арышту ў 1949 г. зняволенне ў Казахстане адбываў беларускі крытык і літаратуразнаўца Рыгор Бярозкін (1918—1981).

У 1931 г. быў беспадстаўна рэпрэсіраваны празаік Сымон Хурсік (1902—1972). Спярша знаходзіўся ў высылцы ў Марыйскай і Чувашскай АССР, затым — у Казахстане. Пасля вайны настаўнічаў, жыў у пасёлку Айдабул Какчэтаўскай вобласці, з 1964 — у Карагандзе. У маім прыватным архіве захоўваецца ў рукапісе адно з яго апавяданняў, напісаных у пасляваенны час ужо ў Казахстане.

Нельга не ўзгадаць лагерны лёс і паэта, празаіка, перакладчыка Пятра Бітэля (1912—1991). У 1950 годзе яго як праваслаўнага святара і былога афіцэра польскай арміі арыштавалі і асудзілі на 10 гадоў зняволення. Сярод іншых адрасоў, дзе ён адбываў пакаранне, — Джэзказган у Казахстане. У самых няпростых умовах шліфаваў літаратар свой пераклад паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У Джэзказган зняволенаму П. Бітэлю (зняволенаму, які працаваў на рудніку па здабычы меднай руды!) і прынесла пошта так патрэбны паэту польска-беларускі слоўнік. А выслаў кнігу ў дапамогу творцу Максім Танк.

У многім развіццю міжлітаратурных стасункаў спрыяюць асабістыя, кантакты. У гісторыі казахскага і беларускага народаў такім мостам, часавым адрэзкам,

якія ў няпростых умовах спрыяў паяднанню, з'яўляецца Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гг. З самым яе пачаткам з Беларусі, ахопленай полымем, эвакуіраваліся людзі, заводы, навуковыя і культурныя ўстановы. Казахстан стаў месцам базіравання многіх тылавых шпіталяў, дзе далечваліся цяжкапараненыя савецкія воіны. Тут знайшлі прытулак і работу болей як 10 тысяч рабочых і служачых, эвакуіраваных з Беларусі, члены іх сем'яў. Тут апынуліся і калектывы Беларускага тэатра оперы і балета, Віцебскага абласнога драматычнага тэатра імя Я. Коласа, шмат хто з беларускіх кінематаграфістаў. Толькі за перыяд з 4 сакавіка па 1 красавіка 1942 года «коласаўцы» далі 8 шэфскіх канцэртаў, 12 шэфскіх спектакляў і 21 канцэрт у вайсковых шпіталях.

У эвакуацыі ў Алма-Аце знаходзілася і спявачка Беларускага тэатра оперы і балета Ларыса Александроўская. Яна выступала з казахскай спявачкай Куляш Байсентавай у рабочых клубах Алма-Аты і Караганды, у вайсковых шпіталях, выязджала ў прыфрантавую паласу.

На Алма-Ацінскай кінастудыі беларускі кінарэжысёр У. Корш-Саблін у 1942 годзе стварыў першыя беларускія фільмы перыяду Вялікай Айчыннай вайны — цыкл «Беларускія навелы». Першая з кінанавел — «Пчолка» — прысвечана барацьбе народных мсціўцаў на акупіраванай беларускай зямлі. Другая — «Баявыя таварышы» — пра тое, як змагаецца з фашыстамі экіпаж танка «Беларусь», пабудаванага на ахвяраванні працаўнікоў тылу.

Праз казахстанскі стэп ехаў у эвакуацыю Якуб Колас.

У казахстанскім горадзе Уральску знайшоў свой апошні прытулак вядомы беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля. Аднолькава дарагая яго магіла і беларусам, і казахам. На надмагільнай пліце — надпіс залатымі літарамі: «Змітрок Бядуля. 1886—1941». Пасля — на рускай, казахскай і беларускай мовах: «Вядомы беларускі пісьменнік Самуіл Яфімавіч Плаўнік».

А другі фрагмент, прыўнесены ў казахстанска-беларускія зносіны вайной, — удзел казахаў, казахскіх пісьменнікаў у вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На заходняй граніцы Беларусі на пасадзе намесніка камандзіра батарэі 28-га гаўбічнага артпалка 28-й танкавай дывізіі сустрэў 22 чэрвеня 1941 года казахскі паэт Джубан Мулдагаліеў (1920—1988). Дывізіяй, дарэчы, на той час камандаваў І. Чарняхоўскі. Потым літаратар служыў у газеце Паўночна-Заходняга фронту «За Родину». Пасля арганізацыі 2-га Беларускага фронту яго накіроўваюць у рэдакцыю франтавой газеты «Фронтовая правда», з калектывам якой ваенны карэспандэнт і прайшоў праз Беларусь. У рэдакцыі «Фронтовой правды» служыў і другі казахскі паэт — Сагінгалі Сяітаў (нар. у 1917). Адзін з яго вершаў — «Маё імя», напісаны на «беларускім матэрыяле», пераклаў на мову Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша:

Не моўк тры дні артылерыйскі хор.
К зямлі агнём прыпаяна пяхота.
Нарэшце уляцела, як віхор,
У беларускі горад наша рота.

Мы з боем адбівалі кожны дом,
Гула наўкол атака штыкавая.
І тут з руін, знявечаных суздром,
Да нас дзяўчына выбегла сівая.

Ад радасці заплакала наўзрыд
І раптам чайкай мне на грудзі ўпала.
О колькі болю і пякучых крыўд
У выцвілых вачах яе палала!

Свяціўся кос яе бялявы шоўк,
Іскрылася на твары слёз шрапнеля.
— О родны мой!

Нарэшце ты прыйшоў! —
Шаптала мне, прыпаўшы да шынеля.

Скрозь грукат бою, перасыкі куль
Яна казала, тулячы салдата:
— Хоць я не знаю, хто ты і адкуль,—
Ты брат мне сёння
Й застанешся братам.

Не выпадковымі сталі беларускія матывы і для казахскага празаіка А. Шарыпава, які партызаніў на Магілёўшчыне. Пра Беларусь-партызанку ён расказаў у аповесцях «Агні ў лесе» і «Дачка партызана», якія прыйшлі да казахстанскага чытача ў другой палове 1960-х гг.

…У 1950-я гг. да тэмы Казахстана звярнуліся ў сваёй творчасці літаральна дзясяткі беларускіх літаратараў. З пачаткам цаліннай эпапеі многія пісьменнікі, публіцысты лічылі сваім грамадзянскім абавязкам пабываць у Казахстане. Са старонак часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», іншых перыядычных выданняў яшчэ зусім да нядаўняга часу на чытача абрушваўся шквал «казахстанскіх блакнотаў», «цалінных дзённікаў» і інш. Хаця наўрад ці варта іранізаваць над гэтым магутным пластом пісьменніцкай і журналісцкай публіцыстыкі. Кожная са старонак — гэта яшчэ і распovед пра казахстанскія сустрэчы з беларусамі, пра характар іх жыцця ў далёкім краі. Расповед, між іншым, і з разлікам на заўтрашнюю патрэбу ў такой памяці.

Сярод іншых дарожных занатовак вылучаецца дакументальнае апавяданне Сяргея Грахоўскага «Любоў не праходзіць». Вядомы беларускі літаратар разам з Алесем Савіцкім і Язэпам Семяжонам прымаў удзел ва ўрачыстым з’ездзе пісьменнікаў Казахстана з нагоды 125-годдзя класіка казахскай літаратуры, выдатнага асветніка, філосафа, паэта і кампазітара Абая Кунанбаева.

У гады супольнага жыцця ў межах Савецкага Саюза Казахстан так ці іначай быў прытулкам для многіх беларускіх літаратараў. У кагосьці тут пачыналася працоўная біяграфія. Нехта рабіў першыя крокі ў літаратуры менавіта ў Казахстане. Як прыклад — жыццёвая і творчая біяграфія рускага паэта і празаіка Юрыя Фатнева, які ўжо ці не паўвека жыве ў Гомелі. Ды і дзяцінства яго праходзіла ў Беларусі. А вось першыя тры вершаваныя кнігі выдаў у Алма-Аце: «Любимое» (1962), «Общий вагон» (1964), «Глаза не умеют молчать» (1966). У Казахстане Юрый Сяргеевіч жыў і працаваў з 1956 па 1965 гг.

Вось што напіша ў аўтабіяграфіі паэт ужо ў 2008 годзе: «Снежаньскай ноччу 1962 года ў Каменнай цясніне — гэта ў Нябесных гарах за Алма-Атой — ірванулася на ланцугу, радасна завішчала Майка: да вартоўні набліжаўся хтосьці свой. Закракталі наскрозь прамарожаныя дзверы. У вартоўню разам з марознымі клубамі ўваліўся бацька, цягнучы па падлозе заснежаны мяшок. Дванаццаць кіламетраў у цясніну даводзілася дабірацца пешкі. Але бацька гэтым разам не выглядаў стомленым. Хутчэй — чымсьці ўсхваляваны. Нейкую таямніцу ўтойваў да пары. Кінуўшы на пусты вулей рукавіцы, узяўся развязваць мяшок. Я загадзя ведаў яго змесціва: хлеб, абавязкова — «Литературная Россия», можа, кнігі. Нядаўна бацька прывёз трохтомнік К. Паўстоўскага. Што будзе гэтым разам?

Пасля многіх гадоў, праведзеных у бальніцах, я пагадзіўся замяніць бацьку на саўгасным пчальніку ў якасці вартаўніка. Ён з’язджаў да мачахі ў Алма-Ату. А я заставаўся ў гарах адзін. Самае блізкае сяло Тургень знаходзілася ў дванаццаці кіламетрах. Калі заканчвалася ў лямпе газа, я ляпіў свечкі, нагрэўшы вашчыну ў пячурцы. У вартоўні станавілася цёпла. Са шчыліны каля пячуркі выпаўзаў цвыркун. Цвыркаў. І больш ні гуку. Зрэдку, раз у некалькі месяцаў, праскача лясны аб’ездчык ды завернуць пагрэцца чачэны, зірнуць на стрэльбу на сцяне, да якой у мяне было ўсяго два патроны. Спытаюць, дзе бацька. І зноў бязлюддзе вакол. Раз у тыдзень наведваў мяне бацька.

Нарэшце ён развязаў мяшок. Дастаў з яго бандэроль. Кнігі! І прадаўгаваты карычневы канверт са штэмпелем «Пошта касманаўтаў СССР». З яго выслізнула фатаграфія Юрыя Гагарына. Я паслініў краёк подпісу. Сапраўдны. Зроблены рукой першага касманаўта! У бандэролі былі вершы Роберта Бёрнса, санеты Шэкспіра і ліст С. Я. Маршака. Іскрынку маёй здольнасці яны разглядзелі ў Нябесных гарах — кожны са сваёй вышыні. Чый прыход у літаратуру віталі так?

Цяжка хворы Самуіл Якаўлевіч прасіў мае лісты і вершы дастаўляць яму ў бальніцу. Зараз мы ведаем, што сваю падтрымку ён аказваў і іншаму пачынаючаму паэту — Іосіфу Бродскаму».

У 1945—1948 гг. карэспандэнтам цэнтральнай газеты «Гудок» у Казахстане працуе наш зямляк — ураджэнец Оршы Яўген Васілёнак (1917—1973).

У 1948-м ён вернецца на працу ў Беларусь. І першыя кнігі прозы і публіцыстыкі Я. Васілёнка пабачаць свет ужо ў Мінску.

У 1945—1950 гг. у Кустанайскім педінстытуце выкладчыкам рускай мовы і літаратуры працуе доктар філалагічных навук Фёдар Куляшоў, аўтар многіх кніг, прысвечаных рускай і беларускай літаратурам.

У 1960-я гг. працаваў на будаўніцтве Карагандзінскага металургічнага камбіната (г. Цемір-Тау) беларускі і рускі празаік Алег Ждан (нар. у 1938 г.), аўтар многіх кніг аповесцей і апавяданняў, выдадзеных у Мінску і Маскве.

Свае казахстанскія сюжэты — і ў рускага празаіка Сяргея Зайцава (нар. у 1954 г.), які зараз жыве і працуе ў Мінску, а пачынаў сваю працоўную біяграфію пасля заканчэння Карагандзінскага медыцынскага інстытута ўрачом-педыятрам у Акцябрскай раённай бальніцы Тургайскай вобласці.

У 1959 годзе пабачыла свет першая кніга вершаў Рыгора Барадуліна «Маладзік над стэпам». Сама назва шматсэнсоўна расказвае пра змест. Так, вершы свае будучы народны паэт Беларусі прывёз з цаліннага студэнцкага лета. А зусім нядаўна — у 2010 годзе — часопіс «Полымя» надрукаваў раман Алеся Рыбака «На раздарожжы». Асобныя яго старонкі — пра філфакаўцаў БДУ 1950-х гг., якія выправіліся на лета на ўборку цаліннага ўраджаю.

У розныя гады ў Казахстане гасцявалі вядомыя беларускія пісьменнікі Уладзімір Гніламёдаў, Генрых Далідовіч, Валянцін Лукша і інш. Валянцін Антонавіч Лукша свае ўражанні ад сустрэчы з радзімай Абая перадаў у вершы «Алма-Ацінскі апорт»:

Заледзянелы ранак,
Як медзя,
Ў цясніны насцярожаныя схлынуў…
Я пакідаў, узрушаны,
Медэа.
З катка, —
Бы з казкі, —
Ў цёплую даліну.

Трындзеў дружбак пра джусы і кагорты,
Якімі можна вечна ганарыцца…
Ды раптам ветлым,
Сонечным апортам
Дыхнула ў твар
Казахская сталіца.

Ні з чым такі адметны пах не зблытаць,
Ні з чым яго няможна параўнаць…
Плыве паток апортны гулкай ніткай,
Ружовай і духмянай —
Не суняць.

Сярод іншых падзей беларуска-казахстанскай дружбы на ніве літаратуры можна ўзгадаць Дні літаратуры народаў СССР, якія прайшлі ў Беларусі (1972) і ў

Казахстане (1974), і Дні беларускай літаратуры ў Казахстане (1974). Шкада, што падобныя мерапрыемствы даўно перасталі праводзіцца. А некалі ж былі добрай традыцыяй, што і спрыяла развіццю міжлітаратурных сувязей.

Шырокі пералік фактаў, а часам і самых сур'ёзных мастацкіх з'яў уяўляюць сабою беларуска-казахстанскія тэатральныя сувязі. Казахстанскаму гледачу ( а не выклікае ніякіх сумненняў, што быў у агульнай, няхай сабе і звышінтэрнацыяналізаванай, масе і казахстанскі нацыянальны глядач са сваімі традыцыямі, сваім густам, са сваім тэатральным светабачаннем) пашчасціла на сустрэчы са спектаклямі па п'есах К. Крапівы, А. Макаёнка, А. Маўзона, А. Дударава, М. Матукоўскага, А. Дзялендзіка.

Увогуле п'есы згаданых аўтараў ішлі ў большасці тэатраў былога СССР. Лічылася ці не правілам добрага рэжысёрскага густу звяртаць увагу на творы менавіта гэтых аўтараў. Праўда, правілы спрацоўвалі хутчэй для сцэны абласных тэатраў. І адпаведна ўвага да п'ес была з боку правінцыйных крытыкаў. Тэатральныя рэцэнзіі змяшчаліся ў асноўным у абласных газетах. Гэта ў сваю чаргу не дазваляе назваць кантакты Беларусі і Казахстана ў галіне тэатра дастаткова шырокімі.

Болей шматаблічным (і болей масавым па ўнутраным сваім характары) прадстаўленнем беларускай культуры ў Казахстане з'яўляюцца міжнацыянальныя музычныя кантакты, ці дакладней — паездкі эстрадных песенных і музычных калектываў Беларусі ў Алматы, Джэзказган, Караганду, Кустанай і іншыя гарады цаліннага краю.

Праўда, традыцыйна гастролі вядучых вакальна-інструментальных ансамбляў «Сябры, «Верасы», «Песняры», другіх калектываў праходзілі ў прамысловых раёнах, дзе, па вядомых прычынах, пражывае меншы працэнт карэннага насельніцтва.

Казахстан асабліва набліжаны да рэалій успрыняцця беларускай культуры яшчэ і таму, што даволі вялікае месца ў шматнацыянальным укладзе жыцця гэтай краіны займаюць беларусы. Па апошніх дадзеных у Казахстане пражывае каля 200 тысяч беларусаў, што складае каля 1 працэнта насельніцтва краіны ўвогуле. З пачаткам стварэння незалежнай і суверэннай дзяржавы ў Казахстане болей актыўна пачало праяўляцца і нацыянальна-культурнае жыццё беларусаў.

У Алматы быў створаны культурны цэнтр «Беларусь», які ўзначаліў рэктар архітэктурна-будаўнічага інстытута прафесар Павел Атрушкевіч. На чале з прэзідэнтам Яўгенам Івановым была створана асацыяцыя выпускнікоў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Казахстане. Дзейнічае і Аб'яднанне беларусаў Казахстана. Некаторы час у Прыазёрску (Джэзказганская вобл.) актыўна працаваў мясцовы савет ТБМ імя Ф. Скарыны. Пры савеце была наладжана работа нядзельнай беларускай школы. Выдавалася невялікім накладам газета «Рокаш». Усяго пабачылі свет пятнаццаць нумароў.

У Прыазёрску быў выдадзены зборнік вершаў беларускага паэта і публіцыста Станіслава Судніка «Паход за мову». Беларусы Казахстана святкуюць юбілеі беларускіх дзеячаў, найболей значныя падзеі ў лёсе Беларусі, народныя святы Каляды, Вялікдзень, Купалле. Развіваюцца і стасункі на ўзроўні народнай дыпламатыі. Як прыклад — сяброўства і абмен дэлегацыямі паміж пасёлкам Мар'іна Горка з Казахстана і Пухавіцкім раёнам Мінскай вобласці, дзе райцэнтрам з'яўляецца горад Мар'іна Горка. Дарэчы, паселішча, заснаванае на пачатку XX стагоддзя, назву Мар'іна Горка займела дзякуючы новым жыхарам — выхадцам з Беларусі.

Гэты працэс, як і шэраг іншых, падобных па значнасці фактаў, падказвае яшчэ адзін шлях да будучага даследчыцкага асэнсавання: якой з'яўляецца ментальнасць нашых суайчыннікаў ва ўспрыняцці іншанацыянальнага атачэння? Аднак адказ на гэта пытанне патрабуе часу. Як, дарэчы, патрабуе асаблівай увагі і само пражыванне нашых землякоў у бліжнім замежжы. Відаць, яшчэ і таму, што дарога беларускай культуры ў казахстанскі свет будзе ў будучым пракладвацца ў першую чаргу нашымі землякамі. У гэтым пераконваюць і сучасныя межы, ды і

іншыя сённяшнія абставіны грамадска-палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага характару.

Да праблематыкі беларуска-казахстанскіх зносін праяўляюць цікавасць казахстанскія навукоўцы і зараз. Як прыклад — неаднаразовыя наведванні Беларусі кандыдатам філалагічных навук, загадчыкам аддзела міжнародных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Ауэзава Святланы Ананьевай. Яна друкуецца ў беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыцы, прыцягвае беларускіх даследчыкаў да супрацоўніцтва з казахстанскім друкам (у апошнія гады з'явіўся шэраг публікацый беларускіх аўтараў у часопісах «Керуен», «Простор»).

Дарэчы, пра руплівасць Святланы Віктараўны Ананьевай хацелася б сказаць асобна. Вось што, у прыватнасці, піша яна ў адным са сваіх артыкулаў: «Вялікую ўвагу надзяляе культурным сувязям паміж іншымі народамі пасольства Рэспублікі Казахстан у Беларусі, якое правяло ў Мінску прэзентацыю Дзяржаўнай праграмы «культурная спадчына», выдала кнігу пра казахстанцаў, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, арганізавала літаратурна-музычныя вечарыны, прысвечаныя вялікаму Абаю. Тэатральныя і музычныя калектывы Казахстана пастаянна ўдзельнічаюць у штогадовым кінафестывалі «Лістапад», міжнародным фестывалі «Славянскі базар», у III міжнародным фестывалі тэатральнага мастацтва «Панарама». Два гады запар па ініцыятыве Пасольства Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь пры ўдзеле Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва, Саюза пісьменнікаў Беларусі і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Беларусі праводзяцца форумы навуковай і творчай інтэлігенцыі, удзельнікі якіх адчуваюць шчырую, непадробную зацікаўленасць нашых народаў адзін да аднаго. 2 кастрычніка 2008 года ў Мінску прайшоў форум пісьменнікаў і культуролагаў «Культурная спадчына ў дыялогу традыцый», мэта якога — адраджэнне традыцый культурнага супрацоўніцтва і ініцыіраванне новага вектара гуманітарнага дыялога паміж брацкімі рэспублікамі. Найболей цікавымі і абмяркоўваемымі праблемамі былі: агульначалавечыя каштоўнасці ў кантэксце ўзаемадзеяння культурных традыцый, культурная прастора сучаснага грамадства, цэнтральнаазіяцкая культурная ідэнтычнасць у духоўнай прасторы сучаснасці, стан і перспектывы казахстанска-беларускіх літаратурных сувязей і г. д…

У лістападзе 2009 года адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Казахстан—Беларусь: вопыт гуманітарнага супрацоўніцтва і захавання міжнацыянальнай стабільнасці». Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь А. Смірноў асабліва падкрэсліў унікальны і вельмі карысны для іншых краін вопыт Казахстана і Беларусі ў дыялогу культур і захаванні міжнацыянальнай стабільнасці…

Дзякуючы старанням С. Ананьевай і ўраджэнкі Беларусі рускай паэтэсы Любові Шашковай (зараз — рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Простор», нарадзілася Любоў Канстанцінаўна ў Светлагорскім раёне) у Казахстане пабачылі свет некалькі «беларускіх» выпускаў часопіса «Простор», дзе ў перакладзе на рускую мову надрукаваны вершы і проза Алеся Бадака, Раісы Баравіковай, Міхася Пазнякова, Леаніда Левановіча і іншых беларускіх пісьменнікаў. А нядаўна на ўрачыстасцях, якія ладзілі пісьменнікі Казахстана ў знак юбілею Саюза пісьменнікаў, а таксама юбілеяў літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў, пабываў старшыня СП Беларусі, вядомы празаік Мікалай Чаргінец. Значыць, уваходжанне беларускай літаратуры, культуры ў Казахстан працягваецца!..

**Андрэй РАКАЎ,**
**доктар эканамічных навук**

# БЕЛАРУСЬ НА СУСВЕТНАЙ ДЭМАГРАФІЧНАЙ КАРЦЕ — УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

## Сусветны соцыум і яго дэмаграфічныя праблемы

Сучасны свет мае так шмат абліччаў, слаёў, як ніколі раней. Ён якасна разнародны, знаходзіцца на розных часавых стадыях развіцця і, разам з тым, як ніколі, узаемазвязаны, пранізаны мільёнамі камунікатыўных, эканамічных, культурных, гандлёвых і іншых матэрыяльных і нематэрыяльных сувязей. Таму ён надзвычай складаны, упарадкаваная прастора пранізваецца хаосам, скрозь які прабіваецца ўпарадкаванасць. Ніколі не дасягала такой вышыні матэрыяльная магутнасць і ніколі не было так блізка да ўсепланетарнага калапсу — вычарпання энергетычных планетарных рэсурсаў, а таксама да экалагічнай катастрофы. Разам з тым дагэтуль чалавецтва не набліжалася так шчыльна да разгадкі таямніц прыроды і сваёй уласнай сутнасці і да выхаду за межы сваёй планеты. Таксама раней яно не было так блізка да кансенсусу розных рэлігій і цывілізацый. Але, разам з тым, раней рэлігіям і цывілізацыям, пасторава і камунікатыўна суседнім, гэтыя блізкасць і суседства не пагражалі аднachасова іх планетарным сутыкненням. Па шматлікіх параметрах чалавецтва ўвайшло ці ўваходзіць у новы восевы час. Ці будзе ён гэткім самым вялікім і духоўным парывам, як першы, або скончыцца апакаліпсісам, пакажа час і мудрасць усіх разнастайных сінгулярных сіл.

Сусветны дэмаграфічны соцыум — ключавы элемент, цела і мозг наасферы (У. Вярнадскі) — адно з самых загадкавых стварэнняў сусвету. У дачыненні да нашай планеты гэта бурны акіян жарсцяў і духоўнай энергіі, разбуральная і крэатыўная сіла якіх здольна заўчасна знішчыць планету, але можа штучна працягнуць жыццё за натуральныя межы ці перанесці наасферу ў іншыя прасторы Сусвету.

Патрэбы соцыуму сведчаць пра неабходнасць вывучэння дэмаграфічных працэсаў і дэмарэальнасці і ў цэнтры, і на перыферыі планетарнай сістэмы не толькі дэмографамі, але і прадстаўнікамі іншых навук. Нельга не адзначыць пашырэнне і паглыбленне такіх даследаванняў у Расіі за кошт геапалітыкі і эканомікі (Л. Рыбакоўскім), эканомікі (В. Кастаковым, Н. Рымашэўскай і інш.), на Украіне — чалавечага капіталу (С. Піражковым і Э. Лібанавай), тэарэтычнай сацыяльнай дэмаграфіі (В. Піскуновым і В. Сцяшэнка), што павышае практычную і тэарэтычную значнасць дэмаграфіі на постсавецкай прасторы.

Вялікае значэнне для прадуктыўна-эўрыстычных ведаў дэмаграфічнай сферы мае прапанаваная расійскім геапалітыкам С. Пераслегіным «дэмаграфічная цывілізацыйная фазавая тэарэма», якая з'яўляецца істотным кампанентам тлумачэння развіцця і змен чалавечых цывілізацый.

## Рэтраспекцыя і прагноз

Чалавецтва ўяўляе сабой адзіную папуляцыю віду homo sapiens. Па ацэнках сучаснай антрапалогіі чалавек выдзеліўся з жывёльнага свету ў выніку працяглай эвалюцыі каля 3,5 млн. гадоў таму, верагодна, у Цэнтральнай Афрыцы (некато-

рыя навукоўцы звязваюць гэта з павышанай радыяцыяй на разломе зямной кары, што паскорыла і павялічыла колькасць мутацый і інтэнсіўнасць натуральнага адбору) і пасля распаўсюдзіўся па ўсіх кантынентах Старога Свету дзвюма хвалямі — з 5—40 тыс. гадоў і 10—12 тыс. гадоў таму, дасягнуўшы Новага Свету і засвоіўшы Паўночную, а пасля і Паўднёвую Амерыку.

Па ацэнках С. Капіцы, калі б чалавек не выдзеліўся з жывёльнага свету, яго колькасць наўрад ці перавышала б у наш час 100 тысяч асобін. За мільён гадоў ніжняга палеаліту, калі пачалося адасабленне чалавека ад прыроды, колькасць продкаў сучасных людзей вырасла толькі на 150 тысяч.

Пасля тэмпы прыросту павялічыліся ў шмат разоў, і да пачатку неаліту людзей стала ўжо да 15 млн. чалавек. Аднак у параўнанні з цяперашняй эпохай тэмпы прыросту былі вельмі нізкімі, падваенне насельніцтва ў час неаліту адбывалася за 7500 гадоў, у І тысячагоддзі да н. э. — за 900, а ў індустрыяльную эпоху, пасля 1950 г. — усяго за 37 гадоў.

Дэмаграфічны рост у розныя перыяды быў нераўнамерным. У І тысячагоддзі н. э. найбольшымі тэмпамі павялічвалася насельніцтва Лацінскай Амерыкі, Афрыкі і Расіі, калі колькасць людзей Заходняй Еўропы пасля распаду Рымскай імперыі рэзка скарацілася, а ў Паўночнай Амерыцы ў дакалумбаву эпоху амаль не назіралася прыросту. Больш за дзве трэці насельніцтва свету было сканцэнтравана ў Зарубежнай Азіі.

У наступнае паўтысячагоддзе лідарам стала Еўропа (разам з Расіяй), а тэмпы росту ў Азіі і Афрыцы адчувальна запаволіліся. У Лацінскай Амерыцы былі трохі вышэйшыя за сусветныя, там у гэты час перажывалі росквіт самабытныя цывілізацыі, ізаляваныя ад Старога Свету.

У наступныя 250 гадоў (ранні перыяд індустрыяльнай цывілізацыі) лідарам па тэмпах росту насельніцтва стала Расія, таксама Паўночная Амерыка за кошт імігрантаў з Заходняй Еўропы. Аднак доля Паўночнай Амерыкі ў сусветным маштабе была зусім малой (0,3 %). Паскорыла тэмпы росту Зарубежная Азія.

Першыя паўтара стагоддзя сярэднеіндустрыяльнай цывілізацыі характарызаваліся скачкападобным павялічэннем насельніцтва Паўночнай Амерыкі.

Тэндэнцыі змяніліся пасля Другой сусветнай вайны, калі рэальнасцю стаў дэмаграфічны выбух за кошт Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі пры рэзкім запаволенні тэмпаў у Заходняй Еўропе і СССР. Па прагнозах, памеры штогодняга прыросту насельніцтва, якія павялічваліся з 50-х гадоў і дасягнулі піку ў 90-я гады XX ст., у першай палове XXI ст. стануць адчувальна ніжэйшымі. Пры захаванні такой тэндэнцыі да канца яго колькасць зямлян стабілізуецца. Найбольш небяспечная тэндэнцыя — істотнае павелічэнне нсельніцтва самага беднага кантынента — Афрыкі пры значным змяншэнні долі Еўропы — з 21,7 % у 1950 г. да 12,8 у 1995 г. і 6,8 % у 2005 г. Хуткі рост насельніцтва назіраўся таксама ў Лацінскай Амерыцы, Расіі, Аўстраліі і Акіяніі, Заходняй Еўропе.

Глабальнымі тэндэнцыямі з’яўляюцца павялічэнне сярэдняга ўзросту насельніцтва (з 23,5 года ў 1950 г. і 21,9 у 1975 г. да 26,6 у 2000 г. і 37,8 года ў 2050 г. — у 1,7 раза), змяншэнне долі дзяцей (з 36,9% у 1975 г. да 19,7 % у 2050 г.) і маладога, радыкальна настроенага пакалення ва ўзросце 15—24 гады (з 18,6 % да 13,2% за гэты ж перыяд), а таксама ўзрастанне колькасці кансерватыўнага пакалення — 60 гадоў і старэй: з 8,1 % у 1950 г. да 22,1 % праз сто гадоў.

Аднак па кантынентах і лакальных цывілізацыях гэтыя тэндэнцыі рэзка адрозніваюцца. Найбольш хутка старэе і становіцца менш схільным да перамен насельніцтва Заходняй Еўропы, дзе сярэдні ўзрост да 2050 г. дасягне 47,4 года, а доля жыхароў ва ўзросце 60 гадоў і старэй — 34,7%. У Афрыцы ж сярэдні ўзрост да сярэдзіны наступнага стагоддзя стане на 17 гадоў меншы за сярэднееўрапейскі, а доля старэйшага ўзросту — меншай у 2,9 раза. Менавіта адсюль можна чакаць рэвалюцыйных зрухаў. Да Афрыкі наблізяцца Лацінская

Амерыка і Азія (сярэдні ўзрост адпаведна 37,8 і 39 гадоў, старэйшы — 22,3 і 23,5%).

Калі прытрымліваццa сярэдняга варыянта прагнозу ААН, у першай палове нашага стагоддзя можна спадзявацца на некаторае змякчэнне вастрыні міжцывілізацыйных супярэчанняў, выкліканых дэмаграфічным выбухам 50—80-х гадоў XX ст.

Аднак уплыў дэмаграфічнага фактару на развіццё і ўзаемадзеянне цывілізацый не абмяжоўваецца колькаснымі характарыстыкамі ўзроўню і дынамікі колькасці насельніцтва. Неабходна ўлічваць яго якасны склад — наяўнасць працоўных рэсурсаў, узровень адукацыі і аховы здароўя.

Доля працоўных рэсурсаў найбольш нізкая ў мусульманскіх краінах Паўночнай Афрыкі і Бліжняга Усходу (32,4**%**): у Пакістане (35,4%), ва Узбекістане (39,1) і ў Індыі (42,8%). Самыя высокія паказчыкі ў Кітаі (59,1%), у Японіі (52,8), у Расіі (52), у Паўночнай Амерыцы (50,5%). Адпаведна, адрозніваецца і дэмаграфічная нагрузка на кожнага працаздольнага і кожнага працоўнага.

Узровень здароўя насельніцтва выражаецца ў сярэдняй чаканай працягласці жыцця. Яна вагаецца ад 52 гадоў па Афрыцы на поўдзень ад Сахары (у Гвінеі-Бісау ўсяго 38 гадоў) да 77 па краінах з высокім узроўнем даходу (рэкордна высокі ў Японіі — 80 гадоў).

Абагуленым паказчыкам узроўню жыцця з'яўляецца вытворчасць валавога нацыянальнага прадукта (ВНП) на душу насельніцтва. Найбольшы разрыў — ад 350 долараў у Паўднёвай Азіі (у Індыі — 340) і 490 долараў у Афрыцы (у Мазамбіку — 80) да 26980 долараў у ЗША, 27510 — у Германіі, 39640 — у Японіі і 4060 долараў у Швейцарыі.

У перспектыве істотна зменяцца прапорцыі размеркавання насельніцтва па мацерыках. Доля Лацінскай і Паўночнай Амерыкі, Індыі і Акіяніі стабілізуецца пры істотным зніжэнні долі Еўропы (зменшыцца ў 2,6 раза); Кітая (зніжэнне ў 1,6 раза). У той жа час доля Афрыкі вырасце ўдвая — з 12 да 24%. Доля Азіі і Афрыкі ў насельніцтве павялічыцца з 71% у 2000 г. да 81% у 2150 г. Апошнія два кантыненты стануць вызначальнымі ў колькасці чалавецтва. Згаданыя тэндэнцыі обвострадь глабальныя дэмаграфічныя, экалагічныя і эканамічныя супярэчнасці.

За мінулыя паўстагоддзі змяніўся ўзроставы склад насельніцтва — як у свеце ў цэлым, так і па мацерыках. Чакаецца змяншэнне колькасці дзяцей (з 36,9% у 1975 г. да 19,7% у 2050 г.), пакалення ва ўзросце 15—24 гадоў (з 18,6 да 13,2% за той жа перыяд), а таксама павелічэнне ў 2,7 раза пакалення ва ўзросце 60 гадоў і старэй — з 8,1% у 1950 г. да 22,1% праз 100 гадоў.

Найбольш хутка старэе насельніцтва Еўропы, дзе колькасць жыхароў ва ўзросце 60 гадоў і старэй дасягне да 2050 г. 34,7%. У той жа час у Афрыцы доля старэйшага ўзросту будзе ніжэйшай за сярэднееўрапейскую ў 2,9 раза. Блізка да яе будуць знаходзіцца Лацінская Амерыка і Азія.

Істотны разрыў у кантынентаў і краін і па ўзроўні пісьменнасці. Найбольш высокі ён сярод дарослых (ад 15 гадоў і болей) у Паўднёвай Азіі (51%, у тым ліку ў Пакістане і Бангладэш — па 62, у Індыі — 48), Афрыцы (43%), а самы нізкі ў Нігеры — 86%) і на Бліжнім Усходзе і ў Паўночнай Афрыцы (39%, у тым ліку ў Егіпце — 49, Марока — 56, Алжыры — 38, Саудаўскай Аравіі — 37, Тунісе — 33%). Гэта не дазваляе масава аваладваць высокімі тэхналогіямі. Істотна ніжэйшы ўзровень непісьменнасці ў шэрагу краін Усходняй Азіі і Ціхаакіянскага рэгіёна (17%, у тым ліку у Кітаі — 19, Інданезіі — 16, на Філіпінах — толькі 5) і Лацінскай Амерыцы і краінах Карыбскага басейна (13%). Аднак у Гватэмале ён складае 44%, Нікарагуа — 34, Гандурасе — 27%. У развітых жа краінах і постсавецкіх дзяржавах непісьменных усяго некалькі працэнтаў.

Дэмаграфічны фактар адыгрывае істотную ролю ў соцыумным развіцці. Колькасць насельніцтва ўплывае на аўтарытэт дзяржавы, у шматлікіх выпадках паскарае, а ў іншых — запавольвае яго рост. Істотнае павышэнне яго актывізуе

яго маштабы адносна індустрыяльна-ўрбанізаваных зон змяншаюцца, і само становіцца індустрыяльна-ўрбанізаваным, папаўняецца за кошт міграцыі з краін традыцыйнай фазы развіцця.

З аднаго боку, гэта звязана з «нявыгаднасцю дзяцей», якая праяўляецца тым мацней, чым больш развіты таварна-грашовыя адносіны і сама фаза ў цэлым. Гэта адчуваецца тым мацней, чым вышэйшы першапачатковы прыбытак сям'і, і ўзмацняецца з нараджэннем кожнага наступнага дзіцяці. Ужо з'яўленне першага адкідвае сям'ю да ніжняй мяжы свайго класа, другое становіцца прычынай пераходу ў больш нізкі клас, а нараджэнне трэцяга пагражае дэкласаваннем і дэградаваннем сям'і.

Затраты на развіццё, выхаванне і адукацыю дзіцяці ў постіндустрыяльнай фазе вельмі вялікія і цягнуцца да 23 гадоў. Гэта ў некалькі разоў даўжэй, чым у папярэдніх грамадствах. Іх маштабы несупастаўляльныя з ранейшымі. А аддача на ўкладзены капітал сумнiўная і з увядзеннем таталітарных пенсіённых сістэм — ускосная, што робіць сувязь пакаленняў схаванай.

Глабалізацыя вядзе да фарміравання сусветнага грамадства без межаў для грошай і тавараў. У той жа час разнавектарныя дэмаграфічныя працэсы ў цэнтры і перыферыі, што ўзмацняюць міграцыйны ціск, які ствараецца нераўнамернасцю гэтых працэсаў і нераўнамерным размеркаваннем сусветнага багацця і сусветнай беднасці, непрадказальныя сацыяльныя наступствы нераўнамернага старэння насельніцтва розных краін, па заключэнні З. Бжэзінскага, могуць рэальна змяніць палітычнае аблічча планеты. Большая частка трэцяга свету, які складае перыферыю, становіцца вялізным кнотам, уздзеянне на які ўзмацняецца антызаходняй і антыамерыканскай варожасцю, і глабальныя дэмаграфічныя працэсы могуць падпаліць яго.

Гэтая асіметрыя становіцца асабліва выбуханебяспечнай праз беспрэцэдэнтную дасведчанасць беднага насельніцтва дзякуючы СМІ, у першую чаргу, тэлебачанню, пра лепшыя ўмовы жыцця ў багатых краінах, якія становяцца, з аднаго боку, прыцягальным магнітам, а з іншага — аб'ектам нянавісці. Міграцыя з перыферыі, без якой не могуць абысціся ні ЗША, ні Еўропа, шмат у чым ратуе эканоміку іх, аднак, разам з тым, мяняе іх этнічны склад і размывае сацыя-культурныя каштоўнасці. Ранейшая асіміляцыя мігрантаў у «плавільных катлах» багатых краін сёння вычарпала сябе. Не выпадкова З. Бжэзінскі, спадзеючыся, што ЗША дадуць рады міграцыйнаму нашэсцю, выказвае сумненне з нагоды перспектыў гэтага нашэсця на Еўропу, якая будзе мець патрэбу ў абароне ЗША. Цалкам правамерна, бо нераўнамернасць дэмаграфічных працэсаў можа змяніць нават палітычную карту свету. З. Бжэзінскі прапануе стварыць міжнародную арганізацыю накшталт СГА (сусветнай гандлёвай арганізацыі) для рэгулявання міграцыі.

Разам з тым у не такой ужо далёкай будучыні варта чакаць, лічыць ён, і, на наш погляд, з ім немагчыма не пагадзіцца, узнікнення не менш, калі не больш складаных праблем, звязаных з трансфармацыяй дэмаўзнаўлення і яе новай дыферэнцыяцыі ў выніку дасягненняў навукі ў галіне геномнага праграмавання, біямедыцынскай інжынерыі і генетычнага мадыфікавання даследаванняў у вывучэнні ствалавых клетак. Куды гэта прывядзе чалавецтва, ніхто дакладна не ведае, але зразумела, што адчыніліся дзверы, якія праз некалькі дзесяцігоддзяў могуць сур'ёзна змяніць самога чалавека, бо поспехі навукі ў стане істотна працягнуць жыццё яго і радыкальна палепшыць нават ягоныя інтэлектуальныя якасці.

Натуральна, перад такой спакусай, як перспектыва экстраардынарнага паляпшэння асабістага здароўя, падаўжэння жыцця і пашырэння інтэлекту ніхто з тых, хто можа сабе гэта дазволіць, не выстаіць. Але гэта будзе даступна толькі багатым краінам і людзям. Тым самым няроўнасць у глабальным маштабе, перакананы З. Бжэзінскі, непамерна ўзрасце і набудзе «ўсё больш яскравыя і патэнцыяльна небяспечныя палітычныя рысы», што «можа стаць выклікам Амерыцы як вядучай дэмакратыі свету і нават самому паняццю дэмакратыі», «антыглабалісцкае контркрэда набудзе дадатковую і выключна памылковую прывабнасць», бо «як паказаў

досвед марксізму ў XX ст., масавая незадаволенасць праяўленнямі сацыяльнай няроўнасці асабліва паддаецца патэнцыяльнай мабілізацыі, калі яна факусуецца на нянавісці». У выніку, ва ўмовах, «калі контрідэолагі ўяўляюць амерыканскую дзяржаву з жорсткім курсам глабалізацыі як яго ўніверсальнай дактрыны, антыамерыканізм атрымлівае дадатковую легітымнасць».

Ад сябе дадамо: калі такі працэс выйдзе з-пад кантролю, ён стане пагражаць не толькі Амерыцы, але і ўсё чалавецтва апынецца ў хаосе.

Рэвалюцыя ў галіне чалавечага быцця, якая развіваецца і рухаецца навуковым патэнцыялам высокаразвітага свету, з цягам часу можа па-новаму акрэсліць значэнне і нават сутнасць чалавечага жыцця, што азначае наступленне новай эры эвалюцыі.

Ужо ў нашым стагоддзі, магчыма, у першыя дзесяцігоддзі, рэвалюцыя ў біятэхналогіі ўзнаўлення чалавека ўзніме інтэлектуальныя, рэлігійныя, філасофскія, псіхалагічныя праблемы, якія зробяць выклік не толькі традыцыйным вялікім рэлігіям, а і традыцыйным дэмакратычным прынцыпам, самому палітычнаму вызначэнню чалавечай істоты.

У выніку выбарнага паляпшэння чалавека шляхам маніпуляцыі яго кодам, які вызначае магчымасці і параметры, базавая прававая ідэя дэмакратыі, выведзеная з ідэі, што ўсе людзі створаны роўнымі і што працэс развіцця індывідуума элітарны, будзе пастаўлена пад сумненне, а разам з ёй і ўсе заснаваныя на ёй палітычныя і прававыя канструкцыі. Аксіёма-пастулат пра роўнасць ва ўмовах, калі інтэлектуальныя і маральныя якасці адных адносна іншых шматразова ўзмоцняцца, стане беспадстаўнай. Не выключана таксама, што ў некаторых дзяржаў узнікне спакуса праводзіць палітыку паляпшэння чалавечай прыроды, што можа стаць адраджэннем на рэальнай аснове эгацэнтрычных ідэй пра перавагу некаторых народаў ці індывідаў, ідэй, якія служылі апраўданнем рабства, каланіяльных захопаў, расісцкай тэорыі нацызму.

* * *

Паскораная глабалізацыя параджае і ўзмацняе канфлікты, бо краіны імкнуцца абараніць свае інтарэсы ў рамках «сусветнага суседства». Гэтае драбленне на нацыі, рэгіёны, культуры і супольнасці можа скараціць магчымасці транскультурнай базы глабальнай дэмакратычнай палітыкі. Так, у Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёне квітнее азіяцкая форма дэмакратыі, а ў Афрыцы нараджаюцца мясцовыя дэмакратычныя традыцыі і ўяўленні аб правах чалавека. Нацыяналізм і глабальныя адрозненні растуць, павялічваючы адрозненні культурныя і раздробленасць свету. У сваю чаргу, культурны рэлятывізм, становячыся ўсё больш заложнікам аўтарытарнай палітыкі, падрывае кансенсус дэмакратыі як сусветнай этыкі.

Таму лёгка стаць песімістам у адносінах да будучыні дэмакратыі. Апроч таго, рэформа глабальнага кіравання, якую плануюць найбольш магутныя краіны (напрыклад, рэформу ААН), імкнецца ўлічыць інтарэсы толькі некалькіх высокаразвітых краін (Германіі і Японіі). Гэта прывяло б да ўмацавання магутных геапалітычных інтарэсаў адзінак за кошт многіх. На шчасце, ёсць падставы для больш аптымістычнага погляду. Найперш тое, што ў XX ст. з'явіліся рэгіянальныя і глабальныя інстытуты і механізмы кіравання, няхай пакуль і слабыя. Несумненна, у ААН шмат недахопаў, але яна ўтварылася гістарычна нядаўна і, будучы структурай, якая лёгка ўспрымае інавацыі, можа быць удасканалена. Незлічоная колькасць арганізацый, што ўваходзяць у яе, служыць прыкладам таго, як нацыі маглі б лепш узаемадзейнічаць у паспяховым вырашэнні агульных праблем.

Добрыя перспектывы адкрывае і развіццё такой магутнай рэгіянальнай супольнасці, як Еўрапейскі Саюз. Яшчэ 50—60 гадоў таму Еўропа знаходзіла-

ся на мяжы самаліквідацыі. Аднак яна распрацавала прадуктыўныя механізмы супрацоўніцтва, выканання праў чалавека, новыя палітычныя інструменты цеснага ўзаемадзеяння.

Да ўсяго, існуе шмат рэгіянальных і транснацыянальных фактараў, якія аспрэчваюць умовы глабалізацыі. Прынамсі, рух у ахову навакольнага асяроддзя і жаночы рух. Галасы на карысць узнікнення «транснацыянальнага грамадзянскага соцыуму» прагучалі, у прыватнасці, на канферэнцыях — па ахове навакольнага асяроддзя ў Рыо-дэ-Жанейра, па кантролі колькасці насельніцтва ў Каіры і феменісцкай у Пекіне.

Цывілізацыя ў XXI стагоддзі стаіць перад шэрагам найсур'ёзнейшых выклікаў. Празмернае вычарпанне зямных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя пагражае планетарнай працягласці жыцця чалавецтва і яго выхаду ў космас. Даюць аб сабе знаць дэмаграфічныя і эканамічныя пагрозы; ролевы дысбаланс эканамічных (празмерная абсалютызацыя рынку), духоўна-маральных і іншых сфер чалавечай светасістэмы; пагроза цывілізацыйных сутыкненняў; аслабленне ўнутрычалавечай салідарнасці, у тым ліку міжпакаленнай. Існуюць пагрозы сацыяльнай дэградацыі і інвалідызацыі соцыуму і чалавека. Навідавоку зменены сістэма каштоўнасцей (спажывецтва, геданізм, прага да накаплення матэрыяльнага багацця, сацыяльны паразітызм, імклівае распаўсюджанне маскультуры і сексуалізацыя); празмернае паглыбленне эканамічнай няроўнасці паміж народамі і краінамі.

Справіцца з гэтымі праблемамі па сілах толькі чалавецтву ў цэлым, яго сукупнай волі, яго інавацыйнасці, розуму і стварэнню палітычных і іншых інстытутаў, у тым ліку апрабаваных жыццём.

Юрась ПАЎЛЕНКА

# ЯК ДВА БУСЛІНЫЯ КРЫЛЫ

**Віктар Гардзей. Малая дзіцячая Чырвоная кніга. Ахоўная флора.** *Мінск, Беларусь, 2010.*

Тыя, хто неабыякавы да прыроды, па-сапраўднаму заклапочаны яе захаваннем, зберажэннем для наступнікаў, з радасцю ўспрынялі «Малую дзіцячую Чырвоную кнігу», напісаную таленавітым паэтам і празаікам Віктарам Гардзеем, што выйшла ў выдавецтве «Беларусь» у 2008 годзе. Паколькі ў ёй расказваецца пра рэдкія віды беларускай фаўны, а найперш пра тыя з іх, што знікаюць, яна адразу знайшла свайго зацікаўленага чытача. Па сутнасці настольнай яна стала для выхавацелей дзіцячых садоў, настаўнікаў пачатковых класаў, а таксама педагогаў, якія займаюцца пазашкольнай работай. Яны паспяшаліся пазнаёміць з ёй і саміх дзяцей.

Яно і не дзіўна, што згаданая кніга В. Гардзея мела такі шырокі розгалас. Гэта ж свайго роду падручнік па прыродзе — нават не падручнік, а сапраўдная міні-энцыклапедыя па ёй, якую ні ў якога іншага аўтара болей не напаткаеш. Адметнасць «Малой дзіцячай Чырвонай кнігі» не толькі ў багацці фактычнага матэрыялу, прыведзенага ў ёй, і ў зручнасці карыстання ім, бо вытрыманы алфавітны прынцып падачы. Арыгінальна выбрана і сама пабудова. Такога яшчэ не было, каб пра асобных прадстаўнікоў фаўны расказвалася вершам, але адначасова давалася пра гэты від яшчэ і празаічная замалёўка. Прытым назва яго прыводзілася як па-беларуску, так і ў перакладзе на рускую мову.

Добры пачатак, як вядома, заўсёды абяцае працяг. Таму ў выдавецтве «Беларусь» пабачыла свет яшчэ адна «Малая дзіцячая Чырвоная кніга» В. Гардзея. Аб змесце яе сведчыць падзагаловак «Ахоўная флора». Прасцей кажучы — ахоўныя расліны. Шмат якія з іх, як і многія прадстаўнікі фаўны, на жаль, знаходзяцца пад пагрозай знішчэння. Па падліках доктара біялагічных навук Н. Казлоўскай, што прыводзяцца ў анатацыі, за апошнія 100 гадоў беларуская флора недалічылася каля 70 відаў раслін, а многія віды істотна скараціліся. Сярод знікаючых і тыя, што ў народзе здаўна вельмі шанаваліся. Іх можна напаткаць у нацыянальнай міфалогіі, у вусна-паэтычнай творчасці. Для прыкладу, святаяннік горны, чараўнік зеленакветкавы, чыставуст каралеўскі. Дый пра многія і іншыя расліны з любоўю і захапленнем, а ў асобных выпадках з дасціпнай усмешкай і гумарам (дарэчы, і ў гэтым адметнасць ягонай творчасці, не ў апошнюю чаргу той, што адрасавана дзецям) расказвае В. Гардзей.

Уваходзіны ў свет флоры пачынаюцца з верша «Кветкі роднай мовы». Калі ў папярэдняй кнізе В. Гардзей прапанаваў уступны артыкул «Не шкодзь прыродзе, жыві з ёю ў згодзе!», што было цалкам апраўдана, бо шмат каго з чытачоў неабходна было пераканаць у тым, наколькі гэта важна — зберагчы для нашчадкаў хараство жывёльнага і расліннага свету, то ў новай кнізе аўтар звяртаецца ўжо і да чытача, які ў гэтым упэўніўся, паспеўшы адкрыць для сябе непаўторнасць фаўны.

Прачула і сардэчна В. Гардзей прамаўляе:

Цвіці, мая калючая шыпшына!  
Пара святла і радасці прыйшла.  
І матылёк зноў кружыць над лагчынай,  
І зноў на кветкі падае пчала.

Аднак праз гэтую радасць і замілаванне прасочваецца і трывога з-за

таго, што ёсць яшчэ тыя, хто забывае аб неабходнасці «жыць у любові, з прыгажосцю ў згодзе». «Самотна мне, — прызнаецца паэт, — балюча і прыродзе // Калі завяне ў спёку васілёк». Міжволі прыгадваецца Максім Багдановіч. Памятаеце, як у сваім знакамітым «Апокрыфе» Максім Кніжнік прамовіў: «…добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?» Пазатэкстава ў В. Гардзея гучыць тое ж самае. Яму балюча не толькі за маленькі сінявокі васілёк, таму і заклікае:

Званочкі не тапчы над роснай сцежкай!
Не рві маю шыпшыну, не ламай!
І санцацвет аранжавай усмешкай
Азорыць наш бясконца мілы край.

Паэтавай любоўю, захапленнем, замілаваннем, што перарастаюць у заклапочанасць, насцярогу, трывогу, і прасякнута ягоная новая «Малая дзіцячая Чырвоная кніга», у якой расказваецца пра шмат якіх «чырванакніжнікаў». Гаворыцца так праўдзіва і пераканаўча, што адразу атрымліваеш уяўленне аб тым, як выглядае тая ці іншая расліна, даведваешся, чым адметная яна, чым адрозніваецца ад шэрагу іншых, якія, гэтаксама як і яна, патрабуюць для сябе не толькі пашанотлівага стаўлення, а і ўважліва-клопатных адносін. Тут жа змешчаны фотаздымак таго ці іншага рэдкага віду, што яшчэ ў большай ступені пераконвае, наколькі непаўторны ён у сваёй красе.

Як хоць бы чыставус каралеўскі. Здавалася б, ну што ў ім асаблівага:

У сямействе сваім велікан,
Ёсць асобіны ростам два метры.
Хай карона не зводзіць у зман —
Гэта папараць з воўчае нетры.

Але, як мяркуюць вучоныя, менавіта чыставус каралеўскі — дарэчы, самы вялікі папаратнік у Беларусі — даў падставу для з’яўлення легенд і паданняў пра міфічную папараць-кветку, якая, расцвіўшы ў Купальскую ноч, цвіце ўсяго некалькі імгненняў. У чыставусе каралеўскім «здзіўляе яркае свячэнне спораў, але не на ніжнім баку лісця, як звычайна, а на асобнай мяцёлцы, якая нагадвае нейкую фантастычную кветку. Цікава, што споры пачынаюць свяціцца якраз напярэдадні Купалля».

Так паэзіяй і прозай В. Гардзей і расказаў пра адзін з найбольш унікальных відаў беларускай флоры. І вельмі рэдкі. Калі гэтая «дзіўная расліна даволі пашырана на зямным шары», то «ў нашай краіне вядома адзінае яе месцазнаходжанне ў Брэсцкім раёне каля возера Селяхі».

Не часта напаткаеш і чараўніка зеленакветкавага. У народзе яго некалі выкарыстоўвалі як прываротнае зелле, «каб назаўсёды прычараваць, забраць у палон сэрца каханай дзяўчыны ці жаніха»:

У барах на схілах да прырэчнай поймы
Чараўнік люляюць феі лесу — лоймы.

Хлопцы надта ціхія ў дзень перад вяселлем —
Лоймы іх апойваюць прываротным зеллем.

Прысушыў, як водзіцца, голуба з галубкай
Чараўнік любісты, а па-руску — любка.

Менавіта любкай у Расіі і называюць чараўніка зеленакветкавага. Яшчэ адна расліна, звязаная з народнымі павер’ямі, аднолькава, у залежнасці ад мясцовасці, распаўсюджана і пад сваёй беларускай назвай — святаяннік горны і пад рускай — зверабой горны: «Лічылася, што ў Купальскую ноч ведзьмы пазбавяць расліну яе гаючай сілы, таму людзі стараліся набраць карыснага зелля ў запас. Яшчэ і цяпер у народзе бытуюць даўнейшыя назвы святаянніка — зелле святога Івана, Сямёнава кроў, свентаянскае зелле і іншыя». Паэт прапаноўвае:

Выпі купальскага чаю —
Скрухі не знаць і адчаю.

Хоць кніга і «Малая дзіцячая…», але, дзякуючы цудоўнаму веданню яе аўтарам прыроды, у дадзеным выпадку яе расліннага свету, і перад чытачом дарослым адкрываецца шмат цікавага, пазнавальнага, а ў нечым і новага. Гледзячы па тым, наколькі дасведчаны той, хто возьме яе ў рукі. Вобразна кажучы, з прыроднага рога В. Гардзея — усяго многа.

Прынамсі, можна знайсці адказ на тое, адкуль з’явіліся такія вядо-

мыя выразы і выслоўі, як прайсці праз церні, цярновая дарога, цярністы лёс. Дый некаторыя іншыя, блізкія ім па сваім значэнні. Аказваецца, выток неабходна шукаць у сліве калючай, што інакш называецца цёрн звычайны. Шыпы, якія з'яўляюцца на яе галінках, не страшныя хіба што пчолам:

Чарнеюць слівы — іх тут многа,
А цёрн калючы, як знарок.
Адсюль — цярновая дарога,
Адсюль — і церневы вянок.

А хіба не цікава будзе, найперш, канечне, маленькім чытачам, даведацца, што і на Беларусі растуць расліны, лісце якіх можа скручвацца і лавіць насякомых. Адна з аматараў такім чынам паесці — тлушчанка звычайная. Праўда, «палюе» яна не ад добрай волі, а для таго, каб кампенсаваць недастатковасць мінеральных рэчываў, бялкоў. Як выглядае тлушчанка звычайная, В. Гардзей, як і ў іншых выпадках, расказаў не толькі прозай, а і аднайменным вершам. Як заўсёды, гэта атрымалася праўдзіва, запамінальна і арыгінальна:

Сінеча з фіялетам —
Бутонаў фарбавальнік.
Расліна ўся пад цветам
Сагнулася ў пытальнік.

Сама — як паланянка
Сярод балот імховых
Звычайная тлушчанка
Сямейства плывунцовых.

З часіны не забытай
Іх род слыве трывушчым.
Лісты блішчаць, нібыта
Памазаныя тлушчам.

Таму «абрусам-самаробам // Стаў кожны ліст расліне». На гэты ж абрус абавязкова трэба што-небудзь «пакласці». І чым хутчэй, тым лепш. «Стараецца» «закусіць мухай порсткай // Тлушчанка пры нагодзе. // Здаецца: вельмі жорстка, // Ды так яно ў прыродзе. // Без рэчываў бялковых // Тлушчанкі лёс вядомы, // Таму і ладзіць ловы // На дробных насякомых».

Што ні расліна — свая гісторыя. Нярэдка нават атрымліваецца так, як і ў людзей. Здавалася б, чалавек добры, незласлівы, а мянушка за ім замацавалася такая, што і прамаўляць не хочацца. Нешта падобнае надарылася і з гэтай раслінай:

Колькі спакою і свежасці ў ёй,
Толькі пры ўсіх ейных чарах
Хай не бянтэжыць вас назвай сваёй
Водарасць — грубая хара.

Грубая хара «жыве толькі ў чыстай вадзе, // З возера бруднага — сыдзе. // Ёсць на планеце паўсюль дзе-нідзе, // Толькі няма ў Антарктыдзе». Удакладненне «паўсюль дзе-нідзе» з'явілася невыпадкова. Хоць хара грубая і пашырана на ўсім зямным шары, за выключэннем Антарктыды, адчувае сябе яна не надта ўтульна. Прычына зразумелая: вада цяпер у вадаёмах (беларускія — не выключэнне) не такая чыстая, якую любіць гэтая расліна хоць і з грубай назвай, ды з такой «пяшчотнай душой».

Дарэчы, і ў іншых выпадках В. Гардзей абавязкова падкрэслівае, у чым прычына таго, што над пэўным відам раслін узнікла пагроза знішчэння. Сказваецца не прадуманая належным чынам гаспадарчая дзейнасць чалавека, у прыватнасці, інтэнсіўная эксплуатацыя лясоў, а таксама забруджванне навакольнага асяроддзя. Адна з істотных прычын папаўнення, калі можна так сказаць, сямейства «чырванакніжнікаў» — увогуле наша нізкая экалагічная культура.

Спіс жа іх на сённяшні дзень — унушальны. Ва ўсякім разе, у гэтай кнізе прадстаўлена без малога сто відаў. Характэрна тое, што шмат якія з іх у асноўным растуць там, дзе беражліва ставяцца да захавання жывёльнага і расліннага свету, а гэта — заказнікі і запаведнікі, самым галоўным сярод якіх, як вядома, з'яўляецца Белавежская пушча.

Аднак можа пахваліцца багаццем сваёй флоры і маляўнічае возера Свіцязь. Ёсць тут нават даледавіковая флора — прыбярэжнік аднакветкавы, палушнік азёрны, лабелія Дортмана, якія, канечне ж, таксама сталі героямі гэтай «Малой дзіцячай Чырвонай кнігі». Адна з самых прыгожых — лабелія Дортмана — расце на чыстым пясчаным дне возера, дзе глыбіня не перавышае 1—2 метраў.

Хараша ў вершах, адметна ў прозе пазнаёміў В. Гардзей і з такімі прадстаўнікамі флоры, як змеегалоўнік Руйша, кадзіла сармацкае, мнаганожка звычайная, рагулькі высокія, тайнік сэрцападобны, чарнакорань пурпуровы, чына льналістая, ячменеваласнец еўрапейскі…. Наўмысна з розных назваў я ўзяў менавіта гэтыя. Гучаць яны незвычайна, а многімі ўспрымаюцца і як невядомыя. Калі ж хто-небудзь і сустракаўся з якой-небудзь з гэтых раслін ці з іншымі, што надаюцца «экзатычнымі», то не заўсёды і ведае яе сапраўдную назву.

А ведаць трэба. Як і тое ведаць, што кожная з іх знаходзіцца пад пагрозай знікнення, таму і занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі. Адпаведна, не магла не трапіць і ў «Малую дзіцячую Чырвоную кнігу» В. Гардзея. Адбылося гэта дзякуючы таму, што ён з маленства любіць родную прыроду. Аднак не ў меншай ступені і таму яшчэ, што цікавіцца рознай прыродазнаўчай і прыродаахоўнай літаратурай. Вялікая эрудзіраванасць і дапамагла яму ў гэтай па-сапраўднаму падзвіжніцкай рабоце.

Хоць, нельга не адзначыць, падобныя кнігі з'яўляюцца не адразу. У прыватнасці, у прадмове да сваёй першай «Малой дзіцячай Чырвонай кнігі» В. Гардзей прызнаваўся, што праца гэтая ад задумы да яе ажыццяўлення заняла ў яго каля двух дзесяцігоддзяў. Але відавочна і іншае. Не адмаўляючы высокага творчага майстэрства В. Гардзея, трэба, аднак, сказаць і пра тое, што ягоная «Малая дзіцячая Чырвоная кніга» ў дзвюх частках — гэта да ўсяго і кніга-ўчынак. Толькі пісьменнік, які не на словах, а на справе самааддана любіць сваю Радзіму-Беларусь, можа ўзяцца за ўвасабленне такой маштабнай, але разам з тым і надзіва адказнай задумы. Можна колькі заўгодна клясціся ў любові да Бацькаўшчыны, але нават пальцам не варушыць, каб здзейсніць штосьці канкрэтнае. У жыцці В. Гардзей нешматслоўны, характар у яго, калі можна так сказаць, не мітынговы, але зрабіў ён такое, што само па сабе сведчыць — родная Беларусь для яго ўсё.

Дазволю сабе крыху перафразіраваць хрэстаматыйныя радкі Алеся Ставера: каб любіць Беларусь нашу мілую, мала ў розных краях пабываць. Дзеля гэтага неабходна яшчэ палюбіць яе ўсю такой, якой яна ёсць. Ад кветачкі, што часам няўтульна адчувае сябе на ветравейных паўстанках часу, да веліканаў-зуброў, якія разам з Белавежскай пушчай, дзе жывуць яны, з'яўляюцца сімвалам краіны, што называецца Рэспубліка Беларусь.

Менавіта такой любоўю прасякнута сэрца В. Гардзея, напоўнена ёю. Гэтай любові ён чакае і ад падрастаючага пакалення. Таму і напісалася ім «Малая дзіцячая Чырвоная кніга», дзве часткі якой, як два шырока распрасцёртыя крылы бусла, які лунае ў небе нашай Бацькаўшчыны і які перакананы, што лепшай зямлі на планеце няма.

Будзем жа і мы аб гэтым заўсёды памятаць.

Вольга НІКОЛЬСКАЯ

# ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І... БАЦЬКОЎ

**Алесь Бадак. Птушкі. Заалагічныя эцюды.** *Мінск, «Літаратура і Мастацтва», 2010.*

Ці памятаеце вы сябе дзіцём? Памятаеце свае жаданні, пачуцці, эмоцыі?.. Я памятаю. Часам нібыта зноў вяртаюся ў дзяцінства, калі нешта мяне здзіўляе ці ўражвае. Можа, гэтыя пераўтварэнні адбываюцца са мной дзякуючы маёй двухгадовай дачцэ? Яе цікавіць усё: вада ў кране, шум машын, самыя вялікія лужыны і, канечне ж, «знакамітыя» разеткі. Пакуль сяджу дома, з ахвотай расказваю дачцэ пра такі загадкавы для яе акаляючы свет. Аднак, разумею, пытанняў у яе не паменшае. Вада ў кране «заменіцца» на камп'ютар, шум машын на ігру на гітары, а разеткі на прынцыпы работы электрапрыбораў… Я выйду на працу і часу, ды і жадання тлумачыць дзіцяці такія простыя для нас, дарослых, рэчы будзе не ставаць. Канечне, на большасць пытанняў дзяцей адказвае школа. Аднак не на ўсе. І гэтая меншасць, а часцей за ўсё менавіта яна складаецца з самых цікавых і незвычайных пытанняў, так і застанецца для іх без адказаў. З-за чаго? З-за занятасці, а часам, і абыякавасці некаторай часткі дарослых да душэўнага свету сваіх дзяцей, які толькі, дарэчы, пачынае фарміравацца.

Але, на шчасце, не ўсе з нас, дарослых, застаюцца няўважлівымі да таго, пра што кажу. Некаторыя бяруць клопат бацькоў на сябе. Яны ствараюць цудоўныя кнігі, якія адказваюць на самыя няпростыя пытанні дзяцей. Адзін з іх вядомы паэт і празаік Алесь Бадак. У прыватнасці, у сваёй серыі кніг, якая называецца «Усім пра ўсё».

Яна разлічана на дзяцей рознага ўзросту. Аднак, як мне падаецца, не толькі на дзяцей. У паняцце «ўсім» уваходзяць і дарослыя, у якіх у маленстве засталіся без адказаў самыя цікавыя і незвычайныя пытанні.

Кожная з кніг, а іх, дарэчы, выйшла ўжо тры, адметна даверлівым зваротам аўтара да чытача.

«Калі мы глядзім на траву ці на дрэвы, то рэдка думаем пра тое, што калісьці, даўным-даўно, ні дрэў, ні нават травы на нашай Зямлі зусім не было. Але ж і сама Зямля існавала не заўсёды». Так пачынаецца другая кніга серыі, прысвечаная раслінам. Аўтар прапаноўвае нам на хвіліну спыніцца ў мітусні штодзённых спраў і задумацца над тым, як узніклі такія звычайныя для нас сёння дрэвы, кветкі, трава.

У пачатку трэцяй кнігі, прысвечанай птушкам, Алесь Бадак просіць нас прыгадаць свае сны. Кожнаму хоць раз снілася, што ён лятае. Пасля такіх сноў застаецца прыемнае пачуццё свабоды і ўзнёсласці. Хочацца, каб і наяве ў цябе выраслі крылы. А што такое крылы? Ці ўсім птушкам яны дапамагаюць лятаць? І ўвогуле, ці крылы трымаюць птушак у паветры? На гэтыя і не толькі гэтыя пытанні аўтар абяцае адказаць у сваёй кнізе.

Першую кнігу серыі «Усім пра ўсё», у якой апавядаецца пра жывёл, пісьменнік пачынае са статыстыкі. Аднак потым у адным раздзеле «Коні і конікі» прапануе чытачу гумарыстычны вершык.

У траве гулялі ў хованкі
Конікі
І парвалі свае новыя
Штонікі.

І пайшлі яны прасіць
Сябрука,
Працавітага шаўца
Павучка.
І сказалі яму сумныя
Конікі:
— Калі ласка, зашый нашы
Штонікі!

Усе гэтыя звароты да пачуццяў чытача, вершы, гісторыі з асабістага жыцця робяць кнігі Алеся Бадака, нягледзячы на даволі грунтоўныя навуковыя звесткі, лёгкімі для чытання.

Да таго ж усе кнігі серыі надзвычай прыгожыя. У іх шмат ілюстрацыйнага матэрыялу: схем, малюнкаў, і канечне ж, фотаздымкаў, дарэчы, многія з іх зрабіў сам аўтар. Гэты наглядны матэрыял не нагрувашчвае старонкі. Тэкст і ілюстрацыі ў кнігах размешчаны вельмі ўдала. Дзякуючы свабоднай ад інфармацыі плошчы, кожная старонка нібыта «дыхае».

Прынцып пабудовы ўсіх кніг серыі «Усім пра ўсё» аднолькавы, таму спынімся на апошняй з іх — «Птушкі». Менавіта яна першай трапіла мне ў рукі.

Жанрава сваю кнігу Алесь Бадак вызначыў як заалагічныя эцюды. І гэта так. Кожная новая тэма ў ёй пачынаецца з назвы і ўяўляе сабой закончаны тэкст са сваёй завязкай, развіццём і канцоўкай. Напрыклад, у адным з такіх эцюдаў «У кожнай птушкі свой характар?» аўтар расказвае пра хвалістага папугайчыка Кешу, які некалі жыў у яго дома. «У сваёй клетцы адчуваў ён сябе сапраўдным гаспадаром, і нават калі праз дзверы прасоўвалі руку, каб памяняць у кармушках ваду і проса, ён незадаволена пахрыпваў, што парушылі мяжу яго ўладання». Гэта завязка. Менавіта такім быў Кеша ў вачах яго гаспадароў. Але да папугайчыка падсялілі кватарантку. Тут пачынаецца развіццё падзеі. Госця падзяліла жыллё Кешы на дзве няроўныя зоны. «За некалькі дзён яна прывучыла яго есці і піць толькі пасля яе». І вось развязка, гаспадары Кешы пачынаюць разумець: іх любімцу падабаецца яго новае «сямейнае» жыццё і статус «падкаблучніка». «Мы з замілаваннем назіралі, як Кешына сяброўка дзюбкай чысціць яму пёркі на галаве. І думалі пра тое, што ў кожнай птушкі, як і ў чалавека свой характар».

Пабудова ў форме закончаных эцюдаў дазваляе чытачу адкрыць кнігу на любой старонцы, знайсці твор з цікавай для яго назвай і ў даходлівай форме спасцігнуць інфармацыю пра той від птушак, які яго цікавіць. Гэта, безумоўна, вельмі зручна. Асабліва, калі чытач — юны, непаседлівы і цікаўны, яму хочацца хутчэй прагартаць усю кнігу цалкам, знайсці нешта новае і цікавае для сябе, а не чытаць старонку за старонкай.

Для тых жа, хто любіць грунтоўна і паслядоўна паглыбіцца ў тэму, кніга падзелена на раздзелы. І неабходна заўважыць, падзелена вельмі прадумана. Першы раздзел называецца «Падарожжа ў глыбіню стагоддзяў». У ім аўтар расказвае пра з’яўленне птушынага роду. Аказваецца, птушкі, як і млекакормячыя, на думку некаторых вучоных, паходзяць ад паўзуноў. Многія старажытныя птушкі, адна з іх археаптэрыкс, амаль не ўмелі лятаць, затое добра лазілі па дрэвах. У гэтым раздзеле пісьменнік падрабязна знаёміць нас з птушынымі продкамі, іх асаблівасцямі і паступовым пераўтварэннем у сённяшніх птушак. Гаацын, дыятрыма, фараракос, моа і інш. — назвы гэтых птушак для нас гучаць экзатычна, бо яны невядомыя нам. Але такую птушку, як Дадо, ведаюць многія, дзякуючы кніжцы Луіса Кэрала «Аліса ў Краіне цудаў». Мы з дзяцінства памятаем казачную Дадо, якая ўмела размаўляць. А. Бадак у сваёй кнізе друкуе «сенсацыйны» матэрыял — Дадо з краіны цудаў існавала на самай справе. Але яна, у адрозненні ад казачнай птушкі, не ўмела размаўляць. Таксама яна не ўмела лятаць, дрэнна плавала і нечым нагадвала сучасных гусей. Часцей гэтых птушак называлі дронтамі. «…Па птушыных мерках дронты былі даволі буйныя — прыкладна метр у вышыню і вагой 20—25 кілаграмаў. Пры гэтым выгляд у іх быў па-дзіцячы добры і непасрэдны. Можа, таму людзі пра іх склалі прыгожыя легенды».

Заканчваецца раздзел аповедам пра вялікую, грозную птушку Рух, успамін пра якую, дарэчы, таксама сустракаецца ў сусветнай літаратуры.

Ад расказаў пра продкаў сучасных птушак аўтар паступова пераходзіць да апісання іх саміх. Другі раздзел, які называецца «Як? Чаму? Навошта?». Мне ён падаўся надзвычай цікавым, бо менавіта ў ім сабраны па-дзіцячы самыя непасрэдныя пытанні. Напрыклад, «Навошта птушкам пер’е?», «Для чаго птушкам… вушы?», ці вось маё самае любімае — «Чаму птушкі ляцяць у вырай?» Прызнацца, яно цікавіць мяне з маленства па сённяшні дзень кожную восень, калі з надыходам халадоў птушкі збіраюцца адлятаць. Аказваецца, арнітолагі і самі не ведаюць адназначнага адказу на гэтае пытанне. Адны сцвярджаюць, што птушак збірае разам вопыт продкаў, «які перадаецца з пакалення ў пакаленне, падказвае, што на заснежанай зямлі яны могуць застацца без ежы». Другія лічаць, што прычынай штогадовага пералёту птушак з’яўляецца ледніковы перыяд. «Пасля таго, як ледавік пачаў адступаць і на яго месцы на зямлі з’явілася расліннасць, разам з людзьмі і жывёламі гэтую тэрыторыю сталі засяляць і птушкі. Але з прыходам зімы птушкі вымушаны былі часова вяртацца туды, дзе заўсёды жылі іх продкі і дзе заўсёды было цёпла». Але тут узнікае другое пытанне, як птушкі знаходзяць дарогу ў вырай і назад? Аўтар дае адназначны адказ: ім дапамагаюць сонца, зоркі, а таксама магнітнае поле зямлі. Так, птушкі маюць свой «компас», самы лепшы ў свеце. Ён дапамагае ім беспамылкова знайсці дарогу дадому.

Трэці раздзел называецца «Птушыная планета». У ім пісьменнік расказвае пра разнастайны птушыны свет: ад самых маленькіх птушачак калібры да самых вялікіх — страусаў. А яшчэ апавядае пра птушку, якая крадзе… свіней, птушку, якая квакае і пра «птушынае малако». Што да птушынага малака… Але ж птушкі не адносяцца да класа млекакормячых? Так, толькі паняцце «птушынае малако» існуе, і тут юны чытач ўзгадвае смачныя цукеркі пад такой назвай. Спосаб іх прыгатавання такі ж, як і спосаб прыгатавання зефіру, аднак без яек і ніякага табе «птушынага малака». «Аказваецца, яшчэ ў камедыі старажытнагрэчаскага творцы Арыстафана «Птушкі» яе героі абяцалі шчасце ў выглядзе малака, але не каровінага, а птушынага — гэта значыць, нерэальнага». Праз шмат гадоў гэтую камедыю ўспомнілі тыя, хто павінен быў прыдумаць назву для новага віду цукерак.

Ад апісання птушак, якія жывуць у розных куточках нашай планеты, пісьменнік пераходзіць да тых, што жывуць каля нас. «На Беларусі вядома 307 відаў птушак» паведамляе А. Бадак у радзеле «Крылатыя суседзі».

І пачынае свой аповед з расказа, а дакладней, з казкі пра шпака і яго чароўную дудачку. Аказваецца, гэтая птушка — сапраўдны музыка. Многія думаюць, калі чуюць посвіст шпака, што гэта яго сапраўдны голас. На самай справе свой голас шпакі падаюць рэдка, бо, мабыць, лічаць яго непрыгожым. А яшчэ шпакі толькі знешне адрозніваюцца ад папугаяў. Яны такія ж «паўтаракі», як і нашы хатнія сябры. Шпак вельмі хутка і дакладна пераймае свіст чалавека, можа пераняць і песню іншай птушкі, напрыклад, драздa, вароны, зязюлі, дзятла… Аўтар не толькі расказвае чытачу пра іх, але і паказвае, якія яны. На фотаздымках птушкі адлюстраваны сярод прыроды. Калі глядзіш на іх фотапартрэты, якія з’яўляюцца сапраўднымі творамі мастацтва, агортвае пачуццё замілавання і любві да нашай прыгожай багатай зямлі.

Гэтых птушак А. Бадак называе нашымі суседзямі, жывуць яны хоць і недалёка ад нас, але часам недаверліва ставяцца да чалавека. Аднак ёсць сярод птушак і «свае», аўтар расказвае пра іх у раздзеле «Свае сярод нас». Куры, індыкі, качкі жывуць зусім побач з чалавекам, амаль цалкам залежаць ад яго і ў многім дапамагаюць яму. Мы настолькі звыкліся з імі, што часам не заўважаем іх асаблівасцей. Напрыклад, чым куры адрозніваюцца

ад гусей? Першыя палахлівыя і мітуслівыя, другія важныя і ганарлівыя. І ім ёсць чым ганарыцца. Менавіта гусі, «пачуўшы набліжэнне ворага, сваім крыкам разбудзілі вартаўнікоў і тым самым уратавалі старажытны Рым ад галаў…» Пасля гэтага старажытныя грэкі сталі лічыць гусей свяшчэннымі птушкамі.

«Свойскія — значыць, свае. Свае — значыць, не чужыя. Але і дзікія птушкі для нас таксама не чужыя. Мы ж суседзі, якія жывуць на адной планеце Зямля…» Таму павінны з павагай і клопатам адносіцца адзін да аднаго. Хочацца дадаць ад сябе. Гэтыя словы напрыканцы кнігі адкрываюць звышзадачу, якую ставіў перад сабой аўтар, пачынаючы ў 2008 годзе сваю серыю кніг «Усім пра ўсё». А менавіта, зацікавіць юнага чытача светам прыроды, адказаць на ўсе яго пытанні і такім чынам навучыць любіць і берагчы ўсё жывое на зямлі.

І тут прыгадваецца заклік слыннага паэта і празаіка Віктара Гардзея з яго «Малой чырвонай дзіцячай кнігі» — «Не шкодзь прыродзе, жыві з ёю ў згодзе». І колькі б дзіцячых кніг пра прыроду ні выходзіла ў нашай краіне, усе яны карысныя і неабходныя нам. Бо робяць самае галоўнае — дапамагаюць бацькам выхоўваць у дзецях любоў да сваёй зямлі.

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на II паўгоддзе 2011 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6710 руб.
на 3 месяцы — 20 130 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 10 350 руб.
на 3 месяцы — 31 050 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 17 032 руб.
на 3 месяцы — 51 096 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 13 812 руб.
на 3 месяцы — 41 436 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 06.06.11 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 17,67. Тыраж 3015 экз. Заказ 1433.
Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.